# ЗАПІСЫ

## таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага

## 1863

### Шляхецкае паўстанне ці народная рэвалюцыя?

**Выпуск 3**

ЗАПІСЫ ТАВАРЫСТВА АМАТАРАЎ
БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ
ІМЯ ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА

Выпуск 3

# 1863 ГОД:
# ШЛЯХЕЦКАЕ ПАЎСТАННЕ
# ЦІ
# НАРОДНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ?

РЫГА
Інстытут беларускай гісторыі і культуры
2014

УДК 94(476)(059)

*Арганізацыйны камітэт*
*Менскай гарадской злучнасці*
*таварыства аматараў беларускай гісторыі*
*імя Вацлава Ластоўскага*

*Інстытут беларускай гісторыі і культуры*

Запісы таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага. Выпуск 3. 1863 год : Шляхецкае паўстанне ці народная рэвалюцыя? / Укладальнік і рэдактар А. Я. Тарас. — Рыга : выданне ІБГіК, 2014. — 224 с.

ISBN 978-9984-897-12-7

Трэці выпуск «Запісаў ТАБГ», як і папярэдні, з'яўляецца тэматычным. Гэта зборнік матэрыялаў навукова-практычнай канферэнцыі, якую правёў Інстытут беларускай гісторыі і культуры 21 снежня 2013 г. у Менску. Уважлівае вывучэнне друкуемых тэкстаў упэўніць чытача ў тым, што паўстанне 1863 года на Беларусі мела ўсе прыкметы народнай рэвалюцыі.

**ISBN 978-9984-897-12-7**

# ПРАДМОВА
## складальніка-рэдактара

Нацыянальна-патрыятычная частка беларускіх інтэлектуалаў абвясціла 2013 год «годам Каліноўскага». Гэта звязана з дзвюма юбілейнымі датамі: 175-годдзем са дня нараджэння Каліноўскага і 150-годдзем са дня пачатку паўстанні 1863 года.

Сваімі канферэнцыямі адзначылі паказаныя даты таксама і тыя сілы, якія варожыя нацыянальна-патрыятычнаму руху на Беларусі, у першую чаргу так званыя «заходнерусісты» (цэнтр «Заходняя Русь»). Яны правялі сваю канферэнцыю самыя першыя, ужо ў студзені. У верасні адбылася польска-беларуская канферэнцыя пад патранатам амбасады Рэспублікі Польшча. На лістапад была вызначаная канферэнцыя ў Інстытуце гісторыі НАН РБ, у якой акрамя «афіцыйных» гісторыкаў Беларусі збіраліся прыняць удзел і «заходнерусісты», а таксама навукоўцы з Расіі, але кіраўніцтва Інстытута адмяніла яе.

Тэме паўстання прысвечаныя шматлікія публікацыі ў перыядычным друку, на Інтэрнэт-сайтах. На жаль, далёка не заўсёды матэрыялы гэтых публікацый з'яўляюцца нацыянальна-патрыятычнымі па сваймy зместу.

Таму грамадская арганізацыя — Інстытут беларускай гісторыі і культуры (ІБГіК), сумесна з Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыяй, а таксама з Інстытутам развіцця дэмакратыі і сацыяльнага рынку для Беларусі і краін Усходняй Еўропы, правялі 23 сакавіка 2013 года канферэнцыю на тэму «Паўстанне 1863 года на Беларусі і Кастусь Каліноўскі». Быў выдадзены накладам 150 асобнікаў зборнік матэрыялаў канферэнцыі (240 старонак).

Важна, каб «апошняе слова» засталося за тымі даследчыкамі, якія трымаюцца нацыянальна-патрыятычнага пункту гледжання. У гэтай сувязі 21 снежня 2013 года мы правялі яшчэ адну канферэнцыю: «Паўстанне 1863 года — шляхецкае паўстаннне ці народная рэвалюцыя?»

У межах гэтай канферэнцыі мы засяродзілі сваю ўвагу на трох пытаннях:

Што гэта было? Бунт бяздольных і зняважаных пластоў грамадства? Паўстанне адной толькі шляхты? Або ж рэвалюцыя, у якой удзельнічалі ўсе асноўныя грамадскія групы тагачаснай Беларусі?

Чым натхняліся ўдзельнікі падзей 1863 года? Якая была матывацыя іх адважнага выступу?

Якіх мэт яны жадалі дасягнуць?

Матэрыялы канферэнцыі, апублікаваныя ў гэтым зборніку, даюць ясныя адказы на пазначаныя пытанні.

Анатоль Тарас,
*навуковы сакратар*
*Інстытута беларускай гісторыі і культуры*

# Частка 1
# АГУЛЬНЫ ПОГЛЯД НА ПАЎСТАННЕ

## МАТЫВАЦЫЯ ПАЎСТАНЬНЯ ПАД НАЧАЛАМ К. КАЛІНОЎСКАГА



### Зміцер Абразцоў, *філосаф (Менск)*

Задлегласьці 150-гадовай даўніны паўстаньня Кастуся Каліноўскага супраць расейскай акупацыі паўстаюць пытаньні ня толькі фактагагічнага кшталту ды й гераічных ацэнак, але й матывацыі дзейнасьці паўстанцаў.

Традыцыйна тыя падзеі падаюцца як гераічна-трагічны перыяд нашай гісторыі. Але ж гэта былі ня проста «фрагмэнты гісторыі». Удзельнікамі тых падзей былі людзі, дзейнасьць якіх была глыбока матываваная.

Што фарміравала іхнія мэты?

Што рабіла іх здольнымі да супольнай дзейнасьці?

Што рабіла іх здольнымі да самахвярнасьці?

Толькі прыродная сьмеласьць і зухаватасьць? Адно толькі нянавісьць да захопнікаў? Ці нешта большае і глыбейшае?

Каб адказаць на гэтыя ды й іншыя падобныя пытаньні, а заадно паспрабаваць зразумець матывацыю дзейнасьці нашых сучасьнікаў, трэба спачатку коратка разгледзець прыроду матывацыі дзейнасьці і паводзінаў людзей.

### Прырода матывацыі дзейнасьці і паводзінаў людзей

Гэты складнік развагаў можна прыняць за агульны назоўнік дробу, у лічніку якога можна задаваць і шукаць адказы на вышэйпамянёныя пытаньні.

На Зямлі зараз жывуць мільярды людзей. У мінулыя часы жылі мільярды людзей. Дасьць Бог, людзі будуць жыць і надалей.

Любыя дзеяньні чалавека ва ўсе часы былі матываваныя ягонымі каштоўнасьцямі й інтарэсамі.

Фарміраваньне каштоўнасьцей й інтарэсаў чалавека вызначаецца ягоным псыхалягічным станам (у зьвязку з усьведамленьнем часовасьці зямнога існаваньня і вечнасьці жыцьця), адпаведным псыхалягічнаму стану сьветаглядам, маштабам успрыманьня рэчаіснасьці, суадносінамі мэты і сродкаў жыцьця, асабістым і супольным жыцьцёвым (духоўным, інтэлектуальным і фізіялягічным — ДІФ) патэнцыялам, і найперш — духоўным апірышчам.

У сваю чаргу, усе вышэй памянёныя чыньнікі фарміраваньня матывацыйных каштоўнасьцей й інтарэсаў грунтуюцца на ўспрыманьні (альбо не ўспрыманьні) Божай прыроды чалавека, Божага прызначэньня чалавека ў часовым зямным існаваньні і ў вечным жыцьці.

Механізм рэалізацыі каштоўнасьцей й інтарэсаў ажыцьцяўляецца праз пошук, прыняцьце і рэалізацыю рашэньняў узьнікаючых пытаньняў (задач, праблем), атрыманьне вынікаў рэалізацыі рашэньняў, зваротную сувязь (адказнасьць) за вынікі прынятых рашэньняў.

Дастатковы ДІФ-патэнцыял, і ў першую чаргу — духоўнае апірышча, уплывае на вызначэньне як саміх інтарэсаў і каштоўнасьцей, гэтак і на здольнасьць рэалізоўваць іх (шукаць, прымаць і рэалізоўваць рашэньні), і на здольнасьць да адказнасьці за вынікі прынятых рашэньняў, на здольнасьць да свабоды, да кансалідацыі.

Прыняцьцё Божай прыроды чалавека, Божага прызначэньня чалавека ў вечным жыцьці і ў часовым зямным існаваньні фармуе ў чалавека наступныя матывацыйныя каштоўнасьці й інтарэсы, так бы мовіць, матывацыйны каштоўнасны рад (матывацыйныя чыньнікі):

— каштоўнасьць вечнага жыцьця;

— каштоўнасьць часовага зямнога існаваньня.

На падставе гэтых каштоўнасьцей, якія палягаюць па-за часовым зямным існаваньнем чалавека, фармуюцца ў яго базавыя матывацыйныя каштоўнасьці й інтарэсы ў межах часовага зямнога існаваньня:

каштоўнасьць захаваньня і працягу жыцьця людзей дзеля Божага прызначэньня; пасьля сыходу чалавека ў жыцьцё вечнае

праз

каштоўнасьць й інтарэс захаваньня і падвышэньня жыцьцядайнасьці нацыі (як носьбіта супольнага жыцьцёвага патэнцыялу) і жыцьцяздольнасьці дзяржавы (як формы супольнай самаарганізацыі соцыюма, які дасягнуў якасьці нацыі)

праз

падвышэньне асабістага і супольнага жыцьцёвага (ДІФ) патэнцыялу і эфектыўнае яго выкарыстаньне.

## Матывацыі дзейнасьці паўстанцаў

Пра прыняцьцё Божай прыроды чалавека, Божага прызначэньня чалавека сьведчаць шматлікія хрысьціянскія храмы, паўсюдная рэлігійнасьць людзей, незалежна ад сацыяльнага статусу.

Менавіта прыняцьцё Божай прыроды чалавека, Божага прызначэньня чалавека ў часовым зямным існаваньні і ў вечнасьці жыцьця фарміравала для ўдзельнікаў паўстаньня наступныя чыньнікі:

— матывацыйны каштоўнасны рад , які ўтрымліваў матывацыйныя каштоўнасьці й інтарэсы захаваньня і падвышэньня супольнай жыцьцяздольнасьці і жыцьцядайнасьці нашага народа дзеля Божага прызначэньня;

— здольнасьць паўстанцаў да свабоды і да самаарганізацыі ў самастойнай незалежнай дзяржаве дзеля падвышэньня супольнай жыцьцяздольнасьці і жыцьцядайнасьці народа;

— здольнасьць да кансалідацыі, каб супольна рэалізаваць агульныя каштоўнасьці й інтарэсы, дасягнуць супольныя мэты і вырашаць задачы, паўстаючыя на гэтым шляху;

— здольнасьць да самаарганізацыі;

— здольнасьць да самаахвярнасьці, як найвышэйшай адказнасьці за прымаемыя рашэньні.

Таму і галоўным матывуючым лёзунгам быў усё ж лёзунг, на які мала хто зьвяртае ўвагу: «У імя Бога». Пра значнасьць і галоўнасьць менавіта гэтага лёзунга ў мэтавай матывацыі ўдзельнікаў паўстаньня сьведчаць і надпісы на штандарах, і зьмест «Мужыцкай праўды» ды «Пісьмы з-пад шыбеніцы» К. Каліноўскага.

### *«Мужыцкая праўда», № 1:*

«Цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці, і то пісаці такую праўду справядліву, як Бог на небе».

### *«Мужыцкая праўда», № 2:*

«Калі Бог стварыў усіх людзей вольнымі і ўсім даў адзінакую душу...»

«Каб расталкаваць людзям, у чом праўда, я пішу пісьмо, а пісаці буду, як Бог і сумленне кажа...»

### *«Мужыцкая праўда», № 3:*

«Сягодня ўсе ўжэ паразумнелі, усе ўжэ мужыкі талкуюць, што Бог стварыў чалавека, каб ён карыставаў з вольнасці справядлівай, і смяюцца, як гэта маглі інак думаці».

«Гэта права, што народ робіцца разумнейшым, выходзіць ад самога Бога, а хто яму схоча спраціўляціся, таго альбо сам Бог, альбо народ па прыказу Боскаму з зямлёю змяшае!»

«Толька, дзецюкі, смела, бо з намі Бог і праўда, а калі мы з Богам, то з намі ваяваці трудна, бо боска моц вяліка, а народу многа».

«...той толька жне, хто пасее. Так сейце ж, дзецюкі, як прыйдзе пара, поўнаю рукою — не шкадуйце працы, — каб і мужык быў чалавекам вольным, як е на цалюськам свеце. Бог нам дапаможа!!!»

***«Мужыцкая праўда», № 4:***

«...за нашыя грошы назначае чыноўнікамі гэтых, што адно самі людзей глумяць, другім глуміці пазваляюць і Бога не баяцца. Гэтакі чыноўнік не давядзе ўжэ да розуму — ён, калі і няма прыказу цара, то сам выдумае спосаб, як абадраці бедны народ».

***«Мужыцкая праўда», № 5:***

«А што граху набярэшся перад Богам, спрыяючы маскалеві, таго ніколі Бог не даруе.»

«...бунтуюцца местачковыя да і маладзёж за сваю і нашу вольнасць і веру...»

«Таго, хто нам добра думае, мы выганяем, таму, хто нам ліха робіць, мы памагаем, — і чы ж не грэшна перад Богам, ... — самі скажэце?»

«За мужыцкую крыўду стойце смела, усе разам, ... і Бог нам дапаможа!»

***«Мужыцкая праўда», № 6:***

«Калі Бог, стварыўшы чалавека, даў яму душу, то не на тое, каб ён жыў, як сабака, на гэтам, а на тамтам свеце прападаў на век вякоў у мэнках пякельных, — а для таго, дзецюкі, каб знаў закон Божы, знаў свайго Бога, знаў сваю веру і заслужыў на шчасце нябеснае. Калі сын боскі, прыйшоўшы на гэты свет, устанавіў праўдзівую веру і за гэту веру цярпеў крыжовыя мэнкі, то не для таго, каб якіясь там цары маскоўскія, байстручага роду, перамянялі закон Божы, а мы, на прыказ гэтых цароў, выракаліся веры сваіх дзядоў і прадзедаў і не хвалілі Бога, а радню царскую, но для таго, дзецюкі, Бог найвышшы цярпеў за нас, каб закон яго быў ужэ вечны, ніхто не смеў перамяняці, а мы з цэлай моцы трымаліся яго».

«Но чы гэтак, дзецюкі, робіцца ў нас, як сам Бог прыказвае, чы дзержымося мы закону боскага? Самі скажыце. Не адзін ужэ, можа, забыўся, што бацька яго быў яшчэ справядлівай уніяцкай веры, і ніколі ўжэ не спомніць на тое, што перавярнулі яго на сызму, на праваслаўе, што ён сягодня, як той сабака, жыве без веры і, як сабака, здохне чартам да пекла!!! О, дзецюкі, ліха такому чалавекові! А калі мы будзем гэтак рабіці з Богам, так што ж Бог найвышшы з намі зробіць? Аддасць у пекла на вечныя мэнкі, будуць чэрты душу нашу на кускі рваці, а смала ў вантробах кіпеці будзе. Пазнаеш тагды сваё ліха — но ў пекле па няўчасе ўжэ будзе, не перапросіш тагды ўжэ справядлівага Бога, і мэнкам тваім ніколі канца не будзе».

«Нарабіў нам гэтага ліха, дзецюкі, гэта цар маскоўскі, ён-то, пеpакупіўшы многа папоў, вялеў нас у сызму запісаці, ён-то плаціў грошы, каб толька перахадзілі на праваслаўе, і, як гэты антыхрыст, адабраў ад нас нашу справядлівую — уніяцкую веру і пагубіў нас перад Богам навекі; а зрабіў гэта для таго, каб мог нас без канца драці, а Бог справядлівы не меў злітавання над намі».

«Но, Божа вшэхмоцны, міласерны ты наш пане, ты аб нас не забывай, злітуйся над намі, памажы нам у нашай нядолі, выгані маскаля з нашага краю, дай нам праўдзівую вольнасць і веру нашых дзядоў і прадзедаў, а касцёлы, што маскаль, нячыстая яго сіла, параскідаў альбо перарабіў на стайні і цэркві, зноў заяснеюць тваею хвалою, і народ у ніх хваліці цябе будзе, як хвалілі нашыя прэдкі. Засляваем тагды ў адзін голас нашу песнь святую: «Сьвенты Божа, сьвенты моцны, свенты несьмертэльны — змілуй сен над намі!» — і Бог найвышшы змілуецца над намі, дапаможа нам у нашай працы, а на тамтам свеце дасць крулества нябеснае — і не будуць ужэ дзеткі нашыя сваю матку праклінаці, што на свет радзіла!»

«Тагды, дзецюкі, хто адно верыць у Бога, яго сына і духа святога, няхай зараз пакідае сызму і пераходзіць на праўдзівую веру дзядоў і прадзедаў. Бо хто не пяройдзе на унію, той сызматыкам застанецца, той, як сабака, здохне, той на тамтам свеце пякельныя мэнкі цярпеці будзе!»

«Так годзе ж ужэ, дзецюкі, жыці без ніякай пацехы на свеце, калі Бог міласерны мае злітаванне над намі, а ты, чалавеча, як перачытаеш альбо пачуеш гэту праўду, згавары пацеры, каб Бог вшэхмоцны дапамог людзям, што дабро нам думаюць, што хочуць, каб мы былі вольныя, як шляхта, мелі сваю зямлю, як шляхта, хвалілі Бога па праўдзе і заслужылі на Неба на тамтам свеце».

***«Мужыцкая праўда», № 7:***

«хацеў разгледзецца добра да разабраць, што гэта дзеецца на свеце, штоб ужэ спавясціць вас па справядлівасці да сказаць, як наказуе Бог да сумленне, што нам цяпер трэба рабіці».

«Уніяцкія касцёлы, што маскалі забралі, аддаюцца назад уніятам, і хто хоча, мае права хрысціць дзяцей па-уніяцкі да уніяцкіх ксяндзоў ісці да споведзі і па-старому Богу маліцца, як бацькі нашы маліліся».

«...да мала знайшлося такіх, штоб то, не баючысь Бога ні сораму людскога, служыць маскалям, бо ўжэ спазналі мужыкі царскую думку».

«Падумайце добра, да, памаліўшыся Богу, станьма дружна разам за нашую вольнасць! ...да ад душы памагаць усялякімі спосабамі дзецюкам нашым, што за нас пойдуць біцца. — А будзе ў нас вольнасць, якой не было нашым дзядам да бацькам».

***«Пісьмы з-пад шыбеніцы»:***

«Ронд польскі калі браў з нас падымнае, то не заводзіў гэтакіх стаенных падаткаў па душы нашы, што то да Бога адно належаць.»

«Ронд польскі, маючы Бога ў сэрцу, не ўпісаў нас у сызму, у каторай адно за цара да за цара маліціся трэба, як бы ўжэ цар быў Богам на свеце, а вера да казны належала».

«З дзядоў і прадзедаў была ў нас уніяцкая вера, гэта значыць, што мы, будучы грэцкай веры, прызнавалі за намеснікаў Боскіх святых айцоў, што ў Рыме. Царом маскоўскім і гэта стала завідна, для таго, скасаваўшы ў Маскве грэцкую веру, а зрабіўшы царскую, што то называ-

ецца праваслаўе, і нас адарвалі ад праўдзівага Бога і ўпісалі ў сызму пагану. Такім спосабам, абабраўшы з гроша, з рук спасобных, запраглі нас у паншчызну, і каб слёзы мужыцкія не трапілі перад трон праўдзівага Бога, забралі нам і духоўну нашу пацеху — нашу веру уніяцкую».

«А калі Бог усёмагучы навярнуў паноў да праўды і зрабіў іх паслушнымі прыказам ронду польскага, тагды маскалём настаў кепскі час…»

«Двесці лет таму назад, а бацькі нашы ляпей ужэ казалі: «Калі маеш Бога ў сэрцу і прыказ Яго, памагай бліжнему» і ішлі бараніць хрысціянства ад татарскай дзічы…»

«калі паўстанне зроблена пад добрую пару, узрастае і ажыўляе народ, — не ў час, марнуе сілы кожнага, аслабляе ў прастоце духа дай разводзіць страх і няверу ў дзела наша, у моц Божу».

«…чыноўнікі ведаюць гэта і для таго, каб служылі добра перад Богам і сумленнем народным, робяць не штучныя завірухі, но, паняўшы духа народнага, яго патрэбы і волю, [будуць] падхватываць дай разумна застаўляць палкі народныя, а развіваючы непадатлівасць у народных несканчоных бунтах, ставіць апору маскоўскаму ў нас панаванню».

«Работа тут не хутка дай непаказна, но за то пэўна, і яна нас давядзе да канца добрага. Работа тут сярмяжна, для таго каб была скутэчна, павінна быць так шчыра і проста, як тое сэрца, што б'е пад сярмягай, як той розум мужыцкі, што не перабірае, калі рабіць трэба.»

«а калі натрапіць перашкоды, то пры памоцы Бога і свайго права, упісанага ў нашых грудзях, усё з часам пераможа. Ты, аднак, Народзе, не дажыдайся, да з чым можаш ідзі ваяваці за свайго Бога, за сваё правы, за сваю хвалу, за сваю бацькаўшчызну».

«Няма ш, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і науку. Тагды ён толька магчыме жыці ў багацтве, папраўдзе, тагды ён толька, памаліўшысь Богу, заслужыць неба, калі збагаціць наукай розум, разаўе сэрца і радню цэлу сэрцам палюбіць».

***

Менавіта гэты лёзунг «У імя Бога» сьведчыць пра тыя глыбінныя, падсьвядомыя матывацыйныя каштоўнасьці, што рабілі паўстанцаў здольнымі да любові, да свабоды, да кансалідацыі, да самаахвярнасьці.

У памянёным матывацыйным каштоўнасным радзе праз родную мову і фарміравалася ЛЮБОЎ як адзін са складнікаў духоўнага апірышча. «Каго любіш? — Люблю Беларусь! — Тады ўзаемна!»

Лёзунгамі «За вашу і нашу свабоду», «Толькі тады народзе зажывеш шчасьліва, калі маскаля над табой ужо ня будзе» акрэсьліваліся прамежкавыя задачы.

***

Вось гэтыя тэзы і можна было б аднесьці да агульнага назоўніка пры разглядзе тых падзей, што адбываліся 150 год таму на нашай зямлі.

У лічніку разглядаемых падзей можна акрэсьліць наступныя тэзы:

(1) паўстаньне было ня мэтай, але сродкам на шляху да супольнай незалежнай самаарганізацыі ў самастойнай дзяржаве;

(2) рэалізаваць праз паўстаньне пастаўленыя задачы не дазволіла ня толькі моц царскага рэжыму, але і такія чыньнікі, як гістарычныя (страты ў шматлікіх войнах), адукацыйныя і асьветніцкія (адсутнасьць дастатковых ведаў), сьвядомыя (адсутнасьць грамадзянскай адказнасьці за супольную жыцьцяздольнасьць у большай частцы насельніцтва);

(3) подзьвіг удзельнікаў паўстаньня натхняў і надаваў аптымізму дзеля захаваньня супольнай жыцьцяздольнасьці не аднаму пакаленьню беларусаў-ліцьвінаў;

(4) трагічна зьменшылася колькасьць носьбітаў супольнага жыцьцядайнага патэнцыялу нацыі, ейных элітаў;

(5) тагачасны структурна-сацыяльны падзел (шляхта — сяляне) быў не жыцьцядайны;

(6) спадзявацца адно толькі на паўстаньне ў дзяржаўным будаўніцтве не выпадае: варта на працягу ўсяго зямнога існаваньня працаваць на падвышэньне супольнага ДІФ-патэнцыялу, які ёсьць падмуркам супольнай жыцьцяздольнасьці і жыцьцядайнасьці нацыі;

(7) эфектыўная кансалідацыя і самаарганізацыя нацыі ў дзяржаве магчыма толькі на падставе дастатковага супольнага жыцьцёвага патэнцыялу і найперш — духоўнага апірышча.

***

Гісторыя фіксуе як факт, што паўстаньне скончылася паразай. І тым ня менш, захаваньне і перадача наступным пакаленьням матывацыйнага каштоўнаснага рада дзейнасьці паўстанцаў натхняюць і падвышаюць нашую супольную жыцьцяздольнасьць і жыцьцядайнасьць, якія нам неабходна захаваць. Трэба калі не рэалізаваць цалкам гэты каштоўнасны рад, то хоць бы перадаць яго нашым нашчадкам для набыцьця імі сэнсу хуткаплыннага часовага зямнога існаваньня.

Адсутнасьць каштоўнасьці «У імя Бога» ў матывацыйнай каштоўнаснай матрыцы сучасных грамадзян (зыходзячы з прыроды матывацыі дзеяньняў людзей), адсутнасьць роднай мовы як паказьніка, што чалавек узрос да ролі носьбіта супольнага жыцьцёвага патэнцыялу нацыі, сьведчыць пра іхнюю няздольнасьць да кансалідацыі, да свабоды, да самаахвярнасьці. І што найважней, пра іхнюю няздольнасьць да зваротнай сувязі (да адказнасьці).

Але разуменьне прыроды наяўнасьці матывацыі да захаваньня супольнай жыцьцяздольнасьці альбо адсутнасьці такой паказвае і накірункі працы дзеля падвышэньня супольнай жыцьцядайнасьці нацыі. Памяць пра паўстаньне і разуменьне глыбіннай матывацыі яго ўдзельнікаў доўга яшчэ будуць натхняць беларусаў у гэтай працы.

# ЛІЦВІНСКІ (БЕЛАРУСКІ) СЛЕД У ПАДЗЕЯХ 1863–1864 гг.



## Яўген Гучок,

*пісьменнік і публіцыст (Менск)*

Змест майго паведамлення пра ліцвінскі (беларускі) след амаль не патрабуе глыбокіх факталагічных вышукаў, а заадно і грунтоўных пацверджанняў. Ён навідавоку, на паверхні, амаль у паветры, агульнае месца, не гледзячы на тое, што старанна замоўчваецца як на Захадзе, так і на Усходзе.

Яно і не дзіўна. Польшча, пасля з'яднання з ёй Вялікага Княства Літоўскага і Рускага, што ў свой час выратавала гэтую краіну як нацыянальнае ўтварэнне і дзяржаву ад анямечвання, упарта імкнулася растварыць у сябе ліцвінскі (беларускі) свет. Расія ж насуперак Польшчы лічыла, што ліцвінскі (беларускі) свет — гэта не што іншае, як былое адзінства ўсяго рускага абсягу, якое павінна быць далучана да яе непадзельнасці. Што ж тычыцца так званага «цэнтра», а дакладней, аднаго з яго складнікаў — пэўнай часткі магнатэрыі і заможнай шляхты Літвы (Беларусі), дык магнаты і заможная шляхта, хай сабе з рознымі мэтамі, пакінуўшы свой просты народ, паслугавалі ці то Варшаве, ці то Маскве.

Але ліцвінскі свет заставаўся жывым сярод самога народа і нейкай колькасці неаднароднага паверху. І нам, сённяшнім нашчадкам Літвы (старажытнай Беларусі) не так ужо і важна, за каго прымаюць нас на Захадзе ці на Усходзе; чуюць яны нас ці не. Нам важна, каб мы самі сябе пачулі і, галоўнае, каб мы самі ведалі, хто мы, цераз якія гістарычныя падзеі і выпрабаванні прайшлі нашы годныя продкі — папярэднікі.

Таму дасведчанага ў гэтых праблемах чалавека нікольні не дзівіць тое, што актыўны ўдзел, а можа, нават, галоўную ролю Літвы (старажытнай Беларусі) у бітве пры Грунвальдзе імкнуцца замоўчваць сёння і ўсходнія і заходнія суседзі. Сярод іншага варта ім нагадаць, што сярод палонных крыжацкіх сцягоў амаль што палова была польскіх, пад якімі палякі ваявалі на баку Ордэна, а Смаленскі рускі (дакладней крывіцкі) полк, які змагаўся поруч з палкамі і харугвамі іншых нашых гарадоў і мястэчак, быў з імі і ў адным сугрмадзянстве ВКЛ.

Не вельмі праглядаецца ў працах гісторыкаў тых суседзяў наш след і ў паўстанні 1794 года. А ці не віленскія якабінцы выступалі тады за адмену прыгону і аднаўленне федэратыўнай Рэчы Паспалітай? А ці не генерал-лейтэнант Якуб Ясінскі — адзін з тых галоўных якабінцаў, камендант узброеных сіл ВКЛ — новай па духу і зместу арміі — набіраў у сваё войска акрамя шляхты яшчэ і мяшчан, нават сялян? Больш за

тое, пісаў пракламацыі для сялян на беларускай мове. За ўсё гэта кіраўнік паўстання, апалячаны ліцвін Тадэвуш Касцюшка пад націскам варшаўскіх кансерватараў адхіліў Я. Ясінскага ад кіраўніцтва паўстаннем на Літве і Беларусі.

Што ж тычыцца паўстання 1830 — 31 гадоў, падрыхтаванага тайнымі арганізацыямі, у тым ліку варшаўскім Патрыятычным таварыствам*, то ў лозунгу паўстанцаў «За нашу і вашу свабоду» («Za wolnosc nasza i wasza»), які быў адрасаваны рэвалюцыйным сілам Расіі (заклікаў іх да сумеснай барацьбы з расійскім самадзяржаўем) праглядаецца вузасць погляду і польскі эгаізм тых жа варшаўскіх кіраўнікоў. Літву (Беларусь) яны ўжо лічылі часткай не ВКЛ, а Польшчы, больш за тое — часткай карэннай Польшчы! А былі ж яшчэ і русіны (украінцы), і жмудзіны (летувісы), і латгалы (латышы).

Калі б Варшава прызнавала, апроч польскіх нацыянальных утварэнняў і інтэрэсаў у былой Рэчы Паспалітай, утварэнні і інтарэсы іншых яе складнікаў (Літвы-Беларусі, Русі, Жамойці-Летувы, Інфлянтаў), дык і лозунг павінен быў гучаць наступным чынам: «За нашы свабоды і вашу свабоду». Менавіта гэты польскі эгаізм у значнай ступені можна лічыць адной з галоўных прычын паразы паўстання.

Маскоўскі жа бок у паўстанні 1830–31 гг. няўмысна не бачыў ліцвінскага (беларускага) складніка; маўляў, «нашы» супраць «нашых» не паўсталі.

***

Названыя падыходы да ацэнак падзей на Літве (Беларусі) пераважаюць і ў разуменні (дакладней — наўмысным неразуменні) вышэй названымі бакамі нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863–64 гадоў. Між тым, створаны ў 1863 годзе ў Вільні «чырвоны» Літоўскі правінцыйны камітэт (куды сярод іншых уваходзілі капітан расейскага генеральнага штаба Людвік Звяждоўскі і дыпламант Пецярбургскага ўніверсітэту Кастусь Каліноўскі) меў адрозны ад варшаўскіх кіраўнікоў паўстання погляд на лёс Літвы, а таксама на іншыя праблемы.

Перш за ўсё, не супадалі погляды гэтых цэнтраў на ўдзел у паўстанні шляхты і сялянства. Калі Варшава аддавала перавагу шляхце, дык Вільня — сялянству. Зусім не выпадкова К. Каліноўскі звяртаўся да ліцвінскага (беларускага) сялянскага народа на яго роднай мове праз «Мужыцкую праўду».

Адносна ж будучыні Літвы (Беларусі) віленскія «сепаратысты» меркавалі, што Літва (Беларусь) павінна разам з Польшчай дабівацца незалежнасці, але быць асобнай адзінкай у адроджанай Рэчы Паспалітай, гэта значыць звязанай з Польшчай толькі федэратыўнымі повязямі.

---

* Патрыятычнае таварыства было створана па ініцыятыве Іаахіма Лялявеля (1786–1881), маці якога была ліцвінка-беларуска. Дарэчы, Лялявель і ўзначальваў гэтае таварыства ў 1830–31 гг. — *Рэд.*

Часам К. Каліноўскі ў сваіх поглядах на Польшчу ішоў яшчэ далей, аб чым сведчыць былы ўдзельнік паўстання, польскі пісьменнік і гісторык Валеры Пшыбароўскі (1845–1913). Вось некалькі слоў з яго кніг «Апошнія хвіліны Студзеньскага паўстання на падставе аўтэнтычных крыніц», «Гісторыя двух гадоў: 1861–1862» і «Гісторыя 1863 года»:

> «...ён /К. Каліноўскі. — *Я.Г.*/ быў адным з галоўных прыхільнікаў і папулярызатараў сепаратысцкіх літоўскіх памкненняў і не адзін раз выказваўся на сваёй сакавітай народнай /беларускай. — *Я.Г.*/ мове, што «дурным варшаўскім мазгаўням нельга давяраць лёс Літвы».
>
> «Калі нарэшце Звяждоўскі, з-за падазрэнняў расейскіх улад наконт удзелу ў змове, вымушаны быў выехаць у Маскву, Каліноўскі стаў гаспадаром становішча і хоць няшмат мог зрабіць, бо не было магчымасцяў, аднак з няменшым запалам спрачаўся з «дурнымі варшаўскімі мазгаўнямі» пра поўную аўтаномію Літвы»...
>
> «Нельга, — заклікаў ён /Каліноўскі. — *Я.Г.*/, давяраць будучы лёс Літвы гэтай дурной кумцы Варшаве».

Лёгка зразумець, як успрымаліся ў Варшаве такія выказванні.

Варта дадаць некалькі слоў адносна сацыяльнага складу паўстанцаў і тых, хто ім сымпатызаваў і дапамагаў. У гэтым складзе прадстаўлены увесь спектр грамадства. Сярод змагароў былі адстаўныя вайскоўцы царскай арміі (ад прапаршчыкаў да палкоўнікаў), арыстакраты (напрыклад, некалькі графаў), шляхцічы-абшарнікі, дробныя і беззямельныя шляхцічы, чыноўнікі, студэнты, гімназісты, мяшчане, сяляне, святары (пераважна каталіцкія), салдацкія дзеці.

Абвяржэннем афіцыйных прапагандысцкіх сцвярджэнняў, што бунтавалі ў Паўночна-Заходнім краі галоўным чынам польскія абшарнікі і заможная шляхта, могуць служыць афіцыйныя спісы вязняў тых часоў, што знаходзіліся, да прыкладу, у Гарадзенскай турме. Так, на 1 кастрычніка 1863 года шляхты там было 264 чалавек, а сялян (і каталіцкага, і праваслаўнага веравызнання) — 274; на 1 лістапада — шляхты 259, сялян — 339 (НГАБ у Гародні: фонд 3, вопіс 1, справа 26, лісты 176–178).

Што тычыцца інтэлектуальнай эліты, дык у гэтым пераліку трэба назваць імёны графаў Валовічаў (бацька і сын), паэтаў Альгерда Абуховіча (граф Бандынэлі) і Францішка Багушэвіча, драматурга і паэта Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, мастака Браніслава Залескага, Зыгмунта Чаховіча (пасля вяртання з Сібіры ён адыграў вельмі важную ролю ў жыцці маладога Янкі Купалы), Іосіфа і Марыі Ямантаў і шмат іншых добра адукаваных творчых асоб.

* * *

Колькі слоў пра геаграфію паўстання на тэрыторыі Літвы (Беларусі). Паказальны факт: напярэдадні яго, у 1861 годзе, на паказанай тэрыто-

рыі было засведчана 379 сялянскіх выступленняў (пачынаючы з паўстання іўеўскіх сялян) супраць драпежніцкіх умоў зямельнай рэформы. Вось яна — шырокая і трывалая — база для сацыяльнага і нацыянальнага рэвалюцыйнага руху на ўсім абшары былога Вялікага Княства Літоўскага і Рускага. Гэта добра разумелі К. Каліноўскі і яго паплечнікі з «чырвонага» Літоўскага камітэта. Для Варшавы ж такое стаўленне было непрымальным, бо прападалі яе шмат якія эканамічныя інтарэсы.

Вось толькі некаторыя населеныя пункты нашых этнічных зямель, што былі ахоплены паўстаннем: Віленшчына, Пружаншчына, Кобрыншчына, Новы двор (Шчучыншчына), Горы-Горацкія, вёскі Азярцы (Случчына), Пагосцішча (Аршаншчына), Парэчча (Дзісеншчына), Уладыкі (Вілейшчына), Мілавіды, Пятровічы і Новыя Пяскі (Баранавіччына), Баруны (Ашмяншчына)… Тут адбываліся бітвы і сутычкі паўстанцкіх аддзелаў з царскімі карнікамі. А калі называць адрасы паўстання ў Горадні і на Гарадзеншчыне, дык гэтая тэрыторыя вельмі шчыльна была пакрыта рознымі формамі выступаў супраціў царскіх улад. Увогуле ні адна губерня Заходняга краю (Беларусі, Літвы, Інфлянтаў), ні адзін павет не засталіся ў баку ад нацыянальна-вызвольнага руху тых часоў.

Нацыянальны склад паўстанцаў адпавядаў стану грамадства напярэдадні паўстання. Большасць складалі ліцвіны (беларусы), далей ішлі палякі, жамойты (летувісы) і іншыя, у тым ліку — расейцы. Вось што адзначыў Андрэй Вашкевіч у сваёй працы «Адрасы паўстання» (1863–1864 гг.) у Гародні і на Гарадзеншчыне»:

> «Сёння вядомы прозвішчы больш чым трохсот расійскіх афіцэраў, салдат і казакоў, якія перайшлі на бок паўстанцаў і ваявалі ў іх шэрагах».

А дэмакратычная арганізацыя «Камітэт рускіх афіцэраў у Польшчы» выдавала і распаўсюджвала сярод расейскіх вайскоўцаў адозвы з заклікам не змагацца супраць паўстанцаў*.

* * *

Хто ж былі карнікі? Перш за ўсё царская, імперскі настроеная ваеншчына, якая паслугавала татальнаму расейскаму рабству і зацвярджэнню расейскага панавання ў так званым Заходнім краі — былом ВКЛ. Сярод іх, акрамя чыста расейскіх, сустракаліся таксама генералы і афіцэры з польскімі, нямецкімі, татарскімі прозвішчамі (да прыкладу, палкоўнік Пенхаржэўскі, палкоўнік фон Ігельстром, капитан Керсноўскі, маёр Хазбіевіч, маёр фон Кек, генерал-маёр Эгер…).

---

* Сябры Камітэта, які існаваў у 1861–63 гг., дзейнічалі на тэрыторыі Польшчы, Літвы (Беларусі), Жамойдзі (Летувы) і Русі (Украіны). Яго ўзначальваў падпаручнік Андрэй Патабня (1838–1863), у кіраўніцтва ўваходзілі Яраслаў Дамброўскі (1836–1871), Зыгмунт Падлеўскі (1835–1863), Васіль Каплінскі (1839–каля 1890). Па падліках У.А. Дзякава, каля 44 % чальцоў арганізацыі складалі ўраджэнцы беларуска-літоўскіх губерняў. — *Рэд.*

Часам, каб падзарабіць, мясцовыя здраднікі (знаходзіліся і такія, пераважна сярод сялян) лавілі ў лясах паўстанцаў, збівалі і здавалі іх царскім уладам. Улады давалі такому паслугачу цялушку або карову, якую адабралі ў непакорлівага суседа таго ж паслугача. Дарэчы, тое ж самае дзеялася і на карэнных землях Польшчы, красамоўна пісаў пра гэта Стэфан Жэромскі ў сваіх раманах «Попел» (1903 г.) і «Прыгажосць жыцця» (1912 г.). Вось яны — своеасаблівыя прыкметы латэнтнай (скрытай) грамадзянскай вайны!

Неабходна звярнуць увагу на такую яшчэ з'яву: карнікі (ці то расейцы, ці то палякі) выключна жорстка і бязлітасна ставіліся да паўстанцаў-ліцвінаў: апошнім адмаўлялася права на існаваннне. Палякі помсцілі ім за сепаратызм, рускія — нібыта за здраду*. Гэтая трагічная для ліцвінаў (беларусаў) эстафета была перададзена і ў XX стагоддзе: Курапаты (Вялікі халакост) — Бяроза Картузская (Малы халакост). Ды і сёння гэткая тэндэнцыя існуе ў нашай краіне, здавалася б — незалежнай і суверэннай.

А вось калі нашым прыгнятальнікам даводзілася кепска ад іншаземцаў, яны адразу ўспаміналі пра ліцвінаў (беларусаў) і нават звярталіся да іх на беларускай мове, якой заўсёды пыхліва пагарджалі. Напрыклад, калі Германія напала на Польшчу ў верасні 1939 года, польскі ўрад па варшаўскаму радыё, а таксама ў газетах па-беларуску заклікаў беларусаў змагацца супраць немцаў, гэта значыць — абараняць уладу польскіх паноў**. А Масква пасля шэрагу цяжкіх параз на фронце гатова была ставарыць у 1942 годзе нават дзве асобныя Беларускія арміі (агульнай лічбай амаль што 170 тысяч чалавек), каб яны змагаліся супраць немцаў за ратаванне ўлады расейскіх бальшавікоў***.

У мірны ж час як адзін (заходні), так і другі (усходні) сусед-прыгнятальнік трымаюць нас за донараў ва ўсіх сферах жыцця. Асабліва гэта тычыцца сферы культуры, дзе нашыя «выхадцы», атрымаўшы больш-менш спрыяльныя ўмовы для творчасці, папросту абыходзяць і палякаў, і расейцаў. Нездарма ж Юзаф Пілсудскі, заўзяты вораг беларушчыны, заяўляў калісьці ў сваім атачэнні, вядома — антыбеларускім, што Польшча — нібы той абаранак: у сярэдзіне — пустата, а моцная яна толькі крэсамі. І прама, і ўскосна можна гэтую тэзу аднесці таксама і да Расіі. Думаецца, прыкладаў гэтаму ў гісторыі дастаткова. Успомнім хаця б імёны такіх этнічных беларусаў, як Адам Міцкевіч і Фёдар Дастаеўскі, Уладзіслаў Сыракомля і Аляксандар Твардоўскі, Станіслаў Манюшка і Міхаіл Глінка, Іван Хруцкі і Казімір Малевіч... Таму няма нічога

* Падрабязней пра гэта глядзі ў кнізе: Чапліцкі Ф. Маскоўская ўлада на Літве. 1863–1869 гг. Мінск. 2013.

** Глядзі: Данилов И. Записки западного белоруса. Минск, 2007.

*** Глядзі: Петров М. Дивизия имени Кастуся Калиновского. // «Деды», выпуск 7 (2011 г.), с. 57–61.

дзіўнага, што палякі ва ўсіх сваіх энцыклапедыях і біяграфічных слоўніках вызначаюць К. Каліноўскага як паляка. А чаго ж яшчэ чакаць ад іх?! Да палякаў у справе фальсіфікацыі далучаюцца Масква і рознага кшталту антыпатрыёты з Беларусі — паслугачы той жа Масквы або сучаснай Вільні.

А вось яшчэ адзін цікавы і паказальны прыклад да той жа тэмы: Ігнат Яўхімавіч Грынявіцкі (1855–1881). Гэты беларускі шляхціч, які нарадзіўся ў маёнтку Басін Бабруйскага павета Мінскай губерні (цяпер вёска Калінаўка Клічаўскага раёна), ва ўзросце 24 гадоў зрабіўся рэвалюцыянерам-народавольцам і адным з заснавальнікаў беларускай фракцыі ў «Народнай волі». Нацыянальную праграму фракцыі надрукаваў нелегальны часопіс «Гоман» у 1884 годзе (№ 2). У гэтай праграме, у прыватнасці, гаварылася:

> «Мы — беларусы і павінны змагацца за мясцовыя інтарэсы беларускага народа і федэратыўную аўтаномію краіны.
>
> Мы — рэвалюцыянеры, таму што, падзяляючы праграму «Народнай волі», лічым неабходным прыняць удзел у гэтым змаганні.
>
> Мы — сацыялісты, бо нашай галоўнай мэтай з'яўляецца эканамічнае паляпшэнне краіны на падставе навуковага сацыялізму».

Услед за Грынявіцкім «гоманаўцы» меркавалі, што народная інтэлігенцыя ў сваёй дзейнасці не павінна абмяжоўвацца этнаграфічным вывучэннем роднага краю і працай на ніве яго асветы, бо пры дэспатычным рэжыме гэта ніякім чынам не палегчыць жыццё простага народа. Неабходна палітычная барацьба з царскім рэжымам.

Але ж палякі адносяць Грынявіцкага да рускіх рэвалюцыянераў, рускія — да польскіх! І ніхто з іх не кажа ні слова пра тое, што быў ён беларусам. Не думаю, што іх стрымлівае той факт, што Грынявіцкі належаў да групоўкі царазабойцаў. Тут зусім іншы чыннік — антыбеларускія (антыліцвінскія) погляды.

Так вось працуюць, так выконваюць «задачы зверху» пратакольныя гісторыкі-фальшываманетчыкі. Імкненні іх саміх і загады гаспадароў скіраваны на тое, каб канчаткова забіць рэшткі нацыянальнай свядомасці сярод рэшткаў беларускага (ліцвінскага) народа. Менавіта таму у інфармацыйнай прасторы Расіі і Польшчы склалася свайго роду інфармацыйная змова супраць ліцвінскага (беларускага) следу ў гістарычных падзеях. Але ж ён, след гэты, быў, ёсць і заўсёды будзе на скрыжалях музы Кліо!

# ПАЎСТАННЕ 1863 ГОДА ЯК ПЕРАЛОМНЫ ЭТАП У ФАРМІРАВАННІ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ І БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ



Анатоль Астапенка, *палітолаг (г. Менск)*

Мы паспрабуем прааналізаваць ролю паўстання 1863 года ў фарміраванні беларускай нацыі і развіцці беларускай ідэі. Існуе некалькі поглядаў на гэтую праблему ў сувязі з характарам паўстання. Дыяпазон ацэнак паўстання ў прылажэнні да беларускага народа вельмі шырокі: ад поўнага адмаўлення нацыянальнага характару паўстання 1863 г. (толькі польскае паўстанне) — да ўзвядзення Кастуся Каліноўскага на п'едэстал першага беларускага нацыяналіста, а ягоных «Лістоў з-пад шыбеніцы» ў ранг «палітычныга крэда беларускага нацыяналізму»*.

Ні адзін са згаданых падыходаў не адпавядае рэчаіснасці, а ісціна знаходзіцца недзе пасярэдзіне. Яшчэ дакладней — яна іншая.

Зразумела, першы падыход фарміраваўся ў пэўных колах зацікаўленых людзей, мэта якіх — зацяніць альбо зусім праігнараваць нацыянальны рух беларусаў у XIX стагоддзі і залічыць беларусаў альбо да прадстаўнікоў польскай нацыі з «крэсаў усходніх», альбо да заходняга адгалінавання «адзінага рускага народа».

Другі падыход развіваюць прыхільнікі і творцы беларускай нацыянальнай ідэі. Ён выкліканы натуральным працэсам напаўнення нашай гісторыі і нацыянальнай памяці станоўчымі нацыянальнымі міфамі, нацыянальнымі героямі, урэшце нацыянальнымі ідэаламі. Але на гэтым шляху, які найбольш актыўна распачаўся з канца 80-х гадоў XX ст., часам можна назіраць не зусім адэкватныя сцверджанні і высновы.

Гэта таксама зразумела: даследаванні сутнасці беларускай нацыі і беларускага нацыяналізму, іх станаўлення і перспектыў развіцця знаходзяцца ў эмбрыянальным стане. Яны да гэтага часу пад фактычнай забаронай і негалоснага «табу» з боку афіцыйных навуковых колаў у Рэспубліцы Беларусь. Замежныя ж даследчыкі беларусістыкі (у першую чаргу навукоўцы з Летувы, Украіны і Польшчы) ангажаваныя навуковымі школамі сваіх дзяржаў, а таксама сваімі спонсарамі. Акрамя таго, яны адарваныя ад беларускай глебы і таму ў прынцыпе не здольныя вырашыць пытанні нашай нацыянальнай гісторыі і сутнасці беларускай нацыянальнай ідэі.

* Запруднік Я. Беларусь на гістарычных скрыжаваннях. Мінск, 1996, с. 71.

Складанасць перыяду сярэдзіны XIX стагоддзя ў тым, што беларусы як нацыя яшчэ не склаліся, у той жа час у большасці еўрапейскіх краін працэс утварэння нацый ужо скончыўся. На гэта былі вядомыя аб'ектыўныя прычыны. Беларусь, якая да канца XVIII ст. уваходзіла як ВКЛ у склад Рэчы Паспалітай, адначасна апынулася ў краіне з зусім іншым менталітэтам і гістарычным лёсам — Расійскай імперыі. Парадаксальна, але магчыма менавіта гэты факт стаў выратавальным для беларусаў ад зліцця з польскім этнасам і паклаў пачатак фарміравання беларусаў як нацыі.

У сувязі з гэтым звернемся да тэорыі нацый і нацыяналізму, якая мае дастаткова грунтоўную канцэпцыю.

* * *

Нацыя — гэта адносна новы панятак, які пачаў усведамляцца з XIX стагоддзя. Традыцыйна лічыцца, што пачатак нацыі і нацыяналізму як тэарэтычнага абгрунтавання нацыі бярэ адлік ад французскай рэвалюцыі 1789–1793 гг. А лепш назваць гэтую рэвалюцыю агульнаеўрапейскай, бо вынікі яе адбіліся на гістарычных шляхах усіх еўрапейскіх краін.

Адным з першых даследнікаў праблемы нацыі быў Эрнэст Рэнан (1823–1892). У сваім дакладзе, прачытаным у Сарбоне 11 сакавіка 1882 года, ён упершыню вылучыў нацыю з папярэдніх сукупнасцяў чалавечага роду, такіх, як народ і этнас. Э. Рэнан першым вывеў нацыю па-за абсягі этнічных рамак і пастуляваў яе як духоўны прынцып. Больш таго, на яго погляд нацыя — гэта містычны, трансцэндэнтны прынцып духовага жыцця чалавека.

> «Нацыя — гэта вялікая салідарнасць, што ўстанаўліваецца адчуваннем ахвяр, якія ўжо зроблены і якія мяркуецца зрабіць у будучым... Нацыя — гэта паўсядзённы плебісцыт, як існаванне індывідуума — вечнае сцвярждэнне жыцця. Жаданне нацыі — адзіны законны крытэр, да якога трэба заўсёды вяртацца»*.

Жыхары старажытных імперый, такіх як Егіпет і Кітай, Асірыя і Персія, Рым і Візантыя не уяўлялі нацый. Яны станавілі сабой толькі сукупнасці людзей, альбо народы, але ніяк не нацыю. Можна гаварыць пра патрыятызм грамадзян асобных гарадоў старажытнасці, такіх як Спарта, Цір, Троя, але ніяк не пра нацыянальнасць гэтых грамадзян. Патрыятызм — не нацыянальнае пачуццё, гэта пачуццё адданасці сваёй Айчыне. Такое пачуццё набыло найбольшае развіццё ў Рымскай імперыі ў тыя часы, калі там квітнелі мастацтва, культура і навука. Аднак імперыя не станавіла сабой нацыі-дзяржавы ў сучасным сэнсе. Менавіта брак нацыянальных прынцыпаў, змешванне народаў і рэлігіяў, су-

---

* Renan E. Qu'est-ce qu'une nation? Paris, 1882.

пярэчнасці паміж Захадам і Усходам сталі прычынай распаду Рымскай Імперыі.

Існуе два розныя падыходы да працэсу ўтварэння нацыяў.

Першая канцэпцыя: нацыі маюць свае вытокі ў самой прыродзе і ёсць вечнымі. Яе прынята называць *прымардыяльнай*, г. зн. выточнай (ад ангельскага слова «primordial»). Другая канцэпцыя грунтуецца на тым, што нацыі — з'ява сучасная, яны ўзніклі нядаўна (канец XVIII — пачатак XIX ст.). Гэта — *мадэрнісцкая* канцэпцыя. Мадэрнісцкая тэорыя разглядае нацыю як сацыяльную злучнасць, якая не ўзнікае згодна з гістарычнай канечнасцю, а хутчэй як маральны і ірацыянальны чыннік.

Прымардыяльная канцэпцыя грунтуецца на тым, што нацыі існавалі да сучаснасці. Аднак і пры такім падыходзе няма падстаў сцвярджаць, быццам нацыі — натуральная з'ява, пачатак якой сягае вытокаў людства. Яна можа ўзнікнуць і не ў нашы часы, але праз сукупнасць гістарычных выпадковасцяў, «збег акалічнасцяў». Нацыя, такім парадкам, можа ўзнікнуць чыста выпадкова.

Фарміраванне беларускай нацыі адбывалася на аснове старажытнага беларускага этнасу, развіцця беларускай мовы, умацавання народных традыцый і звычаяў, яна мае, несумненна, прымардыяльны характар. Аднак складанасць умоў суіснавання беларусаў з іншымі народамі — спачатку з палякамі ў межах Рэчы Паспалітай, а потым з рускімі ў Расійскай імперыі, спараджала не толькі запозненае нацыянальнае развіццё, але і цяжкасці з нацыянальнай ідэнтыфікацыяй і, найперш, з менталітэтам і самавызначэннем. Таму для беларусаў, якія прыйшлі на этап нацыяўтварэння пазней многіх еўрапейскіх народаў, згаданыя складанасці прывялі да таго, што пачынаючы з XVIII ст. адказнасць за будучыню народа пачалі браць на сябе лепшыя яго прадстаўнікі, такія як Тадэвуш Касцюшка, Кастусь Каліноўскі…

Мадэрны працэс утварэння беларускай нацыі праходзіў на фоне наступных акалічнасцей:

У большасці еўрапейскіх краін з часу французскай рэвалюцыі 1789 года пачаўся працэс фарміравання нацый. К сярэдзіне XIX ст. (к моманту паўстання 1863 года) для многіх этнічна сфарміраваных, дастаткова самастойных этнасаў гэты працэс завяршыўся ўтварэннем нацый-дзяржаў.

Калі для большасці згаданых нацый-дзяржаў канец XVIII ст. стаў пачаткам пераўтварэння іх этнасу ў нацыю, дык для беларусаў гэты перыяд мог стаць апошнім у сувязі з тым, што апалячванне народаў усходніх тэрыторый у Рэчы Паспалітай адбывалася імклівымі тэмпамі і магло стаць незваротным.

Уваход беларускіх тэрыторый у склад Расійскай імперыі раптоўна прыпыніў паланізацыю — тэндэнцыю папярэдняга стагоддзя і паставіў перад насельніцтвам ВКЛ галоўнае пытанне: «Хто мы?»

Расійскія гісторыкі і ідэолагі імперскай Расіі рабілі ўсё магчымае каб успрыняцце анексіі гэтага краю пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай выглядала справай праведнай, як далучэнне «спрадвечна рускіх» зямель да свайго бацькоўскага дому — Расіі.

І нарэшце, апошні вынік. Аказалася, што далучаныя да Расійскай Імперыі беларускія землі нейкія не зусім рускія. І мова, хоць амаль зразумелая, але не руская. І не польская. І хрысціянства не зусім такое, як трэба. Нават праваслаўнае насельніцтва ВКЛ жыве па традыцыях значна адрозных ад маскоўскіх. А большасць людзей спавядае зусім іншыя каноны хрысціянства, што аб'ядноўваюцца ў чужыя маскавітам канфесіі: каталіцтва і грэка-каталіцтва альбо ўніяцтва.

Абагульняючы папярэднія чатыры высновы і вяртаючыся да паўстання 1863 года, мы можам выказаць наступную думку: менавіта паўстанне Каліноўскага і ягоных паплечнікаў, што адбылося на нашых землях у 1863 годзе, стала каталізатарам, штуршком для рашучага этапу пераўтварэння беларускага этнасу ў нацыю. І гэты штуршок прывёў да зменаў у стаўленні да насельніцтва «Паўночна-Заходняга краю» як расійскіх імперскіх колаў і знешняй палітыкі імперыі, так і пачаткам зменаў у самасвядомасці самога насельніцтва.

* * *

Для далейшага аналізу вернемся да перыядызацыі нацыяўтварэння беларускай нацыі. На нашую думку, найбольш прымальнай канцэпцыяй з'яўляецца наступная пяціфазавая мадэль1.

1) Утварэнне этнасу: каля 1000 год таму (пачатак).

2) Развіццё і завяршэнне фарміравання этнасу ў XV–XVI ст. з адметнымі беларускімі рысамі.

3) Пачатак утварэння нацыі (сярэдзіна — канец XIX ст.).

4) Фарміраванне нацыі (XX — пачатак XXI ст.).

5) Завяршэнне фарміравання беларускай нацыі і паўнавартае існаванне беларусаў як нацыі (магчыма пасля 20–30-х гг. XXI ст.).

Разглядаемы перыяд — гэта трэці этап.

Другая палова XIX стагоддзя, на якой мы зараз скупавалі ўвагу, адметная фарміраваннем нацыяў і пашырэннем нацыяналізму сярод многіх народаў: Славеніі, Харватыі, Эўскадзі (краіны баскаў), Каталоніі. Вызначальная роля ў гэтых працэсах адводзілася повязі паміж інтэлектуальнымі элітамі, асобамі вольных прафесіяў і ўласна народам.

М. Хрох падзяляў працэс нацыянальнай мабілізацыі на тры этапы:

1) Пачатковае фармуляванне нацыянальнай ідэі невялікім колам інтэлектуалаў, якія наноў адкрываюць нацыянальную культуру і мінулае.

2) Вызначальны этап. Ідзе працэс пашырэння нацыянальнай ідэі прапагандыстамі з ліку асоб вольных прафесіяў. Яны ж потым надаюць палітычны характар культурнаму нацыяналізму.

3) Апошняя стадыя. Падтрыманне нацыяналізму народам вядзе да масавага руху.

Узнікненне беларускіх нацыянальных элітаў у Заходнім краі Расійскай імперыі прыпадае на пачатак і сярэдзіну XIX ст. Менавіта тады друкавалі свае творы Ян Чачот, Уладзіслаў Сыракомля, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Ян Баршчэўскі, Рамуальд Падбярэскі. Гэта першы этап. Яшчэ няма нацыянальнай свядомасці, яшчэ жыве польская ідэнтычнасць, «папсаваная» «мужыцкай мовай», яшчэ не з'явілася думка пра незалежную беларускую дзяржаву, ды й проста асобную беларускую нацыю.

Другі этап, у адпаведнасці з Хрохам, быў працягнуты беларускімі інтэлектуаламі і дэмакратамі другой паловы XIX ст. Аднак толькі паўстанне 1863 года атрымала сапраўдны палітычны характар у дачыненні да былых «Крэсаў Усходніх» (Паўночна-Заходняга краю), але перад усім — зямель беларусаў. Гэты час нам даў таго, хто сказаў крылатыя словы: «Дык не пакідайце ж мовы нашай, каб не ўмёрлі» — Францішка Багушэвіча.

У ранейшых публікацыях на тэму паўстання 1863 г. мы звярталі ўвагу на вытокі зараджэння беларускай нацыянальнай ідэі і адпаведна беларусаў яшчэ ў XVIII ст. На гэты факт паказаў у сваёй манаграфіі А. Мальдзіс* і таксама паказана ў нашай кнізе «Игде зродилися иускормлены суть побозе».

Што тычыцца першай паловы XIX ст. і самога паўстання 1863 года, то ў згаданай кнізе не прааналізаваны ўклад К. Каліноўскага і ягоных паплечнікаў на працэс нацыянальнай мабілізацыі. У прыватнасці, было адзначана, што гераізацыя Каліноўскага была распачатая яшчэ беларускімі савецкімі гісторыкамі як гісторыя пра выдатнага рэвалюцыянера, кіраўніка польскага паўстання супраць царызму. Але такіх рэвалюцыянераў у Расійскай імперыі было нямала.

> «Чаму ж так высока ўзнятая гэтая фігура? Разгадка простая — ён і ягоныя сааўтары «Мужыцкай праўды» выкарыстоўвалі ў сваіх адозвах беларускую мову, праўда, у лацінскім алфавіце ...Гэта было зроблена дзеля практычнай мэты, можна нават сказаць, палітычнай»**.

У гэтым артыкуле я звяртаю ўвагу на зусім іншы аспект тых падзей XIX ст.

Нават тыя, на цяперашні час невялічкія нумары газеты ці хутчэй улёткі «Мужыцкай праўды» — гэта адзнака зараджэння новага народа, новай нацыі і новай эпохі. Для беларусаў настаў «момант ісціны», настаў час фарміравання беларускай нацыі. За ім ішлі Францішак Багушэвіч, Максім Багдановіч, ішлі беларусы...

---

* Мальдзіс А. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя. Мн., 1982, с. 92.

** Астапенка А. «Игде зродилися иускормлены суть побозе». СПб., 2010.

Магчыма, пісаліся тыя лісткі і з палітычнай, нават папулісцкай мэтай, але дзякуючы выхаду «Мужыцкай праўды», перад сусветнай грамадскасцю з'явілася нікому невядомая мова — беларуская. Каліноўскі ў сваіх лістках «Мужыцкай праўды» вылучыў асобную мову беларусаў.

Трэба падкрэсліць, што паўстанне 1863 года было далёка не краёвым польскім праектам. Акрамя К. Каліноўскага мы бачым шэраг удзельнікаў, што ўпісалі свае імёны ў падмурак беларускай нацыянальнай ідэі. Сярод іх арганізатар паўстання на Літве і начальнік аддзела паўстанцаў Сігізмунд Серакоўскі, кіраўнік паўстанцкага аддзела Раман Рагінскі, капітан генеральнага штаба Людвік Звяждоўскі (кіраўнік паўстання на Магілёўшчыне), граф Леон Плятэр, які першым падняў штандар паўстання ў Віцебскай губерні, і многія іншыя.

Паўстанне 1863 года стала пераломным момантам на шляху фарміравання беларусаў як нацыі. Менавіта пасля паўстання пачынаюць дзейнічаць беларускамоўныя паэты і пісьменнікі, расці інтарэс навукоўцаў да народнага фальклору. Цікава, што згаданыя працэсы нацыянальнай мабілізацыі пачалі імкліва ўзрастаць пасля жорсткага падаўлення паўстання, на фоне забароны ўсякай нацыянальна накіраванай дзейнасці. Гэтыя крокі царызму далі адваротны вынік: на пытанне «Хто мы?» з'явіўся адказ — «Мы — беларусы». І цяпер, нарэшце, сусветны закон пераўтварэння этнасаў у нацыі крануўся і беларусаў.

Паўстанне нацыянальнай эліты, хоць і не моцнай, прывяло да стварэння першых друкаваных перыядычных выданняў. У 1884 годзе з'явілася першая беларуская газета — «Гоман». Ужо ў першым нумары выдаўцы абвясцілі аб сваім намеры змагацца за федэрацыйную самастойнасць Беларусі. Потым — «Наша доля» (1906) і «Наша ніва» (1906–1914).

Адзначым, што менавіта «Наша Ніва» адыграла вялікую ролю ў нацыянальным адраджэнні беларусаў. Газета мела вялікую папулярнасць сярод беларускага сялянства. Яна пісала:

> «Мы будзем імкнуцца заставіць усіх беларусаў, якія не ведаюць хто яны, што яны беларусы, што яны павінны ведаць свае правы і дапамагаць нам у нашай працы».

Урэшце пачалі ўзнікаць і палітычныя структуры — спачатку партыя Беларуская Рэвалюцыйная Грамада (1902), потым Беларуская Сацыялістычная Грамада (1903). У праграме Грамады ставіцца мэтай аўтаномія Беларусі ў межах Расійскай імперыі. Гэтым, фактычна, абвяшчаецца стварэнне беларускай нацыі-дзяржавы, што ёсць апошнім вызначальным момантам у стварэнні нацыі.

Паралельна ідзе працэс і філасофскага асэнсавання нацыянальнага быцця. Фармуюцца першыя уяўленні аб беларускай нацыянальнай ідэі.

Навуковай грамадскасці добра вядомыя даследаванні расейскага філосафа Мікалая Бярдзяева (1874–1948), прысвечаныя пытанням фар-

міравання нацыі і нацыянальнай ідэі. Ён першым даў азначэнне нацыяналізму праз ягонае абгрунтаванне ў хрысціянстве. М. Бярдзяеў пісаў:

> «Чалавек уваходзіць у чалавецтва праз нацыянальную індывідуальнасць, як нацыянальны чалавек, а не абстрактны чалавек, як рускі, француз, немец альбо ангелец. Чалавек не можа праскочыць праз цэлую ступень быцця, ад гэтага ён альбо б збяднеў, альбо б апусцеў. Нацыянальны чалавек — больш, а не меньш чым проста чалавек...».

І далей:

> «Нацыяналізм ёсць станоўчы набытак і каштоўнасць, як творчае сцверджанне, раскрыццё і развіццё індывідуальнага народнага быцця. Але ў гэтым індывідуальным вобразе раскрываецца ўсё чалавецтва».

У гэтых радках сканцэнтравана ўся існасць нацыяналізму. Менавіта ў адасобленым вобразе раскрываецца ўсё чалавецтва. Багацце чалавецтва менавіта ў разнастайнасці і сталасці нацыяў, як і багацце асобнага народу — у каларытнасці, разнастайнасці яго індывідуумаў. Гэта ўмова існавання раўнапраўных, творчых і сталых нацыяў.

Індывідуальны вобраз беларусаў пачаў імкліва ўтварацца ў другой палове XIX стагоддзя і пачатку XX. З'явілася зорка Максіма Багдановіча (1891–1917), які ўжо ведаў, як стварыць беларускую нацыю, ведаў, якія галоўныя прынцыпы трэба пакласці ў падставу беларускай нацыянальнай ідэі. І гэтыя прынцыпы ён выказаў у сваёй публіцыстычнай і літаратурна-крытычнай творчасці. Вось назвы некалькіх такіх твораў: «Белорусское возрождение», «Белорусы», «Хто мы такія?», «На белорусские темы», «Голос из Белоруссии».

Быў у беларусаў і свой Мікалай Бердзяеў — рэвалюцыйны дэмакрат Сігізмунд Серакоўскі (1826–1863). Яшчэ ў 1857 годзе ён сказаў:

> «Думка, што розныя нацыянальнасці граюць тую самую ролю ў развіцці людства, як розныя інструменты ў аркестры, — вялікая думка. Няўжо першая скрыпка надумаецца вымкнучыць і заняволіць флейту, кларнет ці другую скрыпку, каб вылучна самой разыгрываць усе п'есы?*»

Тут сфармулявана сутнасць ідэі, якая стала пуцяводнай зоркай для паўстанцаў 1863 года.

Мы, беларусы, маем выдатных прадстаўнікоў сваёй нацыі ў мінулым, маем герояў і філосафаў, пісьменнікаў і песняроў. Але, на жаль, вельмі мала робіцца па вывучэнні іх спадчыны і ўвекавечванні імёнаў.

---

* Сераковский С. Заграничные известия // «Современник», 1857, № 4.

# ПАЎСТАННЕ 1863 ГОДА
# І ФАРМІРАВАННЕ ПАЛІТЫЧНАГА РУХУ
# НА БЕЛАРУСІ



Святлана Шабуневіч, *палітолаг (г. Менск)*

Пад канец XVIII стагоддзя ўсе беларускія землі апынуліся ў складзе Расійскай імперыі. Пасля гэтага палітычная самасвядомасць беларусаў фарміравалася ва ўмовах адначасовага ўздзеяння польскай і расійскай ідэалогій, у тым ліку рэвалюцыйных. У 1929 годзе Аляксандр Цвікевіч адзначыў:

> «Развіццё грамадска-культурнага жыцця на Беларусі ўвесь час знаходзіцца ў непасрэднай залежнасці ад барацьбы польскага і расійскага капіталу за беларускі рынак»*.

Расійскія ідэолагі аднадушна разглядалі захоп беларускіх земляў як працэс аднаўлення адзінай агульнарускай тэрыторыі, нібы існаваўшай у старажытныя часы. Адпаведна, расійскае самадзяржаўе не прызнавала на Беларусі ніякіх нацыянальных форм развіцця грамадства, ніякіх праяў нацыянальнага культурнага жыцця. Мітрафан Доўнар-Запольскі ў 1926 годзе пісаў пра гэта наступным чынам:

> «Подобно польским шовинистам, не желавшим отличать культурной и национальной самостоятельности Белоруссии, «русские люди» в нашем крае также не хотели признавать белорусской национальности и старались везде, в самой России, в Западной Европе и в самой Белоруссии проводить взгляд и доказывать, что эта страна искони русская и что это вообще Россия»**.

Аднак у XIX ст. беларускі народ у асобах найбольш свядомых прадстаўнікоў пачаў шукаць самастойныя шляхі палітычнага і культурнага развіцця. Важнейшым этапам на шляху ўзнікнення і фарміравання грамадска-палітычнай свядомасці беларусаў з'явілася паўстанне 1863 года.

Напярэдадні паўстання ў Паўночна-Заходнім краі Расійскай імперыі (Віленская, Віцебская, Гарадзенская, Ковенская, Менская, Магілёўская губерні) склаліся два асноўных грамадска-палітычных руху. Гэта так званая «партыя белых», якая аб'ядноўвала буйных землеўласнікаў і буржуазію, і «партыя чырвоных», што складалася з дробнай і беззямельнай шляхты, інтэлігенцыі і студэнцтва, гарадскіх нізаў, часткі сялянства.

---

* Цьвікевіч А. «Западно-руссизм»: Нарысы з гісторыі грамадскай мыслі на Беларусі ў XIX в. и пачатку XX в. Мінск, 1993, с. 5.

** Довнар-Запольский М.В. История Беларуси. Минск, 2003, с. 419.

«Белыя» ставілі сваёй галоўнай мэтай аднаўленне ўнітарнай Рэчы Паспалітай у межах 1772 года, гэта значыць у складзе Польшчы, Літвы (Беларусі і Жамойці), Русі (Правабярэжнай Украіны). Галоўнай жа мэтай «чырвоных» было вырашэнне аграрнага пытання, якое яны злучалі з аднаўленнем не ўнітарнай, а федэратыўнай Рэчы Паспалітай.

Партыю чырвоных, як вядома, узначальваў Канстанцін Каліноўскі, сын збяднелага шлхціча з Гарадзенскай губерні. Падчас навучання на юрыдычным факультэце Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта (1856–1860 гг.) Каліноўскі з 1857 года з'яўляўся актыўным чальцом таемнага ваенна-рэвалюцыйнага кружка Жыгімонта Серакоўскага, што вырашальным чынам паўплывала на фарміраванне яго светапогляду. Каліноўскі і яго прыхільнікі* заяўлялі аб праве і беларусаў (ліцвінаў), і ўкраінцаў (русінаў) і летувісаў (жамойтаў) на нацыянальнае самавызначэнне.

Прынцыпова важна тое, што ў перыяд паўстання «чырвоныя» паставілі сваёй мэтай стварэнне агульнанацыянальнай беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі. Гэтую мэту К. Каліноўскі сфармуляваў у выглядзе закліку да ўтварэння сапраўднай палітычнай партыі («грамады»). Менавіта яна павінна была ўзначаліць і разгарнуць рэвалюцыйную барацьбу ў Паўночна-Заходнім краі за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне беларускага народа.

Дадзеная ідэя ў цэлым адпавядала мэтам буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі, паколькі паўстанне было накіраванае супраць самадзяржаўнага палітычнага рэжыму, астаткаў прыгоннага права, няроўнасці станаў і нацыянальнага прыгнёту. Трэба адзначыць, што пазней менавіта гэта прапагандавалі беларускія народнікі на старонках нелегальнага часопіса «Гоман» (1884 год).

Па сутнасці, лідар «чырвоных» Паўночна-Заходняга краю — Кастусь Каліноўскі — высунуў і спрабаваў рэалізаваць дзве ўзаемазлучаныя ідэі — сялянскай рэвалюцыі («вольнасці не такой, якую нам цар схоча даці, но якую мы самі, мужыкі, паміж сабою зробімо») і дэмакратычнай народнай дзяржавы («не народ для ўрада, а ўрад для народа»).

Нягледзячы на тое, што паўстанне было задушана, яно прычынілася для істотных зрухаў у самасвядомасці ўсіх пластоў беларускага насельніцтва. Пазней, ужо ў пачатку XX стагоддзя, памяць пра паўстанне 1863 года, яго асаблівасці і паследствы аказалі значны ўплыў на спецыфіку беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. І зусім не выпадкова першая беларуская палітычная партыя ўзяла сваім назовам слова «Грамада»...

---

* Найблізкія паплечнікі К. Каліноўскага, гэта Уладзіслаў Малахоўскі (1827–1900), Цітус Далеўскі (1840–1863), Ігнат Здановіч (1841–1863), Юзаф Каліноўскі (1835–1907), Валеры Урублеўскі (1836–1908), Станіслаў Сангін (1818–1863), Фелікс Зянковіч (1842–1910), Іосіф Ямант, Фелікс Ражанскі. — *Рэд.*

# Частка 2
# ПОСТАЦЬ КАЛІНОЎСКАГА

## КАЛІНОЎСКІ І БЕЛАРУСКАЯ ІДЭНТЫЧНАСЦЬ



Анатоль Тарас,
*рэдактар гістарычнага альманаха «Дзяды»*

Усе беларусы нешта чулі аб Каліноўскім. Але гэта «нешта» істотна адрозніваецца сваім зместам. Можна вылучыць два асноўных падыходы да адзнакі яго асобы і ўздзеяння на нацыянальную свядомасць: патрыятычны і антыбеларускі.

Тыя аўтары, якія зыходзяць з пункту гледжання так званага «заходнерусізма», па сутнасці адмаўляюць адметнасць беларускага народа і яго права на сваю незалежную дзяржаву. Адпаведна, яны вядуць кампанію ў СМІ, накіраваную супраць Каліноўскага — «тэрарыста», «псіхапата» і «здрадніка».

Але ж пры навуковым разглядзе пытанняў агульнай адзнакі паўстання і дзейнасці яго ўдзельнікаў абавязкова трэба ўлічваць «эфект чакання эксперыментатара», добра вядомы псіхолагам. Яго сутнасць у наступным: даследнік неўзаметку для сябе самога заўсёды (!) дае тлумачэнне вынікам, атрыманым падчас даследаванняў, у адпаведнасці са сваімі тэарэтычнымі гледжаннямі і несвядомымі чаканнямі. Праявы «эфекту чакання» шматкроць пераканаўча паказаныя на матэрыяле эксперыментаў у натуральных навуках. Зразумела, што праявы «эфекту чакання» ў навуках гуманітарных і сацыяльных яшчэ больш моцныя.

Дык вось, калі ўлічваць гэты важны метадалагічны прынцып, мы зразумеем, што прыхільнікі процілеглых поглядаў на паўстанне 1863 года і яго герояў ніколі не пераканаюць адзін аднаго. Гэтаму не дапамогуць ніякія ізноў адчыненыя факты, ніякія лагічныя канструкцыі на аснове фактаў.

Таму няма сэнсу марнаваць час і сілы на палеміку з нашымі ідэйнымі апанентамі. Для нас Каліноўскі — герой, і заўсёды застанецца такім! А для іх ён вораг, таксама назаўсёды.

## Нацыянальнасць

Заходнерусісты ўпарта лічаць Каліноўскага палякам. Тое, што ён выдаў на беларускай мове 7 выпускаў нелегальнай газеты «Мужыцкая праўда» і некалькі нумароў газеты «Гутарка» для іх ніякі не доказ. Маўляў, ён выдаваў гэтыя газеты, больш падобныя на ўлёткі, на беларускай мове выключна па тактычных меркаваннях, з мэтай, каб сяляне маглі лепш успрыняць рэвалюцыйную прапаганду.

Але магутным аргументам супраць гэткай тэзы з'яўляюцца «Пісьмы з-пад шыбеніцы», якія таксама напісаныя па-беларуску. Фактычна, гэта споведзь Каліноўскага перад суайчыннікамі і, адначасова, яго духоўны тэстамент. Гледзячы ў твар смерці, ён пісаў на роднай мове. Адзін толькі гэты факт безумоўна даказвае, што Каліноўскі быў беларусам і ўсведамляў сябе менавіта такім!

Да таго ж, ён ніколі не зваў сябе палякам, а вось ліцвінам — часта.

Каліноўскі пісаў у гэтых лістах:

*Бывай здаровы, мужыцкі народзе,*
*Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе.*
*І часам спамяні пра Яську твайго,*
*Што згінуў за праўду для дабра твайго.*
*А калі слова пяройдзе ў дзела,*
*Тагды за праўду станавіся смела,*
*Бо адно з праўдай у грамадзе згодна*
*Дажджэш, Народзе, старасці свабодна.*

Няўжо гэта зварот да палякаў?! І няўжо Ясь — польскае імя?!

## Аўтаномія роднага краю

Каліноўскі марыў аб тым, што «вольны» беларускі народ будзе жыць у сваёй уласнай дзяржаве. Што гэта за дзяржава? Спачатку — федэратыўная Рэч Паспалітая ў складзе трох аўтаномій — Польшчы, Літвы (Беларусь + Жамойць) і Русі (Правабярэжнай Украіны).

Так, у тэкстах Каліноўскага аб гэтым нічога няма. Але кожны даследнік абавязаны мець на ўвазе ўсе вядомыя факты. Адным з фактаў з'яўляецца сведчанне царскага генерала Васіля Ратча. У сваім даследаванні паўстання (1867 г.) гэты генерал, які сустракаўся з Каліноўскім у турме, пісаў:

«...ён зусім не быў схільным працаваць для Польшчы і ў выпадку агульнага вызвалення... калі ў Польшчы ўваскрэсне старажытная магнацтва з усімі шляхецкімі традыцыямі, з нацяжкай прыстасаванымі да XIX стагоддзя, бачыць Літву ўцягнутай у той жа вір. Больш за ўсё баяўся ён уварвання белай партыі эміграцыі, указваючы, што яна таксама як французская эміграцыя 1815 года, стане дамагацца ранейшых

правоў і прывілеяў; Каліноўскі баяўся таго зліцця з Польшчай, пры якім потым ад яе нельга будзе адвязацца».

«Ён хацеў бачыць Літву не з узноўленымі на новы лад старымі шляхетнымі традыцыямі, але Літву, якую ён мог бы пераутварыць з усеагульным ураўнаваннем правоў і станаў».

Ратч таксама паведаміў, што на допытах арыштаваныя паўстанцы паказалі: у гутарках з паплечнікамі Каліноўскі неаднаразова заяўляў, што ў «новай Рэчы Паспалітай» Літва (Беларусь) павінна мець поўнае самакіраванне і ўсе атрыбуты дзяржавы, як старажытнае Вялікае Княства Літоўскае.

И яшчэ адно сведчанне Ратча:

«Константин Калиновский с настроением герценовской школы во главе честолюбивейших личностей из красных литвинов настойчиво проводил идею о самостоятельности Литвы».

Будучы гісторык і публіцыст Баляслаў Ліманоўскі*, арыштаваны ў Вільні яшчэ ў сакавіку 1861 г. за арганізацыю антыўрадавага выступлення, пазней прыгадваў у сваіх успамінах:

«Мы желали восстановления Речи Посполитой в ее давних границах, но также обеспечить права всех национальностей, что входили в ее состав, и поддержать пробудившееся чувство самобытности среди литовско-русского /т. е. беларуского. — *Аўт.*/ народа».

Якуб Гейштар пісаў у сваіх успамінах пра Каліноўскага:

«Предан душой и сердцем народу, однако сторонник крайних революционных теорий, который не останавливался даже перед развязыванием гражданской войны и думал к тому же о самостоятельности Литвы».

Менавіта таму Каліноўскі не хацеў падначаліцца Цэнтральнаму нацыянальнаму камітэту (ЦНК) у Варшаве. Ён казаў:

«Такой бесталковай галаве, як Варшава, нельга давяраць лёс Літвы».

Але ж Каліноўскі ішоў на супрацоўніцтва з ЦНК, бо добра разумеў: свабоду Літвы (Беларусі) нельга заваяваць без саюзу з Польшчай. Каб аднавіць незалежнасць былога Вялікага Княства Літоўскага, трэба скарыстацца паўстаннем палякаў супраць Расійскай імперыі. І менавіта таму ЛПК, які абвясціў сябе Часовым урадам Літвы і Беларусі на чале з Каліноўскім, выступіў з заклікам падтрымаць паўстанне ў Польшчы:

---

* Б. Ліманоўскі (1835–1935), які нарадзіўся ў Латгаліі (тады — Віцебская губерня), быў з беларускай шляхты. Яго бацька паходзіў з Кобрыншчыны, маці (з роду Віславухаў) — таксама. Менавіта Ліманоўскі ў 1862 г. па загаду генерала Л. Мераслаўскага, якога эмігранцкія колы прызначылі найвышэйшым кіраўніком паўстання, утварыў у Вільні Літоўскі Правінцыяльны камітэт, куды ўвайшоў і Каліноўскі.

«Браты! Каралеўства паўстала!.. Кроў, што льецца за Нёманам, кліча нас да зброі. Барацьба з захопнікамі за наша святое права, за нашу свабоду набліжаецца і ў нас».

На пасяджэнні Аддзела кіравання Літвы (утворанага замест ЛПК) 31 ліпеня 1863 года ўдзельнікі паседжання прызналі, што адказнасць за бяздзейнасць нясе Варшава. Тады Уладзіслаў Малахоўскі ўсклікнуў:

«Хопіць жа гэтай пасіўнай ролі, Варшава не разумее нашых патрэбаў, мы самі павінны думаць пра дабро Літвы, пастановім усе тут прысутныя разарваць гэтую залежнасць, якая нас губіць».

З гэтымі словамі ён кінуў на стол адбітак новай пячаткі, на якой пад выявай герба «Пагоня» была выразана назва «Камітэт кіравання Літвой». Паводле праекта, Літоўскі камітэт станавіўся незалежным ад Варшавы ўрадам.

Здзіўлены Якуб Гейштар пачаў пераконваць, што ва ўмовах барацьбы такі сепаратызм — проста здрада. У адказ сябры ўрада закрычалі, што бяздзейнасць і цяперашні разлад не менш шкодныя. Каліноўскі асудзіў варшаўскі ўрад, назваў яго агента Нестара Дзюлёрана беспрынцыповым пустамелем, які сваёй балбатнёй толькі шкодзіў працы арганізацыі. Ён патрабаваў прызнаць роўнасць абодвух камітэтаў, падначаліць беластоцкую арганізацыю віленскаму камітэту. ЦНК больш не павінен пасылаць ніякіх сваіх агентаў на Беларусь і ў Літву.

Імкненне Каліноўскага і яго паплечнікаў да самастойнасці Літвы і Беларусі моцна не падабалася ЦНК у Варшаве. Адтуль паслалі ў Вільню Оскара Авэйдэ з мэтай адхіліць Каліноўскага ад кіраўніцтва. Але Каліноўскі цвёрда стаяў на сваім і не саступаў:

«Літва і Беларусь павінны быць самастойнымі, незалежнымі ад Польшчы».

У святле вось гэткай прынцыповай пазіцыі прадстаўнікоў маладога пакалення літоўскай (беларускай) шляхты становяцца зразумелымі і абгрунтаванымі матывы аўтанамісцкай (сепаратысцкай — на погляд тагачасных апанентаў) палітыкі Каліноўскага.

Нагадаю ў гэтай сувязі, што на працягу 50 гадоў пасля Каліноўскага барацьбіты за беларускае нацыянальнае Адраджэнне не ішлі далей ідэі аўтаноміі Беларусі ў складзе Расійскай Рэспублікі. Нават у сакавіку 1918 года лік прыхільнікаў аўтаноміі і поўнай незалежнасці заставаўся амаль роўным.

## Духоўнае адзінства

Як кіраўнік нацыянальна-вызваленчага руху Каліноўскі імкнуўся аб'яднаць пад сцягам барацьбы за агульныя інтарэсы незаможную мясцовую шляхту і сялянства. Зразумела, што гэта патрабавала кансаліда-

цыі народа на падставе агульных духоўных каштоўнасцей. Адсюль яго выбар грэка-каталіцкай (уніяцкай) рэлігіі.

Ва ўмовах таго часу менавіта уніяцкая царква адпавядала ідэі сацыяльнай згоды і нацыянальнай кансалідацыі шырокіх мас беларускага насельніцтва, асабліва ў заходняй палове Западнага краю, дзе яшчэ жывая была памяць пра ўнію. Праваслаўную ж царкву масавая свядомасць звязвала з палітыкай самадзяржаўя, інтарэсы якога яна ўпарта абараняла. Расейская праваслаўная царква з'яўлялася сродкам духоўнага задушэння беларускага сялянства.

Разам з тым Каліноўскі — як выразнік інтарэсаў «нізоў» — не мог аддаць перавагу каталіцкай веры, таму што большасць мясцовых абшарнікаў належала да Касцёлу, а іх інтарэсы ішлі насупраць спрадвечнай мары беларускіх сялян аб «зямлі і волі».

Такім чынам выбар уніяцтва, з аднаго боку, імпанаваў памкненням беларускага сялянства і пашыраў сацыяльную базу паўстання, а з другога боку — адпавядаў ідэі стварэння самостойнай беларускай дзяржавы, няхай сабе ў выглядзе аўтаноміі.

## Сацыяльная роўнасць

Мы бачым у Каліноўскага прымат сацыяльнага над нацыянальным, бо ворагі «мужыкоў» — царскія службоўцы і абшарнікі. Адгэтуль яго заклік да сялян падняцца на барацьбу супраць самадзяржаўя і прыгонніцтва. І адгэтуль жа — яго варожае дачыненне да той часткі ліцвінскай (беларускай) шляхты, якая празмерна спольшчылася і не жадала вызнаваць ідэю сацыяльнай, нацыянальнай і канфесійнай вольнасці сялян. Вось яшчэ адно сведчанне генерала Васіля Ратча:

> «Он хотел видеть Литву не с восстановленными на новый лад старыми шляхетными традициями, но Литву, которую он мог бы пересоздать с всеобщим уравнением прав и сословий, на новых началах коммунистских бредней, которые проповедываются Герценом и компанией».

Каліноўскі не верыў у стваральны патэнцыял дваранства (і меў у гэтым рацыю), таму хацеў абаперціся ў паўстанні на сялянства.

Але ж з удзячнасцю прымаў ён і дапамогу тых паноў, якія не страцілі патрыятычных пачуццяў, ахвяравалі сваю маёмасць і багацце на паўстанне, як, напрыклад, граф Юзэф Тышкевіч, князь Міхаіл Агінскі і іншыя. Апалінарыя Серакоўская ўспаміналa:

> «Ведалі мы Каліноўскага шмат гадоў, быў ён сябрам люду — можа, нават хлопаманам, але ніколі не быў ворагам якой-небудзь часткі свайго народа. Тое, што падае камісія пра яго радасць, што шляхта вывезена і вынішчана, магло быць спробай адцягнуць увагу камісіі і Мураўёва ад няшчаснай і спакутнай шляхты».

Гэтыя словы заслугоўваюць больш даверу, чым стэрэатыпныя заўвагі гісторыкаў. Яны адзначалі факт, а Серакоўская асэнсоўвала жыццё чалавека, якога добра ведала.

Яська-гаспадар не вучыў сялян як жыць, а вучыў, як здабыць сабе волю:

> «...каб ніколі, ніякай, нікому мужыкі паншчыны не служылі і ніякага ў казну аброку не плацілі, і каб на век вякоў народ наш быў вольны і шчаслівы. Трэба выгнаць царскіх чыноўнікаў і паслугачоў, заадно і паноў сваіх... Вазьмемся, дзецюкі, за рукі і дзяржэмся разам!»

Віленскі губернатар Міхаіл Пахвіснеў даносіў цару:

> «Главная цель этих призывов заключается в том, чтобы настроить простой народ против правительства и внушить крестьянам мысль, что с личной свободой они приобрели право на землю и что теперь крестьяне не должны платить податей и нести рекрутскую повинность».
>
> «...подделываясь под говор белорусского простолюдина, /Яська/ стремится разными хитросплетеными софизмами и меткими словечками объяснять здешним крестьянам, что они до тех пор не будут освобождены, пока они, вооружившись косами и топорами, не пойдут вместе с повстанцами сражаться с москалями и освобождать отчизну, и т.д.».

Паводле «Інструкцыі для ваенных начальнікаў, ваяводскіх і павятовых», Літоўскі камітэт патрабаваў надзялення сялян зямлёй. І самае жахлівае для абшарнікаў — абавязаў начальнікаў атрадаў караць прыгнятальнікаў сялян.

> «Найбольш злосных прыгнятальнікаў сялян для прыкладу, у прысутнасці сабраных валасцей, учыніўшы ваенны суд, караць смерцю, не дапускаючы самавольнай экзекуцыі».

Як гэта пужала «белых»! Яны ж хацелі па-ранейшаму жыць з мужыцкага мазаля. Не падабалася гэта і варшаўскаму ўраду.

Калі Каліноўскі зноў вярнуўся ў Вільню, ён выдаў «Прыказ... да народа зямлі Літоўскай і Беларускай». У ім Каліноўскі заклікаў народ не дапамагаць царскім уладам, не плаціць чыншоў, аброкаў і падаткаў панам і ў царскую казну. Асобна ўказвалася на царскую прапаганду, якая выдавала паўстанне як панскі мяцеж:

> «Дурыць вас Маскаль, талкуючы вам, што гэта паны падняліся, каб павярнуць назад паншчыну — ён хоча ваду скаламуціць, каб у вадзе мутнай па-старому рыбу лавілі. Но дзела наша — не дзела панскае, а справядлівай вольнасці, якой вашыя дзяды да бацькі з даўня ждалі, а якую маскаль з кравапійцамі вашымі спыніці хоча! Дзела наша — гэта дзела такой вольнасці, якую сам Бог, прыйшоўшы на гэты свет, хацеў

устанавіці і за якую праліў сваю кроў святую і цярпеў крыжовыя мучэнні!»

Відавочна, што Каліноўскі быў апантаны ідэяй вызвалення сялянства. Ды прыкладу, той жа Б. Ліманоўскі пісаў на гэты конт:

«Быў ен шчырым народнікам. Вызнаваў тое перакананне, што толькі сялянскае паўстанне верне свабоду літоўскаму народу. Народ для яго не быў адным толькі сродкам, але найперш мэтаю. Вызваленне сялян, ператварэнне іх у грамадзян — вось галоўная мэта».

Па сутнасі, Каліноўскі вызнаваў ідэю грамадзянскай супольнасці, пашыраную сярод сучасных палітолагаў і сацыёлагаў.

## Высновы

Каліноўскі не стварыў сваёй партыі і не распрацаваў праграму рэвалюцыйнага руху. Але яго барацьба не была марнай. Пасля стварэння Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады аб ім сталі гаварыць і пісаць браты Луцкевічы, пазней Аляксандар Цвікевіч і Вацлаў Ластоўскі. Менавіта ў Каліноўскім яны ўбачылі свайго папярэдніка. Для такога меркавання былі ўсё падставы:

— З Каліноўскага пачалося афармленне — у рэчышчы польскага вызваленчага руху — уласна беларускіх («ліцвінскіх») нацыянальных патрабаванняў (перш за ўсё ідэі аўтаноміі Беларусі ў складзе новай Рэчы Паспалітай, дэмакратычнай канфедэратыўнай дзяржавы).

— Каліноўскі першым звярнуў увагу на сялянства як галоўную дзеяздольную сілу беларускай нацыі.

— Менавіта ён паклаў пачатак злучэнню сацыяльна-эканамічных (аграрных), палітычных і рэлігійных праблем нацыянальна-вызваленчай барацьбы беларусаў.

Каліноўскі адыграў важную ролю ў працэсе ператварэння рэвалюцыйнага руху «тутэйшай» шляхты, якая спачатку ставіла сваёй мэтай аднаўленне ўнітарнай Рэчы Паспалітай, у рух беларускага Адраджэння, які злучыў задачы нацыянальнага вызвалення з вызваленнем сацыяльным. Націск на праблемах сацыяльнай няроўнасці стаў вызначальным для ўсёй культурна-асветніцкай і палітычнай дзейнасці нашых адраджэнцаў.

Ва ўспрыманні патрыятычнай часткі цяперашняй беларускай моладзі Каліноўскі па-ранейшаму застаецца рамантычным маладым шляхцічам, які здолеў першым (і адзіным у свой час) сказаць пра «мужыцкі народ» (яшчэ не беларусаў) як аб людзях са сваім гонарам, сваім правам, сваёй верай і сваёй гісторыяй.

# КАСТУСЬ КАЛИНОВСКИЙ: СЕКРЕТЫ МАГНЕТИЗМА БЕЛОРУССКОГО ЧЕ ГЕВАРЫ



Олег Галкин, *журналист (Минск)*

2 февраля /2013 г./ исполнилось 175 лет со дня рождения Кастуся Калиновского, одной из наиболее знаковых фигур в истории Беларуси. Масштаб его личности трудно переоценить. Сухие факты биографии характеризуют его как общественного деятеля, революционного демократа, публициста, одного из лидеров восстания 1863–1864 гг. Но после смерти он превращается в человека-символ, человека-легенду, который стал вдохновлять других людей своей судьбой, идеями и поступками. В чём кроется причина его притягательности?

* * *

Борцы за свободу всегда становятся объектами симпатии. Кастусь Калиновский сражался за независимость Беларуси и Литвы от Российской империи. При этом он опирался на революционно-демократические идеи, подразумевавшие народовластие и освобождение широких слоев населения от феодальных ограничений. Знаменитая фраза Калиновского «Не народ для ўрада, а ўрад для народа», которая сейчас служит девизом газеты Совмина Республики Беларусь — именно об этом.

Кроме того, будучи диктатором Литовского Провинциального Комитета восстания, Калиновский проводил достаточно независимую политику от Центрального комитета в Варшаве. По словам его современника, находившегося по другую сторону баррикад, российского генерал-майора В.Ф. Ратча, «Константин Калиновский с настроением герценовской школы во главе честолюбивейших личностей из красных литвинов настойчиво проводил идею о самостоятельности Литвы».

Таким образом, он боролся за свободу сразу по трем направлениям — от России, от Польши и от социальных ограничений.

Кастусь Калиновский прожил очень короткую жизнь — всего 26 лет. В январе 1864 г. он был арестован, а уже в марте казнен через повешение.

Из тюремного заключения сумел отправить на свободу три письма, известные как «Письма из-под виселицы». Два из них были адресованы народу, за который революционер боролся, а одно — девушке, которая была с ним обручена. (Последнее представляет собой трогательное прощальное стихотворение). А перед виселицей, когда его в приговоре назвали дворянином, Калиновский выкрикнул: «У нас дворян нет. Все равны!!!».

Короткая жизнь, трагическая смерть, борьба за идею, немного любовной поэзии, красивые слова перед казнью — всего этого более чем достаточно для того, чтобы сложился образ романтического героя, которого можно поставить вровень с такими историческими фигурами, как Уильям Уоллес, Джордж Байрон и Эрнесто Че Гевара.

«Даже внешность Калиновского великолепно располагает к его героизации, — считает белорусский историк Алесь Кравцевич, — хорошо сложенный молодой мужчина с красивым, мужественным, решительным и одновременно интеллигентным лицом. Поэтому его так любят рисовать белорусские художники».

Но не только Калиновский был казнен, у восстания 1863–1864 гг. были и другие герои. Более того, тридцатью годами ранее, в 1830–1831 гг., на территории Польши и Беларуси гремело еще одно восстание, у которого тоже были свои герои. Однако в памяти народной отложился только он. Почему? Уникальность фигуры Калиновского сложно понять, если проигнорировать его вклад в дело зарождения белорусского национального самосознания.

Белорусская культурная элита в первой половине XIX века была разобщена и не имела единого представления о том, к какому же всё-таки народу она относится. Находясь под мощным польским культурным влиянием, католическая шляхта предпочитала называть себя «литвинским племенем польской нации». Будущее свое она связывала с Польшей и вместе с ней планировала бороться за независимость. Православное же дворянство и интеллигенция более охотно считали себя частью русской народности.

На их фоне заметно выделялась группа литераторов и публицистов, собиравшаяся в салоне Адама Киркора, которая постоянно выслушивала обвинения в «сепаратизме» в свой адрес от польских товарищей. Но, тем не менее, порывать с ними и объявлять о культурной и политической самостоятельности Литвы-Беларуси она не решилась.

Кастусь Калиновский был более свободен от давления традиций и окружения. Он происходил из шляхетной семьи, но во время учебы в Петербурге общался по большей части с разночинцами. Впитав в себя революционно-демократические идеи, он уже мыслил не только категориями «русские — поляки» и «православие — католичество», но знал также плоскости «помещики — крестьяне» и «царизм — народ». Он был убежден, что победить в восстании можно, только опираясь на крестьянство, которому впоследствии необходимо раздать земли. Новизна его позиции заключалась также в том, что он выступал за независимость Беларуси-Литвы одновременно и от России, и от Польши.

Фактически Калиновский был первым в XIX веке, кто заговорил, что его родина может и должна развиваться самостоятельно. И первым, кто поверил в силу своего народа и оперся на него, даже видя, что надежды на победу призрачны. Якуб Гейштор, один из наиболее ярых

оппонентов Калиновского в виленском комитете по руководству восстанием, так писал о нем в своих мемуарах:

> «Это была натура вспыльчивая, но справедливая, без какой-либо тени лицемерия. Предан душой и сердцем народу, однако сторонник крайних революционных теорий, который не останавливался даже перед развязыванием гражданской войны и думал к тому же о самостоятельности Литвы... При первом знакомстве доказывал мне, что участие знати и помещиков в восстании не только не нужно, но и вредно. Народ сам завоюет себе свободу и потребует собственность у помещиков».

Калиновский не был теоретиком, не он сформулировал идею самостоятельной белорусской нации, но он реализовывал ее на практике. Дух этой идеи уже витал в рядах восстания. Показательно, что Франтишек Богушевич, один из основоположников новой белорусской литературы, в молодости был его участником.

## Калиновский в БССР

Как и любая другая личность, освященная ореолом героичности, образ Кастуся Калиновского впоследствии был значительно мифологизирован. В 20-х годах XX века на волне белорусизации он был чрезвычайно популярен в БССР. О нем ставили пьесы, писали статьи в газетах и журналах, ему посвящали стихи. Но тогда он воспринимался скорее как символ народного гнева против поляков-угнетателей, чем как борец с царским режимом. 14 августа 1928 года на экраны вышел художественный фильм с простым названием «Кастусь Калиновский». Историческим его можно назвать с трудом, получилась скорее героико-приключенческая лента. В ней Калиновский больше похож на неуловимого мстителя и свойского рубаху-парня с саблей в руках, чем на революционера-подпольщика.

В 30-е годы антироссийский аспект его деятельности стал невыгоден партийным властям, и он надолго впал в немилость. Но в Западной Беларуси его персона продолжает пользоваться популярностью среди местных коммунистов, несмотря на негласный запрет.

Второе дыхание миф о Калиновском получил во время Великой Отечественной войны. Для партизан он стал кем-то вроде брата по духу, тайного борца с оккупантами, который появлялся в самых неожиданных местах, заслуженно карал захватчиков и бесследно растворялся в лесу. В общем, эдаким белорусским Рэмбо. В 1943 году в его честь даже была названа советская партизанская бригада, слава которой гремела в окрестностях Гродно и Белостока.

С таким отношением к персоне Калиновского уже трудно было не считаться, и после войны его авторитет в БССР уже никем не оспари-

вался. Только акценты опять сместились. Стал пропагандироваться социальный аспект его деятельности, его прокрестьянский и антипомещицкий настрой.

## Калиновский в независимой Беларуси

Удивительно, но оспаривать авторитет Калиновского начали в уже суверенной Беларуси, за вольность которой он в свое время сложил голову.

Кандидат исторических наук Валентин Голубев пишет:

> «Белорусское государство сейчас меньше обращается к историческим фигурам, которые много сделали для национально-освободительного движения. Более того, пересматриваются официальные взгляды на таких людей: выходят новые книги по истории, появляются документы, в которых Кастуся Калиновского называют не белорусским героем, а польским или вообще антироссийским деятелем».

Поводом для дискредитации Калиновского послужило даже его двойное имя — Викентий Константин. Мол, смотрите, какой же он белорус и тем более «Кастусь» — самый натуральный поляк! Кстати, споры о том, как его стоит правильно называть, ведутся до сих пор, но в белорусской историографии закрепилась традиция именовать его белорусской формой имени Константин.

Эта тенденция четко прослеживается по школьным учебникам. Если в начале 90-х его называли не иначе как «национальным героем» и «славным сыном Беларуси», то с 2002 года трактовка личности Калиновского изменилась: он теперь всего лишь отважный, образованный, интеллигентный юноша, который трагично и бессмысленно погиб.

А в 2008 году вышел учебник по истории Беларуси для учеников 10-х классов школ с белорусским языком обучения под редакцией Якова Трещенка. В нем уже утверждается, что «паводле этнічнай ідэнтыфікацыі, ён быў палякам і ніколі не называў сябе беларусам». Далее делается вывод: «Ніякіх аб'ектыўных падстаў для ператварэння К. Каліноўскага ў «нацыянальнага героя беларускага народа» не існуе».

По этому поводу 25 сентября 2009 года белорусские историки даже провели международную научную конференцию в Минске. Прозвучавшие на ней доклады убедительно доказали, на каком зыбком песке построены все попытки дискредитации личности Кастуся Калиновского. Впрочем, нападки на него проводятся уже не в первый раз, и как показал исторический опыт, он сам по себе владеет достаточным запасом психологической притягательности, чтобы не быть забытым.

Научные сотрудники сектора историографии и методов исторических исследований Института истории Национальной Академии Наук Беларуси высказали мнение, что фигура Калиновского в последнее

время слишком идеологизирована. Историки стараются не оперировать такими понятиями, как «национальный герой» — это скорее термин из области публицистики и идеологии. Для них он важен как человек, на котором строится самосознание, как выдающийся деятель, который внес огромный вклад в зарождение белорусской национальной идеи. А компромата накопать можно на кого угодно.




*Адміністратыўна-тэрытарыяльны падзел*
*Паўночна-Заходняга краю, уведзены Нацыянальным Урадам*

# КАЛИНОВСКИЙ И ХРИСТОС




## Александр Елопов,

*православный публицист (г. Гомель)*


«Галоўны герой беларускага сэрца», — так назвал свою недавнюю статью о Калиновском Сергей Дубовец, журналист и в прошлом редактор газеты «Наша Ніва». Я приведу ряд фрагментов из его пафосного произведения, которое, сознаюсь, задело мои не столько национальные, сколько религиозные чувства.

> «Кастусь Каліноўскі — першы заступнік за беларускае слова, веру і незалежнасьць нашага Краю… Ягоны вобраз Вялікага Справядлівага паклаўся на беларускую душу, куды б скіраванаю яна ні была. Яго прынялі і камуністы і нацыяналісты і проста беларускія людзі. (…)
>
> Супраць яго, прызнанага беларусамі ўсіх адценьняў, веравызнаньняў і палітычных поглядаў, можа быць толькі небеларус, толькі нехта з-за межаў нацыі, чужынец. Як той масквіч, што фундаваў у Менску эрпэцэшную царкву на вуліцы Каліноўскага і назву вуліцы патрабаваў зьмяніць. (…)
>
> Каліноўскага нельга не любіць, калі ты беларус. Гэтае імя мацнейшае за кожны іншы знак нашае тоеснасьці. (…)
>
> Выпускнік Пецярбургскага ўнівэрсытэту вяртаецца на радзіму і становіцца лідэрам «польскага» паўстаньня ў сваім краі. Выдае першую беларускамоўную газэту. Шукае паразуменьня з простым народам. Ані каліва няшчырасьці або «прагматызму». І — што б ні гігікалі цяперашнія афіцыёзьнікі — ідзе на эшафот.
>
> Як Хрыстос.
>
> Чысты, беззаганны, сымбаль справядлівасьці. Тут паралель робіцца абсалютнай. Пілат паслаў Хрыста на самую ганебную сьмерць — расьпяцьце на крыжы. Так каралі толькі бандытаў. Расейскі губэрнатар Мураўёў паўтарыў тое самае з Каліноўскім. Замест расстрэлу, які «належаў» военачальніку ўсяе Беларусі і Літвы, ён у апошні момант загадаў Каліноўскага павесіць. Як бандыта.
>
> І як Хрыстос аб'яднаў і аб'ядноўвае розных людзей у супольнасьць Людзі, так Каліноўскі аб'ядноўвае супольнасьць Беларусы. «Дэгераізаваць» яго для нашага народу — тое самае, што для чалавецтва «дэгераізаваць» Хрыста. А гэта значыла б зьнішчыць у нашых дачыненьнях паняткі справядлівасьці, шчырасьці і сумленьня, што ўвасобленыя найперш у постацях Хрыста і Каліноўскага, і гадаваць нашчадкаў, не абцяжараных гэтымі якасьцямі».

Следует пояснить: «эрпэцэшная царква», про которую упоминалось выше, это православный храм-памятник в честь Всех Святых и в па-

мять безвинно убиенных в Отечестве нашем. Изначально он должен был иметь адрес по улице Калиновского в Минске, но затем специально под него придумали новую улицу — Всесвятскую. С. Дубовцу эта ситуация не нравится. Журналист не пишет прямо, но явно подразумевает здесь конфликт между РПЦ и национальной памятью белорусов, сберегающей как великую святыню имя повстанческого командира. Более того, если вдуматься в статью, то получится, что наша Церковь погрешает против Самого Христа, своего Основателя и Главы, на которого так похож К. Калиновский!

Но точно ли похож?

Отвлечемся от того элементарного факта, основополагающего для христианской веры, что наш Господь — Богочеловек, умерший и воскресший, чтобы открыть человечеству путь в вечное Царствие Небесное. Допустим, Иисус Христос был просто учителем мудрости, который странствовал по древней Иудее и из любви к людям, чтобы дать им высокий нравственный пример, пошел на Голгофу…

Он добровольно пожертвовал одним Собой, а Калиновский был готов принести на «алтарь Отечества» и тысячи чужих жизней, совсем не страшась насилия!

Привлекая к себе новых сторонников, Константин (Кастусь, как его назвали в советской литературе) не только умолял и убеждал, но также и грозил расправой. «Маўчыш! Значыць, не? Знаю цябе, не пойдзеш з намі, выходзіць — супраць нас! Калі так, дык ведай жа — я сам цябе тут у тваім уласным доме сярод тваіх блізкіх прыкончу кінжалам!», — говорил он, например, своему знакомому, Францу Далевскому.

Мечтая вовлечь в восстание крестьян, маня их перспективой справедливого раздела земли, Калиновский фактически натравливал простонародье на дворянство (шляхту) и вел дело к кровавой гражданской войне:

> «Бо перадусім нам трэба знішчыць гэтую гнілую і гангрэнозную касту, якую называюць дваранствам».

Современники приписывали ему еще более свирепые слова, в реальность которых даже не хочется верить:

> «Паўстанне мае быць чыста народным — шляхта, пакольки з намі не пойдзе, няхай гіне — тады сялянская сякера не павінна спыніцца нават над калыскай шляхецкага дзіцяці!»

Когда же Калиновский столкнулся с тем, что большинство крестьян либо отнеслись к восстанию равнодушно, либо стали помогать царским властям в его подавлении, то и на них, неблагодарных адресатов «Мужыцкай праўды», обрушил он свои террористические угрозы:

> «Гдзе ў вас быў розум, гдзе ў вас была праўда? Чы згадалі вы на страшны суд Божы? Вы скажаце, што гэта рабілі паняволі, — но мы

людзі вольныя, нямаш у нас няволі! а хто з вас хоча няволі маскоускай — таму мы дамо шыбеніцу на галіне!»

В свое время массы иудеев не признали в Иисусе Христа (Мессию), потому что Он не принял на себя роль политического лидера и не повел народ на бой с римскими оккупантами и национальными предателями. Нравится это кому-то или нет, но Господь говорил с людьми не о смене политического режима и не о социальной справедливости, а о духовном обновлении каждого отдельного человека. Калиновский же бестрепетно бросал в толпу радикальные революционные призывы, готовя путь будущим эсерам и большевикам. Можно сочувствовать ему, повешенному в 26 лет, можно восхищаться его бесстрашием на эшафоте, но видеть в нем чистого и безгрешного агнца, отданного на заклание, получится лишь у тех, кто не читал или забросил подальше Евангелие Христово.

Да, К. Калиновский — герой, в светском смысле этого слова. Мужественный, жертвенный, целеустремленный, с судьбой, достойной приключенческого фильма. Его вспоминаешь в противовес всем анекдотам о покладистых «бульбашах», которым лишь поначалу воняет в газовой камере, а потом ничего, привыкают... И если мы считаем государственный суверенитет Беларуси ценностью, если мы верим, что белорусский народ, белорусский язык, белорусская культура не должны затеряться и раствориться среди историй других народов, то имя К. Калиновского, положившего за это жизнь, обязано быть у нас на слуху.

Только думаю, ему повезло в том, что он умер молодым — до того, как реализовались все его мечты и планы. На Константина не успели упасть проклятия жертв раздуваемой им гражданской войны. В отличие от другого шляхтича, Феликса Дзержинского, который мечтал в детстве, облачившись в шапку-невидимку, убивать москалей, и смог их убить в превеликом количестве, правда, без сказочных приспособлений и чужими руками...

И давайте скажем честно, что К. Калиновский — неудачная кандидатура на роль символа национального единства! Человек, который срывался на проповедь классовой, национальной и религиозной ненависти, не способен быть моральным авторитетом для всех белорусов. Разве смогут православные христиане, а их у нас большинство среди верующих, забыть, что К. Калиновский называл православие проклятой схизмой (как написано в шестом выпуске «Мужыцкай праўды»:

«...хто не пяройдзе на унію, той сызматыкам застанецца, той, як сабака, здохне, той на тамтам свеце пякельныя мэнкі цярпеці будзе!»)?

/Лично для меня нет никаких сомнений, что Униатская Церковь в Беларуси была сломлена с использованием грубого административного ресурса — точно так же, как первоначально она здесь насаждалась. Многие, слишком многие униаты в начале XIX века не горели желанием

вернуться к вере православных предков, и именно к этим людям, оскорбленным в своих религиозных чувствах, обращался К. Калиновский.

Но будем реалистами! Для православных христиан, проживающих в современной Республике Беларусь, униатство представляется далеким и прискорбным прошлым, которое можно изучать, однако нельзя вернуть. Уверять пастырей и паству Белорусского Экзархата Русской Православной Церкви, что они исповедуют «неправильное», «непатриотичное» христианство, на мой взгляд, способен сейчас лишь безрассудный утопист или провокатор, желающий взорвать конфессиональный мир в стране ради политиканства самого сомнительного свойства./

И те белорусы, которые уважают своих русских друзей, которым неприятно унижение ни своего, ни чужого национального достоинства, не захотят без оговорок чтить память автора следующих совершенно русофобских строчек:

«...няволя манголаў да і цароў маскоўскіх заўсім забіла ў гэтам народзе ўсякую памяць а свабодзе да і зрабіла з яго грамады людзей паганых без мыслі, без праўды, без справядлівасці, без сумлення да і без баязні Боскай»...

Признавая это, мы не отрицаем значения К. Калиновского для белорусской истории и, тем более, не покушаемся на совесть и честь нашего народа. Наоборот, как раз забота о нравственном здоровье белорусов побуждает нас возражать против чрезмерной идеализации национального героя и превращения его в подобие языческого идола. К сожалению, статья С. Дубовца, превозносящая политика вплоть до равенства с Самим Господом, есть типичный пример современного идолопоклонства. Вновь и вновь — на радость бесам — люди впадают в соблазн поставить христианство на службу какой-нибудь земной идеологии. Как писал один черт другому:

«Если ты сделал мир целью, а веру — средством, человек уже почти в твоих руках и тут совершенно безразлично, какую цель он преследует» (К.С. Льюис. Письма Баламута).

P. S. Сложность и драматизм белорусской истории в том, что из нее нельзя, не погрешая против правды, выкинуть ни К. Калиновского, ни Русскую Православную Церковь, которую пламенный революционер вряд ли хорошо знал, зато сильно ненавидел. Они оба нужны нашей стране, каждый (каждая) по своему, оба — при правильном к себе отношении — способны поддержать в белорусах стремление к лучшей, более справедливой, братской, свободной и честной жизни.

Хотя совмещать в Беларуси православные храмы и улицы, посвященные Калиновскому, все же не стоит. Кому еще не понятно?

***Комментарий редактора***

Не только во времена Калиновского, но и значительно позже российские революционеры рассматривали террор как одно из наиболее эффективных средств борьбы и с самодержавием, и со своими политическими противниками. Напомню некоторые подзабытые факты.

Во-первых, нелегальная организация «Земля и воля», действовавшая в 1876–79 гг. Программа этой организации предусматривала физическое уничтожение «наиболее вредных или выдающихся лиц из правительства». Самым громким терактом «Земли и воли» стало убийство Кравчинским шефа жандармов Мезенцова в 1878 г.

Во-вторых, сменившая «Землю и волю» нелегальная организация «Народная воля», активно действовавшая до конца 1890 годов. Напомню, что именно народовольцы подготовили 7 покушений на царя Александра II и с седьмой попытки убили его. Они совершили немало других, менее громких терактов. Все главные деятели «Земли и воли» — профессиональные революционеры — вошли в состав Исполкома «Народной воли», а к ним добавились новые экстремисты.

«Землевольцев» и «народовольцев» в советские времена официально называли героями, их имена присваивали улицам и площадям, им ставили памятники, о них писали книги, снимали кинофильмы. Риторический вопрос: чем они «лучше» Калиновского? Неужели можно увидеть какие-то принципиальные отличия?

В-третьих, это партия социалистов-революционеров (пресловутые «эсеры»), возникшая в 1901 году путем объединения народнических групп. Общепризнанно, что эсеры «идеализировали» мелкое крестьянское хозяйство и «мужиков» — точно как Калиновский. А главным средством борьбы с царизмом они, как и предшественники, считали террор: убийства чиновников, поджоги помещичьих усадеб, порубку барских лесов, захват имущества (знаменитые «экспроприации»).

Так что 25-летний революционер из Беларуси ничем не хуже своих российских коллег 1860-х, 70-х, 80-х, 90-х, 1900-х, 1910-х годов. Практически такой же «землеволец», «народоволец» и «социалист-революционер».

А его призывы к расправе с «врагами революции» предвосхищают аналогичные призывы и действия большевиков на протяжении более чем 70 лет! Вспомните, сколько миллионов бывших советских граждан по сей день заражено бациллой большевизма! Яростная полемика вокруг событий на Украине — прекрасное тому доказательство. Сколько взаимной ненависти!

Что же касается сравнения с Иисусом, то здесь Сергей Дубовец действительно «загнул через край». Именем Христа было убито великое множество людей, но сам-то он призывал людей любить и прощать друг друга…

# О ЛИЧНОСТИ КАЛИНОВСКОГО. СВИДЕТЕЛЬСТВА СОВРЕМЕННИКОВ И АНАЛИЗ ПОЧЕРКА



Наталья Поджарова, *психолог*,
Василий Герасимчик, *историк*

В последние годы образ национального героя, утвердившийся на протяжении XX века и консолидировавший белорусов в сложные моменты истории, подвергается неприкрытым нападкам. В частности, отличительной чертой юбилейного 2013 года является повышенное внимание к биографии К. Калиновского со стороны интернет-ресурсов «западнорусской» направленности.

В этой статье мы не касаемся идеологических и политических оценок деятельности Калиновского. Нам интересен внутренний мир революционера, его личностные характеристики.

Следствием острой идейно-политической конфронтации является неоднозначность оценок Калиновского, во многом обусловленная подменой конкретной исторической личности оценкой ее роли в истории Беларуси: как следствие, исторические факты нивелируются идеологическими конструкциями. И если о жизни Калиновского мы имеем достаточно полное представление благодаря работам А. Станкевича [1], А. Смирнова [2], Г. Киселева [3], В. Кордовича [4], В. Шалькевича [5], то о Калиновском как человеке со своим внутренним миром мы знаем крайне мало.

О нём дошли противоречивые, обрывочные сведения. Даже среди соратников Калиновского не было согласия в оценках его деятельности, хотя он и характеризовался как решительный, целеустремленный человек, до конца преданный делу восстания.

«Загадку Калиновского» усложняет неполнота и противоречивость имеющихся источников [6]. Этот комплекс почти не изменился со времени 100-летней годовщины восстания 1863–1864 гг. и был собран воедино в конце 1980-х годов стараниями Г. Киселева [7]. Выявление новых документов о Калиновском сегодня представляется весьма сложным делом [8]. Важнейшими направлениями являются поиск его диссертации, написанной в Петербургском университете, переписки с соратниками (в частности, с Далевским, чьи оригиналы писем в 1930-е гг. находились у Адама Станкевича) и материалов из следственного дела — недостающих частей так называемой «Записки Калиновского».

Соответственно, важное значение для понимания личности Калиновского приобретает междисциплинарный подход, применение но-

вых научных методов для изучения уже известных источников. Важнейшим среди них является текст «Писем из-под виселицы» — предсмертный завета К. Калиновского белорусскому народу. Этот текст передан им из тюрьмы и опубликован его другом Агатоном Гиллером [9]. Подлинный черновик «Писем» в 1980 году Владимир Казберук обнаружил в Польской Национальной библиотеке в Варшаве. Наличие оригиналов делает возможным применение метода анализа почерка.

Анализ почерка (графология) — один из методов психодиагностики. Он основан на взаимосвязи мелкой моторики человека и особенностей работы мозга. Именно мозг управляет процессом письма, а характер письма, в свою очередь, является отражением особенностей психики, в том числе ее бессознательной части. Так, например, графологи считают, что слитые буквы свидетельствуют о мечтательности, раздельные буквы — о рассудительности, крупный почерк — об откровенности, сжатый почерк — о скупости. Быстрота мышления связывается с сильным наклоном букв вправо; воля, самообладание — с сильным наклоном влево; неуравновешенность, повышенная эмоциональность — с крайне неодинаковыми буквами и т.д.

Мы сравним представления современников о Калиновском с результатами анализа его почерка в «Письмах из-под виселицы».

## Калиновский глазами современников

Комиссар Варшавского правительства в Литве Оскар Авейде (1837–1897) говорил о Калиновском как о деятельном человеке, который даже в условиях разгула муравьевского террора был единственным среди повстанцев и жителей Вильно, кого не охватил панический страх, кто продолжал спокойно выполнять свои обязанности [10].

Подтверждал это и близко знавший Калиновского Агатон Гиллер (1831–1887): Калиновский до конца оставался «благородной душой, несломленной и неустрашимой» [11].Однако, говоря о последних месяцах «бедного Константина» [12], Гиллер намекал на его религиозность в это время, подчеркивая, что Калиновский «удерживал восстание, рассчитывая только на Бога» [13]. Историк Ю. Домбровский назвал труды «литовского революционера» [14] на завершающем этапе восстания «нечеловеческими усилиями» [15].

Якуб Гейштор (1827–1897), знавший Калиновского по многочисленным дискуссиям как идейного противника, вспоминал, что Константин «натура запальчивая, но честная, без малейшего криводушия» [16]. Однако не лишенная многочисленных недостатков: «отсутствие широкого взгляда и политического чутья» [17], «полное незнание людей» [18], которых тот назначал на ответственные посты, а также нетерпимость к чужому мнению — «как все крайние, он не любил оппозиции, а потому окружал себя людьми, которые слепо с ним соглашались» [19].

частку Расіі. Таму расейскі афіцэр І.В. Любарскі, які праз два дзесяцігоддзі пасля забароны уніі трапіў у наш Край, з роспаччу заўважаў:

«З падручніка геаграфіі засталося ў мяне такое ўражанне, што нашы заходнія губерні да самай мяжы царства Польскага — суцэльна рускія ... Меў жа я вялікае расчараванне ..., калі ў 1860 г. апынуўся ў Паўночна-Заходнім краі ... Насельніцтва — і праваслаўнае, і каталіцкае — размаўляе беларускім прыслоўем рускай мовы, але навучаецца польскай грамаце, і ўсякі мужык, як толькі высунуўся з сялянскага становішча, наровіць размаўляць па-польску і апранае канфедэратку. (...) Паўсюль багата ўпрыгожаныя велічнай архітэктуры касцёлы, і рэдка-рэдка трапляліся драўляныя, трухлявыя цэрквы з падпоркамі і латамі, падобныя больш на адрыны, чым на храмы пануючай рэлігіі»[18].

Пра царкву ў Лідзе:

«Праваслаўная царква ў Лідзе была ў несамавітай, драўлянай, бедна абстаўленай хаце з нізкай столлю. У царкве адначасова магло маліцца не болей за 50 багамольцаў, таму салдаты прыходзілі ў храм Божы па чарзе камандамі. Служыў святар без дыякана, а спявалі на кліpace салдаты, як ім Бог «положил на душу». (...) Адсутнасць панікадзіла ў храме, бляшаныя пагнутыя падсвечнікі, чорныя абразы на сцяне, падраныя рызы на святары — усё гэта так не падобна было на звыклыя ўражанні праваслаўнага чалавека, і мімаволі глыбокая нуда ахоплівала душу»[19].

Ён жа запісаў размову з праваслаўным святаром вёскі Дакудава:

«Праваслаўнае духавенства знаходзілася ў поўным загоне, яно было прыніжанае сваёю беднатой ... Знаёмячыся з мясцовымі святарамі і імкнучыся ўразумець сабе ўмовы іх побыту, я заўважаў агульную ім усім характэрную рысу нейкай вінаватасці ў тым, што яны існуюць у «чужым краі». [...] Трапляліся паміж святарамі і такія ... якія проста дзівілі сваім цынічным стаўленнем да царквы і рэлігіі. Гэта былі дажываўшыя свой век апошнія магікане уніі 1839 г. ... Яны ўплывалі вельмі разбэшчана на сваю паству, прыводзячы яе паступова да поўнай рэлігійнай абыякавасці. З адным такім тыповым уніятам ... пад святарскай маскай я выпадкова сустрэўся ў Лідскім павеце Віленскай губерні. Спатрэбілася мне з'ездзіць у роту нашага палка, нядаўна размешчаную ў вялікай праваслаўнай вёсцы Дакудава з прыходскай царквой. Ротны камандзір і абодва субалтэрны[20] ў гэтай роце былі палякі[21].

— Поп тутэйшай парафіі[22] (так у тэксце, святар размаўляе пераважна па-беларуску. — *Л.Л.*), — адрэкамендаваўся ён (...) падаючы мне руку. Гэта быў сухі маленькі чалавек, рухомы і гаманкі, які захаваў нейкую дзіцячую наіўнасць, не гледзячы на свой стары век ... рускай мовы не ведаў. За тое, што я не мог размаўляць з гэтым дзіўным святаром на яго мове, ён адразу, без цырымоніі, абразіў мяне «завзентым маскалём».

Вось, пане, абрэвізуйце яго роту памацней, — сказаў святар, паказваючы на капітана, — ды праймíце яго добра за тое, што напужаў мяне, калі прыйшоў сюды з ротай. Уявіце, у нас па вёсцы пайшоў слых, што ідзе ў Дакудава з ротай архіправаслаўны камандзір. Прыпляліся сюды яны якраз пры канцы тыдня. Я на другі дзень, досвіткам, давай званіць спачатку ў адзін звон, потым ва ўсе, думаю сабе: «Каб не прынесла яго нялёгкая ў такую рань», — а сам сяджу ў алтары ды выглядваю, таму што боязна было. А калі б прыйшоў, я пачаў бы казаць: «Госпадзі памілуй». Мінула гэтак з палову гадзіны, нікога з маскалёў няма. Ну, значыць, спіць пудзіл́а, задраўшы ногі, і стараннасці маёй не чуе, замкнуў я царкву і пайшоў каву піць. А потым дазнаўся, што ён такі ж «д'ябел» як і я.

— Чаго жа Вы, ойча, так баяліся?

— Як чаго? А калі б ён і на самай справе аказаўся б «благо-на-мерен-ный», ды паслаў куды патрэбна цыдулку, што дакудаўскі поп імшу не спраўляе, то ізноў прыйшлося бы ў манастыр ісці на пакуту.

— Дык чаму ж Вы не служыце? — спытаў я, вельмі здзіўлены.

— Вельмі проста, пане каханы, па-вашаму не ўмею, а па-нашаму нельга. Вось пахрысціць, павянчаць, пахаваць — гэта я з поўным задавальненнем, інакш папу з дочкамі не было б чаго есці. І ў нядзелю царква мая заўсёды адчыненая, прыйдуць, памоляцца, паспяваюць нашы хлопцы, і даволі з іх. Ды Вы не думайце, зрэшты, што я такі ўжо адшчапенец, у царскі дзень рэдка калі набажэнства не «адкатаю». Вось толькі з кадзілам не магу зладзіць. Сапраўдны поп спрытна так «фуркае» ім наперад і назад, а ў мяне не выходзіць.

— Я дзіўлюся, што Вам цяжка служыць па-праваслаўнаму, — заўважыў я. Наколькі мне вядома, па ўмовах Бярэсцейскай царкоўнай дамовы ...уся абраднасць павінна быць тая ж, што і ў праваслаўных.

— Калі гэта было! — запярэчыў ён. — У той час, калі я стаў уніяцкім святаром, у нас ... былі арганы, ружанцы, гадзінкі, «здровась Марыя», «анёл Панскі», званочкі ... А зараз што: «Госпадзі, памілуй, ды падай, Госпадзі». Адзін раз, усё ж, паплаціўся я за сваё няўменне. Прыязджае неяк праваслаўны біскуп такі важны, увесь у чорным... Адслужы, кажа, а я пагляджу. Я ні жывы, ні мёртвы, пачаў плесці абедню і ўсё пазіраю на страшнага аргуса. Ён як быццам бы і нічога, прымасціўся ў кутку алтара, ды ўсё паклоны робіць. Мая старанная праца, можа і сышла бы, калі б не гэтая фатальная экценія. Тут ужо я зусім заблытаўся і пачаў мармытаць імёны, якія толькі прыйшлі ў галаву. Па заканчэнні ўсяго, біскуп праняў мяне да дзясятага поту і, падзякаваўшы, з'ехаў, а потым піша: дакудаўскі «ксёндз ніцма не розуме», паслаць яго ў навуку на два месяцы ў кляштар. А якая мне навука? Адлежаўся я тамака ... а потым такім жа ... прыйшоў у Дакудава, якім і быў.

— Чаму бы Вам, «баценька», не павучыцца служыць, як належыць, — параіў я, — гэта зусім не цяжкая справа. Глядзіце ў трэбнік, і ўсё выйдзе добра.

— Позна мне вучыцца, ды і няма сэнсу. Бо палякі выхваляюцца, што адваюць сабе ўсю Літву. Тады мы ўжо не ў унію, а прама ў каталіцтва пойдзем ...»[23].

Але вернемся да гарадскіх спраў. Мяжэцкі[24] так апісваў горад на пачатку 1861 г.:

«Гэта невялікі ліцвінскі горад, населены пераважна яўрэямі і размешчаны ў невясёлай мясцовасці; у ім быў адзін ... касцёл і праваслаўная царква, змешчаная ў нізенькім, драўляным, несамавітага выгляду дамку. У горадзе не знайшлося нават хоць колькі-небудзь зручнай кватэры для сямейства палкавога камандзіра, таму ён быў прымушаны пасяліцца ў абшарніцкай сядзібе, вёрстаў за дзесяць ад горада».

Гэта не дзіўна, бо горад быў перапоўнены расейскім войскам, аднак яшчэ было спакойна, і камандзір палка не адчуваў сябе ў небяспецы, жывучы за горадам:

«...яшчэ не раздаваліся знакамітыя патрыятычныя гімны «Boze, cos Polska» і «Z dymem pozarow», пакуль усё абмяжоўвалася ўзмоцненымі раз'ездамі і з'ездамі адзін у аднаго абшарнікаў і з'яўленнем іх, хоць і рэдка, у нацыянальным гарнітуры — канфедэратцы і чамарцы»[25].

19 лютага 1861 г. быў апублікаваны маніфест цара пра адмену прыгону і палажэнне, якое апісвала, якім чынам зямля будзе перадавацца ў карыстанне сялянам. Механізм перадачы зямлі праз выкуп выклікаў незадавальненне сялян, што прывяло да выбуху сялянскага пратэсту ўвесну — улетку 1861 г. Вось менавіта з мэтай задушэння сялянскіх хваляванняў у нашым павеце і быў перакінуты Нараўскі пяхотны полк, дзе служыў Мяжэцкі. Ён пісаў:

«Прайшло толькі некалькі месяцаў з дня маніфеста пра вызваленне сялян, і ў абшарнікаў пачаліся з імі непаразуменні, якія ўвесь час патрабавалі ўмяшання вайсковай сілы ... гэта і было прычынай паспешнага выкліку нашага палка з Курляндыі ў Літву. Падчас знаходжання ў Лідскім павеце полк, як кажуць, быў у разгоне: роты, па адной ці па дзве, знаходзіліся амаль у бесперапынным перасоўванні, робячы пераходы з аднаго паселішча ў другое для ўціхамірвання ... сялянскіх бунтаў, уціхамірванні гэтыя суправаджаліся, як звычайна, розгамі»[26]. Да восені 1861 г. вайсковыя падраздзяленні, ужываючы масавыя пакаранні розгамі, задушылі выбух сялянскага пратэсту, «гадавое знаходжанне палка ў Лідзе і павеце нічым асаблівым не адзначылася, і ўвесну 1862 г. мы з задавальненнем рассталіся з гэтай глухменню, асабліва таму, што змянялі яе на Вільню, куды полк атрымаў прызначэнне»[27].

Карнікі былі патрэбны ў Вільні, тут станавілася ўсё «гарачэй». Цяжка было расейскаму патрыёту у той час ў нашых краях:

«Рускія людзі ў цывільнай адміністрацыі краю сустракаліся вельмі рэдка, большай часткай толькі ў губернскіх гарадах, у павятовых рускі чалавек уяўляў сабой выключную з'яву. Прытым тутэйшы рускі службовы люд быў зусім адмысловага гатунку. Карэнных выхадцаў з Расіі заносіла сюды якая-небудзь выпадковасць, у бальшыні ж рускія службоўцы былі рускімі толькі па сваёй афіцыйнай прыналежнасці да праваслаўнай рэлігіі, але нарадзіліся ў краі ад змешаных шлюбаў і першыя ўражанні дзяцінства ўспрынялі ад маці... . Такія назіранні я вынес з вельмі многіх гарадоў Паўночна-Заходняга Краю, куды мяне кідаў лёс. Усяго даўжэй мне прыйшлося пражыць з батальёнам нашага палка ў горадзе Лідзе, Віленскай губерні. Тут у цывільнай адміністрацыі, пачынаючы з гараднічага, усе былі тутэйшыя.

Праўда, знайшоўся адзіны рускі, наглядчык павятовай вучэльні, званы па польскай тэрміналогіі «панам прэфектам», ды і той быў горкі п'яніца[28]. Гэта быў карэнны русак, але ў маральных адносінах зусім безасабовы. Відаць, яго схавалі ў гэтую глухмень за п'янства. Да сваёй вучэльні ён амаль не меў дачынення, і ...настаўнікі выкладалі так, як хацелі, без усякага кантролю; балазе ў той час яшчэ не была ўсталявана, як зараз, сістэматычная рэвізія выкладання з боку акруговых начальнікаў. У «присутственных» месцах паперы пісаліся па-руску з перакручанай граматыкай, але ў паветры канцылярый не насілася ніводнага рускага слова.

У нашым палку з 60 афіцэраў роўна палову складалі палякі, другая палова была рускімі, літоўскімі татарамі і немцамі. Польская гаворка да такой ступені ўкаранілася ў афіцэрскім ужытку, што нават калі выпадкова сыходзіліся два-тры рускія афіцэры, то па засвоенай звычцы гаварылі паміж сабой па-польску. Афіцэры-палякі ... з юнкераў, да таго дрэнна валодалі рускай гаворкай, што ў зваротах сваіх да ніжніх чыноў неміласэрна ламалі мову. Памятаю, як адзін субалтэрн, выходзячы са звязам на палкавое вучэнне, сустрэўся са знаёмым і, спыніўшыся, загаварыў з ім, а салдатам загадаў: «Ідзі, ідзі, другі ўзвод, я це даганю», — выйшла ні па-руску, ні па-польску»[29].

Як ужо згадвалася вышэй, у той жа час мясцовая інтэлігенцыя шукала паразумення з расейскімі афіцэрамі:

«У той час польскія абшарнікі і службоўцы не толькі не чужаліся рускіх людзей, але імкнуліся зблізіцца з імі і ўсталяваць добрыя адносіны; таму запрашалі рускіх у свае сямейства і аказвалі ім самую вялікую ўвагу. Я, напрыклад, зусім яшчэ юны і халасты чалавек, быў проста збянтэжаны тым, што да мяне першым прыехаў з візітам прадвадзіцель дваранства (маршалак)[30] — асоба, якая карысталася вялікай вагой у мясцовым грамадстве. Сталася так, што для збліжэння з афіцэрамі польскае дваранства падрыхтоўвала раскошны баль, і з гэтай мэтай завадзіліся знаёмствы нават з тымі з вайскоўцаў, хто па недахопе сродкаў трымаўся ўбаку ад павятовага грамадства»[31].

На дваранскі баль былі запрошаны ўсе афіцэры, нават так званыя «бурбоны» (з ніжніх чыноў мужыцкага звання), якіх тады яшчэ было не мала ў палках, хоць гэтыя кавалеры зусім не вызначаліся ведамі свецкіх далікатнасцяў». Любарскі не быў на лідскім баляванні, але з захапленнем яго апісвае:

«Баль выйшаў на славу, грацыёзныя шляхцянкі ўвесь час выбіралі для мазуркі вайскоўцаў, аддаючы ім відавочную перавагу перад цывільнымі кавалерамі, а за агульнай вячэрай з морам шампанскага, ласкавыя гаспадары раз-пораз выгуквалі тэндэнцыйныя тосты «за братэрства, еднасць, вспульную працу, на ніве славянскага прагрэсу, за шляхетных рускіх афіцэраў і да т.п.», прычым з чоканнямі і абдымкамі ... у той час ніхто з нас яшчэ не здагадваўся пра палітычныя задумы нашых мілых сабутэльнікаў, мы прымалі ўсе гэтыя ласкі ... як праявы вытанчанай ... адукаванасці, і прыемна бавілі свой час. Асабліва спадабалася вайсковай моладзі чароўнае стаўленне да яе прыгожых паненак, і хоць сур'ёзнае заляцанне некаторых зухаў з матрыманіяльнымі мэтамі за багатымі нявестамі атрымала фіяска ... тым не менш афіцэрства плыло ў задавальненні безуважлівага жыцця і было ў захапленні ад непараўнальнага ... грамадства»[32].

У адказ расейцы далі свой баль:

«Са свайго боку, у якасці рэваншу, афіцэры адказалі «затейливым» пікнікам, на які з'ехаліся абшарніцкія сямействы ледзь не з усяго павету. У маляўнічым лесе недалёка ад горада была ўладкавана платформа пад падстрэшкам для танцаў і расстаўлены намёты для буфетаў і прыбіральняў. Дастаўлены вялікі транспарт ласункаў, закусак і вінаў, гульбішча асвятлялася рознакаляровымі ліхтарамі, штохвілінна ўзляталі ракеты, трашчалі і іскрыліся феерверкі, палкавая музыка агалошвала паветра на вялікую прастору .... пад канец балю ... разгарачаныя танцамі і багатым узліваннем абшарнікі, службоўцы і афіцэры навідавоку ва ўсіх бесперашкодна чокаліся куфлямі, абдымаліся і цалаваліся, выкрыкваючы звычайнае пры гэтым kochajmy sie (будзем кахаць адзін аднаго) і кляліся ўзаемна ў вечным і нязменным сяброўстве, не гледзячы ні на якія акалічнасці, ні на якія выпадковасці»[33].

Аднак знайсці паразуменне з расейскімі афіцэрамі не ўдалося: калі прыйшоў час паўстання, на бок паўстанцаў перайшлі ў асноўным афіцэры — ураджэнцы нашага краю. А большасць з іх, не давяраючы ім, урад загадзя перавёў «у войскі, размешчаныя ў сярэдзіне імперыі»[34].

У 1861–62 гг. на тэрыторыях ранейшай Рэчы Паспалітай узмацніліся патрабаванні аграрных рэформаў, дэмакратызацыі і незалежнасці. Радыкальныя дэмакратычныя і патрыятычныя групоўкі (так званыя «чырвоныя») выступалі за адкрытую ўзброеную барацьбу і рыхтавалі паўстанне. Узброенаму паўстанню 1863–64 гг. папярэднічаў даволі доўгі

падрыхтоўчы перыяд. Пачатак падрыхтоўкі да паўстання прымяркоўваюць звычайна да 1859 года, калі вайна Францыі з Аўстрыяй быццам бы падала надзею, што пасля Італіі Напалеон III захоча вызваліць і Польшчу.

Аднак агульны ўздым пачаўся яшчэ да 1857 года, пасля стварэння Земляробчага таварыства, якое ўзначаліў граф Анджэй Замойскі і пасля вяртання з Сібіры ссыльных па амністыі і па заканчэнні 25-гадовых тэрмінаў высылкі пасля паўстання 1830–31 гг. У марах пра волю, мясцовая інтэлігенцыя спадзявалася абаперціся на новага французскага імператара Напалеона III, які абвясціў прынцып аб'яднання народнасцяў і напружана сачыла за кожным крокам Гарыбальдзі, які ў той час аб'ядноўваў Італію, вызваляючы яе ад улады дробных валадароў.

Любарскі ў сваіх мемуарах не абходзіць бокам ролю касцёла пры падрыхтоўцы паўстання, ён піша пра наяўнасць у горадзе трох касцёлаў:

> «У Лідзе, якая налічвала ў той час дзве з невялікім тысячы жыхароў, былі тры велічэзныя мураваныя касцёлы выдатнай архітэктуры, якія высока і ганарліва ўздымалі да неба свае прыгожыя шпіцы. Адзін з іх стаяў пусты, за непатрэбнасцю, бо вернікаў на ўсе касцёлы бракавала»[35].

Пустымі стаялі два з трох касцёлаў: кляштара піяраў — пасля пажару 1842 г. і кармеліцкага кляштара, зачыненых яшчэ пасля паўстання 1831 г. і перададзеных спачатку ўніятам, а пасля ліквідацыі уніі стаўшых праваслаўнымі. Аўтар расказвае, як аднойчы, у нядзелю ён зайшоў у Фарны касцёл. Замест напалову пустога храма

> «...тут прысутнічаў літаральна ўвесь горад, нібы на адпуст (храмавае свята). Не могучы растлумачыць сабе гэтую з'яву, я адчуваў, што бесперапынна прыбываюць усё новыя і новыя багамольцы і ўтвараюць суцэльную масу, якая ціснула з усіх бакоў. Тым не менш, я цярпліва пераносіў ціск і задуху, сочачы з цікаўнасцю за ходам імшы, каб параўнаць яе з праваслаўнай».

Каталіцкая служба скончылася, але людзі не разыходзіліся і вось

> «...на высокай кафедры на бакавой сцяне з'явіўся невядомы прапаведнік у сутане капуцына і адразу прыкаваў да сябе агульную ўвагу. Капуцынскага кляштара ні ў горадзе, ні ў суседстве не было; такім чынам, новы твар з'явіўся здалёку. Гэта быў чалавек гадоў пад трыццаць, з паголенай па-манаску галавой, высокі і сухарлявы, апрануты ў тоўстае цёмна-шэрае сукно і падперазаны вяроўкай; на левым запясці — буйныя пацеркі, у выглядзе ланцуга, з вялікім крыжам. Даўгаваты твар, рэзкая зморшчына паміж бровамі, нос гарбінкай, тонкія стуленыя вусны і глыбокія, іскрыстыя вочы, абведзеныя сіняватымі кругамі, —

усе гэтыя рысы выяўлялі ў капуцыне розум, энергію, рашучасць. Ён схіліўся над кафедрай як бы ў нямой малітве, потым выпрастаўся на ўвесь рост, абвёў фасфарычным поглядам прысутных, падняў уверх правую руку і загаварыў. Гаворка яго, спачатку ціхая і спакойная, паступова прымала гарачае адценне, часам прыпадабнялася бурнай хвалі і кідала на слухачоў грамы заклікаў».

Ксёндз прамаўляў пра Радзіму і да такой ступені меў магнетычны ўплыў на людзей, што

«...натоўп, здавалася, гатовы быў рынуцца туды, куды ён пакажа. Дастаткова сказаць, што я, староннi і выпадковы слухач, мімаволі адчуваў нервовую дрыготку ва ўсім целе, а з масы слухачоў няспынна вырываліся гучныя ўздыхі, і сотні кулакоў шчыра стукалі ў замілаваныя грудзі. Сцісла гэтае палітычнае казанне можна прыблізна фармуляваць так:

«Бог пасылае выпрабаванні нават сваім абраным народам. Мы ... заўсёды вызнавалі праўдзівую каталіцкую веру ... — тую веру, па-за якой няма выратавання чалавечым душам, і тым не менш Богу заўгодна было выпрабаваць свой упадабаны люд, дазволіць, каб яго заняволіла варварская і ератычная ўлада, якая адняла грамадзянскія правы і свабоду сумлення, усё, што складае самы дарагі і святы здабытак чалавека на зямлі. Мы бясконца доўга і цярпліва пераносілі свае пакуты, і Выратавальнік свету зараз пераканаўся ў непахіснай пэўнасці свайго народа Яго святым запаветам. Слухайце! Імем Усемагутнага Бога ўзвяшчаю вам ... што надышоў канец нашым катаванням. Набліжаецца хвіліна, калі Бог разаб'е вашы кайданы і даруе нам згубленае зямное шчасце. Збавіцель ідзе да нас, і блажэнны той муж, якога ён сустрэне падрыхтаваным. Будзьце ж гатовыя прынесці ўсякія ахвяры на алтар Айчыны; ахвяруйце ўсім, хто чым валодае, нясіце давераным людзям грошы, рэчы, увесь здабытак, а калі прыйдзе час — жыццё. У імя святога нашага касцёла і дарагой Айчыны бацькі павінны на час адмовіцца ад сваіх сямействаў, мужы ад жонак, мацярэй і дзяцей, нявесты ад жаніхоў, падначаленыя ад свайго начальства і дружна выступіць на справу вызвалення Бацькаўшчыны...

Але гора таму, хто па абыякавасці ці ад страху застанецца ўбаку ад усеагульнага руху. На іх абрынецца з неба гром і ўразіць на смерць без пакаяння, зніч ператворыць у попел усю іх маёмасць, а на тым свеце чакае здраднікаў вечная пякельная пакута. Маліцеся, ды хай Ісус Хрыстос і Маці Божая асвятляюць сэрцы вашыя і накіроўваюць вас на богадагодныя вычыны... На калені!»

Афіцэр піша, што ўвесь касцёл, уключна з гараднічым[36] і ўсімі павятовымі ўладамі ўкленчыў, сталі на калені.

«...толькі я і адзін з паліцэйскіх, які стаяў наперадзе мяне. Капуцын бліснуў вачамі і ўладна прагаварыў: «Я бачу, што тут, у гэтым святым

храме, прысутнічаюць іншаверцы; але ўсё роўна, замаўляю і іх злучыцца ў агульнай малітве, інакш яны адразу панясуць кару Божую». Становішча выйшла крытычнае .... паліцыянт пачаў уладкоўвацца на калені ... а я, скарыстаўшыся гэтай паўзай, прасунуўся за шырокую калону, каля якой стаяў. Ксёндз супакоіўся і зноў працягваў сваю блюзнерскую і абуральную прамову, пратрымаўшы на каленях пакорлівую паству з чвэрць гадзіны».

Пры канцы капуцын выйшаў з алтара

> «...з выразам смутку і стомы на твары і, сціпла патупіўшы вочы, стаў прабірацца праз натоўп з велізарным падносам на руках. Яго суправаджаў павятовы суддзя[37] з запасным падносам, апушчаным уніз. З усіх бакоў працягнуліся рукі, і ахвяраванні багатым дажджом пасыпаліся на паднос прапаведніка: медзякі, срэбра, асігнацыі, нават вельмі буйныя, кашалькі і партманетка з усім змесцівам, бранзалеты, завушніцы, гадзіннікі, адразу ўтварылі такую кучу, што класці больш не было куды. Напоўнены паднос змяняўся запасным з рук суддзі, які адносіў усё сабранае ў алтар і зноў спяшаўся да капуцына з пустым падносам»[38].

Тут Любарскі, пэўна, каб не ўдзельнічаць у зборы грошай, уцёк з касцёла, таму не пачуў, як першы раз у горадзе там заспявалі новыя песні, *«быццам бы рэлігійныя, але па сутнасці рэвалюцыйнага зместу»*. Капуцын больш не з'яўляўся ў Лідзе. Але гэта быў

> «...адзін з самых фанатычных эмісараў польскага «жонду». Ён беспярашкодна пераязджаў з горада ў горад, з мястэчка ў мястэчка, усюды прамаўляў свае казанні і збіраў багатыя ахвяраванні. Калі ж успыхнула паўстанне, дык гэта ... (ён) апынуўся ў атрадзе Лялевеля[39], натхняў паўстанцаў з крыжам у руках і, нарэшце, у адной сутычцы быў забіты»[40].

Вядома, што ў атрадзе Лялевеля шараговым байцом ваяваў ксёндз Бжоска, верагодна менавіта ён і выступаў у Лідзе і ўсхваляваў насельніцтва горада. Бжоска вучыўся ў Янашскай семінарыі (былая Люблінская губерня), у 1857 г. яго высвяцілі ў ксяндзы і прызначылі вікарыем у Саколку, потым у Луцк (былой Сядлецкай губерні). У 1862 г. ён сышоў да паўстанцаў, увесь час выступаў перад насельніцтвам. У 1863 г. быў у атрадзе Левандоўскага, а потым у Лялевеля, пасля разгрому атрада Лялевеля сам узначаліў атрад паўстанцаў. Арыштаваны толькі 17 красавіка 1865 г. і 11 траўня пакараны смерцю ў Саколцы[41].

Пасля расстрэлу ў 1861 г. дэманстрацый у Варшаве, асабліва пасля красавіцкага расстрэлу, вулічныя дэманстрацыі змяніліся зборамі ў касцёлах, дзе спяваліся патрыятычныя гімны і адзначаліся памятныя даты з гісторыі Рэчы Паспалітай. «Маральная рэвалюцыя» набывала форму кампаніі грамадзянскага непадпарадкавання і ставіла ў тупік прадстаўнікоў імперскай адміністрацыі, якія ніколі не сутыкаліся з такімі формамі палітычнага жыцця. Жанчыны ў памяць аб красавіц-

кіх ахвярах нязменна насілі жалобную адзежу. Тыя, хто не насіў жалобы, падвяргаліся на вуліцах маральнаму ціску.

У Лідзе, як і паўсюдна, пад уплывам варшаўскіх расстрэлаў мужчыны апранулі канфедэраткі і чорныя чамаркі, а жанчыны жалобу. Гімн «Boze, coz Polska» быў перакладзены на беларускую, літоўскую, яўрэйскую і ўкраінскую мовы і стаў вельмі папулярным[42].

> «Улетку 1861 года ўсякія забавы, як грамадскія, так і ў прыватных хатах, раптам спыніліся. Нават замоўкла музыка на фартэпіяна, граліся адны толькі навучальныя гамы. Усе дамы апрануліся ў глыбокую жалобу, дэспатычны ўплыў якой адбіваўся і на нешматлікіх рускіх прадстаўніцах чароўнага полу, жонках афіцэраў, бо паказвацца ў каляровых гарнітурах, пры агульным панаванні чорных, значыла прыцягваць да сябе ўвагу ... пайшлі глухія размовы пра зневажанне хрысціянскіх святынь рускімі ...»[43].

У Лідскім Фарным касцёле замест устаноўленай малітвы за царскі дом усе станавіліся на калены і пелі патрыятычны гімн «Boze, coz Polska», што пачынаўся словамі: «Божа, Ты гэтулькі стагоддзяў атачаў нас арэолам магутнасці і славы, вярні нам Айчыну і волю». Гэта песня — малітва за аднаўленне незалежнай дзяржавы была нагэтулькі папулярнай, што спявалася на вуліцах пры кожнай касцельнай працэсіі, якія асабліва часта здзяйсняліся ў той час; мала таго, матыў яе можна было чуць з расчыненых вокнаў кожнай хаты, дзе было фартэпіяна: «напяваюць заклік да Бога за Бацькаўшчыну». Не меней папулярная была і іншая песня, якая пачынаецца словамі: «З дымам пажараў…».

Нават калі паліцыя пачала забараняць вакальныя маніфестацыі, натоўп не слухаўся і яшчэ гучней пеў «блюзнерскі гімн», так што яго чуваць было крокаў за сто ад касцёла праз расчыненыя дзверы і вокны. Тады паліцыя для ачысткі сумлення перапісвала тых, хто найбольш вылучаўся ў спеве, але пакуль нікога не каралі.

> «Вынікам было хіба тое, што кіраўнічая асоба давала сяброўскую параду свайму падначаленаму паўплываць на жонку ці дачку, каб яны паводзілі сябе асцярожней»[44].

Мемуарыст цікава расказвае пра настрой гараджан перад паўстаннем. Паступова рэвалюцыйнае ўзбуджэнне ў горадзе ўзрастала:

> «Па меры таго, як яно больш і больш набірала моц, рускае значэнне ў краі паступова змяншалася. Выходзіла так, як быццам бы гаспадарамі становішча былі яны, а часовымі гасцямі, прышэльцамі ці, мабыць нават паразітамі на чужым целе з'яўляліся мы».

Гледзячы на завяваўшую волю Італію, чакаючы падтрымкі Францыі, ужо амаль што ўсе верылі ў хуткае незалежнае існаванне. Любарскі, у гэты час вайсковы палкавы лекар і добры хірург, даслоўна запісаў

сваю размову з лідскім прадвадзіцелем дваранства Буткевічам (сябе Любарскі тут называе ў трэцяй асобе «доктарам»):

— Скажыце, коханы консільяжу (ласкавы доктар), спадзяюся, Вы застанецеся ў нас, калі Літва адыдзе ад Расіі?

— Як гэта адыдзе ад Расіі? — спытаў збянтэжаны доктар, — я штосьці не ясна сабе ўяўляю.

— Вельмі проста; адлучыліся ж ад Аўстрыі Ламбардыя і Венецыя і ўвайшлі ў склад Італьянскай дзяржавы. Чаму ж мы не можам утварыць незалежнай дзяржавы ў межах сваёй народнасці? Зараз да таго ідзе ўся еўрапейская палітыка.

— Але Расія — не Аўстрыя, — заўважыў доктар, зачэплены за жывое, — і паменшыць яе будзе пацяжэй, чым рознамасную імперыю Габсбургаў?

— Вядома, — спахапіўся маршалак, — я і кажу гэта. Але могуць быць розныя палітычныя кампрамісы для аб'яднання народнасцяў. Відаць, час такі надышоў. Ды не пра гэта ўласна гаворка. Я толькі жадаў сказаць, што Вы, ласкавы доктар, карыстаецеся такім заслужаным даверам у нашым грамадстве, што пажадана, каб вы засталіся ў нас, якія б ні адбыліся палітычныя змены.

— Вельмі ўдзячны за ўвагу, але, прызнаюся, я б не застаўся.

— Чаму ж? — здзівіўся суразмоўца, — для адукаванага чалавека жыць у краіне з ліберальнымі ўстановамі, якой будзе наша незалежная дзяржава, і працаваць у культурным грамадстве павінна быць прывабна.

— Ды па-простy хоць бы таму, што я, як праваслаўны, быў бы не зусім свой паміж вамі, і польскай мовы добра не ведаю, а быць абмежаваным у выказванні сваіх думак непрыемна.

— Э, глупства; варта Вам жаніцца на кімсьці з нашых прыгажунь, і адрозненне ў веравызнанні згладзіцца, а мовай Вы авалодаеце. Я ведаў афіцэра, які прыбыў у Вільню з глыбіні Расіі і не разумеў аніводнага слова, а праз некалькі гадоў пісаў у альбомы такія выдатныя вершы, што, права, пад імі сам Вікенці Поль падпісаўся б» [45].

Прадвадзіцель дваранства (маршалак шляхты) Буткевіч не будзе ўдзельнічаць у паўстанні. У гісторыі горада ён застанецца як чалавек, які ў 1878 г. прапанаваў генерал-губернатару разабраць наш замак Гедыміна на будаўнічыя матэрыялы...

Аднак былі і песімісты, якія, як паказала практыка, як мінімум рэальна ставіліся да вайсковага аспекту паўстання. Любарскі прыводзіць размову са сваім знаёмым, якога ён называе «капітан З-скі»; гэты самы «капітан З-скі» мог быць Юзафам Залескім, дзедам будучага міністра абароны БНР Кіпрыяна Кандратовіча:

«За некалькі вёрстаў ад горада жыў у сваёй сядзібе адстаўны капітан З-скі, ён быў тутэйшым, я аказаў яму некаторыя паслугі і праз гэта зблі-

зіўся з ім. Падчас службы ў адной з унутраных губерняў ён ажаніўся па каханні з рускай дзяўчынай, а па выхадзе ў адстаўку засеў гаспадарыць у маленькім сваім фальварку. Ён не перашкаджаў жонцы выхоўваць дзяцей у духу праваслаўнай веры, у палітыку не ўмешваўся і таму не меў сяброў сярод сваіх "радакоў"».

Капітан расказаў, што яго як прафесійнага вайскоўца інсургенты спрабавалі залучыць у вайсковую арганізацыю:

«прыязджае раз у фальварак невядомы маладзён і заяўляе, што мае да мяне важную справу ... ён развёў такую матэрыю, што пад стаць хоць бы самому Пальмерстону[46]. Паўстанне, маўляў, зусім падрыхтавана, ва ўсіх ... землях па Днепр, і поспех яго забяспечаны. Сабрана 100 мільёнаў злотых, чаго на першы раз больш чым досыць, затым будуць захоплены велізарныя сумы ў розных казначэйствах; зброя ўвесь час падвозіцца з-за мяжы, і ўжо ўтвораны вялікія і надзейныя склады. Ва ўсё Расіі таксама чакаецца ўзброенае паўстанне, якое развяжа рукі. Рэвалюцыйная сетка там, як і ў нас, ... арганізавана надзейнымі людзьмі і распасціраецца нават за Волгу. Ва ўсіх нашых ваяводствах адразу стане пад стрэльбу 100 тысяч адборнай моладзі, і акрамя таго, у межы царства Польскага ўварвуцца два вялікія польскія войскі — адно з Галіцыі генерала Лангевіча, другое з Познані з фельдмаршалам Мераслаўскім; чакаецца і Гарыбальдзі з атрадам італьянцаў. А як толькі мы паднімем зброю, Напалеон (Напалеон III. — *Л.Л.*) адразу абвесціць вайну Расіі; гэта гэтак жа дакладна, як Бог на небе. Англія ўжо рыхтуе свой флот і адцягне да прыморскіх гарадоў масу рускіх войскаў.

Вось нашы шанцы, — выклікнуў маладзён ... — і толькі ў адным мы маем праблему — знайсці неабходную колькасць дасведчаных у ваеннай справе камандзіраў. Таму «жонд нарадовы» камандзіраваў мяне заявіць Вам, што мае да Вашых ваенных талентаў і Вашага патрыятызму асаблівы давер і рыхтуе Вам намінацыю у палкоўнікі[47] і даручае камандаваць палком Віленскага ваяводства, пра што, калі надыдзе час, будзе адмысловае распараджэнне.

Прызнаюся, — сказаў капітан, — я зусім разгубіўся ад гэтай нечаканасці, але сказаў эмісару «жонда» напраскі, што такія фантазіі, якія я цяпер выслухаў, выбачальныя ў маладой і гарачай галаве, але ў адносінах да людзей, дасведчаных у ваеннай справе, якія глядзяць цвяроза на рэчы, проста недарэчныя. У рэчаіснасці (...) Вы можаце набраць невялікія партыі людзей хоць рашучых, але зусім недасведчаных, з якіх большасць нават страляць не ўмее. А ці ведаеце Вы, што значыць бязладны натоўп супраць арганізаванага войска? Я, як вайсковец, ведаю гэта, і таму менавіта мне і сумленне і патрыятызм не дазваляюць весці сваіх братоў на дакладную смерць»[48].

Калі пачалося паўстанне, капітан З-скі з'ехаў з сямействам да родных жонкі ў Цвярскую губерню.

Пасля падзей у Варшаве бурліла сталіца краю, Вільня. Яшчэ раней, чым у Варшаве, у жніўні 1861 г. генерал-губернатар Назімаў увёў ваеннае становішча ў Вільні і шэрагу іншых гарадоў і паветаў краю, аднак праз год ваеннае становішча было знятае, тым не менш «раман» Назімава з мясцовай шляхтай рэзка абарваўся. Ужо ўвесну 1861 г. віленскі павятовы прадвадзіцель дваранства граф І. Тышкевіч, які арганізаваў некалькі маніфестацый, быў неадкладна зняты з пасады па ініцыятыве генерал-губернатара, арыштаваны і сасланы 8 студэнтаў[49].

Першая маніфестацыя ў Вільні адбылася 20 траўня 1861 г.[50], пасля яе пратэстны рух пракаціўся па ўсёй гістарычнай Літве: арганізоўваліся паніхіды па загінуўшых у Варшаве, хросныя хады, адзін з якіх у Коўна прайшоў па мосце праз Нёман і сімвалізаваў унію Літвы і Польшчы. 12 жніўня 1861 г. у Вільні пасля службы ў касцёле і спеваў гімнаў, каля 5 000 чалавек: шляхты, гараджан і сялян прайшлі па гораду ў знак «сардэчнага збліжэння», вось як гэту маніфестацыю апісвае адзін з карнікаў:

> «пачаліся спевы рэвалюцыйных гімнаў у касцёлах каля Вострай Брамы ... і іншыя палітычныя дэманстрацыі ... Так ... была працэсія з харугвамі, сцягамі, гербамі Літвы і Польшчы, працэсія са спевам гімна «Boże, coś Polskę» ў суправаджэнні масы народа рушыла на сустрэчу працэсіі, якая, па чутках, павінна была ісці ... ад Коўна ў Вільню. Па распараджэнні начальства, войскі — пяхота і казакі, загарадзілі ... дарогу з горада ... дэманстранты, маючы наперадзе фанатычных паненак, імкнуліся прадрацца скрозь шэрагі войскаў ... паненкі дзейнічалі парасонікамі ... казакі прыняліся за бізуны і натоўп рассеяўся»[51].

Але 18 жніўня, падчас мірнай маніфестацыі 6000 чалавек на Пагулянцы рускае войска, па камандзе Назімава, ужыло зброю, загінула 11 чалавек.

У 1862 г. вайсковую частку, дзе служыў мемуарыст Любарскі, цераз Гародню, перакінулі ў Бярэсце, а адтуль у Польшчу — паўстанне пачыналася. Па дарозе з Ліды на Гародні

> «наш батальён выпадкова набыў фурманку са зброяй для паўстанцаў. У адным мястэчку, дзе мы спыніліся на начлег, батальённаму камандзіру, зразумела, адвялі самую лепшую кватэру ў заезджым двары. Там пад падстрэшкам ужо стаяла фура з нейкай паклажай, пакрытаю рагожамі і шчыльна ўвязанаю вяроўкамі. Увечар дзяншчык, не заўважаючы каля фуры гаспадара, запусціў туды руку, верагодна, мяркуючы чым-небудзь пажывіцца, і раптам намацаў стрэльбу. Зразумеўшы, у чым справа, дзяншчык даклаў пра сваю знаходку маёру. Пачалі шукаць уладальніка фуры, але ён знік.
>
> Яўрэй, гаспадар заезнага двара, на допыце паказаў, што перад нашым прыходам да яго пакарміць коней заехаў невядомы спадар у шэрым сукмане і высокіх ботах. Распрогшы коней, ён увайшоў у залу і

запатрабаваў сабе яечню, а тут з'явіліся «панове» з войскам. Ён, гаспадар, замітусіўся і не заўважыў, калі і куды дзяваўся ягоны госць. У возе было больш за 200 стрэльбаў, некалькі дзясяткаў шабель, багнетаў, шашак і пісталетаў featured рознага калібру. Далі ведаць мясцовай паліцыі, але пан у сукмане так і не быў знойдзены. Было жаданне перадаць знаходку бургамістру мястэчка, але потым агульнай радай разважылі, што такім шляхам зброя зноў патрапіць да будучых паўстанцаў, і вырашылі ўзяць фуру з коньмі з сабой, для прад'яўлення начальству вышэй»[52].

Як бачым, Лідскі паўстанцкі камітэт таксама рыхтаваўся да справы.

Закончу цытаванне цікавых, але блытаных і вельмі «па-імперску» ангажаваных мемуараў ваеннага лекара І.В. Любарскага двума эпізодамі аднадзённага побыту яго батальёна ў Гародні, з апісанымі ніжэй адносінамі да сябе расейскія афіцэры пачалі сутыкацца ў той час паўсюдна.

«У Гародні ... наша афіцэрства валам паваліла ў адну немудрагелістую карчму — хто паабедаць, хто пагуляць у більярд, а хто проста папацягацца за дачкой карчмаркі, прыгожай паненкай, якая стаяла за прылаўкам, распараджалася гарэлкай і закускамі і перадавала замовы гасцей прыслузе. Афіцэрства рассыпалася на польскай мове ў ласках, на якія какетлівая дзяўчына адказвала направа і налева з павабнай добразычлівасцю. Адзін толькі бязвусы прапаршчык, нядаўна выпушчаны з корпуса, не мог прымаць удзелы ў вясёлых гутарках, таму што зусім не ведаў па-польску. Ён сціпла падышоў да паненкі і сказаў, каб яму падалі абед, але тая не адказала яму звычайным: «У тэн момант, пане». Прачакаўшы беспаспяхова з паўгадзіны, афіцэрык ізноў падыходзіць да панны з гэтай жа замовай, але яна застаецца нямая і не рухаецца з месца. Здзіўлены маўчаннем, прапаршчык спытаў: ці яна не разумее рускай мовы? На гэта паненка з пагардай працадзіла: «Я гэтай сабачай мовы не жадаю разумець». «Як вы смееце абражаць мяне, — зычна ўскрыкнуў малады афіцэр, стукнуўшы кулаком па прылаўку, наліваючыся крывёй. — Ды я вас так абражу, што ўсё жыццё памятаць будзеце». Паненка пабляднела і паваліласяна крэсла ў істэрычных рыданнях. Але прапаршчык не сцішыўся і гучна заявіў, што ідзе да губернатара асабіста прынесці скаргу ... Сцэна выйшла ... цяжкая, асабліва калі бледную, як смерць, паненку выносілі ў поўнай непрытомнасці. Нарэшце ў справу ўмяшаліся афіцэры і з вялікай цяжкасцю ўгаварылі таварыша пакінуць без наступстваў «дурную выхадку», за якую ... жанчына магла б адчувальна паплаціцца».

А вось другі гарадзенскі інцыдэнт з афіцэрам у той жа дзень:

«Праз грамадскі сад ён убачыў ідучых супраць яго трох цывільных маладзёнаў, якія спляліся рукамі і занялі ўсю шырыню алеі. Наблізіўшыся да афіцэра, усё ў адзін голас крыкнулі: «Прэч з нашай зямлі».

Апынуўшыся тварам да твару з нахабнікамі, афіцэр пасля хвілiннай нерашучасці сышоў у бок ..., як растлумачыў ён, каб не ўздымаць скандалу, а можа быць, і таму, што сам быў тутэйшы і не жадаў падвяргаць непрыемнасці сваіх ...»

Падобныя сцэны ў гэты час апісваюцца ў мемуарах рускіх афіцэраў па ўсім краі[53].

На працягу 1862 г. прастора непасрэднага кантролю ўлады ў Царстве Польскім няўхільна сціскалася, і да сярэдзіны года яно ўжо не кiравалася з адзінага цэнтра расейскай уладай. Да лета 1862 г. быў утвораны падпольны Нацыянальны цэнтральны камітэт, які ў верасні абвясціў сябе сапраўдным польскім урадам. Яму падпарадкоўвалася разгалінаваная арганізацыя ў колькасці прыкладна 20 тысяч чалавек, меўся ўласны адміністрацыйны апарат і падатковая служба[54].

Павялічвалася напружанне і на тэрыторыі былога ВКЛ. Падрыхтоўку паўстання ўзначаліў створаны ў Вільні Літоўскі правінцыйны камітэт. У склад камітэта ўваходзілі капітан генеральнага штаба Людвік Звяждоўскі (1829–1864), чыгуначны службовец Францішак Далеўскі (1825–1904), інжынер Уладзіслаў Малахоўскі (1827–1900, псеўданім Леан Варнэрке), студэнт матэматычнага факультэта Пецярбургскага ўніверсітэта Эдмунд Вярыга (1840?—1902), доктар і мастак Баляслаў Длускі (1826–1905, псеўданім Ябланоўскі) і Кастусь Каліноўскі.

Расейскі гісторык XIX ст. П.Д. Бранцаў пісаў пра Каліноўскага:

«...малады чалавек, 26 гадоў ад роду, сярэдняга росту, дужага целаскладу, меў стромкі, высокі лоб, чысты твар і выразныя вочы; насіў кароткія русыя валасы, зачэсаныя назад. Каліноўскі меў вялікі розум і незвычайную сілу волі і характару. Гэта адзіны чалавек з усёй карпарацыі Літоўскага жонду, які быў бескарысліва адданы сваёй справе. Чалавека гэтага нельга было ні спалохаць, ні збіць з толку. Каліноўскі прама ішоў да сваёй мэты, не здрадзіў і не зганьбіў сябе (...) баязлівасцю да самай смерці»[55].

31 ліпеня 1862 г., як і ў мінулым годзе, па ўсім краі прайшло святкаванне ўгодкаў Люблінскай уніі. У Вільні, каля Вострай Брамы, «сабралася шмат людзей рознага звання», сярод іх многія мужчыны былі апранутыя ў нацыянальныя строі, а жанчыны «ў белых сукенках, канфедэратках ці капялюшыках, упрыгожаных жывымі кветкамі і стужкамі...». Пасля малітвы частка людзей разышлася па хатах, а частка выправілася да Зялёнага моста, аднак паліцыя ім гэта не дазволіла. У той жа дзень у Лідзе «на звычайнай літургіі, сабралася ... багамольцаў больш, чым звыкла, прычым дамы былі апранутыя ў каляровыя сукенкі»[56].

10 жніўня 1862 г. віленская паліцыя затрымала адстаўнога службоўца Фелікса Колышку (брата Баляслава Колышкі). З даклада сакрэтнага аддзела:

«Адстаўны калежскі рэгістратар Фелікс Колышка, у адметным гарнітуры, а менавіта: у чамарцы шэрага сукна, падперазаны шырокім лакавым рамянём з белай металічнай бляхай, на якой намаляваны Арол і Пагоня ... у ботах з доўгімі лакавымі халявамі. Прыператрусе ў Колышкі знойдзены ... заклік да жыхароў Вільні».

Знойдзеная папера заклікала да супольнай малітвы за душы чарговых загінулых маніфестантаў.

Са справы вынікае, што Колышка паходзіў з лідскай шляхты, скончыў 5 класаў Віленскай гімназіі, потым служыў у войску, звольнены з войска па асабістым рапарце, пры звальненні атрымаў чын калежскага рэгістратара і першапачаткова прыехаў да сваёй маці ў Ліду, а потым пераехаў у Вільню. Лідскі гараднічы сведчыў, што падчас жыхарства ў Лідзе паводзіў сябе добра, але падчас дэманстрацый у Лідзе разам з іншымі спяваў «абуральныя гімны» і насіў недазволеныя строі[57].

У студзені 1863 г. у Царстве Польскім, з нападаў паўстанцаў на кватэры рускіх войскаў у ноч з 10 на 11 студзеня (ст. ст), пачалося масавае і зацятае паўстанне. Да вясны «мяцеж», як называлася паўстанне ўрадам, распаўсюдзіўся на Літву, заходнія і цэнтральныя мясцовасці Беларусі і нават Правабярэжнай Украіны. Часовы нацыянальны ўрад (Rzad Narodowy) абвясціў волю і роўнасць усіх грамадзян аднаўленай дзяржавы, незалежна ад веравызнання і паходжання, а сялянам абяцаў права на зямлю, якую яны апрацоўваюць з неадкладнай адменай усіх павіннасцяў перад панамі. У асобных закліках да русінаў (г.зн. насельніцтва Беларусі і Украіны) ішла гаворка пра поўнае вызваленне і надзяленне зямлёй, а да яўрэяў — пра братэрскую любоў. Такім чынам, была зроблена спроба да згуртавання шырокага фронту сіл.

Нягледзячы на недахоп узбраення і недастатковы досвед ваеннай арганізацыі ў баявых дзеяннях, нацыянальны ўрад, не выходзячы з падполля, здолеў узяць пад свой кантроль вялікую частку тэрыторыі, кантраляваць выкананне сваіх распараджэнняў, мець вялікую сетку надзейных агентаў у паштовым ведамстве і на чыгунках. Намеснік Царства Польскага, вялікі князь Канстанцін казаў: «Законны ўрад існуе толькі там, дзе ёсць войска. Дзе няма, там поўная самаўпраўнасць рэвалюцыі... Цэнтральны камітэт усюды і нідзе». Паўстанне прыняло аблічча партызанскай вайны, баявой адзінкай выступаў невялікі аддзел (у тэрміналогіі рускага ўраду, «шайка» ці «хеўра»), праслед і знішчэнне якога ў лясістых і багністых мясцовасцях былі вельмі цяжкай задачай[58].

Імператар Аляксандр II у Пецярбургу асабіста паведаміў гвардыі пра пачатак паўстання. Вось як успамінаў пра гэта афіцэр лейб-гвардзейскага Паўлаўскага палка Воранаў (гэты полк і Воранаў асабіста потым удзельнічалі ў задушэнні паўстання на Лідчыне):

«Чуткі пра хваляванні ў Польшчы, якія распаўсюдзіліся напачатку 1863 г., пацвердзіліся пасля 11-га студзеня ... Весткі пра тое, што зда-

рылася ў Польшчы, былі перададзены ў Пецярбургу афіцэрам гвардыі асабіста Яго Імператарскай Вялікасцю, пасля таго, як яны атачылі Манарха ў Міхайлаўскім манежы, па заканчэнні разводу л.-гв. Ізмайлаўскага палка.

«Многім з Вас, спадарства — пачаў ... Імператар — верагодна невядомы апошнія здарэнні ў Царстве Польскім. Я хачу, каб вы даведаліся пра іх ад мяне самога.

Пасля таго як быў добра праведзены рэкруцкі набор ... у Варшаве з 6-га пачалі з'яўляцца мяцежныя хеўры на абодвух берагах Віслы, для рассейвання якіх былі неадкладна пасланы атрады. Нарэшце з 10-га па 11-га , па ўсім царстве, за выключэннем Варшавы, былі зроблены раптоўныя напады на войскі нашыя, якія стаяць па кватэрах .... Аднак і пасля гэтых новых зладзействаў, я не хачу абвінаваціць у тым увесь народ Польскі, ва ўсіх гэтых сумных падзеях я бачу працу рэвалюцыйнай партыі, якая імкнецца паўсюдна да руйнавання законнага парадку. ... Я перакананы, што зараз больш, чым калі, кожны з вас, адчуваючы і разумеючы ўсю святасць прысягі, выканае свой абавязак, як гонар нашага сцяга таго патрабуе ...»[59]

## *Спасылкі на крыніцы*

1. Гвардыян — у дадзеным выпадку эканом.

2. Пачатак а 8-й раніцы.

3. Narbutt M. Lida i Lidziane // «Ziemia Lidzka», 1997, № 26–27.

4. Памятная книжка Виленской губернии на 1850 г. Вильно, 1850, с. 82.

5. Лаўрэш Л. Ксёндз Дзіянісій Хлявінскі, філамат // Навагрудчына ў гістарычна-культурнай спадчыне Еўропы (да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы). 2010, с. 172–175.

6. Narbutt M. Lida i Lidziane.

7..http://be.wikipedia.org/wiki/Харчаванне беларусаў у Расійскай_імперыі.

8. Памятная книжка Виленской губернии на 1846 г. Вильно, 1846, с. 103–105.

9 Памятная книжка Виленской губернии на 1860 г. Вильно, 1860, с. 157–158.

10. Сегень Януш. Успаміны пра Ліду канца XIX стагоддзя // «Лідскі летапісец» № 20, с. 26.

11. Любарскі Іван Васільевіч (1832–1901), скончыў медыцынскі факультэт Харкаўскага ўніверсітэта, ваенны лекар, гісторык, журналіст, у Лідзе служыў палкавым лекарам.

12. Любарский И.В. В мятежном крае. (Из воспоминаний) // «Исторический вестник», 1895, том 59, № 3, с. 819–820.

13. Баляслаў Вікенцьевіч Калышка (1837–1863) нарадзіўся ў фальварку Карманішкі Лідскага павета. З 1860 вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, адзін з кіраўнікоў рэвалюцыйнага студэнцтва, прапагандаваў ідэі рэвалюцыйнага саюзу народаў у барацьбе з самадзяржаўем, у 1861 вёў агітацыю ў Лідзе,

потым удзельнічаў у студэнцкіх хваляваннях, сутыкненнях студэнтаў з паліцыяй. Ратуючыся ад пакарання, выехаў за мяжу, наведваў ваенную школу эмігрантаў у Італіі. У сакавіку 1863 г. сфарміраваў паўстанцкі атрад у Ковенскім павеце, меў некалькі паспяховых сутычак з царскімі войскамі. Пасля разгрому паўстанцаў, узяты ў палон і павешаны ў Вільні на плошчы Лукішкі 9 чэрвеня 1863 г..

14. Паходзіў з небагатай шляхты.

15. Любарский И.В. В мятежном крае…, с. 820–821, 822.

16. Мяжэцкі Мітрафан Парфіравіч, афіцэр, потым судовы следчы.

17. Межецкий М.П. Воспоминания из беспокойного времени на Литве в 1861–1863 годах // «Исторический вестник», 1898, том 73, № 9, с. 826.

18. Любарский И.В. В мятежном крае…, с. 813.

19. Тамсама, с. 824.

20. Субалтэрн — малодшы афіцэр у роце.

21. Для Любарскага — аўтара гэтых мемуараў усе выхадцы з Беларусі, не гледзячы нават на іх веравызнанне — палякі.

22. Верагодна, гэта былы ўніяцкі святар Ян Сцяпура. У 1835 г. дакудаўскія вернікі разам са святаром Язафатам Александровічам «аказалі супраціў зменам у інтэр'еры свайго храма». Пасля адмовы прыняць маскоўскі служэбнік Александровіча замянілі Янам Сцяпурам, жонка якога з чатырма дачкамі нарабіла клопату мясцовым уладам тым, што да ліквідацыі ўніі паспела перайсці ў рыма-каталіцтва і не жадала «вярнуцца» ў праваслаўе — веру, у якой заканадаўствам імперыі прадпісвалася быць спаведнікам знішчанай уніі. Ян Сцяпура лічыўся нядобранадзейным, ў 1839 г. яго дзеля пакарання выклікалі ў Жыровіцы.

23. Любарский И.В. В мятежном крае…, с. 813–816.

24. Межецкий М.П. Воспоминания из беспокойного времени…, с. 826.

25. Тамсама.

26. Тамсама.

27. Тамсама.

28. Наглядчыкам 3-класнай павятовай дваранскай вучэльні ў Лідзе ў 1860 г. быў надворны саветнік Аляксандр Аляксеевіч Шахаў, з 1861 г. пасаду заняў калежскі асэсар Людвіг Людвігавіч Ігнатовіч. (гл.: Памятная книжка Виленской губернии на 1860, 1861 г.)

29. Любарский И. В. В мятежном крае…, с. 818.

30. Прадвадзіцель дваранства ў Лідзе 1861 г., калежскі асэсар Сцяпан Дзяменцьевіч Буткевіч. (Памятная книжка Виленской губернии на 1861 г. Вильно, 1861. Ч. 1. С. 110.). Буткевіч С.Д. (1815 г.н.) выконваў абавязкі прадвадзіцеля з 12 кастрычніка 1855 г., адукацыю атрымаў у Шчучынскай павятовай вучэльні, быў узнагароджаны ордэнам Св. Станіслава 3 ст., медалём у памяць вайны 1853–56 гг. і знакам за 15 год службы ( Адрес-календарь Виленского генерал-губернаторства на 1868 год. СПб., 1868, с. 90.).

31. Тамсама.

32. Тамсама, с. 819.

33. Тамсама.

34. Тамсама, с. 822.

35 .Тамсама, с. 823.

36. Гараднічы ў Лідзе 1861 г., падпалкоўнік Балонін. (Гл.: Памятная книжка Виленской губернии на 1861 г. Вильно, 1861. Ч. 1. С. 110.).

37. Павятовы суддзя ў Лідзе 1861 г., калежскі асэсар Фама Іванавіч Шукевіч. (Гл.: Памятная книжка Виленской губернии на 1861 г. Вильно, 1861. Ч. 1, с. 111.), Томаш Шукевіч — адзін з кіраўнікоў паўстання на Лідчыне, павятовы камісар.

38. Любарский И.В. В мятежном крае..., с. 824–826.

39. Марцін Мацёй Барэлоўскі (1829–1863), палітычны і ваенны дзеяч, палкоўнік у паўстанні 1863 г. (мянушка — Лялевель).

40. Параўнай, у той жа час у Брэсце: «Напачатку 1862 г. я быў дома. Першае што я тут пачуў, гэта пропаведзі нейкага капуцына, які сваёй патрыятычнай і займальнай гаворкай збіраў народ у касцёл з розных паветаў. Гэты капуцын малады, высокі, прыгожага выгляду, пасля, знаходзячыся ў хеўры Лялевяля, быў забіты ў адной з сутычак. На наступны ж дзень я пайшоў паслухаць гэтага прапаведніка, хоць і не думаў, што ўражанне будзе вялікім, асабліва пасля таго, што я чуў раней. Народа было шмат. Не толькі касцёл, але і каля касцёла ўсе было перапоўнена. Ксёндз капуцын, увайшоўшы на амбон, пачаў сваю пропаведзь. Народ то валіўся, заломліваючы рукі, на калены, то зноў уставаў рыдаючы. Сапраўды, прамова яго, дыхаўшая нянавісцю да ўрада, малявала становішча ... такімі змрочнымі фарбамі, малявала такія пакуты айчыны, што, здаецца, калі б ён сказаў: «бярыце нажы і прыступайце да справы», я першы пайшоў бы за ім. Калі служба скончылася і капуцын выходзіў з касцёла, дык жанчыны і мужчыны кідаліся цалаваць яго руку, а некаторыя абрывалі яго верхнюю сутану, так што павінны былі сшыць яму новую. І тут таксама, як і ў Варшаве, абшарнікі, мяшчане і ў рэдкіх выпадках сяляне спявалі гімны і насілі жалобу». — Воспоминания польского повстанца 1863 года // «Исторический вестник», 1892, том 49, № 9, с. 583–584.

41. Брянцев П.Д. Польский мятеж 1863, с. 79.

42. Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 7.

43. Любарский И.В. В мятежном крае…, с. 830.

44. Любарский И. В. Тамсама, с. 833.

45. Тамсама, с. 827–828.

46. Пальмерстон Генры Джон Тэмпл — прэм’ер-міністр Вялікабрытаніі ў 1855–65 гг.

47. Палкоўнікам потым стаў Людвіг Нарбут.

48. Любарский И.В. В мятежном крае…, с. 829.

49. Западные окраины Российской империи. /Сборник/. М., 2006, с. 148, 162.

50. Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 9.

51. Межецкий М.П. Воспоминания из беспокойного времени, с. 827.

52. Тамсама, с. 830–831.

53. Параўнай, у той жа час у Вільні: «У Сафійскім палку адной з намі 1-й

дывізіі быў пераведзены з Каўказа паручнік Вернер, родам прусак ... аднойчы даволі позна ўвечар ... ён прыняў мяне... галава яго была павязана акраваўленай белай хусткай.

— Я ўвечар шпацыраваў па саду..., маладыя людзі ... праходзячы міма мяне ... адпускалі ў мой бок абразлівыя насмешкі. ... Пры браме мяне ўжо чакаў натоўп ... пачуліся абразы ... у мяне кінулі камень ... Тады я выхапіў шаблю ... камусьці з бліжэй стаячых шабля патрапіла па галаве, ён упаў, натоўп расступіўся...». (Гл.: Межецкий М.П. Воспоминания из беспокойного времени на Литве 1861–1863 годах // Исторический вестник. 1898. Т. 73, № 9, с. 830.)

54. Западные окраины Российской империи..., с. 154.

55. Брянцев П.Д. Польский мятеж 1863 г., с. 157.

56. Архивные материалы Муравьёвского музея, относящиеся к польскому восстанию 1863–1864 гг. в пределах Северо-Западного края. /Составил А.И. Миловидов/. Вильно, 1913. Книга 4, часть 1, с. 122.

57. Тамсама, с. 141–144.

58. Тамсама, с. 179–180.

59. История Лейб-гвардии Павловского полка, составлена подпоручиком Вороновым. СПб.

# ВЫКАНАНЫ АБАВЯЗАК АНТОНА ТРУСАВА



Вітаўт Чаропка, *пісьменнік (Менск)*

Калі знаёмішся з біяграфіяй Антона Трусава, дык шкадуеш, як мала звестак пра яго захавалася да нашага часу. Адрывачная інфармацыя ў тагачасных дакументах (нават жандарская справа за 1884 год «О бывшем студенте Антоне Данилове Трусове» была знішчана), сціплая эпісталярная спадчына, адсутнасць успамінаў (як самога Трусава, так і сучаснікаў і паплечнікаў пра яго) не дазваляюць скласці цэласнага ўяўлення пра гэтага чалавека. Партрэт яго таксама не захаваўся.

Безумоўна, жыццё рэвалюцыянера вымагала ад Трусава скрытнасці і асцярожнасці, захавання ў таямніцы шмат якіх падзей, удзельнікам або сведкам якіх ён быў, але, думаецца, што па характары гэты «чалавек даволі прыемны на людзях і вясёлы» (як пісаў пра яго мінскі чыноўнік К. Свяжынскі) не імкнуўся да лідарства. Пазбаўлены ганарлівых амбіцый, Трусаў заставаўся ў цені сваіх паплечнікаў, добрасумленна і руплівa рабіў сваю працу, не прагнучы ні прызнання, ні славы. Такі «ціхі» гераізм, які не афішыруецца і не ацэньваецца натоўпам, патрабуе ад чалавека цвёрдага пераканання ў патрэбнасці справы.

Сам факт, што Антон Трусаў свядома абраў нялёгкую долю рэвалюцыянера, пайшоў у паўстанне, а пасля яго, жывучы у нястачы, усё ж не адрокся ад свайго выбару, вельмі паказальны. Будучы выхадцам з народных нізоў, які спазнаў і беднасць, і несправядлівасць, і крыўду, Антон Трусаў бачыў сваё прызначэнне ў вызваленні сялян ад прыгону.

## Гады навучання

Нарадзіўся Антон Трусаў 15 мая 1835 года ў Барысаве. Яго бацька Даніла Іванавіч служыў паштальёнам Барысаўскай паштовай канторы. Небагаты выхадзец з мяшчан каталіцкага веравызнання, ён пачаў службу ў 1827 годзе наглядчыкам Юхноўскай паштовай станцыі. Якая гэта была служба, апісана ў аповесці Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна «Станцыйны наглядчык». Наглядчык быў бяспраўным чалавекам, які вымушаны трываць капрызы і здзекі багатых падарожнікаў. Невялікага жалавання ледзь хапала на жыццё. Неўзабаве Даніла Трусаў перавёўся паштальёнам у Барысаўскую паштовую кантору. У Барысаве і нарадзіўся другі яго сын Антон (першым быў Баляслаў). Імя маці хлапцоў засталося невядомым.

Па службе Даніла Трусаў часта пераязджаў з сям'ёй з месца на месца. Ён служыў паштальёнам у Мінску, наглядчыкам паштовых станцый у мястэчках Мінскай губерні, а ў 1847 годзе зноў апынуўся ў Юхнове.

Станаўленню рэвалюцыйных поглядаў і абуджэнню вольналюбівага духу Антона Трусава садзейнічала навучанне ў Мінскай гімназіі, куды ён паступіў у верасні 1845 года. Гімназія славілася сваімі выпускнікамі. У розны час тут вучыліся: кампазітар Станіслаў Манюшка (1819–1872), мастак і рэвалюцыянер Браніслаў Залескі (1820–1880), журналіст і выдавец Іасафат Агрызка (1826–1890), гісторык і грамадскі дзеяч Уладзімір Спасовіч (1829–1906), паэт-рэвалюцыянер Іван Гольц-Мілер (1842–1871). Адначасова з Трусавым у гімназіі вучыліся Аляксандр Ельскі (1834–1916) — у будучым вядомы даследчык беларускай культуры і гісторыі, Канстанцін Ельскі (1837–1896) — у будучым удзельнік паўстання, навуковец і падарожнік, Уладзіслаў Борзабагаты (1831–1886) — у будучым паўстанцкі камісар Навагрудскага павета.

Вольналюбівы дух даўно пранік за сцены гімназіі. Напрыканцы 1840-х гадоў у Мінску дзейнічала аддзяленне рэвалюцыйнай арганізацыі «Братні саюз літоўскай моладзі» на чале з братамі Францішкам і Аляксандрам Далеўскімі. Сябры «Братняга саюза» рыхтавалі паўстанне, прызначанае на 5 красавіка 1849 года. Асаблівую ўвагу яны надавалі агітацыі сярод гімназістаў. Членц «Братняга саюза» П. Вейштар спецыяльна перавёўся з Віленскай гімназіі ў Мінскую, каб стварыць у ёй філіял арганізацыі.

Калі ў 1848 годзе жандары знайшлі ў Мінскай гімназіі рэвалюцыйныя пракламацыі, пачалося следства, па выніках якога два вучні былі аддадзены ў салдаты, а больш за 60 гімназістаў пакараны розгамі (атрымалі ад 25 да 100 удараў). Уладзіслава Борзабагатага выключылі з гімназіі. Невядома, ці атрымаў Антон Трусаў сваю порцыю «бярозавай кашы», але нават калі ён і пазбег пакарання, дык карціна жорсткай расправы над таварышамі і сябрамі не магла не ўразіць яго.

Пасля заканчэння ў 1853 годзе гімназіі Трусаў вырашыў прадоўжыць адукацыю на медыцынскім факультэце Маскоўскага ўніверсітэта. Верагодна, на гэты выбар паўплывала тое, што ў Маскве ўжо былі блізкія яму людзі. Старэйшы брат Баляслаў пасля заканчэння ў Маскве педагагічнага інстытута выкладаў геаметрыю і механіку ў 3-й Маскоўскай рэальнай гімназіі, а аднакласнік Канстанцін Ельскі вучыўся на медыцынскім факультэце ўніверсітэта. Такім чынам, Антон не пачуваў бы сябе адзінокім у вялікім і чужым горадзе. Немалое значэнне мела і прысутнасць ва ўніверсітэце значнай колькасці землякоў з Беларусі, якія разам з выхадцамі з Літвы, Украіны і Польшчы аб'ядналіся ў таварыства «Агул».

І вось 4 ліпеня 1854 года Антон Трусаў падаў прашэнне аб залічэнні ва ўніверсітэт. Іспыты ён здаў паспяхова і быў прыняты на першы курс

медыцынскага факультэта. Але вучоба ішла нялёгка, больш даводзілася думаць аб пражыцці, чым аб навучанні. Гэтым можна растлумачыць той факт, што на працягу двух гадоў Трусаў «слухаў прафесарскія лекцыі, але іспытаў для пераходу на вышэйшы курс не здаваў». Зрэшты, ён падаў прашэнне аб звальненні з універсітэта. Пазней у прашэнні аб аднаўленні ва ўніверсітэце ён пісаў: «Хатнія абставіны вымусілі мяне пакінуць універсітэт». Мы дакладна не ведаем, што гэта былі за абставіны, але можна меркаваць, што ён ахвяраваў вучобай дзеля дапамогі сям'і. Гэта характарызуе Антона Трусава як сардэчнага і добразычлівага чалавека.



*Гурток Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.*
*Верагодна, что першым з правага боку сядзіць Антон Трусаў*

Пасля звальнення з універсітэта Антон правёў чатыры гады ў бацькоў, якія жылі ў Мінску. Ён зарабляў грошы прыватнымі ўрокамі. У сувязях з рэвалюцыйнымі коламі заўважаны не быў, але меў знаёмства з многімі гараджанамі — гімназістамі, дробнымі служачымі, рамеснікамі, што пазней яму паспрыяе пры стварэнні паўстанцкага атрада.

У 1860 годзе Антон вярнуўся ва ўніверсітэт. Да прашэння аб аднаўленні ён прыклаў «пасведчанне аб беднасці», якое давала права на бясплатнае навучанне. На гэты раз Трусаў правучыўся да 1862 года, але невядома, ці закончыў ён універсітэт. Генадзь Кісялёў пісаў у 1963 годзе ў сваёй кнізе «Сейбіты вечнага»:

> «На жаль, у нас няма пакуль што звестак аб удзеле Трусава ў студэнцкім руху», але ўся сукупнасць фактаў дазваляе амаль беспамылкова вызначыць яго месца ў шэрагах маскоўскага рэвалюцыйнага студэнцтва».

З гэтай высновай варта пагадзіцца. Ужо тое, што пасля вяртання з Масквы ў Мінск Трусаў актыўна ўключыўся ў падрыхтоўку паўстання, сведчыць аб падтрымцы ім рэвалюцыйных ідэй.

Адсутнасць звестак аб удзеле Трусава ў студэнцкім руху можна патлумачыць асаблівасцямі яго характару, у першую чаргу сціпласцю і памяркоўнасцю. У тым жа «Агуле» (куды ўваходзілі Канстанцін і Цітус Цалеўскія, Баляслаў Длускі, Уладзіслаў Борзабагаты і іншыя будучыя правадыры паўстання) вылучаўся сваім экспрэсіўным характарам і бурлівай энергіяй Баляслаў Калышка.

Трусаў жа быў непрыкметны, і яго роля ў студэнцкім руху засталася незаўважанай. Прынамсі, пра яго няма згадак падчас студэнцкіх хваляванняў у верасні 1862 года. У той жа час відавочны ўплыў ідэй рускіх рэвалюцыянераў на Трусава. Па ўспамінах паўстанцаў, ён лічыў, што ворагам свабоды палякаў і беларусаў з'яўляецца не рускі народ, а царскі ўрад, а ідэалам рэвалюцыянера для яго быў Рахметаў — герой рамана Мікалая Чарнышэўскага «Што рабіць?». Ды і пазнейшыя падзеі, калі з дапамогай рускіх рэвалюцыянераў Трусаў выехаў за мяжу, сведчаць пра трывалыя сувязі з імі, усталяваныя падчас яго навучання ў Маскоўскім універсітэце.

## Падрыхтоўка паўстання

У другой палове 1861 года ці на пачатку 1862 года Антон Трусаў вярнуўся ў Мінск і ўключыўся ў падрыхтоўку паўстання. Пра гэта сведчаць пазнейшыя паказанні Вітальда Гейштара:

> «З самага пачатку дэманстрацый у г. Мінску я пазнаёміўся са студэнтам Маскоўскага ўніверсітэта Антонам Трусавым. У вольны час, што заставаўся ад службы і сямейных клопатаў, я наведваў яго. Размовы ў большасці былі аб неабходнасці абуджэння ўсеагульнага духу ў народзе, і лічылі, што спяваны гімн гэтаму шмат служыць...»

Такім чынам паводле прызнання В. Гейштара, Трусаў з'явіўся ў Мінск «з самага пачатку дэманстрацый». А пачаліся яны, калі ў горадзе даведаліся аб расстрэле царскімі салдатамі 8 красавіка 1861 года дэманстрацыі ў Варшаве. Па словах сведкі, у мінскіх храмах спявалі польскія патрыятычныя песні і гімны, гараджане насілі жалобу па ахвярах расстрэлу, не праводзілі балі і вясёлыя забавы. Мінскі губернатар граф Эдуард Келер даносіў міністру ўнутраных спраў Пятру Валуеву:

> «Вярнуўшыся з С-Пецярбурга, я знайшоў, што ў горадзе Мінску спяванне гэтае пашырылася яшчэ больш, што яно ўжо адбываецца і ў некоторых павятовых гарадах і мястэчках. Я атрымаў таксама звесткі, што паміж жыхарамі горада Мінска пашыраюцца пракламацыі і раздаюцца рэвалюцыйныя знакі...».

З цягам часу мінчане перайшлі ад заклікаў да супраціўлення. 3 чэрвеня 1862 года адбылося сутыкненне мінчан з казакамі і салдатамі. Гараджане сабраліся каля Залатой Горкі, каб праводзіць арыштаваных палякаў, якіх ноччу гналі па этапу праз Мінск. Яны віталі арыштантаў патрыятычнымі воклічамі. Казакі пачалі адганяць ад этапу людзей тупымі дрэўкам, а тыя, схапіўшы жэрдкі і каменне, далі адпор. Пазней пра гэтую «слаўную бойку» склалі песню:

*Как однажды в ту субботу*
*Шло казаков целу роту,*
*Окружили нас.*
*Окружили тесным строем,*
*Повели нас под конвоем*
*Через Комаровку.*
*Там были кровавые битвы,*
*Там были крови пролиты*
*Наших и врагов.*

Аб гэтай падзеі паведаміў часопіс Аляксандра Герцана «Колокол» у артыкуле «Генерал-губернатар Кушалеў-Мінскі і перамогі яго». Пасля такой агалоскі часовага ваеннага губернатара Мінскай губерні генерал-маёра С. Кушалева (які, па словах Янкі Лучыны*, быў чалавекам неблагім, «прынамсі значна лепшы за сваіх пераемнкаў») знялі з пасады. Былі зменены і маршруты этапаў. Цяпер арыштанты не праходзілі праз горад.

17 ліпеня 1862 года мінскія гімназісты пакінулі заняткі і пайшлі ў касцёл на ўрачыстае набажэнства, прысвечанае паўстанню 1831 года. У адказ гарадское начальства, каб пакончыць з вальнадумствам, часова закрыла гімназію.

Прыкладна ў гэты час у Мінску была створана рэвалюцыйная арганізацыя. Вядучую ролю ў ёй адыгрывалі «чырвоныя» на чале з Антонам Трусавым. У арганізацыю ўваходзілі памешчык Карнэлі Пялікша (ваявода Мінскі), Баляслаў Свентаржэцкі (камісар Мінскага ваяводства), Адам Ваньковіч (начальнік Мінскага павета), доктар Пятро Чакатоўскі (начальнік Мінска) і іншыя. Яны стваралі павятовыя рэвалюцыйныя органы, распрацоўвалі планы дзеянняў паўстанцкіх атрадаў, рыхтавалі зброю і вайсковы рыштунак, займаліся агітацыяй сярод насельніцтва. Як лічыць даследчык паўстання Анатоль Смірноў, «першапачатковым намерам паўстанцаў Міншчыны быў намер перайсці Бярэзіну і злучыцца з атрадамі Звяждоўскага ў Магілёўскай губерні».

Трусава часта можна было ўбачыць на гарадскіх вуліцах, апранутага ў сялянскае адзенне. Ён гутарыў з людзьмі, цікавіўся іх настроямі, схі-

---

* Янка Лучына (сапр. Неслухоўскі; 1851–1897) — беларускі паэт. Ён таксама аўтар нарыса «З крывавых дзён» (1889), у якім апісаны падзеі паўстання 1863 г. на Міншчыне.

ляў тых, хто выклікаў у яго давер, да ўдзелу ў паўстанні. Так было, напрыклад, з канцылярыстам Дамінікам Жукоўскім. Пазней у сваіх паказаннях той сведчыў:

> «Трусаў сустрэў мяне на вуліцы, спытаў, ці пайду я, і калі я яму адказаў, што, магчыма, і пайду, дык сказаў мне, каб я ішоў з ім і што пра час выхаду мне скажа і ўсё патрэбнае, як: зброю, порах і кулі — сам дастане. На тое я згадзіўся. [я] далучыўся ж да мяцяжу ўласна па загаду сэрца, што дзе гінуць тысячы, там і мне не трэба ўхіляцца...»

Такіх людзей нават агітаваць не трэба было. Ім толькі патрэбны быў правадыр, яны давяралі Трусаву і гатовы былі ісці за ім.

Вось што расказваў следчай камісіі былы студэнт Маскоўскага ўніверсітэта 24-гадовы Аляксандр Дражневіч:

> «18 мінулага красавіка, раніцай запытаны я быў на вуліцы адным з жыхароў г. Мінска Антонам Трусавым, ці прымаю я ўдзел у паўстанні. Я адказаў: «Так». — «Дык будзь гатовы ва ўсякі час, — сказаў ён, — магчыма, і заўтра давядзецца нам пакінуць Мінск». — «Я гатовы, — сказаў яму, — адзенне, бялізну, боты маю». — Пры вышэй адзначанай размове з Трусавым я заўважыў, што не маю ніякай зброі. — «Не турбуйся», — сказаў ён, — ружжо будзе, а толькі выходзь».

Той жа Вітальд Гейштар сведчыў:

> «З часу з'яўлення Трусава ў г. Мінску, як вядома, у простанародным адзенні, ён мяне зацікавіў, і я стараўся ўсяляк з ім пазнаёміцца, тым больш, што пра яго гаварылі як пра чалавека, які прыняў на сябе не толькі вонкавую форму селяніна, але што і яго мэта, і прапаганда імкнуцца да дасягнення роўнасці ў класах народа».

Гейштар пазнаёміўся з Трусавым, атрымаў ад яго некалькі нумароў газеты «Рух», якую выдаваў Цэнтральны нацыянальны камітэт у Варшаве.

Сярод блізкіх памочнікаў Антона Трусава была і яго 18-гадовая сястра Эмілія. На яе мінскі адрас прысылалі лісты сасланыя ў глыб Расійскай Імперыі ўдзельнікі рэвалюцыйнага руху. Пра гэта царскія ўлады даведаліся ўжо пасля задушэння паўстання. Паводле пастановы памочніка ваеннага начальніка Паўночна-Заходняга краю генерала Патапава, Эміліі Трусавай у 1864 годзе «за зносіны з палітычнымі злачынцамі і нашэнне забароненага адзення» было прадпісана выплаціць штраф у памеры 300 рублёў серабром. Яе аддалі пад паручыцельства бацькоў з устанаўленнем за ёй паліцэйскага нагляду. Паколькі ні ў Эміліі, ні ў яе бацькоў не было такой сумы, то ўлады «міласціва» змянілі штраф на турэмнае зняволенне.

Напрыканцы 1862 года Антон Трусаў уладкаваўся пісарам у Латыгаліцкае валасное праўленне Барысаўскага павета. Магчыма, ён хацеў

пазбегнуць рэпрэсій з боку царскіх улад, што пачаліся ў Мінску, ці (як лічыць Г. Кісялёў) пераехаў, «каб мець непасрэдны ўплыў на сялян», ці проста скарыстаўся вакансіяй з мэтай паправіць сваё матэрыяльнае становішча. Немалаважна і тое, што ў правінцыі Трусаву было лягчэй сустракацца з ваенным начальнікам Мінскага ваяводства падпаручнікам Пецярбургскай артылерыйскай акадэміі Станіславам Ляскоўскім, каб вызначыць месцы будучых стаянак паўстанцкіх атрадаў, азнаёміцца з мясцовасцю іх дзейнасці.

Калі ў студзені 1863 года ў Польшчы выбухнула паўстанне, мінскія рэвалюцыянеры пачалі дзейсна рыхтавацца да выступлення: здабывалі зброю, адлівалі кулі, набывалі праз гандляроў-яўрэяў порах і амуніцыю. Як пісаў Янка Лучына ў сваім нарысе «З крывавых дзён», яны «кожную хвіліну чакалі выбуху». Аб становішчы ў Мінску данесіў 7 лютага 1863 года шэфу корпуса жандараў князю В. Даўгарукаву жандарскі палкоўнік Б. Рэйхарт:

> «Апошнія падзеі ў Царстве Польскім зноў устрывожылі галовы тутэйшых патрыётаў, а асабліва закруцілі галовы вучняў мінскай гімназіі, моладзь падшуквае зброю і робіць збор грошай, выбраўшы дзеля гэтага з асяроддзя зборшчыкаў, якія нахабна патрабуюць ад таварышаў хоць капеечныя ахвяраванні, і выказваліся пры гэтым так: «цяпер грошы патрэбны на важныя справы, а каго не будзе з намі, таму кулю ў лоб; настаў час знішчыць ворага ўсімі захадамі, адкрыта ваяваць яшчэ не можам».

Каб прадухіліць ці хоць бы аслабіць выбух паўстання ў Мінску, 16 лютага 1863 года была адноўлена Следчая камісія па палітычных справах пад старшынствам таго ж Б. Рэйхарта. Пачаліся арышты, высылкі падазроных і нядобранадзейных асоб у глыб імперыі. У Мінск сцягваліся войскі — пяць батальёнаў Велікалуцкага пяхотнага палка, адна артылерыйская батарэя і тры сотні казакоў — усяго каля дзвюх тысяч чалавек. А неўзабаве ў горад пачалі прыходзіць весткі аб з'яўленні паўстанцаў у Віленскай, Ковенскай і Гродзенскай губернях. Мінскія паўстанцы планавалі выступленне на 19 красавіка, пры гэтым на ўскраінах Мінскай губерні ўжо напрыканцы зімы дзейнічалі паўстанцкія аддзелы — Рамана Рагінскага ў Слуцкім павеце, Вінцэнта Козела ў Віленскім павеце.

Антон Трусаў вярнуўся ў Мінск і зноў заняўся вярбоўкай паўстанцаў, каб стварыць паўстанцкі атрад. Той жа Вітальд Гейштар у паказаннях узгадвае пра дзейнасць Трусава:

> «...У далейшым, калі пачалі арганізацыю, і гэта перад самым Вялікаднём, вярнуўшыся з адпачынку, даведаўся, што прыехаў Трусаў у горад, таму што яго ў горадзе доўга не было, пайшоў да яго, і ён прапанаваў мне быць у ягоным дзясятку, а таму мяркую, што арганізацыя на-

ладжвалася такім жа чынам, як у Царстве Польскім, але нас навучылі трымаць у самай глыбокай таямніцы, што належу да арганізацыі і да каго менавіта...»

Гейштар не памыляўся ў тым, што мінская арганізацыя была створана па ўзору іншых арганізацый Польшчы, Літвы і Беларусі. У мэтах канспірацыі яна падзялялася на дзясяткі, чальцы якіх не ведалі чальцоў іншых. Нават чальцы адной дзясяткі не ведалі яе поўны склад. Таму Гейштар да апошняга моманту не ведаў статусу Трусава ў рэвалюцыйнай арганізацыі:

> «Я яго проста лічыў сваім дзясятнікам, а ведаў, што, мабыць, ёсць і сотнікі, але хто ён быў у сапраўднасці, дык пераканаўся, калі прыйшоў на пункт (збору паўстанцаў), і ён стаў называцца начальнікам, дык у той час мяркуючы, што начальнікі, мабыць, прызначаюцца з сотнікаў, цяпер магу вывесці, што ён быў сотнікам».

З прыведзеных слоў можна зрабіць выснову, што Антон Трусаў быў майстрам канспірацыі, таму нядзіўна, што мы маем так мала звестак пра яго. З гэтага сведчання вынікае і тое, што менавіта Трусаў арганізаваў мінскіх паўстанцаў і ўзначаліў іх.

З паказанняў паўстанца Дамініка Кржыжаноўскага, з якім Трусаў пазнаёміўся ў кандытарскай на Зборавай вуліцы, можна даведацца аб яго поглядах:

> «...Трусаў, прыцягваючы мяне да сябе, пастаянна гаварыў, што, як я сам ведаю пэўна, у Царстве Польскім ужо даўно вайна і б'юцца за зварот канстытуцыі, так цяпер і на Літве таксама патрабуюць той жа Канстытуцыі і што кожны сумленны чалавек павінен ісці на вайну...»

Вось як сумленны чалавек Трусаў і пайшоў на вайну з царызмам.

## Дзеянні паўстанцаў

Раніцай 19 красавіка 1863 года, абыходзячы паліцэйскія пасты, паўстанцы выходзілі з Мінска і збіраліся за Залатагорскімі могілкамі. Сабралася каля 20 чалавек, якіх узначаліў пісар Мінскай грамадзянскай палаты Васіль Канапацкі. Напярэдадні ён атрымаў ад Антона Трусава інструкцыю ісці па Барысаўскім тракце ў Ігуменскі павет да вёскі Клінокі на злучэнне з атрадам Станіслава Ляскоўскага.

«З трапяткімі сэрцамі, з галовамі, поўнымі мараў аб гераічных учынках, да здзяйснення якіх кожны адчуваў сябе готовым, мінскія партызаны рушылі са сваім тагачасным камандзірам Канапацкім», — пісаў Янка Лучына. У Сляпянскім лесе паўстанцаў чакала падвода са зброяй і правіянтам. Стралкі атрымалі па дзесяць зарадаў — няшмат, каб супрацьстаяць аддзелам царскай арміі.

Другая група мінскіх паўстанцаў сабралася каля вёскі Прылукі на Койданаўскім тракце. Узначаліў яе былы афіцэр царскай арміі пад псеўданімам Ян Пілечка. Паўстанцы ўзялі на Прылуцкай паштовай станцыі коней і падводы і рушылі на Вязань і Станькава. Па дарозе да іх далучыўся паўстанцкі ваенны начальнік Мінскага павета, адстаўны афіцэр Павел Дыбоўскі.

Сам Антон Трусаў, які ўзяў псеўданім Цітус, узначаліў групу, што сабралася за Камароўкай каля фальварка Халяўшчына. Вось што казаў аб атрадзе Трусава падчас следства паўстанец Стэфан Пянькевіч:

«Я ў партыі ўсіх застаў ужо ўзброенымі, і калі я прыбыў туды, дык Трусаў запытаўся ў мяне, ці маю я якое-небудзь узбраенне. Я адказаў, што не, дык ён і загадаў даць мне стрэльбу чалавеку, у якога была яшчэ, акрамя стрэльбы, нейкая піка. Партыя ж большай часткай была ўзброена стрэльбамі, паўшаблямі, пісталетамі і пікамі... Партыя была падзелена на некалькі дзясяткаў...».

Самай вялікай бядой, агульнай для ўсіх атрадаў, была адсутнасць у паўстанцаў баявога вопыту. Пераважную большасць з іх складалі рамеснікі і гарадская бедната, якія так і не прызвычаіліся да цяжкасцей і выпрабаванняў. Сяляне ж у большасці сваёй не падтрымалі паўстання. Яны толькі казалі: «Няхай Бог таму памагае, хто для нас будзе добры». Ваяваць жа не ішлі. І ўсё ж падтрымка сялян значна дапамагала паўстанцам. Вацлаў Кошчыц* сведчыў:

«Паведаміць што-небудзь атраду, даставіць каго або схаваць, здабыць харчы, высачыць рух царскіх войскаў — усё гэта рабілі амаль выключна сяляне, таму што астатнія баяліся... Калі б паняцце нянавісці да паўстання было агульным у народзе, то яно нават 48 гадзін не магло існаваць».

Вось і атрад Трусава вёў у Ігуменскі павет на злучэнне з атрадам Станіслава Ляскоўскага праваднік-селянін. Аляксандр Дражневіч узгадваў падчас следства:

«Каля Трасцянца знайшлі мы яшчэ чалавек да дзесяці з лішнім, відаць, з рамеснікаў, мяркуючы па простанароднай іхняй гаворцы. У ліку іх быў у кажушку і белым простанародным капелюшы здаровы малады чалавек з загарэлым тварам, які, перагаварыўшы з Трусавым, аб'явіў, што будзе нашым правадніком і давядзе нас да «вялікай партыі», і з гэтага часу мы ішлі за ім».

Так пачалося доўгае блуканне атрада Трусава па лясах. Каля вёскі Пуцічола да яго далучылася група Канапацкага, у Валмянскіх лясах —

---

* Псеўданім аўтара кнігі «Успаміны з паўстання 1863 года ў Мінскай губерні», выдадзенай у 1875 годзе.

група колькасцю 50 чалавек, якіх прывёў з Мінска Ціт Красоўскі. Цяпер атрад налічваў больш за 90 чалавек. Ён рушыў да Клінокаў, але атрада Ляскоўскага там не застаў. Ляскоўскі і яшчэ адзін правадыр паўстанцаў Снітко са сваімі атрадамі перайшлі Бярэзіну каля вёскі Якшыцы, спалілі паромы і знішчылі тэлеграфную сувязь. Яны мелі намер ісці ў Магілёўскую губерню на злучэнне з атрадам Людвіга Звяждоўскага, але неўзабаве атрымалі вестку аб разгроме магілёўскіх паўстанцаў і вярнуліся ў Ігуменскія лясы.

Пазней Стэфан Пянькевіч паведаміў следству:

> «Такім чынам мы дайшлі да вёскі Пятровічы, а адтуль — цераз балота ў бліжэйшы лес. Там мы прастаялі ад суботы вечара да нядзелі, перад апоўднем даведаліся праз пікеты, што рускае войска прыйшло ў вёску Пятровічы... большасцю галасоў вырашылі выступіць на пазіцыю, г. зн. на поле перад лесам, туды ўжо праз некалькі хвілін прыйшлі і войскі, і тут пачалася перастрэлка, але яна доўга не працягвалася... Атрымаўшы некалькі ўдараў штыкамі, я страціў прытомнасць і прыйшоў да памяці ўжо ў шпіталі».

Бой каля вёскі Пятровічы (Ігуменскага павета) адбыўся 28 красавіка 1863 года. Паўстанцаў атакаваў атрад у 160 чалавек пяхоты Сеўскага палка пад кіраўніцтвам капітана Багаеўскага. У сваім рапарце Багаеўскі адзначыў, што ўзяў у палон трох параненых паўстанцаў і захапіў трафеі — 5 стрэльбаў, 2 пісталеты, 10 фунтаў пораху, 5 коней, падводу, 100 куль, 20 парахаўніц і збрую. Трусаў вывеў атрад з-пад знішчальнага агню і выратаваў яго ад разгрому. Тым не менш Багаеўскі палічыў патрэбным паведаміць начальству, што «шайка сапраўды знішчана». Гэта дало начальству падставу занесці бой пад Пятровічамі ў афіцыйны «Журнал ваенных дзеянняў» як бліскучую перамогу царскіх войскаў:

> «...Паводле данясення Багаеўскага, мяцежнікаў забіта да 30 чалавек, трое ўзята ў палон, трое паранена, параненыя адпраўлены ў Мінск, па дарозе з іх памерлі двое (трэці паранены — адстаўны юнкер першай артылерыйскай брыгады Стэфан Пянькевіч); з нашага боку паранены адзін радавы і, ужо пасля справы, на прывале, батальённы лекар Данілаў — з лесу».

Вось такім чынам у рапартах царскія ваякі «перамагалі» паўстанцаў і заслугоўвалі сабе ўзнагароды.

Другі бой атрад Трусава правёў 30 красавіка 1863 года каля вёскі Сініло супраць 7-й роты Велікалуцкага пяхотнага палка пад кіраўніцтвам штабс-капітана Ілякевіча. Салдаты спыніліся на адпачынак у вёсцы і ў 2 гадзіны ночы збіраліся прадоўжыць шлях. Нечакана з боку Смілавіч у вёску заехалі 15 паўстанцаў на трох параконных падводах. Для паўстанцаў сустрэча з салдатамі з'явілася нечаканасцю, і яны збянтэжыліся, нават не змаглі даць адпор салдатам, якія падбеглі да пярэдніх пад-

вод. Восем паўстанцаў, сярод якіх быў часова адпушчаны салдат лейб-драгунскага Маскоўскага палка Іван Жмачынскі (расстраляны ў Мінску 17 жніўня 1863 года), трапілі ў палон. Астатнія паспелі даць залп і ўцячы.

Гэтая сутычка напалохала мінскае начальства, бо былі «атрыманы весткі аб намеры мінскіх паўстанцаў учыніць беспарадкі ў самім горадзе». У «Журнале ваенных дзеянняў» рабіліся перасцерагальныя высновы:

> «Хоць цяжка меркаваць, каб яны рашыліся на нешта сур'ёзнае ў горадзе (Мінску. — *В.Ч.*), які мае батарэю артылерыі і 10 рот пяхоты; тым не менш нельга было цалкам адмаўляць магчымасць якога-небудзь неразумнага з іх боку запалу: рашыліся ж 30 красавіка 15 чалавек распачынаць справу з цэлай ротай у Сініло. Таму ў горадзе прыняты самыя строгія меры засцярогі».

Вось так групка паўстанцаў устрывожыла шматлікі мінскі гарнізон. Думаецца, яны былі ар'ергардам атрада Трусава і, самі таго не жадаючы, нарваліся на царскіх салдат. Пасля адступлення яны папярэдзілі Трусава аб небяспецы, і ён паспеў пераправіцца цераз рэчку на вачах салдат, якіх спыніў ад праследавання агонь паўстанцаў.

Зноў пачаліся блуканні па лясах. Вітальд Гейштар узгадваў:

> «...Пасля гэтага адправіліся лесам сам не ведаю куды, а толькі чуў, што на пункт, дзе павінны знайсці ваеннага начальніка... Хопіць таго, што дарога, па якой мы ішлі, для мяне была зусім незнаёмая і ўсе хадзілі прасёлачнымі дарогамі, рэдка калі выходзілі на бальшак і тое хутка яго пакідалі, адзін раз гаварылі, што мы ў Ігуменскім павеце, другі раз, што ў Барысаўскім, і ў такіх пастаянных паходах удзень і ўначы хадзілі амаль тыдзень, кожны раз абяцаючы прывесці нас на нейкі пункт, дзе будзе начальнік, але гэтыя паходы нас хутка знясілілі, пачаліся наракані».

Зразумела, што такое «блуканне» падрывала баявы дух паўстанцаў, таму нядзіўна, што атрад значна парадзеў. Але нарэшце атрад Антона Трусава злучыўся з атрадам Станіслава Ляскоўскага.

***

Пра Ляскоўскага вядома няшмат. Нарадзіўся ён у 1840 годзе ў Мінскім павеце. У 1859 годзе закончыў Канстанцінаўскае ваеннае вучылішча ў Пецярбургу, атрымаў званне артылерыйскага паручніка. Потым у 1860–62 гг. вучыўся ў Пецярбургскай артылерыйскай акадэміі, уваходзіў у ваенна-рэвалюцыйную арганізацыю. Разам з Зыгмунтам Сераkоўскім, Людвігам Звяждоўскім, Міхаілам Гейдэнрыхам, Юзафам Галензоўскім, Баляславам Свентаржэцкім, сваім братам Ігнаціем Ляскоўскім і іншымі ўдзельнічаў у нарадзе ў Вільні, на якой абмяркоўваўся план паўстання. Пасля атрымання прызначэння на пасаду ваеннага на-

чальника Мінскага ваяводства распрацаваў план паўстання на Міншчыне. Паводле выказвання Вацлава Кошчыца, «малады Ляскоўскі адыграў у Мінску тую ж ролю, што Серакоўскі ў Жамойці».

Атрад Ляскоўскага фарміраваўся ў Багушэвічах — маёнтку паўстанцкага камісара Мінскай губерні Баляслава Свентаржэцкага, таму яго часам называлі «партыяй Свентаржэцкага». 17 красавіка ў Багушэвічах сабралася каля 30 чалавек — дробная шляхта, дваровыя слугі паноў. Стала вядома, што Ляскоўскі быў арыштаваны ў Лядах прыезджымі афіцэрамі. На яго вызваленне Свентаржэцкі паслаў чатырох паўстанцаў. Але калі яны дабраліся туды, дык сустрэлі аднаго Ляскоўскага. Афіцэры адпусцілі яго і адправіліся сваім шляхам. Пэўна, спалохаліся агалоскі самазабойства спадарожніка Ляскоўскага, які, баючыся расправы, паконччыў з жыццём. Траплялся вось і такія слабыя духам паўстанцы.

Ляскоўскі ўзначаліў атрад, які прывёў у Ляды Свентаржэцкі. У вёсцы Пагарэлае паўстанцы зачыталі маніфест, а ў мясцовасці Французская Грэбля да атрада далучылася 35 чалавек з Ігумена. У Суціне атрад папоўніўся 18 паўстанцамі з Мінска, якіх прывёў канцылярыст Юліян Сушчэвіч, і паўстанцамі са Слуцка (на чале з настаўнікам Дамброўскім). Таксама да атрада далучылася 10 чалавек мясцовай шляхты. Усяго Ляскоўскі сабраў каля 150 чалавек.

Ён падзяліў атрад на «шасткі», якія складаліся з пяці радавых і аднаго «шастакара»; 5 шасткоў утваралі «плутон» (плутонг). Паводле паказанняў студэнта Маскоўскага ўніверсітэта Генрыха Станкевіча, паўстанцы Ляскоўскага былі «ўзброены большай часткай двухстволкамі, некаторыя штуцарамі, а астатнія аднастволкамі, халодную зброю мела вельмі мала асоб, пісталетаў таксама было няшмат». З такім узбраеннем паўстанцы відавочна не маглі супрацьстаяць рэгулярнаму войску. Тым не менш доўгі час царскія карнікі не маглі разбіць атрад Ляскоўскага:

«Прычына таму заключалася ў тым, што Ляскоўскі, як паказалі палонныя паўстанцы, увёў парадак і дысцыпліну, строга караў парушальнікаў гэтага, прывучыў паўстанцаў здымацца з пазіцыі ў некалькі хвілін. Займаючы ж увесь час для начлегаў самыя непраходныя лясы, ён захоўвае найвялікшыя перасцярогі».

Сваёй базай Ляскоўскі выбраў Ігуменскі лес. «У ім, — паведамляў царскі афіцэр, — няма дорог, нават лясныя сцежкі загрувашчаны натуральным завалами». Ляскоўскі вельмі ўдала выкарыстоўваў прыродныя ўмацаванні. Так, сотнік данскіх казакоў Цітоў 26 красавіка даносіў начальству:

«...З гэтага боку Суціна я знайшоў мост раскіданым і з бярвёнаў і маставой насцілкі складзена нешта накшталт рэданта, а на самым беразе рэчкі насыпаны вал, каб абстрэльваць вугал рэданта і увесь даволі глы-

бокі, брод; наогул цяжкадаступная балотная мясцовасць размяшчэннем маставых прыкрыццяў да таго ўмацавалася, што ўзяць яе адной пяхотай без значнай страты было немагчыма».

Поспеху паўстанцаў садзейнічала і падтрымка мясцовага насельніцтва, якое дастаўляла звесткі і прадукты. Паўстанец Ігнацій Азямблоўскі, надзелены акцёрскім дарам, перапрануўшыся ў яўрэя, раз'язджаў па наваколлі і даведваўся ад яўрэйскіх карчмароў аб дыслакацыі і руху царскіх войскаў.

Аднак першая ж сутычка з царскімі войскамі была для атрада Ляскоўскага няўдалай. 29 красавіка атрад выступіў да Лядаў, праз якія ішоў этап палітычных арыштантаў. Паўстанцы напалі на ахову, забілі аднаго салдата і яшчэ аднаго паранілі, шасцярых узялі ў палон і раззброілі, але пасля адпусцілі. Арыштанты ўступілі ў атрад. А ў гэты час на паўстанцкі лагер, які знаходзіўся ў лесе, напаў атрад з Новаінгерманландскага пяхотнага палка. Пасля кароткай перастрэлкі нешматлікая ахова лагера разбеглася, пакінуўшы на полі бою трох забітых. Адзін паўстанец быў схоплены. Пераможцам дастаўся абоз у 20 падвод з прадуктамі і вайсковымі запасамі, што моцна ўскладніла становішча паўстанцаў.

* * *

Менавіта пасля гэтай няўдалай для паўстанцаў сутычкі да атрада Ляскоўскага далучыўся атрад Трусава. Антон Трусаў выканаў пастаўленую перад ім задачу і прывёў мінскіх паўстанцаў да галоўнага атрада. У паказаннях палонных паўстанцаў Трусаў не называецца сярод кіраў-



*Злучэнне паўстанцкіх атрадаў*

нікоў атрада Ляскоўскага. Пэўна, ён не ўвайшоў у склад кіраўніцтва, разумеючы, што ад яго, цывільнага чалавека, будзе мала карысці на начальніцкай пасадзе.

Царскія ўлады кінулі значныя сілы на знішчэнне «шайкі Свентаржэцкага». 9 мая атрад з трох рот Велікалуцкага палка і 50 казакоў пад началам маёра Грыгор'ева за 5 вёрст ад вёскі Юравічы напаў на паўстанцаў. Паводле рапарта падпалкоўніка Чурскага, «...мяцежнікі зрабілі завалы з тоўстых ссечаных дрэў, з-за якіх пры нападзе на іх біліся насмерць, кожны завал трэба было браць прыступам. Жорсткі бой доўжыўся 2 гадзіны, пасля чаго мяцежнікі (іх, паводле меркавання маёра Грыгор'ева, было да 400 чалавек) кінуліся бегчы ў розныя бакі. Атрад гнаўся за імі больш за 2 вярсты, надыход вечара прымусіў спыніць праследаванне».

Паўстанцы страцілі 19 чалавек забітымі, 5 былі ўзяты ў палон. Страты царскіх войскаў былі наступныя: забіты адзін начальнік роты і 9 салдат, 24 цяжка паранены (з іх 5 неўзабаве памерла) і 12 лёгка паранены. Каб неяк апраўдаць такія значныя страты, маёр Грыгор'еў пісаў, што атрад паўстанцаў налічвае «да 400 чалавек». Паводле ж прызнання палонных, паўстанцаў было каля 130 чалавек.

Пасля бою сабралася 70 чалавек, сярод якіх быў і Антон Трусаў. Атрад падзяліўся на дзве часткі. Свентаржэцкі са сваёй часткай адправіўся ў Багушэвічы, каб пакараць папа Канапасевіча. Гэты «божы служка» вылучаўся заўзятай нянавісцю да паўстанцаў, ездзіў з казакамі і ўгаворваў іх «праследаваць шайку». Пасля бою пад Юравічамі, калі паранены паўстанец папрасіў вады, поп насыпаў яму у рот пяску. Такога паўстанцы не маглі даравадь. Канапасевіча павесілі на варотах яго ўласнага двара. Пасля гэтага Свентаржэцкі, паводле паказанняў слуцкага гімназіста Станіслава Чыжа, «нікому нічога не сказаўшы, знік». Застаўшыся без начальніка, паўстанцы разышліся хто куды. Ужо нагаданы намі Станіслаў Чыж з 4 таварышамі блукаў па Ігуменскіх лясах, дзе неўзабаве сабралася каля 40 паўстанцаў.

Сляды Свентаржэцкага адшукаліся ў Маскве, куды ён патаемна прабраўся, выдаючы сябе за «жыда-гандляра», думаецца, для наладжвання «шляхоў адыходу» за мяжу. Невыпадкова, што пазней Міхаіл Аскерка, які прыняў пост камісара Мінскага ваяводства, праз Вітальда Парфіяновіча перадаваў Свентаржэцкаму 480 рублёў для падрыхтоўкі ўцёкаў за мяжу. Відавочна, што Свентаржэцкі дзейнічаў са згоды Ляскоўскага, бо ліст таго, перададзены праз Аскерку, Парфіяновіч прывёз у Пецярбург. У лісце Ляскоўскі прасіў свайго сябра, афіцэра Артылерыйскай акадэміі Уладзіміра Колесава выслаць яму два пашпарты. Але Парфіяновіч не знайшоў Колесава і спаліў ліст, а грошы аддаў прыхільніку паўстання, былому обер-сакратару Сената Вітальду Баранецкаму, каб той пераслаў іх у Маскву Свентаржэцкаму.

Па інструкцыі Аскеркі, Парфіяновіч у выпадку няўдачы ў Пецярбургу павінен быў ехаць у Маскву да студэнта Маскоўскага ўніверсітэта Мікалая Бярнацкага. З паказанняў Парфіяновіча незразумела, ці зрабіў ён так на самай справе. Тым не менш ці ад Бярнацкага, ці іншымі шляхамі Ляскоўскі і Трусаў усё ж атрымалі пашпарты, а пасля скарысталі грошы, атрыманыя ад Свентаржэцкага, для выезду за мяжу.

Аднак пакуль што Ляскоўскі са сваім атрадам хаваўся ў нетрах Багушэўскай пушчы. Паўстанцы знайшлі тут добрыя натуральныя ўмацаванні з велізарных калод і вывернутых дрэў, паваленых адно на адно. Адзін з паўстанцаў успамінаў:

> «Пры невялікай дапамозе чалавечай рукі ўзнікла крэпасць, апярэзаная з трох рагоў ляснымі «засекамі» і «заваламі».Гэтыя барыкады, што высока грувасціліся ў маляўнічым бязладдзі, нагадвалі старажытныя ўмацаванні славянскіх народаў і нялёгка даставаліся ворагу. Лясныя багны стваралі і натуральны роў, які ўсё ж такі стрымліваў смеласць варожых пераходаў».

Ды прыходзілі паўстанцы з разбітых атрадаў. Так, у пачатку чэрвеня Мельхіёр Ванькові́ч прывёў з Мінска групу паўстанцаў. Далучылася да атрада і група Станіслава Чыжа. Паступова атрад вырас да 200 чалавек.

Галоўнаму душыцелю паўстання Віленскаму генерал-губернатару М. Мураўёву не давалі спакою дзеянні паўстанцаў у Мінскай губерні, асабліва ў Ігуменскім і Барысаўскім паветах. Ён прызначыў у Мінск новага ваеннага губернатара — генерал-лейтэнанта В. Забалоцкага. Супраць атрада Ляскоўскага былі кінуты значныя сілы — 12 стралковых рот на чале з новым Ігуменскім ваенным начальнікам генерал-маёрам Ф. Русінавым. 7–8 чэрвеня царскія войскі акружылі Багушэўскую пушчу. Раніцай 9 чэрвеня яны рушылі з Раваніч, Дубароўчы, Юравічаў, Мікулічаў у пушчу. Ляскоўскі падзяліў атрад на дробныя групы, каб паўстанцам лягчэй было выйсці з акружэння. 14 гадзін царскія салдаты прачэсвалі пушчу. У «Журнале ваенных дзеянняў» адзначана:

> «Шмат было слядоў, сустракаліся пакінутыя біvakі, трапляліся нават непатушаныя вогнішчы, з яснымі прыкметамі нядаўняга знаходжання мяцежнікаў, але шайкі не адкрыта».

І ўсё ж карнікі натыкнуліся на групу з 40 чалавек, якой кіраваў сам Ляскоўскі. Паўстанцы далі залп па салдатах, а пасля бясследна зніклі. «Журнал...» паведамляе:

> «Войскі паспелі зрабіць некалькі дзясяткаў стрэлаў, праследавалі ўцекачоў на працягу вярсты, але, нягледзячы на дбайнасць солдат, дагнаць было немагчыма, незвычайная гушчыня лесу, загрувашчанага буреломам, які цягнуўся некалькі дзясяткаў вёрст, схавала ўцекачоў».

Атрад Ляскоўскага выйшаў з акружэння без значных страт. Царскія салдаты ўзялі ў палон 8 хворых паўстанцаў, захапілі 12 коней, 4 дзежкі пораху, 4 стрэльбы і 43 касы.

Пасля гэтага пачалося сапраўднае паляванне на паўстанцаў Ляскоўскага. Салдаты перакрылі ўсе прасёлачныя шляхі. 13 чэрвеня каля фальварка Лочын у Бабруйскім павеце паўстанцаў атакавалі салдаты Смаленскага палка пад началам падпалкоўніка Зыкава і сотня казакоў. У баі загінулі 4 паўстанцы, адзін быў паранены, 20 трапілі ў палон. Яшчэ 23 паўстанцаў (сярод якіх быў і ваенны начальнік атрада Гектар Карказовіч) затрымалі пасля бою сяляне. Паводле паказанняў Аляксандра Падаліцкага, «Ляскоўскі з адным з Мінска, высокага росту бялявым маладым чалавекам уцяклі каля двара Лочын і Пагарэлага». Можна выказаць здагадку, што гэтым маладым чалавекам быў Антон Трусаў. На жаль, у нас няма ні партрэта Трусава, ні яго славеснага апісання, каб пацвердзіць ці абвергнуць яе.

У «Журнале ваенных дзеянняў» адзначалася:

> «Няспынныя рухі атрадаў, зробленыя ў першай палове чэрвеня, мелі вынікам калі не канчатковае знішчэнне, то поўнае рассеянне шаек Свентаржэцкага, Карказовіча (узятага пасля бою 13 чэрвеня ў палон) і Ляскоўскага... Некаторыя з мяцежнікаў праз адну адсутнасць ежы ўжо добраахвотна здаліся войскам і сялянам для прадастаўлення іх мясцоваму начальству. Так зрабіў адзін з правадыроў Гектар Карказовіч... Ды і сам Баляслаў Свентаржэцкі, як відаць з апошніх вельмі верагодных паказанняў аднаго селяніна, што размаўляў з ім, даведзены да такога становішча, пры якім думка аб самагубстве не раз мусіла западаць яму ў галаву. Што ж да Ляскоўскага, то ён нібы знік з выбранай ім для сваёй злачыннай дзейнасці арэны».

Пра Трусава згадак няма.

Неўзабаве Ляскоўскі і Трусаў аднавілі атрад і прадоўжылі барацьбу. 23 ліпеня каля вёскі Валадута паўстанцы захапілі начальніка 3-й рэзервовай дывізіі генерал-лейтэнанта Грунта, які ехаў з Ігумена ў Барысаў у суправаджэнні пісара і дзеншчыка. Ляскоўскі «прыветліва» паставіўся да генерала, агледзеў яго паперы і забраў 300 з 400 казённых рублёў, а пасля «папрасіў прабачэння і выказаў шкадаванне, што генерал быў патрывожаны памылкова». Генерала і яго людзей адпусцілі. Паўстанцы праявілі высакароднасць, вартую перамогі.

Атрад Ляскоўскага прадаўжаў знаходзіцца ў лясах Ігуменскага і Барысаўскага паветаў. У верасні Ляскоўскі абвясціў аб намеры ісці ў Царства Польскае. Аднак 11 чалавек адмовіліся следаваць за сваім начальнікам, і ён адпусціў іх. У атрадзе засталося 90 паўстанцаў. Па дарозе ў Царства Польскае іх колькасць яшчэ зменшылася. Напрыканцы кастрычніка, калі атрад знаходзіўся ў Навагрудскім павеце, ён налічваў усяго 40 чалавек. Палонны паўстанец Мельхіёр Чыжык сведчыў, што

рыі і дабраўся да Парыжа. У гэтым жа горадзе аказаліся і яго паплечнікі па паўстанні: Баляслаў Свентаржэцкі, Карнэль Пелікша, Станіслаў Ляскоўскі, а таксама таварыш па гімназіі Уладзіслаў Борзабагаты. Былі тут і паўстанцы з іншых губерняў, напрыклад, знакаміты паўстанцкі правадыр Валерый Врублеўскі.

Паўстанне стала ўжо справай мінулага, а цяпер трэба было думаць, як жыць далей і што рабіць. Не трэба было пакорліва прымаць лёс, барацьба з царызмам не скончылася. Трусаў пасяліўся ў Жэневе. Тут ён сумесна з расейскім рэвалюцыянерам Мікалаем Уціным і шэрагам іншых рэвалюцыянераў у 1870 годзе арганізаваў Рускую секцыю 1-га Інтэрнацыянала.

Але яго галоўнай справай на эміграцыі стала расейская друкарня рэвалюцыйнай літаратуры «Народное дело». У 1869 годзе Трусаў быў адным з яе ўтваральнікаў, з 1873 года — уладальнікам.

...Праз 20 год жыцця на чужыне, менавіта 9 студзеня 1884 года, Антон Трусаў падаў прашэнне ў Дэпартамент паліцыі аб вяртанні ў Расійскую Імперыю. 12 студзеня Дэпартамент накіраваў запыт у канцылярыю віленскага генерал-губернатара «аб ступені ўдзелу Трусава ў мяцяжы і часе выдалення яго за мяжу». Да запыту ў канцылярыі паставіліся па-бюракратычнаму і не сталі шукаць усе дакументы. Служачыя проста ўзялі першую справу аб паўстанцах Трусава, якія трапілі ў палон пасля бою каля вёскі Сініло і выкарысталі звесткі з яе ў адказе ад 24 студзеня 1884 года.

> «...Канцылярыя генерал-губернатара мае гонар паведаміць Дэпартаменту, што з паказання васьмі мяцежнікаў, узятых у палон са зброяй у руках 30 красавіка 1863 года ў вёсцы Сініло Мінскай губерні і павета, відаць, што прадвадзіцелем іхняй шайкі, колькасць якой дасягала 20 чалавек, быў Антон Трусаў, які пасля разбіцця войскамі шайкі паспеў схавацца і, можна меркаваць, тады ж эмігрыраваў за мяжу. На ўчыненне шайкаю забойстваў, катаванняў, рабункаў і падпалаў у справе ўказанняў няма, а роўна і на тое, каб аб Трусаве адбылося тады завочнае рашэнне».

Гэтак з-за нядбайнасці служачых па-за ўвагай Дэпартамента паліцыі апынуліся факты знаходжання Трусава ў атрадзе Ляскоўскага і ўдзел ў баях з царскімі войскамі, што не падлягала амністыі.

Антон Трусаў атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. Перад ад'ездам з Жэневы ён падарыў свайму сябру, польскаму рэвалюцыянеру Баляславу Ліманоўскаму значны збор сацыялістычных французскіх часопісаў і газет. «Гэта быў вельмі важны для мяне падарунак, — успамінаў пазней Ліманоўскі. — Я скарыстаў іх у сваёй «Гісторыі грамадскага руху ў XIX стагоддзі».

19 траўня 1884 года Антон Трусаў прыехаў у Мінск. Нікога з родных у горадзе ў яго не было. Нам невядомы лёс яго брата Баляслава, сляды

якога згубіліся ў 1866 годзе, калі ён быў асуджаны на 8 месяцаў зняволення ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Сястра Эмілія Рагоза жыла на станцыі Сноўск Лібава-Роменскай чыгункі Чарнігаўскай губерні.

Хворы Трусаў звярнуўся ў Дэпартамент паліцыі з прашэннем выехаць з Мінска на станцыю Сноўск да яе. Справа зацягнулася на месяцы. Мінскі губернатар паслаў у канцылярыю віленскага генерал-губернатара запыт адносна таго, «ці не абвінавачваўся Трусаў у забойстве, катаваннях, рабунку і падпалах і ці можа быць да яго аднесены II артыкул уселаскавейшага Маніфеста...» Служачыя канцылярыі прыслалі губернатару такую ж самую адпіску, як і Дэпартаменту паліцыі.

Пакуль цягнулася бюракратычная валакіта, стан здароўя Трусава пагоршыўся. Хвароба горла, па словах Б. Ліманоўскага, «жорстка мучыла яго». Яшчэ 24 кастрычніка 1884 года Дэпартамент паліцыі адправіў мінскаму губернатару дакумент «для аб'яўлення Антону Трусаву, што з хадайніцтвам аб дазволе яму выезду ў Чарнігаўскую губерню яму належыць звярнуцца да кіеўскага генерал-губернатара». Гэта апошні вядомы нам дакумент пра Антона Трусава.

Магчыма, калі будуць знойдзены новыя даныя, мы зможам высветліць дату смерці Трусава. А пакуль яна не ўстаноўлена, даводзіцца спасылацца на няпэўную згадку Ліманоўскага: «Нядоўга пасля звароту ў Мінск жыў Трусаў. Здаецца, ён памёр на други год». Магчыма, гэта адбылося ў 1885 годзе, а можа, у 1886 годзе, як лічыў Г. Кісялёў.

Нам невядомы падзеі апошніх дзён жыцця Антона Трусава альбо яго думкі аб пражытым жыцці. Можа, падводзячы вынікі жыцця, ён адчуў горкае расчараванне. Паўстанне не прынесла свабоды роднаму краю і народу, рэвалюцыйны рух не пахіснуў асновы царызму. Здавалася, што так і будзе панаваць над народам гістарычная і сацыяльная несправядлівасць. Але Антон Трусаў чэсна выканаў свой абавязак перад сябрамі і паплечнікамі, перад сваім краем і працоўным беларускім народам.

# КАРНЕЛЬ ГЕРАРД ПЕЛІКША
# (1823–1872)



Раіса Аўчыннікава,
*краязнаўца (Менск)*

Многія пачуюць гэта імя ўпершыню. Карнель Пелікша — цывільны ваявода Мінскай губерні падчас паўстання 1863 года.

Нарадзіўся будучы ваявода ў 1823 годзе ў маёнтку Стваловічы Навагрудскага павета (зараз вёска Стваловічы Баранавіцкага раёна). Бацька Ігнат Янаў Пелікша быў арандатарам радзівілаўскага маёнтка з мястэчкам Стваловічы і вёскамі Палянчыцы, Заполле, Цюкантавічы. Маці — Катарына Пелікша, паходзіла з роду Міладоўскіх.

Месца нараджэння было знакамітым. У Стваловічах скрыжоўваліся два важныя шляхі — Варшаўскі тракт і шлях з Вільні на Пінск. Таму ў пачатку XVIII стагоддзя тут паставілі мытную кантору, у якой бралі падатак з праязджаючых. У 40-х гадах гэтага ж стагоддзя ў Стваловічах быў пабудаваны галоўны храм камандорыі Мальтыйскага ордэна. А 30 жніўня 1771 года пад Стваловічамі рускія войскі пад камандаваннем А.В. Суворава разграмілі вялікі атрад гетмана М.К. Агінскага. У мястэчку былі пахаваны пяць соцень забітых канфедэратаў.

Несумненна, пра гэтыя смутныя падзеі добра ведалі ў сям'і Пелікшаў. Бацька Карнеля з'яўляўся дэпутатам Слуцкага павятовага сходу. 9 сакавіка 1806 года яму было пацверджана дваранства і сын Карнель быў таксама зацверджаны ў гэтым стане 5 снежня 1832 года.

## Якім быў Карнель Пелікша

Адукацыю Карнель набываў спачатку ў Слуцкай гімназіі, затым у Віленскім Дваранскім Інстытуце. Тут ён вучыўся і сябраваў з будучымі актыўнымі ўдзельнікамі руху 1861–1863 гг. — Баляславам Свентаржэцкім і Якубам Гейштарам.

Пасля вучобы Карнель у 1846 г. прадпрыняў паездкі ў Варшаву і Адэсу. Затым самастойна пачаў працаваць у якасці дзяржаўца ключа Малева і Задвор'е Нясвіжскага маёнтка Радзівілаў. У 1848 г. ажаніўся з Марыяй Ваноўскай, стрыечнай сястрой Станіслава Манюшкі. Пасля смерці бацькі з 1852 г. правы арэнды маёнтка Стваловічы перайшлі да Карнеля. У 1853 г. тэрмін арэнды Пелікшаў скончыўся і Радзівілы яго не працягнулі, а перадалі арэнду Альберту Бертэлю. Таму з 11 красавіка 1853 года Карнель Пелікша ўзяў у арэнду маёнтак Бараўцы пад Бабруйскам.

У Мінскім павеце ў памешчыка Вінцэся Францава Фрыбеса па купчай крэпасці 30 мая 1856 года Пелікша набыў за 4000 рублёў маёнтак Горкі з сяленнямі Апчак і Вінцэсні. Вінцэсь Фрыбес быў сваяком буйных мясцовых землеўладальнікаў Прушынскіх. Землі на ўсход ад Горак у вёсках Сініло і Ізабелін належылі Ізабеле Фрыбес, роднай сястры Міхаіла Прушынскага. Частка вёскі Сініло адышла пасля судоў ад Прушынскіх да памешчыцы Людзвікі Іваноўскай, а ад той у спадчыну да Віктара і Антонія Ратынскіх. Пелікша 17 мая 1857 года выкупіў і ўладанні Ратынскіх з дапамогай жончыных грошай і заёму сродкаў у шляхціча Ігнація Тарасевіча. Тым самым ён стаў уладальнікам сярэдніх памераў маёнтка агульнай плошчай 1263 дзесяціны, з іх участак Горкі складаў 742, участак Сініло — 521 дзесяціны.

Па 10-й рэвізіі ў вёсцы Сініло налічвалася 84 мужчынскіх і 103 жаночых душ, у вёсцы Мацавічы — 10 мужчынскіх і 12 жаночых, акрамя гэтага дваровых у маёнтку Сініло — 5 мужчынскіх і 4 жаночыя, усяго 218 душ сялян. Двор Сініло меў вельмі стары запушчаны фальварак, таму свой новы двор Пелікша пабудаваў у 3 вярстах на паўднёвы ўсход ад Сініло ў прыгожай узгаркаватай мясцовасці, адпаведнай назве Горкі. За гэтым дваром былі замацаваны 4 мужчынскія душы дваровых і ў вёсцы Апчак Пелікшу дасталіся яшчэ 52 сялянскія мужчынскія душы.

Межы паветаў праходзілі праз маёнтак Пелікшы такім чынам, што двор Апчак-Горкі і вёска Апчак знаходзіліся ў Мінскім павеце, а вёскі Сініло і Мацавічы — у Ігуменскім. Акрамя 780 моргаў урадлівай глебы ў маёнтак уваходзілі лясныя масівы, пойменныя лугі, тарфяныя балоты, рака Свіслач на захадзе, рака Слоўсць, прыток Волмы на ўсходзе маёнтка.

Каб пагасіць даўгавыя абавязацельствы і ўплату працэнтаў па заёмах, Пелікша займаўся рознымі эканамічнымі праектамі. Ён заключыў дагавор на трыманне паштовай Гарадзішчанскай станцыі ў Навагрудскім павеце непадалёку ад родных яму Стваловіч.

Прадоўжыў праўленне радзівілаўскім маёнткам Малева праз свайго паверанага ў справах шляхціча Рамуальда Максімовіча, арандаваў маёнткі Каралін і Багумілле ў Слуцкім павеце.



*Карнэль Пелікша*

Пелікша за пяць год пабудаваў у Горках поўны дваровы комплекс: новы жылы дом, гаспадарчыя пабудовы; стварыў у сваім маёнтку ўзорную сельскую і перапрацоўчую гаспадарку. Палі ўздымаліся з дапамогай конскай і валовай цягі. У Сініло ўтрымліваліся 10 рабочых валоў і некалькі коней.

Новы памешчыцкі дом з мезанінам памерам 11 на 7 сажняў быў складзены з сасновага брусу, накрыты гонтай. Вакол яго літарай «П» месціліся гаспадарчыя пабудовы: флігель, кухня, людская, эканамічны дом і хлявы да яго, два дрываныя склады, леднік, склеп, будовы для прыслугі, за імі скотны двор з валавым млыном, стайня з эканамічным хлявом, хлявы для сена, гумно, птушнік, аўчарня, капцільня, лазня з пральняй, невялікая пабудова для прысніцы з медзі.

У маладым, насаджаным Пелікшам фруктовым садзе быў узведзены невялікі дамок і пры ім парнік з 28 вокнамі. Усе пабудовы двара былі зроблены з моцнага сасновага дрэва, крытыя гонтай і толькі асобныя — саломай. Вады на ўзгорку для гаспадарчых патрэб не мелася і Пелікша загадаў пракапаць некалькі каналаў ніжэй на балоце, па якому працякала рачулка Язвінка. Непадалёку, пад самай падэшвай гары, на якой стаяў панскі двор, выкапалі некалькі сажалак, на месцы якіх існуе цяперашняе возера ў Прывольным.

На ўчастку старога маёнтка ў Сініло знаходзіўся жылы дом памерам 6 на 4 сажні, крыты дранкай; пры ім амбар, гумно, скотны двор, аўчарня, піваварня, саладоўня і хлявы.

Агульная плошча маёнтка Апчак-Горкі на пачатку 1860-х гг. складала 1263 дзесяціны, з іх участак Горкі — 742 і ўчастак Сініло — 521 дзесяціну. Праўда, у розных дакументах гэтыя плошчы падаюцца наадварот.

З паўднёвага і заходняга боку за Апчак-Горкамі пачынаўся Ігуменскі павет. За балотам ля лесу на высокім узгорку стаяў двор паноў Ельцаў, самых блізкіх суседзяў. Крыху далей на паўднёвы захад у лясістай мясцовасці знаходзіўся маёнтак Лебядзінец Феліцыяна Клімантовіча. На захад ад Сініло суседзямі Пелікшы былі памешчыкі Рамановіч, Фрыбес і Прушынскія, на поўначы яго ўладанне межавала з вёскай Трасцянец Іваноўскіх, на ўсходзе па вёсцы Апчак — з землямі генерал-маёршы Гедройц-Юрага, з паўднёвага ўсходу — з вёскай Лагоўскай Слабадой паноў Алявінскіх і Ельцаў.

З паўднёва-заходняга боку ад двара Горкі на Ігуменскім тракце ў нізкай вузкай даліне размяшчалася карчма Лагі дабротнай пабудовы, якую арандаваў за 150 рублёў яўрэй Хвайбіч. Пры карчме мелася і прасторная харчэўня.

Карчма ў Сініло ў часы Пелікшы была ўжо даволі старэнькай і давала невялікі даход у 80 рублёў. Трэцяя карчма маёнтка з арэнднай платай 125 рублёў знаходзілася пры сельскай дарозе ў Лысаўшчыне. Хоць корчмы прыносілі неблагія грошы, Карнель быў катэгарычным праціў-

нікам п'янства і стаў разам з Уладзімірам Ельскім з Ігнатыч заснавальнікам і актыўным дзеячам Таварыства Цвярозасці на Літве. Для таго каб карчмары-арандатары не спойвалі сялян, Пелікша загадаў падаваць гарэлкі на асобу не больш аднаго шкаліка. Калі хто з сялян хацеў узяць бутэльку гарэлкі, то мог выпіць яе толькі ў сваёй хаце.

Пелікша сам быў добрым гаспадаром і прывучаў да гаспадарлівасці сваіх сялян. Восенню Пелікша скупаў за высокія цэны ў сялян зерне, лён, воўну, каб тыя не збывалі іх за бясцэнак перакупшчыкам. Трымаў у маёнтку магазін, у якім сяляне мелі запасы насення. Арганізаваў нават своеасаблівы сельскі банк, закладны капітал для якога сяляне стварылі самі, працуючы «некалькі год аб'яднанымі сіламі». Сачыў за парадкам на сялянскіх землях і ў хатах. У кожнай хаце для ацяплення былі пастаўлены цагляныя печы. Для забеспячэння чысціні хлявы для скаціны аддаляліся ад жылых хат. Па прыкладу пана сяляне сталі заводзіць на сваіх сядзібах сады, якія лічыліся ў той час вялікай роскашшу.

Пелікша паважаў працу сялян, лічыў вырошчванне хлеба адным з самых высакародных заняткаў. І сам не цураўся простай працы, мог стаць за плуг і барану, займацца працай у садзе, за што сяляне яго вельмі паважалі.

У сваім маёнтку ён паводзіў сябе не як пан-барын, а разумны кіраўнік і навучыцель. Для сялянскіх дзяцей К. Пелікша адкрыў вучылішча, дзе разам з ведамі па арыфметыцы і пісьменству вучні набывалі пазнанні аб фізічнай будове сусвету, адметных гістарычных падзеях, народнай медыцыне і рэлігіі. Вучні атрымоўвалі не толькі тэарэтычныя веды, але і практыкаваліся ў рамеснікаў, якія працавалі ў маёнтку Пелікшы. Сам Карнель быў глыбока веруючым чалавекам.

Праявіў памешчык клопат і пра жанчын з дзецьмі, стварыў на еўрапейскі манер невялікі прыют, у якім старэйшыя жанчыны даглядалі немаўлят, пакуль іх мацяркі займаліся гаспадарчымі працамі. Для лячэння хворых і нямоглых сялян пабудаваў лякарню з фельчарам.

У побыце пан Пелікша быў просты і рацыянальны, не меў парадных экіпажаў, слуг у ліўрэях, французскіх павароў. За абедзенны стол разам з панам і яго сям'ёй садзіліся настаўнік, фельчар, слугі і нават дваровыя хлопчыкі.

Апранаўся таксама проста, насіў сціплае адзенне шэрых таноў, толькі чорная хустка выдзялялася на шыі. Летам апранаў венгерку і чатырохвугольную шапку. Па свайму светапогляду быў гуманіст і ідэаліст, які кіраваўся ўтапічнымі ідэямі аб стварэнні ідэальнага грамадства калі не ў цэлым сусвеце, то хаця б на тэрыторыі свайго невялікага маёнтка, населенага адукаванымі, працалюбівымі, цвярозымі сялянамі.

Разам з паўсюдзённай прастатой Пелікша быў вытанчанай асобай, які галоўнай роскашшу лічыў для сябе кнігі, творы мастацтва. У сваёй бібліятэцы Карнель сабраў лепшыя творы сусветнай і польскай літаратуры. Лічыў бібліятэку важнейшым укладаннем капіталаў. У мастацкай

галерэі Пелікшы суседнічалі вытанчаныя габелены, карціны і іконы, скульптуры працы еўрапейскіх і польскіх майстроў. Сярод яго збораў былі цэнныя іконы Яна Вялікага, Яна з Ніцы, розныя выявы Багамацеры, творы Віта Стоса, Любенецкіх, Кунца, Ляксіцкага, Чаховіча, Плонскага, Шмуглевіча. Карнель не любіў пустых свецкіх забаў, замест іх ён аддаваў перавагу падтрыманню стасункаў са сваімі карцінамі і іконамі, ад якіх набываў адначасова спакой і энергію.

Як мужны і моцны чалавек Пелікша любіў паляванне, выдатна страляў з пісталета. Разам з рэдкімі кнігамі і творамі мастацтва збіраў узоры старажытнай зброі, якая напаміналась яму слаўную гісторыю нашага народа. У калекцыі прысутнічалі булаты і булавы, сякеры, цесакі, чэканы, лукі, самастрэлы, кінжалы, шчыты, дзіды і рагаціны. Многія з іх былі калісьці абліты крывёю воінаў, пра гэта Пелікша напамінаў моладзі, якую хацеў бачыць такой жа мужнай і моцнай, якімі былі продкі.

Пісьменнік Юзэф Крашэўскі (1812–1887), які добра асабіста ведаў Пелікшу, вывеў яго пад імем пана Гутара-Грабы ў сваёй аповесці «Дзівадла» (тэатр), перакладзенай на рускую мову як «Чудаки» і ўжо з рускай мовы на беларускую, як «Дзівакі». Сапраўды, не ўсе тагачасныя абывацелі разумелі ідэалы пана Пелікшы, лічылі яго «дзіваком», нават насміхаліся над ім. Але Пелікша не траціў час на марныя спрэчкі. Мала таго, ён сваёй разважлівасцю і справядлівасцю мог уладзіць любыя канфлікты паміж варагуючымі суседзямі.

Крашэўскі пакінуў нам дакладнае апісанне пана Гутара-Грабы, якое было непасрэдна спісана ім з рэальнага Карнеля Пелікшы:

> «Грунтоўнасць і дабрата бачны былі ў прыемных рысах яшчэ да гэтай пары яго свежага твара. Яму было каля пяцідзесяці год, але бодры мужчына быў поўны сілы, толькі ля віскоў каротка пастрыжаныя валасы пачыналі серабрыцца. Ён мог служыць скульптару мадэллю выявы сілы і спакою, прыгажосці і цудоўнага целаскладу, з выразам дабраты і розуму на твары. Кінуўшы погляд на яго, адразу адчувалася, што гэтую сілу надавала яму не цела, а душа; і што гэта магутная арганізацыя развілася ў ім, дзякуючы працы для бліжніх і над самім сабою.
>
> Высокі, гладкі і да паловы белы лоб узнімаўся над сінімі і яснымі вачыма; крыху навіслыя над імі бровы абрамлялі двума дугамі зрэнкі, поўныя ціхага і прыемнага агню. Сармацкі нос, раскошна закручаныя вусы і чырвоныя вусны, са строгай і крыху самотнай усмешкай дапаўнялі яго фізіяномію. Ён трымаўся прама, па-салдацку, з мужным выглядам. Высокія грудзі, шырокія плечы, стройны стан, прыгожыя рукі і ногі былі ў гармоніі з яго фігурай, на якой адлюстравалася яго славянскае паходжанне. Бачна было, што з крывёю, якая цякла ў яго жылах, не змешваўся іншы элемент».

Пагодзімся, што такі прыгожы партрэт свайго героя пісьменнік мог намаляваць, толькі будучы ў яго вельмі ўлюбёным.

Польская Біяграфічная энцыклапедыя і «Геаграфічны слоўнік каралеўства Польскага» характарызавалі Карнеля Пелікшу як вельмі адукаванага чалавека, узорнага гаспадара, «абывацеля рэдкай высакароднасці і розуму», «філантропа і мілосніка люду вясковага». І яшчэ адна цікавая рыса адзначана ў энцыклапедыі: «праводзіў жыццё па-таварыску». Сапраўды, Карнель меў добрыя стасункі з прадстаўнікамі розных грамадскіх слаёў — ад простага селяніна да губернатара. Адным з блізкіх сяброў Пелікшы быў Эдвард Ваньковіч (1834–1899), у якога ён кватараваў у доме па вуліцы Валошскай, калі бываў у Мінску*. У гэтым доме зараз знаходзіцца музей Ваньковічаў.

## Напярэдадні паўстання

Каб зразумець атмасферу тагачаснага грамадства, жыццё абывацеляў і нашага героя, саракагадовага адукаванага памешчыка з перадавым еўрапейскім мысленнем, прывядзём геаграфічныя і статыстычныя дадзеныя пра Мінскую губерню.

У 60-я гады XIX стагоддзя Мінская губерня па сваіх памерах — 8 мільёнаў 164 тысячы 893 дзесяціны, займала 11-е месца ў Расійскай імперыі. Падзялялася на 9 паветаў: Мінскі, Ігуменскі, Барысаўскі, Бабруйскі, Слуцкі, Навагрудскі, Пінскі, Рэчыцкі, Мазырскі. Насельніцтва губерні складала 1 мільён 1 тысяч 335 чалавек, з іх гараджан — 102.328. У Мінску пражывала ўсяго 30.149 чалавек.

Яшчэ на канцы 50-х гадоў Мінская губерня, як і ўвесь беларуска-літоўскі край, жыла спакойна, як у сне, яе не кранула нават далёкая Крымская вайна 1853–1856 гг. З прыходам да ўлады маладога цара Аляксандра II у грамадстве пачалося ажыўленне, з'явіліся надзеі на грамадскія пераўтварэнні, вырашэнне набалелых праблем. Адной з такіх праблем было развязанне сялянскага пытання. На вёсцы захоўвалася поўная феадальная залежнасць сялян ад землеўладальнікаў, яны выконвалі дваравыя павіннасці і паншчыну. Тыпавыя інвентары мясцовых маёнткаў 1844–48 гг. прадугледжвалі прыгонную працу для мужчын і жанчын працаздольнага ўзросту на працягу трох дзён у тыдзень, акрамя гвалтаў, шарваркаў і каравульнай службы.

Адзін з цікавых планаў зямельнай рэформы прапанаваў у 1857 годзе памешчык Ковенскай губерні Якуб Гейштар (1827–1897), будучы кіраўнік Віленскага паўстанскага ўрада 1863 года. Большасць паноў і шляхты займала ліберальныя пазіцыі ў адносінах да сялян, ярых прыгоннікаў грамадскі шляхецкі «агол» падвяргаў асуджэнню. У верасні 1858 года быў створаны Мінскі Губернскі камітэт па арганізацыі і паляпшэнні быту сялян пад старшынствам маршалка губерні.

19 лістапада 1861 года выйшаў доўгачаканы царскі Маніфест — «Палажэнне аб сялянах, якія выйшлі з прыгону». Але яшчэ да яго пры-

---

* Сын знакамітага мастака Валенція Ваньковіча (1800–1842). — *Рэд.*

няцця асобныя землеўладальнікі добраахвотна сталі пераводзіць сялян на чынш (грашовы аброк), паляпшаць умовы іх жыцця, адкрываць для іх бальніцы і вучылішчы, як гэта зрабіў пан Пелікша ў Апчаку і Сініло.

У 1861 годзе для правядзення зямельнай рэформы ў беларуска-літоўскіх губернях былі створаны спецыяльныя камітэты, у якія ўваходзілі выбарныя і назначаныя ўрадам пасрэднікі. Пасрэднікі на месцах у маёнтках ажыццяўлялі перавод сялян на новыя ўмовы валодання зямлёй, вырашалі многія спрэчныя пытанні на аснове дзеючага расійскага заканадаўства. А спрэчных момантаў хапала: гэта і плата за зямлю, карыстанне лясамі, выганамі і выпасамі, адбыванне рэкруцкай павіннасці і іншыя.

Царскія рускія чыноўнікі вінавацілі ў сялянскай галечы «польскіх» паноў, а не існуючую сістэму дзяржаўнай улады. Таму сяляне часта выплёсквалі сваю незадаволенасць на сваіх уладальнікаў — праводзілі самавольныя высечкі панскіх лясоў, ламалі агароджы, адмаўляліся адбываць дваровыя павіннасці, плаціць аброк.

Другой незадаволенай часткай грамадства была дробная шляхта, арандатары, мяшчане, дробныя чыноўнікі, студэнты і вучнёўская моладзь. У выніку росту гандлёвага і растаўшчыцкага капіталаў многія дробныя землеўладальнікі траплялі свае надзелы, ператвараліся ў сялян або ішлі на службу ў якасці эканомаў, леснікоў, слуг, дробных чыноўнікаў і ваеннаслужачых. Гэта катэгорыя дамагалася не толькі сацыяльна-эканамічных, але і дэмакратычных змен — роўнасці грамадзян, свабоды карыстання роднымі мовамі, друкавання кніг і газет на гэтых мовах, атрымання вышэйшай адукацыі на Радзіме і нават незалежнасці літоўска-беларускага краю. Менавіта з гэтай катэгорыі ўтварылася самая рэвалюцыйная, так званая «чырвоная» плынь антыцарскага руху. Чырвоныя з-за іх разнароднасці падзяляліся на плыні крайніх чырвоных, чырвоных і памяркоўных. Да паўстання 1863 года гэтыя слаі падышлі з вялікімі надзеямі, але мелі супроцьлеглыя погляды на грамадскія пераўтварэнні.

Вельмі ўплывовай і менш радыкальнай у сваіх поглядах была супольнасць нацыянальнай арыстакратыі, багатага і сярэдняга памешчыцкага класа (па-мясцоваму, зямянства), якая адстойвала ў першую чаргу свае класавыя ўладальніцкія інтарэсы, але і выстаўляла разам з гэтым нацыяналістычныя патрабаванні аб звароце дзяржаўных межаў 1772 года. Польскамоўнаму грамадству здавалася, што там, «дзе пральецца кроў паляка», аўтаматычна ўзновіцца польская дзяржава. Трапна характарызаваў гэтыя імкненні адзін з сучаснікаў, прыбалтыйскі барон Гротус: «яны былі засляпёныя ў сваім нацыяналізме».

Але ў адрозненне ад каронных палякаў мясцовая беларуска-літоўская шляхта планавала дабіцца пераўтварэнняў мірным шляхам, без правядзення палітычных дэманстрацый і ваенных выступленняў. З гэтага асяроддзя ўтварылася так званая плынь «белых». Яркімі прадстаў-

нікамі партыі белых сталі ўпамянуты Якуб Гейштар з Ковенскай губерні і граф Вітальд Старжынскі з Гродзенскай губерні. «Белыя» па прыкладу Польшчы марылі арганізаваць на Літве «Ральнічае (сельскагаспадарчае) таварыства» і «Крэдытнае таварыства», правобраз банкаў. Звярталіся да ўладаў аб узнаўленні ў Вільні зачыненага ўніверсітэта, але нават адраса з прашэннем да цара расійскія чыноўнікі ў іх не прынялі. Цар ганарліва і абразліва даў зразумець літоўскай шляхце: «хай ведае яна і Еўропа, што тут не Польшча».

Актыўна падтрымліваў дэмакратычныя ідэі свайго сябра Якуба Гейштара і Карнель Пелікша. У пачатку 1862 г. Карнель падаў прашэнне аб афармленні яму замежнага пашпарта для выезду па гаспадарчых справах у Прусію, Аўстрыю і Англію на паўгода, аб чым адпаведна тройчы было паведамлена ў «Мінскіх Губернскіх Ведамасцях».

К 1862 году ўсе землеўладальнікі павінны былі скласці так званыя «Устаўныя граматы» па сваіх маёнтках. У »Граматах» падаваўся спіс сялян, якія надзяляліся зямлёй, указваліся памеры надзелаў, у тым ліку колькасць ворнай зямлі, сенакосаў і выпасаў.

Перад ад'ездам за мяжу 5 сакавіка 1862 г. Пелікша падрыхтаваў і выслаў міравому пасрэдніку 1-га ўчастка Мінскага павета «Устаўную грамату» для сялян вёскі Апчак. У «Грамаце» ён падрабязна паказаў памеры зямель ў карыстанні сялян, іх абавязкі перад памешчыкам, планы па паляпшэнні іх землекарыстання шляхам надзялення 10 сялянскіх гаспадарак з Апчака больш урадлівымі землямі без цераспалосіц на землях вёсак Мацавічы і Сініло (з перасяленнем трох гаспадароў у Мацавічы, а семярых — у Сініло). Такім чынам вырашаліся галоўныя праблемы для сялян вёскі Апчак — цераспалосіца, нізкая ўрадлівасць балотных сенакосаў, адсутнасць месц выпасе сялянскай жывёлы. За сабой Пелікша пакідаў усе правы па карыстанні рыбнай лоўляй на рэчцы Слоўсць, паляваннем у мясцовых лясных угоддзях, правядзеннем кірмашоў і таргоў, утрыманнем піцейных устаноў. Прыгон з сялянскага ўчастка памерам 15 дзесяцін быў скарочаны на 10 %. З 1 сакавіка 1863 года апчацкія сяляне пераводзіліся на аброк і павінны былі за адзін участак плаціць 41 рубель 40 капеек і замест натуральнай даніны — 2 рублі 78 капеек. Акрамя таго, ім налічваўся пазямельны аброк — у суме 4 рублі 80 капеек. Цэны былі ўстаноўлены вельмі памяркоўныя, на ўзроўні сярэдніх цэн у навакольных маёнтках.

Аб ад'ездзе за мяжу Карнель Ігнатавіч паведаміў пісьмом ад 8 сакавіка ў маёнтак Малева свайму паверанаму Рамуальду Максімовічу і прасіў яго скончыць справы па «Устаўнай грамаце» для Апчак-Горак. 18 красавіка 1862 года «Устаўная грамата» была аб'яўлена сялянам вёскі Апчак Горацкага сельскага таварыства на сходзе ў прысутнасці міравога пасрэдніка Мінскага павета і добрага сябра Пелікшы Уладзіміра Ельскага і прадстаўнікоў суседніх сельскіх таварыстваў з Трасцянца і Галінова. Сяляне Апчака ўмовамі выкупу былі задаволены.

З паездкі Карнель Пелікша прывёз новае абсталяванне для маёнтка, у тым ліку паравыя машыны для апрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі. У сваім і арэндных маёнтках Пелікша задумаў стварыць поўны цыкл перапрацоўкі зерневых, бульбы, малочнай прадукцыі і воўны.

За час яго адсутнасці ў Літве і Беларусі настрой грамадства стаў яшчэ больш напружаным, антырасійскім і нацыяналістычным. Прадпрынятыя расійскімі ўладамі меры не маглі спыніць хвалю ўзнятага пратэсту пасля забойства некалькіх чалавек у Варшаве падчас мірнай працэсіі. Актыўны ўдзел у акцыях пратэсту прымалі моладзь і жанчыны. Жанчыны насілі чорнае жалобнае адзенне, не хадзілі на балі. Навучэнцы прымацоўвалі да адзення выявы зламанага ў Варшаве крыжа, польскія і ліцьвінскія адзнакі. У касцёлах спявалі каталіцкія і рэвалюцыйныя гімны. І шараговыя абывацелі і будучыя паўстанцы разумелі, што ўспыхнуўшы агонь абавязкова разгарыцца.

## Пелікша — ваявода

У сталіцы беларускіх зямель Вільні з лета 1862 года чырвоныя стварылі Літоўскі Правінцыяльны камітэт пад началам капітана Людвіка Звяждоўскага (1829–1864). У камітэт увайшлі фатограф Ахіла Банольдзі (1821–1871), мастак Антон Залескі (1824–1885) з Трок, доктар Баляслаў Длускі (1826–1905), паручнік Ян Козел (1837–1896), выпускнік Пецярбургскага ўніверсітэта Канстанцін Каліноўскі (1838–1864), абшарнік Зыгмунт Чаховіч (1831–1907) з Вілейкі, экс-студэнт Эдмунд Вярыга (1840–1902).

Паміж членамі Камітэта ішлі пастаянныя спрэчкі. Камісарам Камітэта ад Варшаўскага ўрада быў пастаўлены чыгуначнік Нестар Дзюлеран (Dulaurans; 1825–1868), які лічыў сябе ісцінным палякам, а літвінаў называў «неафітамі». Дзюлеран рабіў спробы спыніць заўзятыя дзеянні мясцовых чырвоных, але яму гэта не ўдавалася. У сваю чаргу Каліноўскі лічыў Дзюлерана «злым геніем», які толькі супрацьдзейнічае рэвалюцыйным справам. У хуткім часе Вярыга і Залескі былі арыштаваны, Банольдзі ад'ехаў у Парыж.

Частка членаў Камітэта на чале з Канстанцінам (Кастусём) Каліноўскім абвясцілі сябе Часовым урадам Літвы і Беларусі, яны падтрымалі і передрукавалі адозву Варшаўскага камітэта ад 22 студзеня і пачалі актыўную падрыхтоўку ўзброенага паўстання. У Вільні яны друкавалі рэвалюцыйныя дэкрэты і адозвы, інструкцыі для арганізацыі паўстанцкіх атрадаў, якія адсылалі па губернях. Былі назначаныя прадстаўнікі ЛПК у губернях і паветах, але моцы ў гэтага ўрада было мала, шляхецкі «агол» у большасці быў настроены супраць яго. У паветах ішла барацьба паміж назначэннем на пасады прадстаўнікоў «белых» і «чырвоных». Па ўспамінах К. Кашыца, ён атрымаў у лютым ад Гейштара і Яленскага загад узначаліць навагрудскую павятовую арганізацыю, іначай на

гэта месца маглі паставіць крайне чырвонага доктара Борзабагатага. Нягледзячы на заклікі, за увесь час падрыхтоўкі да паўстання чырвоныя назбіралі зусім мала грашовых сродкаў і зброі. Гэта зразумела, бо чырвоныя ў асноўным былі прадстаўнікамі ніжэйшых і бяднейшых слаёў грамадства.

Самастойнасць Каліноўскага не падабалася варшаўскаму рэвалюцыйнаму ўраду. Каб утрымаць кіраўніцтва рэвалюцыйным рухам на Літве, па загаду з Варшавы ў Вільне стварылі «Аддзел, кіруючы правінцыямі Літвы», падпарадкаваны Нацыянальнаму Польскаму ўраду. «Аддзел» узначаліў Гейштар, а Дзюлеран наглядаў за працай «Аддзела» ў якасці камісара. Калі з Варшавы прыйшоў загад аддаць уладу і пячатку наваствoранаму «Аддзелу», Каліноўскі не згадзіўся з гэтым рашэннем і напісаў пратэст у Нацыянальны Польскі ўрад. Праўда, гэты пратэст да Варшавы так і не дайшоў.

З 10 сакавіка 1863 года белыя сталі на чале рэвалюцыйных структур. Гейштар узяў на сябе ўнутраныя справы, Аскерка — адказнаць за вайсковыя пытынні, Яленскі — за фінансы, Лапацінскі — за сувязь, Далеўскі — за пячатку і горад Вільна. У паветах Гейштар таксама замяняе чырвоных на сваіх аднадумцаў. К. Каліноўскага ў тым жа сакавіку накіравалі ў Гродзенскае ваяводства ў якасці камісара, дзе ён праводзіў на месцах агляды атрадаў, вёў агітацыю сярод вясковага насельніцтва, збіраў звесткі для Дзюлерана. Пасля адхілення Каліноўскага ад кіраўніцтва, Гейштар і Яленскі выдалі брашуру «Голас літоўца», у якой асуджалі ідэі Каліноўскага аб самастойнасці Літвы.

У Мінску дзейнічаў гурток змоўшчыкаў пад началам былога студэнта Маскоўскага ўніверсітэта Антона Трусава. Змоўшчыкі патаемна сустракаліся ў кнігарні Аляксандра Валіцкага і на кватэры Трусава. Ужо ў пачатку 1863 года ў Мінску быў арганізаваны першы атрад паўстанцаў, пасля яшчэ сфарміравана каля 20 партый (груп).

Агульнае выступленне Мінскай губерні было прызначана на вясну 1863 года. Цывільным начальнікам (ваяводай) Мінскай губерні часова з'яўляўся Антоні Яленскі. Затым Ян Завіша падказаў Гейштару кандыдатуру Пелікшы. Гейштар рэкамендаваў Карнеля Пелікшу на пасаду ваяводы губерніі; яго памочнікам, камісарам ваяводства, быў абраны памешчык Ігуменскага павета Баляслаў Свентаржэцкі; ваенным начальнікам — падпаручнік Павел Дыбоўскі. Усе яны належалі да партыі «белых», ведалі адзін аднога з часоў сумеснай вучобы ў Вільні.

Выбар Пелікшы быў удалым, бо апошні карыстаўся аўтарытэтам не толькі сярод белых, але і сярод чырвоных. Як буйны землеўладальнік, перадавы гаспадарнік і вядомы грамадскі дзеяч, ён меў добрыя стасункі з назначаным генерал-губернатарам Кушалевым. Часта бываючы ў генерал-губернатара, Пелікша адным з першых даведваўся аб планах царскіх улад у Паўночна-Заходніх губернях. Змоўшчыкам было вельмі важна прыцягнуць Пелікшу на свой бок і яны дамагліся ад яго згоды

на ўдзел у паўстанні і прыняцця на сябе адказнай пасады. Думаецца, што зрабіў гэта Карнель пасля доўгіх разваг і з разуменнем наступстваў гэтага ўчынку. Бо ў выніку няўдачы паўстання Пелікша губляў усё — маёнткі, сродкі для існавання сям'і, родных, сяброў і дарагіх людзей, Радзіму альбо нават жыццё. Навошта яму было змагацца за чужыя правы на свабоду, адукацыю і зямлю? Асабіста ў яго ўсё было. Шчаслівая сям'я, даходныя маёнткі і фальваркі; працавітыя сяляне, з якімі меў добрыя стасункі.

Але, нягледзячы на сваю матэрыяльную і маральную незацікаўленасць у паўстанні, змрочныя перспектывы пры яго паражэнні, Пелікша зрабіў свой выбар. У гэтым яго кроку праявілася не толькі асабістае, але нацыянальнае і агульначалавечае назначэнне: адзін чалавек жыве толькі для сябе, другі дзеля шчасця іншых. Рэвалюцыі і паўстанні робяцца не дзеля якой асобы, а дзеля будучага жыцця нашчадкаў. Мала хто з рэвалюцыянераў карыстаецца пладамі сваіх рэвалюцый. Як сумна, але справядліва зазначыў Якуб Гейштар: «у паўстаннях гінуць самыя шляхетныя людзі без усякай карысці».

Па паказаннях раскаяўшагася паўстанца, ці папросту здрадніка, Вітальда Парфіяновіча, К. Каліноўскі вельмі высока ацэньваў якасці Пелікшы, як арганізатара.

Пана Пелікшу за сяброўства з царскімі саноўнікамі многія патрыятычныя мінскія абывацелі лічылі ледзь не здраднікам, пазіралі на яго скоса. Бо ён паказальна не ўдзельнічаў ні ў якіх акцыях пратэсту. Наадварот, кожны дзень Карнель бавіў час у губернскай канцылярыі, гуляў з чыноўнікамі ў карты. Толькі лічаныя людзі ведалі яго сапраўдную ролю.

З пачатку вясны 1863 года Пелікша пачаў актыўна рыхтавацца да паўстання — ім агітаваліся да ўдзелу мясцовыя паны і шляхта, назначаліся кіраўнікі партызанскіх атрадаў, дзесяцкія і сувязныя ў розных паветах Мінскай губерні, збіраліся грошы, стрэльбы і пісталеты, адзенне і харчаванне, набываліся компасы і карты, рыхтаваліся падробныя пашпарты. Пелікша скрупулёзна і гаспадарліва лічыў усе рахункі. Адам Ванькоўіч, уладальнік маёнтка Сляпянка, быў прызначаны цывільным начальнікам Мінскага павета, а яго рэферэнтам — уладальнік маёнтка Пціч Гектар Лапіцкі. Упаўнаважаныя ўрада з Вільні вясной прыслалі ў Мінск патаемную адозву да ваяводы, дзе вызначалася канкрэтная дата паўстання 19 красавіка па старому стылю, або 1 траўня па-новаму.

Агульны ваенны план паўстання ў Мінскай губерні распрацаваў вопытны ваенны, выпускнік Пецярбургскай Артылерыйскай акадэміі, паручнік Генеральнага штаба Станіслаў Ляскоўскі. Да таго ж Ляскоўскі быў мясцовым ураджэнцам і добра ведаў геаграфію губерні. Паўстанцы вырашылі дзейнічаць уздоўж чатырох асноўных шляхоў, пралягаючых з Мінска на Вільню, Барысаў, Бабруйск і Нясвіж. Адзін з гэтых шля-

кoў — паўднёвы бабруйскі напрамак, або Ігуменскі шлях, праходзіў якраз праз маёнткі Пелікшы.

21 красавіка ваявода Пелікша выдаў Прадпісанне грамадзянскім управам і ваенным рэферэнтам аб выкананні дэкрэта Нацыянальнага ўрада Літвы аб надзяленні сялян зямлёй, аб прыгатаванні запасаў прадуктаў, абмундзіравання і налажэнні падаткаў на патрэбы паўстання.

У Мінск быў дастаўлены Маніфест «Аддзела, кіруючага правінцыямі Літвы» да жыхароў Беларусі з заклікам да паўстання:

> «Урад нарадовы польскі
>
> Польшча паўстала за вашу і сваю свабоду. Вайна з маскалямі пашыраецца. Паўсюду ільецца кроў. Бог бласлаўляе вас. Хутка будзем вольнымі. Польскі ўрад аб'яўляе ўсім паўсюдна, што са дня аб'яўлення гэтага маніхвеста ўсе роўныя, усе сыны нашай польскай Радзімы, што ўсім сялянам навекі аддаецца зямля, якая была ў іх ужыванні без усялякай паншчыны, чыншу і адпрацоўкі. Парабкам, бабылям і кутнікам, якія пойдуць супроць маскалёў, даруецца 5 моргаў зямлі з маёнткаў казённых. Усім, хто пойдзе ў польскае войска, навекі даецца шляхецтва. Вера для ўсіх свабодная — хто якую хоча. Уніяты, каторых перавялі ў праваслаўе, могуць вярнуцца да сваёй веры. Подаці цару не плаціць, рэкрутаў не даваць. Браты Беларусы, прышла пара добрая. Прачніцеся і вы, прызваўшы Бога на дапамогу, бараніце волю, зямлю і веру вашу, а Бог вам дапаможа.
>
> 3 мая 1863 года.
>
> У кожнай хаце хавайце гэты маніхвест, як грамату аб сапраўднай свабодзе».

Застаецца здзіўляцца, як у такім маленькім сціслым дакуменце найшлі адлюстраванне такія важныя для любога грамадства пытанні, як:

— дэмакратычны прынцып роўнасці ўсіх грамадзян;
— свабоднае веравыяўленне;
— перадача зямлі сялянам без выкупаў, чыншаў і адпрацовак;
— надзяленне зямлёй беззямельных катэгорый парабкаў, кутнікаў, бабылёў;
— адмена абавязковага рэкрутства;
— наданне шляхецтва асобам, якія пойдуць змагацца за ажыццяўленне аб'яўленых ідэалаў.

Нездарма чытанню гэтага Маніфеста перад непісьменнымі сялянамі ў вёсках надавалася вельмі важнае значэнне.

## Паўстанне на Міншчыне

У ноч з 19 на 20 красавіка з Мінска выйшлі некалькі партый паўстанцаў, якія мелі заданне заходзіць у панскія маёнткі, забіраць зброю, адзенне і правіянт, нападаць на мясцовыя ўправы, паштовыя станцыі і ўрадавых кур'ераў. Паўстанцкія атрады планавалася сканцэнтраваць

у двух асноўных месцах губерні — Налібоцкай пушчы і Ігуменскім павеце. Аб першых дзеяннях паўстанцаў на тэрыторыі Мінскай губерні 26 красавіка пайшло наступнае паведамленне шэфу жандараў Далгарукаму:

> «У Мінскай губерні мяцеж пачынае ўзмацняцца, з 19 па 20 красавіка з горада Мінска выйшла значная колькасць маладых людзей: чыноўнікаў, рамеснікаў і гімназістаў, паміж апошніх нават ёсць дзеці, у розных напрамках каля горада яны злучыліся ў партыі, заходзілі ў памешчыцкія двары, забіралі харчы і коней, а на паштовых станцыях — Прылуцкай па Варшаўскім тракце і Юхноўскай па Барысаўскім тракце ўзялі з кожнай па 20 коней з павозкамі і вазніцамі...»

Адзін з атрадаў павінен быў узначаліць Антон Трусаў, які 19 красавіка разам з Жукоўскім і Мерло выйшаў з горада па Ігуменскім тракце да Каралішчавіч. Тут з ім злучыліся гімназісты Яцкевіч і Навіцкі, якія прыйшлі на Каралішчавічы праз Трасцянец. Паўстанцаў на беразе Свіслачы чакаў мясцовы праваднік і яшчэ некалькі сялян. Паўстанцы ўзялі коней, але, заўважыўшы салдат, павярнулі свой напрамак ад Ігуменскага тракту на ўсход. Хутчэй за ўсё мясцовымі праваднікамі былі сяляне з вёскі Сініло маёнтка Пелікшы, межы якога пачыналіся за мастом праз Свіслач.

Адстаўшага ад групы канцылярскага чыноўніка Міхалоўскага злавілі на Ігуменскім тракце каралішчавіцкія сяляне і перадалі яго расійскім салдатам. Міхалоўскі быў узброены ружжом, меў пры сабе ў мяшку розныя прыпасы, сухары і перавязачны матэрыял. Паўстанца адвезлі для следства ў Палітычную камісію, але ён быў вытрыманы і не даў асаблівых паказанняў.

Вялікая група мінскай моладзі ў складзе 53 чалавек сабралася к 6 часам раніцы за цвінтаром на Залатой Горцы. На чале атрада, які складаўся галоўным чынам з гімназістаў, наіўна марыўшых аб гераічных учынках, стаў Васіль Канапацкі, пісец Мінскай палаты грамадзянскага суда. Канапацкі па заданні Трусава правёў атрад праз карчму ў Зялёным лузе і маёнтак Сляпянка (дзе забралі дубальтоўкі і правіянт) на Барысаўскі тракт да Смалявіч. Адтуль па лясах і балотах паўстанцы прайшлі на поўдзень да Клінка (Пуцічолы) на рацэ Волма. Маёнтак Клінок налеӂў Манюшкам, эканом якіх пакарміў паўстанцаў.

Мінскім групам было прадпісана пазбягаць сутычак з ворагам, каб яны маглі дайсці да месца збору паміж вёскамі Марціянаўка і Юравічы на Ігуменшчыне. Тут партыі мінскіх паўстанцаў павінны былі злучыцца з атрадам Станіслава Ляскоўскага. Дарэчы, Марціянаўка належала сваяку Гектара Лапіцкага — Рамуальду Лапіцкаму і яго маці Тэафіліі.

Яшчэ адзін мінскі атрад у складзе 30 чалавек сабраўся паблізу ад Камароўскага лесу ва ўрочышчы Халяўшчына, або Арэшнікі. У склад атрада ўваходзілі чыноўнікі, рамеснікі і гімназісты. Па даручэнні Вярбіц-

кага вучань землямерных класаў Ціт Красоўскі вывеў атрад з горада на Валмянскія лясы, дзе іх павінен быў чакаць атрад Трусава.

Антон Трусаў узначаліў а'бяднаны атрад паўстанцаў. Цэлы тыдзень Трусаў вадзіў атрад па мясцовых лясах у чаканні злучэння з іншымі партыямі паўстанцаў. Мясцовасць была яму незнаёмай, але Трусаў знаходзіў дарогу па картах і компасу. Толькі ля вёскі Нежаўка за Смілавічамі, нарэшце, мінскія атрады сустрэліся.

З Ігумена на пошук паўстанцаў 25 красавіка выйшла рота колькасцю ў 160 салдат пад камандай капітана Багаеўскага, яны прайшлі па слядах мінчукоў праз вёску Нежаўка, затым Чарнаву, якую за тры гадзіны да гэтага паўстанцы пакінулі. 27 красавіка карнікі прадоўжылі праследаванне. 28 красавіка раніцай пад Пятровічамі злучаны атрад паўстанцаў акружылі казакі на конях і пешыя салдаты. Паўстанцы спачатку хацелі без бою адступіць, але ззаду з тылу па іх ударылі салдаты, і паўстанцы вымушаны былі прыняць бой, які доўжыўся тры гадзіны. Па звестках царскіх карнікаў, са 130 чалавек паўстанцкага атрада было забіта 30, трое паранена, яшчэ траіх узялі ў палон. Двое параненых памёрлі па дарозе ў Мінск. Некаторыя «ваякі» адразу з перапуду ўцяклі назад у горад і 30 красавіка з'явіліся да губернатара з пакаяннем, сярод іх былі Яцкевіч, Навіцкі і Камінскі.

Астатнія паўстанцы ад Пятровіч вырашылі прарывацца ў паўднёвым накірунку ўздоўж ракі Волмы. Навакольная мясцовасць была парослая густым лесам, з заходняга і паўднёвага боку цягнуліся непраходныя балоты, што спрыяла скрытнаму адыходу. Усе навакольныя вёскі і дарогі кантраляваліся царскімі войскамі, аб гэтым паўстанцы даведаліся ад мясцовых сялян. Невялікая групка патрыётаў схавалася ў густым лясным урочышчы пад назвай Казловы Рог, якое знаходзілася на поўнач ад сучаснай вёскі Забалацце Мінскага раёна. Тут яны ў яме схавалі некалькі «руляў» (ружжаў), якія летам знайшлі мясцовыя пастухі з суседняй вёскі Дварэц. Урочышча Казловы Рог прымыкала да балоцістага масіва Омшар і ўваходзіла ў землеўладанне тых жа Лапіцкіх, якія валодалі Марціянаўкай. На ўсход ад балота пачыналіся землі памешчыка Ельскага. У яго паўстанцы лікам каля 20 чалавек узялі тры падводы, выехалі на Ігуменскі шлях і вечарам накіраваліся па шляху на поўнач да вёскі Сініло.

Далейшыя іх планы невядомыя. Ёсць меркаванні, што яны хацелі прабрацца ў Мінск, але, магчыма, проста хацелі адпачыць у вёсцы, якая належала Пелікшы. Ім не пашанцавала, бо па гэтым шляху на Ігумен у 2 гадзіны ночы з Сініло выйшла рота Вялікалуцкага пяхотнага палка пад камандай капітана Ілякевіча, з якой паўстанцы выпадкова сутыкнуліся ў ноч з 29 на 30 красавіка на тракце перад самай вёскай. Восем паўстанцаў, у тым ліку Гейштар, Жукоўскі, Хруцкі і двое слуг былі схоплены салдатамі Вялікалуцкага палка. Рускія салдаты моцна збілі іх прыкладамі. Затым два ланцугі салдат сталі прачэсваць мясцовасць і

вымусілі рэшткі атрада пасля перастрэлкі адысці ад Сініло. Некаторыя байцы ўцяклі ад салдат уплаў праз Свіслач. Уцалеўшыя рэшткі патрыётаў дабраліся да Ігуменскага атрада Станіслава Ляскоўскага. Але яшчэ некалькі дзён каралішчавіцкія сяляне за абяцанае ўзнагароджанне ў 5 рублёў лавілі адстаўшых паўстанцаў па лясах і на мосце праз Свіслач. Так у рукі карнікам яны здалі Фларыяна Міладоўскага, сваяка Пелікшаў.

Яшчэ адзін атрад гімназістаў пад кіраўніцтвам канцылярыста пракурорскай камеры Юліяна Сушчэвіча выйшаў з Мінска 19 красавіка пасля збору ў раёне Лошыцы. Атрад направіўся на Дукору, але пад пагрозай сутыкнення з царскімі войскамі некаторыя гімназісты вярнуліся назад і толькі 18 чалавек дайшлі да атрада Ляскоўскага, які дыслацыраваўся ў раёне вёскі Суцін; сярод іх былі браты Янішэўскія, браты Дземідовічы, Кукін, Папоў, Лявіцкі.

У Слуцкім павеце 19 красавіка пачала дзейнічаць група Уладзіслава Машэўскага. Яны спілавалі 5 тэлеграфных слупоў ля Сінявінскай станцыі і затым падышлі да маёнтка князя Льва Радзівіла, дзе забралі 40 стрэльбаў. Праз два дні ля вёскі Азярцы Ігуменскага павета група была разбіта, 44 чалавекі папалі ў палон, сам Машэўскі забіты, чацвёра паўстанцаў памерлі ад ран. Царскімі войскамі былі захоплены 73 стрэльбы, некалькі пісталетаў, шаблі і косы. Акрамя гэтага атрада ў Слуцкім павеце летам былі разбіты партыі Корбута, Лукашэвіча, Хмаровіча і Юндзілы.

Камандзірам Клецкай партыі паўстанцаў стаў лекар Слуцкай духоўнай семінарыі Антоні Санкевіч. Некаторы час ён працаваў лекарам у маёнтку памешчыка Кяневіча. Справядліва лічыў, што ў першую чаргу, каб сяляне не хварэлі, іх трэба добра карміць і не спойваць у корчмах. На жаль, атрад Санкевіча быў разбіты ў першай жа сутычцы з расійскімі войскамі. Паранены Антоні кінуўся ў раку Лошу, з якой не выплыў.

У Барысаўскім павеце непрацяглы час дзейнічаў атрад Кучэўскага і Жаўтка з 11 чалавек і атрад пад камандай Дмухоўскага з 16 чалавек, які быў разбіты 14 мая.

Арганізатарам паўстання ў ваколіцах Ракава быў прызначаны Апалінарый Свентаржэцкі. Той вербаваў у атрад не толькі шляхту, але і дваровую моладзь. Але да прызначанага пункта збору прыйшла толькі нязначная частка з абяцаўшых, усяго каля 20 чалавек. Планавалася, што атрад пойдзе да Радашковіч, дзе злучыцца з партыяй Казелы пад Іліяй. Даведаўшыся, што атрад Казелы разбіты, ракаўскія паўстанцы вярнуліся дадому. Пасля А.Свентаржэцкі займаўся вярбоўкай моладзі ў Пяршаях, Міхаловічах і Чаркасах. З невялікай сабранай ім групай накіраваўся на Прылукі.

У Прылуках атрад на пачатку паўстання ўзначальваў былы афіцэр Ян Пілечка, затым — адстаўны падпаручнік Павел Дыбоўскі пад псеўданімам Зарэмба. Атрад рушыў па шляху на Вязынь і Станькава, потым

да пушчы Целяковай. Да атрада далучыліся мінчанін Валерый Валодзька (Вацлаў Кошчыц), афіцэры Люцыян Рамішэўскі (Рушчыц) і рускі афіцэр Фёдар Ельчанінаў (Гарап). Атрад налічваў 69 чалавек і дзяліўся на два плутоны.

Па ўспамінах Апалінарыя Свентаржэцкага, Дыбоўскі быў неблагім камандзірам, які меў багаты вопыт службы ў царскай арміі. Ён падтрымліваў жорсткую дысцыпліну, добра арыентаваўся на мясцовасці з дапамогай карт і компаса. Сам быў вельмі асцярожным і немнагаслоўным, ніколі не расслабляўся, мала спаў, заўсёды быў напагатове. Такой жа тактыцы вучыў і нявопытную моладзь, якую ён бярог. Атрад базіраваўся ў асноўным у лясных пушчах ля засценка Барова, дзе яму дапамагалі мясцовы лекар Улас і сяляне. Праўда, апошнія дапамагалі толькі тады, калі ім добра плацілі з паўстанцкай касы. Як адзначыў А. Свентаржэцкі, просты сялянскі люд з паўстанцамі не пайшоў. Спробы злучыцца з іншымі атрадамі не ўдаліся. І вось аднойчы Дыбоўскі з некалькімі чалавекамі адправіўся ў Налібоцкую пушчу на разведку, адтуль у атрад яны не вярнуліся.

Атрад паўстанцаў пасля знікнення Дыбоўскага ўзначаліў Люцыян Рамішэўскі, які атрымаў загад рухацца на Ігуменшчыну. 2 мая падчас стычкі паўстанцаў з 7-й ротай Нова-Інгерманландскага палка выявілася няздатнасць маладых паўстанцаў да баявых дзеянняў, было забіта 12 чалавек, частка атрада разбеглася. Рамішэўскі зноў вярнуў атрад да знаёмага засценка Барова. Яшчэ некаторы час атрад хадзіў па мясцовых пушчах, пакуль не змянілася кіраўніцтва паўстання ў Мінску, пасля чаго стала ясна, што надзеі на дапамогу замежных дзяржаў не збыліся. Рэшткі атрада адышлі на захад да Белавежскай пушчы, дзе паўстанцы разышліся.

Атрад Станіслава Ляскоўскага, пра які ўладам ужо на пачатку сакавіка данеслі рагачоўскія жыды-шынкары, самы моцны на Міншчыне, сфарміраваўся ў Ігуменскім павеце ля маёнтка Багушэвічы (сучасны Бярэзінскі раён) Баляслава Свентаржэцкага. Ужо 17 красавіка на панскім двары сабраліся каля 30 чалавек, сярод іх памешчык з Божага Дара Іван Масальскі, Гектар Карказовіч, Мельхіёр Ванькові́ч, чатыры браты Акулічы, Альгерд Гансецкі, Мамерт Нарвіла і іншыя. Многія памешчыкі прыйшлі ў атрад разам з лакеямі, кучарамі, паварамі і іншай прыслугай. Спачатку члены атрада знішчылі навакольныя лініі тэлеграфнай сувязі. У Суціне разабралі два масты і зрабілі з іх рэдуты. У навакольных вёсках і маёнтках збіралі насельніцтва і зачытвалі ім маніфест рэвалюцыйнага ўрада.

Пасля далучэння да атрада паўстанцаў з Мінска, Слуцка і іншых навакольных месц атрад быў рэарганізаваны, падзелены на «шасткі» і плутоны. Галоўным начальнікам стаў Станіслаў Ляскоўскі (Собэк), вайсковым камісарам прызначаны Баляслаў Свентаржэцкі, касірам — Мельхіёр Ванькові́ч.

Адбыўся рэйд атрада на мястэчка Ляды, дзе 29 красавіка паўстанцы сутыкнуліся з царскімі войскамі. Пасля жорсткага пяцігадзіннага бою 9 мая пад Юравічамі рэшткі атрада адышлі пад Раванічы. Частка атрада перайшла ў Барысаўскі павет, частка направілася пад Асіповічы.

Супраць паўстанцаў Ляскоўскага былі накіраваны вялікія карніцкія сілы пад камандаваннем падпалкоўніка Чурскага, а пасля — генерала Русінава. 13 чэрвеня паблізу фальварка Лочын (сучасны Асіповіцкі раён) атрад Ляскоўскага ўступіў у бой з пераўзыходзячымі яго расійскімі войскамі і змог адарвацца ад іх.

23 ліпеня ля вёскі Валадута паўстанцам выпадкова ўдалося захапіць у палон царскага генерала Грунта, які ехаў з Магілёва па інспекцыйных справах. Генерала, які калісьці вучыўся разам з некаторымі паўстанцамі, адпусцілі пад чэснае слова за абяцанне не ўдзельнічаць у карных дзеяннях і ён, сапраўды, сваё слова стрымаў, падаў пасля вызвалення з палону ў адстаўку.

У ліпені расійскае воінскае камандаванне запісала ў журнал баявых дзеянняў, што поўнасцю рассеяла «шайкі Свентаржэцкага, Карказовіча і Ляскоўскага». Квітнеючы маёнтак Свентаржэцкіх па загаду Мураўёва быў спалены і разараны, а сам Баляслаў па пашпарце віленскага мешчаніна Вайцэхоўскага паехаў у Маскву, а адтуль за мяжу. У жнівеньскім рапарце палкоўніка Рэйхарта шэфу корпуса жандараў Патапаву гаварылася: «Рэвалюцыйны рух у Мінскай губерні па прычыне прынятых строгіх мер сціхае: мяцежнікі яшчэ паказваюцца невялікімі шайкамі па Мінскім, Барысаўскім, Ігуменскім і Пінскім паветах, і калі войскі не паспеюць іх знішчыць, то першыя маразы пакладуць канец іх блуканню па лясах».

У чэрвені ў Вільню вярнуўся К. Каліноўскі. У сярэдзіне чэрвеня адбылося паседжанне кіраўнікоў паўстання, на якім Каліноўскі і яго сябра Малахоўскі выступілі супраць умяшання ў справы Літвы Варшаўскага ўрада. Кіраўнік паўстанцкага ўрада Гейштар выступаў супраць пазіцыі Каліноўскага і Малахоўскага, але ў ліпені Гейштара і іншых членаў урада арыштавалі. З 22 жніўня Каліноўскі па ўзгадненні з Варшаўскім урадам узначаліў паўстанне, спрабаваў пераламіць яго ход. Ён пакінуў для партызанскіх дзеянняў у лясах невялікія атрады. Паслаў у Пецярбург Уладзіслава Малахоўскага, каб той угаварыў рускіх дэмакратаў на любыя тэрарыстычныя акцыі на тэрыторыі Расіі. Пост Свентаржэцкага па Мінскай губерні перадаў мінскаму ўрачу Міхаілу Аскерку.

12 верасня для каардынацыі апошніх сіл паўстанцаў на Міншчыне з Вільна быў пасланы ў Мінск Іосіф Ямант, брат каханкі Каліноўскага Марыські. Афіцыйна Ямант павінен быў прыступіць да працы ў маёнтку Самуэлева князя Вітгенштэйна Ігуменскага павета, які арандаваў яго бацька. Самуэлева знаходзілася крыху больш на поўдзень ад маёнтка Апчак-Горкі. У Мінску Ямант і Пелікша сустрэліся. Паміж імі не ўзнікла разумення.

Пелікша быў пастаўлены на пост Мінскага ваяводы яшчэ сваім таварышам Гейштарам, а Ямант — прадстаўнік Каліноўскага. Ямант патрабваў ад Пелікшы адказу, чаму ім не выконваюцца загады Каліноўскага, прасіў даць паясненні аб слабым прыцягненні да ўдзелу ў паўстанні сялян. На гэтыя рытарычныя пытанні Пелікша адказваў скупа, агульнымі сказамі. Затым папрасіў пакінуць яму інструкцыі для праяснення абставін. Зразумела, што ў гэты час у падпарадкаванні Пелікшы паўстанцкіх сіл амаль не засталося. Выконваць загады і інструкцыі Каліноўскага проста не было каму.

Пасля развалу атрада Дыбоўскага Міхаіл Аскерка паведаміў аб сваім ад'ездзе ў Вільню. Яго пасаду Пелікша прапанаваў Лапіцкаму, а пасаду начальніка горада Мінска — Турчыньскаму. Для тых паўстанцаў, якія не хацелі здавацца на міласць цара, рыхтаваліся пашпарты для ад'езду за мяжу. Дзякуючы гэтаму многія паўстанцы выратаваліся. Але царскім вышукачам 22 кастрычніка ўдалося арыштаваць Міхаіла Аскерку, калі ён праязджаў праз горад Востраў пад Псковам.

Пагроза навісла і над самім кіраўніком Мінскага ваяводства. Восенню з вуха ў вуха патрыятычныя мінчане сталі перадаваць звесткі аб сапраўднай ролі Пелікшы, гэтыя звесткі дасяглі і царскіх следчых. Прыблізна пятага кастрычніка Карнель Пелікша, ведаючы, што яго павінны арыштаваць, апавясціў Гектара Лапіцкага аб сваім ад'ездзе ў Пецярбург за замежным пашпартам, а адтуль выехаў за мяжу. Сёмага кастрычніка пасля начнога вобыску быў арыштаваны доктар Пётр Чэкатоўскі. Яго мандат Мінскага гарадскога начальніка быў перададзены доктару Багуславу Семірадскаму.

Пасля ад'езду Пелікшы ў дзеяннях Мінскай арганізацыі пачаўся разлад. Адразу адчулася слабасць новага кіраўніцтва, якія не былі «той меры, што Пелікша». Лапіцкі і Турчыньскі, спадзеючыся на дапамогу Францыі, яшчэ трымалі у лясах рэшткі атрадаў, дзеянні якіх былі ўжо чыста дэманстрацыйнымі. Як з болем адзначыў Апалінарый Свентаржэцкі, гэта прывяло толькі да новых ахвяр.

## Лёс К. Пелікшы, яго сям'і і паплечнікаў

Паводле канфірмацыі Галоўнага ваеннага начальніка краю М. Мураўёва, памешчык Карнель Пелікша ў пачатку 1864 года быў завочна асуджаны да павешання і пазбаўлены «правоў стану», усе яго маёнткі і рухомасць былі падвергнуты секвестру.

27 сакавіка 1864 года Мінская казённая палата слухала справу аб «удзеле ў беспарадках памешчыка Мінскага павета Карнеля Пелікшы». 9 ліпеня гэтага ж года Мінскаму Дваранскаму сходу было паведамлена аб распараджэнні Галоўнага начальніка краю Мураўёва ад 19 чэрвеня аб тэрміновым пошуку маёмасці дзяржаўных злачынцаў, сярод якіх былі названы імёны Карнеля Пелікшы, Баляслава Свентаржэцкага,

Тэадора Ваньковіча і іншых асоб. 12 жніўня 1864 года Мінскае губернскае праўленне ізноў паінфармавала Дваранскі сход аб тым, што «памешчык Карнель Ігнацьеў Пелікша за ўдзел у мяцяжы і па канфірмацыі Галоўнага начальніка края пазбаўлены правоў дваранства».

Для пошуку маёнткаў і маёмасці асуджаных паўстанцаў ва ўсе паветы Мінскай губерні былі накіраваны спецыяльныя чыноўнікі. У Мінскі павет — чыноўнік па асабовых даручэннях Станкевіч, тытулярны саветнік Смольскі, губернскі сакратар Славінскі; у Ігуменскі павет — тытулярныя саветнікі Крушэўскі і Раждзественскі, губернскі сакратар Шыбека і падпаручык Іванісаў. Каб папярэдзіць утойванне ад секвестру маёмасці ўдзельнікаў паўстання, улічваліся толькі дакументы і даўгавыя распіскі, выдадзеныя да сакавіка 1863 года.

Царскія вышукачы адшукалі маёнткі і маёмасць Карнеля Пелікшы ў чатырох паветах Мінскай губерні. Сярод іх: маёнтак Горкі ў Мінскім павеце; маёнтак Сініло ў Ігуменскім павеце; маёмасць на Гарадзішчанскай паштовай станцыі Навагрудскага павета, ацэненая ў 557 рублёў 70 капеек; маёмасць у маёнтках Каралін і Багумілле Слуцкага павета, ацэненая ў 1508 рублёў 12 капеек.

У «Ведамасці аб секвестраваных і канфіскаваных маёнтках» было адзначана, што маёнтак Горкі быў канфіскаваны 4 мая 1864 года, рухомасць маёнтка ацэнена ў 783 рублі 50 капеек, прададзена за 512 рублёў 50 капеек. У справе па накладанні секвестру і канфіскацыі маёмасці кошт двара Горкі, дзе пражывала жонка і пяцёра малалетніх дачок Пелікшы, быў пазначаны ў 15 тысяч рублёў, а маёнтка Сініло — у 30 тысяч рублёў.

20 кастрычніка 1864 года часовы ваенны губернатар Мінскай губерні загадаў усім ваенным начальнікам паветаў далажыць аб ходзе спраў па секвестраваных маёнтках мяцежнікаў. З Мінскага павета ў рапарце ад 8 лістапада паведамлялася, што «маёнтак Гуркі з вёскай Обчак» быў секвестраваны па асабістаму распараджэнню палкоўніка Лосева, члена Следчай Камісіі, і знаходзіцца ў распараджэнні Палаты Дзяржмаёмасці».

Без гаспадарскага вока маёнткі Пелікшы некалькі год не ўгнойваліся і не араліся, пазарасталі быльнікам і кустоўем, жывёла часткова была прададзена за бясцэнак. Валовы млын быў зламаны. У фальварку Сініло амаль усе старыя гаспадарчыя будыніны разваліліся, стаялі без дахаў. У тыя гады праз Сініло праляцеў страшэнны смерч, які падымаў у паветра не толькі дахі, але кароў і коней. Толькі ў снежні 1868 года быў дазволены продаж маёнтка Апчак-Горкі як узнагарода за верную службу быламу віцэ-губернатару Мінскай губерні, пракурору Аляксандру Васільевічу Лучынскаму за 11 тысяч 120 рублёў. Таксама Лучынскі павінен быў сплаціць пры пакупцы даўгі на маёнтак у суме 15 тысяч 114 рублёў 30 капеек.

У эміграцыі Пелікша спачатку жыў у Парыжы, затым у Італіі і Румыніі (Галацы і Ясах). Ён вельмі сумаваў па роднай зямлі і сельскагаспадарчых клопатах. У Ясах набыў маленькі кавалачак зямлі, усяго некалькі моргаў, пасля пад Галічам ці то арандаваў, ці то купіў фальварак Лазараўка.

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў алфавітным «Спісе дваран Мінскай губерні, пазбаўленых праў стану і высланых у аддаленыя губерні Расійскай Імперыі за ўдзел у паўстанні 1861–1863 гг.», у тым ліку ў Арэнбургскі лінейны батальён, у справе за 1870 год разам з прозвішчамі вядомых паўстанцаў на літару «П» — Пякарскага Іосіфа, Пенкевіча Сцяпана, Пуслоўскага Адама прыведзена і прозвішча былога ваяводы — «Пелікша Карнель Ігнацьеў». Гэта сведчыць аб тым, што Карнелю Пелікшу смяротнае пакаранне было заменена на высылку. Магчыма, Карнель пісаў хадайніцтва на амністыю, але яна прымянялася толькі да тых, хто не быў у эміграцыі.

Пелікша не змог вытрываць адлучэння ад роднай зямлі, ад сям'і і 12 ліпеня 1872 года скончыў жыццё самагубствам. «Атручаны болем няздзейсненых надзей жыццё ў сябе адабраў». Перад смерцю Карнель спаліў усе паперы, якія тычыліся паўстання.

* * *

Лёсы многіх паўстанцаў Мінскай губерні аказаліся зламанымі назаўсёды. Сябра Пелікшы — Баляслаў Свентаржэцкі пасля паражэння атрада эмігрыраваў у Францыю, у 1870 годзе прымаў удзел у французска-прускай вайне. У выніку таксама скончыў жыццё самагубствам у Венецыі.

Прысуджаны да катаргі першы ваявода Мінскай губерні Антоні Яленскі пасля яе адбыцця на Беларусь не вярнуўся, апошнія гады жыў у Кракаве.

Баляслаў Свіда адбываў катаргу ва Усоллі, затым Іркуцку, Табольску і Цюмені. У 1877 годзе яму было дазволена пасяліцца ў Пензе. Памёр усімі забыты ў 1897 годзе ў Каломне, дзе жыла яго дачка. Не змог вярнуцца на Радзіму, але да апошняга часу заставаўся яе вялікім патрыётам.

Нашчадкі Пелікшы — пяць яго любімых дачок: Вікторыя, Ганна, Стэфанія, Браніслава і Зоф'я. К 1876 году, акрамя непаўналетняй Зоф'і, іншыя дочкі Карнеля Пелікшы былі ўжо замужам: Вікторыя за Грыгаровічам, Ганна — за Багушэўскім, Стэфанія — за Сурынам, Браніслава — за Харэвічам.

Малодшая Зоф'я выйшла замуж за сына Адама Ваньковіча. У сям'і Францішка Ваньковіча і Зоф'і-Ядзвігі Пелікшы было двое дзяцей: Томаш і Ганна. Томаш нарадзіўся 20 студзеня 1888 года, у 1897 годзе быў упісаны да кніг Мінскай шляхты, памёр маладым. Ганна нарадзілася 1 лютага 1889 года, была замужам за Юзафам Рышкам.

Ад дзядзькі Карнеля Пелікшы — Франца-Фларыяна Янавіча Пелікшы пасля яго хуткай смерці ў 1864 годзе, дочкам паўстанскага ваяводы дастаўся па духоўнаму запавету маёнтак Любін агульнай плошчай 1582 дзесяціны з вёскамі Слабада, Боські, Шкавілаўка (Скавілаўка) у Кліноцкай воласці Ігуменскага павета. Да маёнтка таксама належылі фальварак, карчма, вадзяны мукамольны млын на Свіслачы.

Пасля секвестру маёнтка Горкі жонка Карнеля Пелікшы перабралася з дзецьмі ў маёнтак Любін, які Франц Пелікша набыў у сына Станіслава Манюшкі — Ігната. Жонка Карнеля Пелікшы нават была нейкі час апякуншай малалетніх дзяцей Манюшкі. Пасля смерці жонкі Пелікшы гаспадыняй маёнтка засталася старэйшая дачка былога ваяводы — Вікторыя Грыгаровіч. Малодшая дачка Зоф'я дапамагала Якубу Гейштару пры напісанні біяграфіі яе бацькі. Далейшы лёс нашчадкаў Пелікшы пакуль не выяўлены.

У Апчак-Горках былы сядзібны «панскі дом» выкарыстоўваўся пад жыллё, амбулаторыю, клуб і магазін, у канцы 1970-х гадоў быў знесены.

Якуб Гейштар успамінаў, што бібліятэка была падзелена паміж рознымі асобамі і прададзена за бясцэнак.

Без правядзення навуковай археалагічнай і гістарычнай экспертызы на месцы рэштках сядзібнага дома Пелікшы ў 2007 годзе была пабудавана новая праваслаўная царква.

Некаторыя дваровыя гаспадарчыя збудаванні панскага маёнтка, размешчаныя вакол галоўнага будынка, дайшлі да нашага часу. Сярод іх маленькая маслабойня, дом былой настаўніцы, велізарныя драўляныя гаспадарчыя будыніны, у якіх раней месціліся службы, лякарня і вучылішча. Праўда, усе уцалелыя будынкі знаходзяцца ў непрывабным стане. З 2007 года адзін дом згарэў, другі разабраны, астатнія выкарыстоўваюцца пад жыллё.

Вучылішча, заснаванае Карнелем Пелікшам, у савецкія часы было ператворана ў чатырохкласную Апчак-Горацкую школу, зачыненую ў 1970-я гады. У сувязі з наступным рэзкім прыростам насельніцтва прыгараднага пасёлка Прывольны тут у 1985 годзе была адчынена новая сярэдняя школа, у якой пра Пелікшу ніхто і не чуў.

Настаў час узняць з небыцця слаўнае імя Карнеля Пелікшы, успомніць пра добрыя справы гэтага чалавека, разумнага адукаванага гаспадара, філантропа, заступніка і асветніка сялян, паўстанца, і ўшанаваць яго памяць непасрэдна на Міншчыне, у тым жа пасёлку Прывольным, вёсках Апчак, Сініло і ў самім Мінску. Бо ў тым, што наша Беларусь зараз суверэнная дэмакратычная дзяржава, ёсць і яго ўклад, адпаведны гістарычным магчымасцям.

# АСАБЛІВАСЦІ ПАЎСТАННЯ 1863 ГОДА ВА ЎСХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ



Зміцер Хромчанка, *гісторык (Менск)*

Паўстанне 1863 года на тэрыторыі Беларусі гісторыкі характарызуюць — у залежнасці ад сваёй эпохі і ўласцівых ёй палітычных фактараў — то як шляхецкае нацыянальна-вызваленчае паўстанне, то як сялянскую сацыяльную рэвалюцыю. Адпаведна, і кіраўнікі гэтага паўстання набываюць рысы то нацыянальных лідараў, то правадыроў прыгнечаных народных мас. Агульнай жа асаблівасцю публікацый па гэтай тэме з'яўляецца акцэнтаванне ўвагі на падзеях у Заходняй Беларусі. Падзеі, якія адбываліся падчас паўстання ва ўсходняй частцы нашай краіны, як правіла, апісваюцца фрагментарна, без глыбокага аналізу. Увага аўтараў звычайна засяроджана на асобных, найбольш яскравых фактах, напрыклад такіх, як захоп горада Горкі атрадам Людвіка Звяждоўскага.

Мы паспрабуем прааналізаваць склад удзельнікаў паўстання і яго ходу ва ўсходняй Беларусі на прыкладзе Сенненскага павета Магілёўскай губерні, аб чым практычна няма згадак у наяўнай літаратуры.

## Падрыхтоўка паўстання і склад паўстанцаў

Звычайна паўстанне ва ўсходняй частцы Поўнача-Заходняга краю (Беларусі) разглядаецца як партызанскія дзеянні атрадаў, накіраваных сюды з іншых рэгіёнаў. На самой жа справе падрыхтоўка да паўстання паўсюль вялася на месцах. Паўстанню ў Магілёўскай губерні Літоўскі правінцыйны камітэт (ЛПК) надаваў адмысловае значэнне. Кіраўнікі ЛПК спадзяваліся, што адгэтуль рэвалюцыйны ўплыў распаўсюдзіцца і на губерні самой Расіі.

Задаўга да пачатку паўстання ў вёсках і сёлах губерні працавалі агітатары. Яны яшчэ не заклікалі прама да ўзброенай барацьбы, але рыхтавалі глебу для гэтага, зважаючы сельскае насельніцтва на несправядлівасць Маніфеста ад 19 лютага 1861 года, Агульнага і Мясцовых становішчаў аб адмене прыгоннага права. Падрыхтоўку да ўласна баявых дзеянняў ЛПК актывізаваў увесну 1863 года, ужо пасля пачатку паўстання. У пачатку красавіка ў Магілёўскае ваяводства (губерню) з Масквы прыехаў Людвік Звяждоўскі, які павінен быў кіраваць усімі дзеяннямі паўстанцаў у гэтым ваяводстве. Да яго і разам з ім агітацыйную і арганізатарскую працу тут вялі Канстанцін Жаброўскі (1838–1863), Ян Жукоўскі (1832 — каля 1890), Антон Алендскі (1843–1864),

Ігнат Будзіловіч (1841–1863) — у Магілёўскім, Аршанскім, Горацкім, Сенненскім і Чэрыкаўскім паветах.

У Сенненскім павеце гэтая праца набыла пэўныя формы ўжо ў лютым — сакавіку 1863 года. Аб гэтым сведчаць матэрыялы расследаванняў па справах удзельнікаў паўстання, якія праводзіліся пасля яго задушэння.

Напрыклад, у красавіку 1864 года памагаты сенненскага павятовага спраўніка праводзіў дазнанне аб дзейнасці падпольнай групы ў Абчугскай воласці. У яе ўваходзілі Хмаровіч (аканом маёнтка Абчугі), Драздоўскі (пісарчук Абчугскай воласці), Майсееў (валасны старшына), Самуйла (лекар з вёскі Сляпцы) і Кучынскі (фельчар). Падчас допытаў паўстанцаў і апытання сведак следчы высветліў, што ў гэтую групу ўваходзілі яшчэ тры чалавекі — Андрушкевіч, Сафронаў і Францкевіч. На працягу двух месяцаў да пачатку паўстання трое апошніх жылі ў будынку валаснога кіраўніцтва, а 23 красавіка 1863 года далучыліся да атрада паўстанцаў.

Сяляне з навакольных вёсак сведчылі, што бачылі, як гэтыя людзі адлівалі кулі з волава і трэніраваліся ў стралянiне побач вёскі Сляпцы. Дапамагалі ім рыхтаваць кулі і мясцовыя жыхары, у прыватнасці селянін Герасім з вёскі Прудзіны. За тыдзень да пачатку паўстання Яўмен Майсееў, старшыня Абчугскай воласці, перадаў у Сляпцы лекару Самуйле бочку жыта і бочку аўса — верагодна, у якасці правіянту для паўстанцаў і фуражу для іх коней*.

Актыўнымі арганізатарамі паўстання з'яўляліся галоўным чынам прадстаўнікі сельскай інтэлігенцыі і мясцовай улады. У той жа час матывацыя іх дзеянняў была не толькі нацыянальна-вызваленчай, але і антыпрыгоннай. Напрыклад, старшыня Абчугскай воласці Я. Майсееў казаў аканому маёнтка Хмаровічу:

> «Другое правление и другие порядки будут, не бойся пана, если вместе будем, то никто нам ничего не сделает» (гэтая фраза прыведзеная ў следчай справе).

У матывацыі дзейнасці арганізатараў і ўдзельнікаў паўстання, а таксама тых мясцовых жыхароў, якія ім спачувалі, значную ролю адыгралі сацыяльныя фактары. Справа ў тым, што прадстаўнікоў мясцовай шляхты адміністрацыі і іншага сельскага вяршка Сенненскага павета па ўзроўні матэрыяльнага дабрабыту хутчэй можна аднесці да маламаёмасных сялян, чым да заможных пластоў. Вось наводчнае пацверджанне:

> «Опись имущества дворянина Романа Матвеева Роговского, имение Худовцы Сенненского уезда за участие его в восстании 1863 г.
>
> 1) два сюртука старых черных без пуговиц, в одном из них оторвана часть полы; 2) один черный сюртук новый на подкладке; 3) двое пан-

* НГАБ. — Фонд 2001. Вопіс 2. Справа 93. Лісты 51, 52.

талонов старых, один льняной серого цвета, второй серого цвета шерстяной; 4) одна безрукавка хлопчатая серого цвета, поношенная, одна шелковая старая; 5) шинель серая суконная, старая, на вате, без рукава, подшита коленкором; 6) две рубашки льняные, одна новая, одна старая; 7) двое кальсонов белых льняных и поношенных.

Опись эту составил командированный чиновник коллежский секретарь Федоров»*.

Як бачым, гэты «дваранін» па сутнасці вёў паўжабрацкае існаванне і для яго, верагодна, найважнейшым было не тое, якая сёння ўлада над ім — польская або расійская, а тое, чым ён заўтра будзе карміць сваю сям'ю. Таму распаўсюджаныя адзнакі паўстання як «шляхецкага» (у сэнсе — «панскага», «арыстакратычнага»), роўна як і падлікі адсоткаў удзелу ў паўстанні шляхты і сялян не зусім сапраўдна адлюстроўваюць сутнасць тагачасных падзей.

Часта на месцах шляхта, асабліва ва Усходняй Беларусі, як па сваім маёмасным, так і сацыяльным становішчы мала чым адрознівалася ад забітай прыгнечанай масы сялян. З гэтага факту можна зрабіць выснову пра тое, што сацыяльную базу паўстанцаў складалі нізы грамадства (уключаючы ў гэтыя «нізы» і значную частку тутэйшай інтэлігенцыі).

Пазіцыя жа абшарнікаў была дваістай. Адны падтрымлівалі паўстанне (перш за ўсё — матэрыяльна) з-за незадаволенасці царызмам і расійскімі дзяржаўнымі парадкамі. Іншыя ж занялі насцярожаную або нават варожую пазіцыю па дачыненні да паўстанцаў, таму што асцерагаліся за сваю маёмасць. Ва Усходняй Беларусі апошніх было больш, прычым іх асцярогі мелі сур'ёзныя падставы. Напрыклад, выхадзец з мястэчка Халопенічы (на мяжы Сенненскага і Барысаўскага паветаў) этнограф Адам Багдановіч пісаў у сваіх мемуарах, што атрад паўстанцаў, які ішоў з Сянна праз Халопенічы на Барысаў, літаральна разрабаваў маёнтак Халопенічы. Больш таго, паўстанцы мабілізавалі некалькіх сялян з фурманкамі, пагрузілі на іх харчаванне і фураж, і толькі пасля гэтага адправіліся ў далейшы шлях**.

* * *

Стаўленне сялян да паўстання таксама было дваістае. Сяляне ўскладалі вялікія надзеі на рэформы, звязаныя з адменай прыгоннага права. Але ўмовы выкупу зямлі не апраўдалі іх чаканняў. Адпаведна, пачасціліся выпадкі хваляванняў і непадпарадкавання з іх боку. Так, правадыр дваранства Сенненскага павета 2 траўня 1862 года паведаміў агілёўскаму губернатару, што сяляне вёскі Худаўцы адмовіліся выконваць адпрацоўкі свайму абшарніку. Далей ён пісаў:

---

* НГАБ. — Фонд 2003. Вопіс 1. Справа 279. Лісты 3, 4.

** Глядзі: Богданович А. Мои воспоминания. // «Неман», 1994, № 5, с. 53–54.

«...были принимаемы полицией должные меры к восстановлению порядка, но все эти меры остались безуспешными, и крестьяне упорно отказались от исполнения своей обязанности, притом выказали дерзость и неуважение к властям, а арестованных главных виновников неповиновения пытались освободить...

Долгом считаю присовокупить, что крестьяне д. Худовцы вышли из повиновения, как доходят до меня сведения, потому, что один прохожий раскольник убедил их, будто помещиком вырвано из Положения 6 листов, в которых и заключалось действительное определение их свободы»*.

Падобныя прыклады паказваюць, што арганізатары паўстання задаўга да яго пачатку вялі не толькі арганізацыйную, але і агітацыйную працу сярод насельніцтва, робячы націск на пытанні землеўладання і персанальнай волі сялян. Агітацыя працягвалася і падчас паўстання, а сяляне добразычліва ўспрымалі яе. Вось што паведамляў 7 траўня 1863 года міравы пасрэднік 2-го ўчастка Сенненскага павета магілёўскаму губернатару А.П. Беклямішаву:

«...в местах, через которые прошли банды мятежников, крестьяне (...) перестали исполнять возложенную на них за землю повинность; лисичанский староста показал, что из банды мятежников, проходившей из Столбцов на Сторожище и прибывшей на село Лисичино, несколько человек вошли в церковь во время литургии 5 мая сего месяца и прочли возмутительный манифест, объявив крестьянам, что отведенную землю они им дарят вместе с полной свободой, а старшине угрожали виселицей, если он будет отдавать какие-либо приказания. Некоторые крестьяне благодарили мятежников и целовали им руки**.

Адзначым у гэтай сувязі, што ЛПК сапраўды склаў маніфест ад 20 студзеня 1863 года і разаслаў яго тэкст ва ўсе паўстанцкія атрады для абвяшчэння сярод насельніцтва. Гэты маніфест, у прыватнасці, абвяшчаў:

«...крестьянам на вечные времена передаются без чиншей и выкупа те земли, которыми они до того времени владели».

Акрамя таго, маніфест абяцаў вылучыць па 5 моргаў зямлі кожнаму беззямельнаму селяніну***.

Іншая ж частка сялян, і досыць значная, апынулася пад уплывам афіцыйнай прапаганды, якая паказвала паўстанне як «бунт польскіх паноў», накіраваны супраць адмены прыгоннага права. Напрыклад,

---

* Глядзі: Крестьянское движение в Белоруссии после отмены крепостного права (1861–1862 гг.). Документы и материалы. Минск, 1959.

** Восстание в Литве и Белоруссии. 1863–1864 гг. Сборник документов. Москва, 1965, с. 468.

*** Морг літоўскі = 300 квадратных шнуроў = 0,605 дзесяціны (0,661 га). Пяць моргаў = 3,025 дзесяціны (3,305 га). — *Рэд.*

вось якую фантастычную версію высунулі сяляне з вёскі Угалёўшчына Сенненскага павета:

> «Царь освободил крестьян от крепостной зависимости. Каждому крестьянину при этом должны были дать 6 рублей деньгами и по 20 десятин (21,85 га) земли. Панам это не понравилось, они сошлись с поляками, стали готовиться к восстанию. Поляков паны подговорили и говорили, что если они помогут панам, то могут взять всю свою землю обратно» (с. 151)*.

## Тактыка паўстанцаў

Паўстанне ў Магілёўскай губерні павінна было адбывацца па адзіным плане. Вось што адзначана ў рапарце губернскай следчай камісіі губернатару А.П. Беклямішаву ад 16 снежня 1863 года:

> «У всех вообще начальников шаек, как видно по производящимся делам, был одинаковый план действий, который состоял в следующем: в возбуждении народонаселения, особенно крестьян, противу правительства чтением революционных манифестов, к склонению к поступлению в шайки, в уничтожении мостов и переправ, ограблении правительственных учреждений и в действиях, где представлялось возможным, против русских войск»**.

У ноч на 23 красавіка 1863 года сфарміраваныя ў шэрагу населеных пунктаў узброеныя атрады паўстанцаў адначасова выступілі. Паўстанне ахапіла Сенненскі, Аршанскі, Горацкі, Магілёўскі, Чэрыкаўскі паветы Магілёўскай губерні. Кіраўніцтва паўстанцаў спадзявалася, што падчас рэйдаў атрады будуць папаўняцца з мясцовага насельніцтва і дзякуючы гэтаму паўстанне набудзе масавы характар.

У Сенненскім павеце атрады фарміравалі Канстанцін Жаброўскі і Антон Алендскі. Жаброўскі збіраў байцоў для свайго атрада ў Лукомлі, Чарэі, вёсках Сляпцы, Мальцы і Худава Сеннноского павета. Гэты атрад павінен быў дзейнічаць у паўночнай частцы павета і губерні. Але з самага пачатка план не спраўдзіўся, бо на зборныя пункты прыбыла значна менш добраахвотнікаў, чым чакала паўстанцкае кіраўніцтва. Калі ксёндз касцёла ў Лукомлі прыводзіў атрад да прысягі, у ім было каля 100 чалавек.

Таму К. Жаброўскі змяніў першапачатковы план і павёў атрад праз Халопенічы на Барысаў, каб злучыцца з атрадамі Барысаўскага павета. Падчас маршу да атрада далучаліся сяляне, хоць і ў меншай колькасці, чым чакала кіраўніцтва паўстанцаў. Так, А. Багдановіч пісаў пазней,

---

* Васілеўскі Д. Сялянства Віцебскай і Магілёўскай губерань у паўстанні 1863 . // «Полымя», 1928, № 6, с. 151.

** Восстание в Литве и Белоруссии. 1863–1864 гг. Сборник документов. Москва, 1965, с. 487–488.

што ў 15 вярстах ад Халопеніч, у вёсцы Лісічына быў сфарміраваны мясцовы атрад паўстанцаў колькасцю да 150 чалавек*.

Атрад Антона Алендскага фарміраваўся ў раёне Талачына і дзейнічаў непасрэдна ў Сенненскім павеце. Практычна ў кожнай вёсцы, куды прыходзіў атрад, паўстанцы агітавалі сялян. Яны абяцалі ім перадаць у карыстанне ўсю зямлю, цалкам вызваліць ад улады абшарнікаў і ад рэкруцкай павіннасці. Насельніцтва ўспрымала гэтыя абяцанні з радасцю, некаторыя сяляне ўступалі ў атрад, але сапраўды дзейснай дапамогі ад сялян Алендскі не атрымаў.

Ён здолеў нанесці страты рэгулярным войскам у сутычках 26 і 27 красавіка поруч вёскі Антонава, але ў бітве ў мястэчку Славені ўвечар 27 красавіка атрад быў пабіты. Пасля гэтага рэшткі атрада Алендскага далучыліся да атрада Жаброўскага. Гэты злучаны атрад быў цалкам разгромлены рэгулярнымі войскамі 7 (19) траўня ў ляску поруч вёскі Падбярэззе, на мяжы Сенненскага і Барысаўскага паветаў.

Паводле рапарту камандзіра Крэмянчугскага палка палкоўніка Дуброўскага, атрад Жаброўскага — Алендскага налічваў у гэты час ад 300 да 400 чалавек, у тым ліку 60 кавалерыстаў. Паўстанцы размясціліся на ўзнёслым узлеску, дзе пабудавалі часовае ўмацаванне ў выглядзе агароджы са ствалоў і галін дрэў. Каб выбавіць іх адтуль, Дуброўскі схаваў свае асноўныя сілы ў ляску, а да лагера паслаў узвод салдат прапаршчыка Троцкага-Сянітовіча.

Прапаршчык з белай хусткай у руцэ падышоў амаль да агароджы і прапанаваў паўстанцам здавацца. Убачыўшы, што салдат няшмат, паўстанцы кінуліся ў атаку. У гэты момант з лесу з крыкамі «ўра» выбеглі салдаты і кінуліся ім у фланг. Паўстанцам прыйшлося вяртацца ў свой лагер пад агнём суперніка. Бой доўжыўся дзве гадзіны і завяршыўся поўным разгромам паўстанцаў. Яны панеслі значныя страты забітымі і палоннымі, сярод апошніх апынуліся абодва камандзіры**.

Рускім карнікам дастаўся ўвесь абоз (7 фурманак), коні і зброя, у тым ліку самаробная гармата з драўляным ствалом, змацаваным жалезнымі абручамі***.

Сярод паўстанцаў было нямала жыхароў навакольных мястэчкаў і вёсак. У карысць гэтай тэзы гаворыць наступны факт:

> «Пять обозных телег завалили трупами и в демонстративных и следственных интересах повезли хоронить в Холопеничи. На католическом кладбище были вырыты три огромные ямы. Туда же согнали народ и, разложив окровавленные и посинелые трупы, превратили кладбище в импровизированный морг, заставляя согнанных осматривать трупы и

* Глядзі: Богданович А. Мои воспоминания. // «Неман», 1994, № 5, с. 55.

** Глядзі: Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Крупскага раёна. Мінск, 1999, с. 94.

*** Васілеўскі Д. Сялянства Віцебскай і Магілёўскай губерань у паўстанні 1863 . // «Полымя», 1928, № 6, с. 157.

опознавать. Имена опознанных записывали для дальнейшего расследования»*.

Абодва камандзіры паўстанцаў былі пакараныя па прысудах ваеннапалявых судоў: Жаброўскага публічна расстраляли 24 чэрвеня (6 ліпеня) 1863 года ў Барысаве, Алендскага праз 10 месяцаў — 30 сакавіка (11 красавіка) 1864 года ў Менску.

## Высновы

— Паўстанне ў Магілёўскай губерні рыхтавалася загадзя, здзяйснялася па адзіным плане і пачалося адначасовымі выступамі паўстанцкіх атрадаў.

— Верагодна, уладам быў вядомы план паўстання, паколькі яны паспелі своечасова распачаць адпаведныя дзеянні і разграмілі ўсе атрады за кароткі час, не даўшы ім разгарнуцца.

— Паўстанне не набыло шырокага размаху, але ўсё ж атрымала большае развіццё, чым прынята сцвярджаць у гістарычнай літаратуры. Лічыцца, што ва ўсёй губерні ў ім удзельнічала каля 800 чалавек. А па нашых падліках у адным толькі Сенненскім павеце паўстанцаў было не менш чым 500 чалавек. Ускосным пацверджаннем такой высновы служыць і той факт, што ўлады накіравалі ў Магілёўскую губерню для задушэння паўстання 70 рот рэгулярных войскаў!

— Чыннікі гэткага разыходжання ў лічбах складаюцца з таго, што гісторыкі будуюць свае развагі выключна на дакументах таго часу, у якіх колькасць паўстанцаў па палітычных меркаваннях прыніжана (асабліва гэта тычыцца паўстанцаў-сялян), а дзеянні мясцовага насельніцтва пададзеныя толькі як варожыя ў дачыненні да іх.

— Няслушна ацэньваць склад удзельнікаў паўстання выключна як шляхецкі. Для характарыстыкі гэтага складу ў першую чаргу мае значэнне ўзровень дабрабыту, а сацыяльны фактар у паўстанні 1863 года на нашых землях быў больш важкі, чым нацыянальныя або саслоўныя адрозненні.

— Паўстанцы імкнуліся абаперціся першым чынам на асноўную масу насельніцтва — бедных і маламаёмных сялян. Пры гэтым у сваёй агітацыі яны ставілі на першы план пытанні зямлі і волі, а не палітычнай або нацыянальна-рэлігійнай арыентацыі.

— Значная частка сялянства ўспрыняла лозунгі паўстання, атрады актыўна папаўняліся за кошт мясцовых жыхароў. Калі б паўстанне не было задушана на сваёй пачатковай стадыі, яно магло б разгарнуцца ў шырокі народны рух.

---

* Богданович А. Мои воспоминания. // «Неман», 1994, № 5, с. 56–57.

# ДЗВЕ БІТВЫ НА ВІЛЕЙШЧЫНЕ




## Зміцер Хаценчык, Дзяніс Канецкі,
*краязнаўцы (г. Вілейка)*


### Пачатак партызанкі

У ноч з 22 на 23 студзеня 1863 г. у Польшчы пачалося паўстанне. 1 лютага Літоўскі Правінцыйны Камітэт абвясціў свой маніфест, але пачатак узброенай барацьбы быў прызначаны на 15 красавіка (па старым стылі). На Міншчыне баявыя дзеянні паўстанцаў пачаліся 19 красавіка (хоць яшчэ 21 сакавіка адбыўся бой паўстанцаў з царскімі войскамі ў маёнтку Свечкі, што каля Краснага). Дзесьці ў гэты ж час распачалася партызанка аддзела Вінцэнта Козел-Паклеўскага на Вілейшчыне.

Козел-Паклеўскі абраў месцам збору свайго аддзела гушчары Дзвінскай пушчы на памежжы Вілейскага і Барысаўскага паветаў (цяпер гэта Лагойскі раён). Як адзначаюць гістарычныя крыніцы, 20 красавіка (стары стыль) да яго аддзела далучылася групоўка штабс-капітана Мельхіёра Чыжыка, якая налічвала 78 паўстанцаў з Барысаўскага павета, і групоўка Сухоцкага, якая складалася з 40 вілейчан. Такім чынам колькасць паўстанцаў дасягнула 180 чалавек.

21 красавіка, як узгадваюць дакументы, паўстанцы з'явіліся ў мястэчку Альковічы. Тут у мясцовым касцёле быў зачытаны маніфест паўстання, але мясцовы пробашч чытаць яго адмовіўся ( вось табе і падтрымка каталіцкай царквы!). Пасля прачытання маніфест быў перададзены прысутным у касцёле сялянам. Сярод удзельнікаў гэтага чытання ўзгадваюцца два браты Козелы з маёнтка Сэрвач.

Дзесьці ў гэты ж час да аддзела Козел-Паклеўскага далучылася група паўстанцаў Эўгеніюша Кавальскага-Стржыслава і Радзевіча-Вінцэнта Адынца, што была ў складзе 36 чалавек.

У гушчары Дзвінскай пушчы Козел-Паклеўскі пачаў ствараць са свайго аддзела сапраўднае войска. Паколькі асноўную частку паўстанцаў складала шляхецкая моладзь, студэнты, вучні гімназій, рамеснікі з мястэчак і гарадоў, а таксама невялікая колькасць сялян (каля 18 %), то гэта былі людзі недасведчаныя ў вайсковай справе. Таму ў лагеры пад кіраўніцтвам былых вайскоўцаў праводзіліся заняткі па ваеннай падрыхтоўцы. Кожны дзень частка паўстанцаў выходзіла ў суседнія вёскі і фальваркі, дзе зачытвала маніфест паўстання, праз што спадзявалася далучыць ахвотнікаў да свайго войска.

Лагер інсургентаў часта наведвалі прадстаўнікі цывільнай паўстанцкай улады Вілейшчыны: Ул. Аскерка, К. Тукала і І. Куроўскі. Яны пры-

возілі загады з Вільні, весткі аб дыслакацыі расейскіх войск, а таксама грошы, абутак, адзенне, зброю і харчаванне.

Праз некалькі дзён Козел-Паклеўскі падзяліў свае войска на 3 плутоны (узводы) па 60 чалавек у кожным. Першым плутонам камандаваў Мельхіёр Чыжык, які быў штабс-капітанам расейскага войска, другім — Жалняркевіч, таксама былы вайсковец, а трэцім — Леапольд Асвяцімскі, студэнт Кіеўскага ўніверсітэтf. З тых паўстанцаў, у якіх не было зброі, стварылі аддзел касінераў (іх узброілі косамі, перарobленымі на дзіды). Таксама пры штабе Козел-Паклеўскага было 10 кавалерыстаў для рэкагнасцыроўкі. Сам штаб складалі: Вінцэнт Козел-Паклеўскі, Казімір Бароўскі і Аўгуст Казела (Козел-Паклеўскі). Такім чынам, аддзел Козел-Паклеўскага налічваў больш за 200 чалавек.

Пасля рэарганізацыі і вучобы ў дзвіноскіх лясах паўстанцкі аддзел накіраваўся ў бок Даўгінава. Як піша ў сваіх успамінах Э. Кавальскі, «ішлі ў вайсковым парадку, з разгорнутымі штандарамі, спяваючы патрыятычныя песні, не хаваючыся, дарогай праз вёскі і фальваркі».

У фальварку Генрыкполе, які належаў Асвяцімскім, спыніліся на абед. Потым рушылі на Янушкевічы. Па дарозе, у вёсках і фальварках, чыталі маніфест паўстання, а праз гэта ўсё спадзяваліся далучыць новых ахвотнікаў. Але толькі ў двары Крайчанка, дзе была суконная фабрыка, да іх далучыліся трое чалавек. Каля вёскі Камена перайшлі Вяллю ўброд і ранкам 26.04 (8.05) увайшлі ў мястэчка Даўгінава.

У гэты дзень у Даўгінаве адбываўся фэст у гонар св. Станіслава, імем якога названы мясцовы касцёл. Адзін плутон паўстанцаў захапіў установу паліцэйскага асэсара і знішчыў каравульныя пастарункі, другі плутон размясціўся на местачковым рынку, а трэці, склаўшы зброю, увайшоў у касцёл. Паўстанцкі капелан, ксёндз Гвалдзецкі (ён паходзіў з Ваўкалаты), служыў Св. Імшу і прамовіў перад прысутнымі ўзнёслае казанне пра неабходнасць вызвалення Айчыны, але да паўстанцаў далучылася толькі некалькі мясцовых.

Пасля Св. Імшы паўстанцы падрыхтаваліся і вырушылі па дарозе ў бок Докшыцаў. Але неўзабаве, праз некалькі кіламетраў, збочылі ў накірунку Дзвіноскай пушчы.

27 красавіка гісторыкі фіксуюць сутычку аддзела Козел-Паклеўскага з урадавымі войскамі паблізу вёскі Тараканаўка. Вось як аб гэтым піша Станіслаў Зялінскі ў сваёй кнізе « Бітвы і сутычкі 1863–1864 гг.»:

> «27. 04. (09.05) 1863 г. Адбылася перастрэлка паміж дзвюма ротамі расейскіх войск і аддзелам пад кіраўніцтвам Вінцэнта Козел-Паклеўскага каля в. Тараканаўка. Амаль гадзіну расейцы абстрэльвалі паўстанцаў, якія заселі ў зарасцях каля ракі Дзвіносы. Паўстанцы ў адказ не стралялі, бо на адлегласці ў 500 крокаў іх паляўнічыя стрэльбы былі малаэфектыўныя. Адзіны, Леапольд Асвяцімскі, які меў сапраўдны штуцар, стрэліў з яго некалькі разоў у бок маскоўцаў і забіў аднаго жаў-

нера, а другога — параніў. З боку паўстанцаў загінуў Ігнацый Казлоўскі — лекар і быў паранены Антон Палонскі. З-за гэтай сутычкі расейцы спалілі двор (фальварак) Дзвіноса».

Пасля гэтай сутычкі з урадавымі войскамі аддзел Козел-Паклеўскага быў вымушаны схавацца на некалькі дзён у Ман'якаўскіх лясах каля фальварку Ман'якаў, які належаў Бжэзінскім. У гэты час надвор'е сапсавалася, пахаладала, некалькі дзён запар ішлі дажджы, таму вырашана было ісці ў маёнтак Зацемень, каб крыху падсілкавацца і пераначаваць у панскай адрыне. Але расейскія войскі ішлі за паўстанцамі па гарачых слядах.

Пастка вось-вось павінна была зачыніцца, таму, хаваючыся ад пераследу, аддзел сышоў у лясы Стаецкія, якія належалі Севярыну Багдановічу, і стаў лагерам недалёка ад Мацькаўцаў. Пан Багдановіч наладзіў харчаванне паўстанцаў з маёнтка Стайкі, замяніў паўстанцкіх коней на новых са сваёй стайні.

У дзень 14. 05 (26.05) 1863 г. у Мацькаўцы прыйшла сотня казакоў. Кола атачэння звужалася. Увечары да Козел-Паклеўскага ў лагер прыбег ляснік пана Багдановіча і папярэдзіў паўстанцаў аб тым, што зранку казакі паедуць па вузкай грэблі, дзе іх лёгка можна перабіць. Паўстанцы пакладіся спаць, каб на досвітку зрабіць напад на казакоў. На варце застаўся Аляксандр Валіцкі, які павінен быў пабудзіць інсургентаў апоўначы. Надвор'е было халоднае і дажджлівае, таму Валіцкі згатаваў сабе грогу, выпіў, каб не змерзнуць і …заснуў . Прачнуліся паўстанцы, калі сонца ўзыходзіла, а казакі былі ўжо на грэблі. Козел-Паклеўскі быў раз'юшаны, ён хацеў расстраляць Валіцкага, але за таго ўступіўся Чыжык. Паўстанцы хутка згарнулі свой лагер і ўздоўж грэблі, па якой толькі што праехалі казакі, накіраваліся ў бок Уладыкаў.

Ранкам 16.05 (28.05) аддзел Козел-Паклеўскага падышоў да берага ракі Іллі. З-за дажджоў, якія ішлі некалькі дзён запар, рака разлілася. Паўстанцы пачалі будаваць плыты, каб пераправіцца на супрацьлеглы бераг, на якім у кіламетры злева ад іх была бачна вёска Уладыкі.

Адсюль пачынаецца апошняя і трагічная старонка аповеду пра партызанку аддзела Козел-Паклеўскага на Вілейшчыне.

## Бой пад Уладыкамі

Вось як падае падзеі пад Уладыкамі расейскі бок (сапраўдны архіўны дакумент): «Журнал военных действий войск в Минской губернии с 14-го по 28-е мая 1863 г. /Архив Муравьевского музея. 91/19. — л. 80).

«В Борисовском уезде.

Высланные ночью 11 мая с майором Ковалевским две роты Великолуцкого полка (3-я стрелковая и 5) из Минска соединившись с 13-ю ротою Кременчутского резервного пехотного полка в Логойске, при-

были в Завишено 13-го числа, не застав уже мятежников. В этот же день пришла туда и 15 рота того же резервного полка; командование обеими ротами резервного полка военный начальник Борисовского уезда поручил находящемуся в Борисове адъютанту Великого Князя Николая Николаевича полковнику Галлу, который, как старший, принял в Завишено начальство над всеми войсками, там сосредоточившимися. Вечером, 13-го же явилась в Завишено и 5-я рота Новоингерманландского полка из Вилейки.

По полученным сведениям, шайка Козелла, бывшая в Завишено 12-го мая, перешла в Вилейский уезд, в так называемую Стайкиободовскую пущу. Войска утром 14-го двинулись за нею до д. Затемье, прилегающей к означенной пуще. Здесь представлялось большое затруднение открыть мятежников: местность чрезвычайно лесиста и болотиста, а жители дер. Затемья, через которую только что прошли повстанцы, шляхтичи, которые только по слухам, были приведены мятежниками к присяге на верность повстанью, не давали положительного ответа о направлении шайки, говоря только, что она пошла в лес. Посланные по разным направлениям 14 мая разъезды, а затем 15-го числа — отряды пехоты, не открыли следов повстанцев, хотя пехота обошла почти весь окрестный лес, а некоторые ее части проходили, как оказалось после, всего шагах в 800 от шайки. Только вечером 15-го были получены сведения, что шайка находится вблизи с. Владыки. Жители Затемья решились тогда указать кратчайший к этому пункту путь.

Стайкиободовская пуща рассекается почти по середине греблею, ведущею из д. Старинки. Южная часть пущи прилегает к непроходимым болотам, по середине которых протекает сплавная река Илия. В эту часть пущи, по показанию жителей Затемья, и пошли мятежники.

Намереваясь не допустить шайке прорваться в северную часть пущи, полковник Галл приказал 5-й роте Новоингерманландского полка, под командою штабс-капитана Волкова, занять греблю; оставив же обоз под надлежащим прикрытием в д. Затемье, полковник Галл с остальными двумя Великолуцкими ротами (резервные же еще в то время не вернулись из дальней рекогносцировки), направился в глубь леса по указанному жителями направлению. Идя по болотистой тропинке, войска вскоре открыли свежие следы прохождения шайки.

Затем к войскам выбежал из дер. Владыки крестьянин, сообщивший, что мятежники ночью переправились с правого на левый берег Илии и расположились к лесу, возле той деревни, заняв против брода позицию. Этот же крестьянин предложил указать другой брод, выше того, за которым расположились мятежники. Хотя указываемый брод в то время был очень глубок и узок, но так как он был неизвестен повстанцам, и представлял возможность напасть нечаянно на шайку, и при том почти в тыл ее, то им и было решено воспользоваться. Пройдя с полверсты по страшному болоту, роты дошли до брода и начали пе-

реправляться через реку; вода в некоторых местах достигала до груди солдат, не могших идти иначе, как по одиночке.

Шедшая в голове 3-я стрелковая рота, под командою поручика Воронкова, тотчас после переправы живо выстроилась за д. Владыки, пробежала эту деревню и, заметив в лесу, отделяемом от деревни небольшой полянкой, мятежников, бросилась на них рассыпною атакою. Мятежники, несмотря на всю неожиданность появления войск, успели занять опушку леса и, подпустив стрелков на 50 шагов, открыли по ним весьма сильный огонь, вынесший из наших рядов несколько человек, в том числе и командующего ротою. Поручик Воронков ранен крупною картечью в сгиб руки. Место его занял поручик Антонов. Несмотря на это, стрелки бросились в штыки.

5-я рота, под командованием штабс-капитана Миллаура, выйдя на поляну и за ней резерв, пристроилась к обоим флангам стрелковой роты. Совокупными действиями этих двух рот шайка была поставлена в самое отчаянное положение, окруженная почти со всех сторон, приперта к реке. Мятежники, однако ж, не думали о сдаче. С полчаса продолжалась окончательная ожесточенная схватка, соединенная с огнестрельным боем. Наконец, не видя возможности сопротивления, часть повстанцев, составившая общую кучу, вроде колонны, бросилась в реку, представив таким образом стрелкам занявшим берег, хорошую цель для их выстрелов; немного из искавших спасения достигли другого берега.

Тотчас после дела, продолжавшегося около 3-х часов, подошла рота Новоингерманландского полка, которая, получив сведения о бое, тотчас двинулась к месту его ускоренным шагом, следуя иногда и бегом. Полковник Галл поручил этой роте, прибывшей с противоположного берега, очистить прилегающий к месту дела лесок от ускользнувших туда повстанцев. Ею открыто несколько мятежников, частью спрятавшихся на деревьях, они или убиты, или взяты в плен.

Шайка Козелла почти совершенно уничтожена. По показанию пленных, она расширялась до 300 человек, большею частью хорошо вооруженных, преимущественно дворян и помещиков Борисовского и Вилейского уездов. Потерю мятежников с точностью определить трудно, многие из них, никак не менее 50 человек, погибли в реке; собранных же на месте дела и в тот же день похороненных тел было 74, затем на другой день еще доставлено в дер. Владыки 16 тел; кроме того, есть сведения, что на противоположном берегу после ухода войск найдено до 30 тел, вероятно, успевших переправиться через реку и умерших от ран повстанцев. Взятых в плен 25 человек. Отбито оружия: 65 ружей, 21 пистолет, 3 сабли, 1 шашка, 1 кинжал, 3 косы, 3 топора и 1 нож. Захвачено 10 лошадей.

Потеря наша: убитых 10, раненых 34, из которых 4 умерло вскоре. По окончании дела все войска, высланные для преследования шайки Козелла, возвратились на свои места».

А вось як апісвае тыя ж падзеі Станіслаў Зялінскі ў сваёй кнізе «Бітвы і сутычкі 1863–1864 гг.»:

«Ранкам 16.05 (28.05) 1863 г., калі большая частка паўстанцкага аддзела Козел-Паклеўскага пераправілася на супрацьлеглы бераг ракі Іллі на плытах, з боку вёскі Уладыкі пачуліся стрэлы і з'явілася расейская пяхота. Частка паўстанцаў, якая знаходзілася на плытах пасярэдзіне ракі, была вымушана вярнуцца на супрацьлеглы бераг з-за моцнага агню расейцаў. Вінцэнт Козел-Паклеўскі, камандзір аддзела, зарганізаваў абарону сіламі паўстанцаў, якія пераправіліся на ўладыцкі бераг.

Паўстанцы сустрэлі пяхоту моцным агнём у адказ, спынілі яе і нават на левым крыле аддзел касінераў пад кіраўніцтвам Здзіслава Ратынскага адкінуў суперніка да вёскі. Але ўзброеныя стрэльбамі жаўнеры хутка перабілі паўстанцаў з косамі.Частка паўстанцаў спрабавала знайсці ратунак у рацэ, але ж да іншага берагу даплылі адзінкі.

2 гадзіны доўжыўся няроўны бой. З 200 паўстанцаў ацалела толькі 54, 53 зніклі без звестак, 25 трапілі ў палон, 2 былі цяжка параненыя, 58 палегла на полі бою.

Сярод загінуўшых: Даманоўскі, Даўкша, былы расейскі афіцэр, двое Адынцоў, Канапацкі, Капец, Ратынскі Альфрэд, Радзевіч Стржыслаў з сынамі, Тышкевіч Генрык, Валіцкі Аляксандр, Вінцэнт Козел-Паклеўскі і іншыя.

У палон трапілі: Шафкоўскі Вітольд (паранены), Здзіслаў Ратынскі (сколаты расейскімі штыхамі, але жывы), Аўгуст Козел-Паклеўскі і інш.»

Частку ацалелых паўстанцаў з аддзела Козел-Паклеўскага, якія не паспелі пераправіцца праз Іллю, павёў у Ігуменскія лясы Мельхіёр Чыжык (дзесьці каля 40 чалавек).

Паўстанцаў, якія загінулі пад Уладыкамі, пахавалі ў брацкай магіле на ўскрайку вёскі, а забітых царскіх жаўнераў — на вясковых могілках.

Такім чынам скончылася спроба вілейскіх паўстанцаў са зброяй у руках адваяваць незалежнасць забранага Краю. Як піша ўдзельнік падзей Э. Кавальскі, якому пашчасціла ўратавацца, пераплыўшы Іллю:

«У тым баі загінулі лепшыя людзі, квецень Вілейскага павета».

Але паўстанне яшчэ не скончылася і на Вілейшчыне адбыўся яшчэ адзін бой.

## Бой каля Каралеўцаў

Каля возера Нарач Густаў Чаховіч, пад псеўданімам Астоя (паводле назвы радавога герба), згуртаваў вакол сябе паўстанцкі аддзел колькасцю больш за 200 чалавек. Па плану паўстанцкага штаба гэты аддзел павінен быў далучыцца да паўстанцаў Козел-Паклеўскага, каб далей дзейнічаць разам. Месцам сустрэчы паўстанцкіх войск абралі лясы

каля маёнтка Любань. Менавіта туды і вёў сваіх касінераў Густаў Чаховіч. Ён яшчэ не ведаў, што аддзела Козел-Паклеўскага больш не існуе, што ён амаль увесь палёг каля Уладык.

Паміж вёскамі Вуткі і Любкі касінеры Чаховіча Астоі сустрэліся з царскімі войскамі і адбыўся бой. Вось што піша Станіслаў Зялінскі ў кнізе «Бітвы і сутычкі 1863–1864 гг.»:

«24.05 (05.06.) 1863 г. в. Любкі.

Аддзел павету Свенцянскага пад кіраўніцтвам Густава Чаховіча Астоі прыйшоў да любанскіх лясоў у павеце Вілейскім. Каля вёскі Любкі, непадалёк ад Іжы, атакаваў высланыя з Вілейкі паўтары роты пяхоты Наваінгерманланскага паўку і 20 казакаў на чале з капітанам Дзмітрыевым.

Нягледзячы на стомленасць маршам і нязручную пазіцыю, паўстанцы 3 гадзіны мужна змагаліся. Касінеры два разы адбівалі атакі жаўнераў, здабыўшы пры гэтым 12 штуцараў.

Але ж паўстанцы былі вымушаныя адступіць, страціўшы 6 чалавек забітымі і 8 параненымі, сярод якіх быў і камандзір касінераў — Канстанцін Касцялецкі.
Расейцаў палегла 17, а 23 было паранена.

Частка аддзела, 30 чалавек пад кіраўніцтвам Лявона Астоі Чаховіча, была адрэзана падчас бітвы ад астатняга войска паўстанцаў і вымушана адысці ў павет Дзісненскі.»

Паўстанцаў, якія загінулі ў бітве каля Каралеўцаў, пахавалі ў брацкай магіле побач з вёскай Вуткі. Цяпер на месцы той магілы знаходзіцца жвіровая капальня, з якой бралі пясок на будаўніцтва дарогі паміж Іжай і Любанню ў савецкія часы. Такім чынам косьці некаторых са змагароў-паўстанцаў цяпер раскіданыя дзесьці паміж гэтымі вёскамі.

Гэты бой быў апошнім, які адбыўся на Вілейшчыне падчас паўстання 1863 г. Праз нашы абшары яшчэ праходзілі дробныя часткі паўстанцаў, якія ішлі на злучэнне з больш буйнымі паўстанцкімі аддзеламі, але значных баёў больш не было.

# ВОССТАНИЕ 1863 ГОДА В КОБРИНСКОМ УЕЗДЕ



Олег Карпович, *историк (Брест)*

Кобринский уезд столкнулся с событиями восстания в феврале 1863 г., когда на его территорию вошел повстанческий отряд Романа Рогинского, пробившийся с боями на белорусские земли из Польши.

После захвата Пружан отряд Рогинского двигался по территории Кобринского уезда до Антополя. По пути следования к Рогинскому активно присоединялись местные дворяне, гимназисты, ремесленники, служащие лесной стражи. В итоге отряд вскоре вырос до 85 человек. Местные помещики, не вливаясь в его отряд сами, старались оказывать ему некоторую помощь. Так, при проходе Рогинского через имение помещика Шемиота, последний дал Рогинскому в качестве проводника своего родственника Керножицкого, наказав ему «провести отряд проселочным путем на большую дорогу, идущую от Пинска на Волынь».

2 февраля его отряд прибыл в имение Антополь Кобринского уезда, принадлежащее графу Казимиру Ожаровскому. Отставной артиллерийский штабс-капитан и бывший мировой посредник Кобринского уезда граф Ожаровский был довольно влиятельной фигурой. На его помощь в пополнении своего отряда людьми и рассчитывал Рогинский. Однако старый граф не оказал Рогинскому приема, на который тот рассчитывал, и вся помощь свелась лишь к поставке продовольствия повстанцам. Напоследок Ожаровский подарил Рогинскому своего лучшего коня и карабин. Впрочем, это скорее был жест вежливости. Не получив реальной помощи от графа Ожаровского, Рогинский на свой страх и риск решил двигаться дальше, в глубь Полесья [8, с. 39].

В апреле 1863 года в Кобринском уезде местной революционной организацией, которую возглавляли городские врачи Павел Павловский и Шпаковский, было получено воззвание из Варшавы о мобилизации неженатых мужчин в повстанческие отряды. Влиятельное дворянство Кобринского уезда собралось на совещание в имении Божий Дар помещика Яна Митрашевского. На совещании присутствовал еще один кобринский врач, помещик Флорентий Ожешко, проживавший с братом Брониславом в родовом имении Овзичи. Позднее имения помещиков Ожешко — Людвиново и Овзичи будут использоваться повстанцами как базы хранения оружия и продовольствия [22, с. 11–12].

Здесь же отставной подполковник русской армии, владелец имения Остров Ромуальд Траугутт дал согласие возглавить повстанческий отряд Кобринского уезда. Среди повстанческого руководства Траугутт

как офицер с огромным боевым опытом (участник Венгерской кампании 1849 г., обороны Севастополя в Крымскую войну) имел солидный авторитет. Будучи опытным, образованным и умным человеком, он прекрасно понимал, что шансов у восстания не было:

> «Я никому не давал совета восставать, наоборот, как бывший военный, я видел всю сложность борьбы без армии и вооружения с государством, известным своей военной мощью. Когда вооруженное восстание должно было вспыхнуть в Кобринском повете..., где я жил, за несколько дней до срока ко мне обратились, умоляя, чтобы я принял командование. ...я описал все препятствия, как общего так и личного порядка и рекомендовал отменить решение о начале восстания. Оказалось, что сделать это было уже невозможно. Тогда я согласился с их просьбой, так как счел, что как поляк обязан не щадить себя, когда другие жертвуют всем», — говорил он позднее на допросах.

25 апреля в лесу Темры близ имения Дзятковичи помещика Густава Радовицкого началось формирование повстанческого отряда. Практически сразу же сюда из Кобрина бежали 19 мелких чиновников уездных присутственных мест, 18 из которых присоединилось к отряду Траугутта: писари Кобринского магистрата Александр Буховецкий, Юзеф Лепруцкий, Михаил Островский и Цезарь Легуцкий; письмоводители городской полиции Людвиг Юшкевич и Витольд Юрьевич; столоначальник уездного суда Иван Воротыницкий; регистратор Антоний Бурчак; помощники бухгалтера казначейства Ян Остромецкий, Рафаил и Александр Ивашкевичи, писари управления госимуществ Оттон Станкевич, Феликс Бортновский, Доминик Эллерт; мелкие служащие Табенский, Маковский, Шанковский, Голынец [10, л. 3; 11, л. 75 об].

Одновременно к Траугутту присоединились родной брат Густава, помещик Апполинарий Радовицкий (имение Рачки), отставной поручик Киевского гусарского полка, троюродный брат Густава и Апполинария Петр Радовицкий и отставной штабс-ротмистр Курляндского уланского полка помещик Феликс Ягмин, возглавивший в отряде кавалерию. В чине поручика у Ромуальда Траугутта служил студент Петербургской Медико-хирургической академии Костецкий, который одновременно стал его адъютантом. Отдельным подразделением у Траугутта командовал доктор Домановский [2, ч. 2, с. 214].

В целом в отряде Ромуальда Траугутта служило большое количество помещиков из окрестных имений Кобринского и Пинского уездов. Среди них упоминаются представители известных родов — Родзевичи, Ожешки, Бохвицы, Ягмины, Пусловские, один из графов Чапских [18, с. 365, 381, 397, 485]. Встречались и женщины. Например, Амелия Родзевич застрелила казака, гнавшегося за Траугуттом, была приговорена к ссылке в Сибирь, но получила отсрочку по причине беременности [19, с. 356].

В конце апреля в Кобринском уезде появился отряд Феликса-Адама Влодека, помещика Брестского и Пружанского уездов, совершавший рейд по южным регионам Гродненской губернии. По сообщениям властей, 26 апреля повстанцы останавливались в казенной ферме Чеховцы, где кормили лошадей, а 27 апреля сожгли мост на реке Ясельда [4, с. 354].

Отряд Траугутта почти 2 недели стоял в лесах близ Антополя графа Ожаровского, занимаясь боевой подготовкой, пополняя запасы продовольствия и боеприпасов, откуда переместился в имение Попино помещика Яна Жука. В начале мая отряд Траугутта, численностью около 160 человек перебазировался в Городецкие леса.

6 мая у деревни Горки помещика Ярослава Анджейковича в Одриженском лесу Траугутт организовал засаду на объединенный воинский отряд в составе 6-й (поручик Прокофьев) и 7-й рот Ревельского пехотного полка под общим командованием капитана Керсновского — 127 пехотинцев и 38 казаков 5-го Донского полка. Повстанцы заблокировали воинскую колонну на узкой дороге, расстреляв первую и последнюю повозки, «вызвав значительное число раненых». Не ожидавшие нападения войска понесли серьезные потери и были вынуждены отступить. В числе раненых оказались три офицера: капитан Керсновский, подпоручик Щербаков, казачий юнкер Попов и 17 нижних чинов; один казак был убит. Сам Керсновский застрелился на второй день, выведя отряд из боя в село Ветлы [2, ч. 2, с. XLI; 6, с. 504]. Польские источники говорят о 70 убитых и раненых в отряде Керсновского, уцелело 63 человека. При этом повстанцы захватили около 100 ружей в качестве трофеев, потеряв лишь одного человека. Однако командующий Брестским отрядом правительственных войск (с подчинением Брестского, Кобринского и Пружанского уездов) генерал-майор А.Ф. Эггер в рапорте М.Н. Муравьеву сообщал о 28 убитых повстанцах [24, с. 326; 4, с. 358].

9 мая отряд Траугутта в том же Одрижинском лесу был атакован войсками в составе двух рот Ревельского пехотного полка и казачьей сотни Донского полка под общим командованием командира Черниговского пехотного полка полковника А.Г. Игельстрома. Сражение не выявило победителя, потери повстанцев составили четыре человека убитыми (в том числе Апполинарий Радовицкий и Антоний Лясковский) и 6 ранеными, в том числе Багурский, Бабинский, Нивинский, Барбий и Зан. Русские войска потеряли трех человек убитыми и 15 ранеными, польские источники говорят о 12 погибших солдатах [1, с. 44–45; 24, с. 326; 2, ч. 2, с. XLI].

Осознав опасность, исходящую от отряда Траугутта, генерал-майор Эггер лично возглавил третий отряд в составе полуроты Черниговского пехотного полка и 50 казаков. В трех верстах от прежнего места боя, в том же лесу 14 мая произошло третье сражение. В ходе этого кро-

вопролитного с обеих сторон боя отряд Траугутта понес крупные потери и фактически утратил свою боевую мощь. У повстанцев было убито (по разным данным) от 13 до 21 человека (среди них врач Павел Павловский, помещица Магдалена Волкова, дворянин Михаил Островский) и 5 ранено. Был захвачен повстанческий обоз: продовольствие, оружие и 50 лошадей [24, с. 326; 2, ч. 2, с. XLI]. Потери правительственных сил, по сообщению самого Эггера составили 9 нижних чинов убитыми, 35 ранеными (в том числе подпоручик князь Друцкой-Соколинский). Польские источники сообщают фантастические цифры: 73 убитых и более 30 раненых военнослужащих, но при этом признают, что поле боя и весь обоз — 20 возов и 50 лошадей — достался войскам [1, с. 45; 2, ч. 2, с. 178].

20 мая под конвоем в Кобрин были доставлены раненые и пленные повстанцы Траугутта, пойманные после сражения местными крестьянами: дворяне Каэтан Добровольский, Антоний и Станислав Липинские, Ян Петровский, Альбин Маржецкий, Стефан Селюта, Люциан Стобровский, Юзеф Фальковский, Викентий Хомич, Григорий Снегурский, Юлиан и Юзеф Гродские, Александр Верещако, Павел Юрьевич, Владислав Анждеевский; помещики Густав Радовицкий (ранен в ногу), Павел Ширяев и Феликс Ягмин; отставной подпоручик Казимир Осовский, юнкер Антоний Семашко; шляхтич Адам Дашкевич; врач Владислав Горнич; крестьяне Павел Тарасевич, Леон Борушко, Теодор Воротин и Ян Цымбашевский; мещанин Антон Рудзинский и подданный Пруссии Теофил Гиль [12, лл. 14–20].

После сражения повстанческий отряд разделился на мелкие группы и с помощью местных проводников перебазировался на новое место сбора в Белинских лесах, между имениями Белин и Овзичи, куда через коммерсанта Ицку Кучерена поступало оружие и амуниция. Здесь Траугутт получил приказ вести отряд в Пинский уезд и покинул территорию Гродненской губернии [9, с. 11].

После ухода Траугутта в Кобринском уезде произошло еще как минимум три столкновения повстанцев с войсками:

29 мая близ сел. Борки 2 роты Ревельского пехотного полка под командованием капитана Пищемукова провели бой с повстанческим отрядом (предположительно Казимира Нарбута), в ходе которого повстанцы потеряли 4 человека убитыми и трех пленными.

30 мая 3-я рота Псковского пехотного полка штабс-капитана Плавского в 35 верстах севернее мест. Пески в течение двух часов вела перестрелку с повстанческим отрядом Феликса Влодека, который скрылся в лесу. Войска потеряли одного человека убитым (фельдшер Владимир Сергеев) и двух раненых нижних чинов (Алексей Иванов, Николай Гиль) [7, с. 306–307].

9 июня имела место стычка на границе Антопольской и Городецкой волостей объединенного отряда Черниговского и Псковского пехотных

полков (около 300 человек) под командованием майора фон Кека с конным отрядом повстанцев (67 человек, предположительно Казимира Нарбута). Потери повстанцев — 2 ранеными и несколько пленными [2, с. XLIII].

25 июня рота Черниговского пехотного полка и 20 казаков под командованием капитана Хмелевского близ местечка Мокраны устроила засаду на конный отряд Казимира Нарбута, в результате чего повстанцы потеряли 6 человек убитыми и четырех пленными. Войска потеряли тяжело раненым казачьего урядника Трофима Чумакова, умершим на второй день [24, с. 333; 2, ч. 2, с. XLII; 6, с. 507].

По установленным нами сведениям, в Кобринском уезде участие в восстании приняло 247 его жителей: 52 помещика, 91 беспоместный дворянин, 13 представителей шляхты, 36 крестьян, 5 гимназистов, 21 чиновник, 17 однодворцев, 5 представителей городского населения. Социальную принадлежность еще 5 человек установить не удалось. Исходя из этих данных, можно вычислить коэффициент активности представителей ряда социальных групп в восстании (см. таблицу).

***Коэффициент активности некоторых социальных групп в восстании***

| Участие чиновников в восстании | | | Участие помещиков в восстании | | | Участие крестьян в восстании | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Приняло участие | Проживало в уезде | Соотношение | Приняло участие | Проживало в уезде | Соотношение | Приняло участие | Проживало в уезде | Соотношение |
| 21 | 118 | 17,8%, или 1 на 5,6 чел. | 52 | 448 | 11,6 %, или 1 на 8,6 чел. | 36 | 38605 | 0,09 %, или 1 на 1072,4 чел. |

Составлено по: [23, с. 46; 3, прил., ч. 1, с. 118; 18, с. 52, 62, 67].

По данным на 1858 год, в Кобринском уезде проживало 1484 представителя дворянства (помещики и беспоместные) мужского пола. Таким образом, общая активность дворянства в уезде составила 9,6 %, или 1 участник восстания приходился на 10,4 человека. Однодворцев в том году проживало 308 человек. Соответственно активность среди данной социальной группы составила 5,5 %, или 1 на 18,1 человека.

Кроме идеологических причин участия помещиков в восстании (борьба за возрождение Речи Посполитой), следует отметить еще одну, на наш взгляд, немаловажную — экономическую. Дело в том, что по состоянию на 1 января 1857 года в Гродненской губернии (куда относился и Кобринский уезд) из 1564 помещичьих имений в различных финансовых учреждениях империи за долги было заложено 539 имений, или 34,5 %. Общая сумма долга составляла 6.137.226 рублей сереб-

ром [3, ч. 2, с. 206–209]. Вполне возможно, что в числе заложенных имений были поместья и Кобринского уезда, владельцы которых не могли расплатиться с кредиторами и в силу этого приняли участие в восстании в надежде, что новая власть «спишет потом всё». Впрочем, реальных доказательств этому тезису пока нет, он остается всего лишь гипотезой.

Как отмечалось выше, в восстании приняло участие 36 крестьян Кобринского уезда. Почти все они были пойманы на территории уезда и некоторое время содержались под арестом в Кобрине. Впоследствии в глубь России было выслано 73 крестьянина (вместе с семьями) [13, лл. 30–45; 14, лл. 13–45]. Эти цифры показывают относительно высокую активность крестьянского слоя в восстании. Однако гродненский историк В.Н. Черепица приводит имена 289 крестьян Кобринского уезда, награжденных медалями за активную помощь правительственным войскам при подавлении восстания [20, с. 378–386]. Таким образом, число противодействовавших повстанцам крестьян более чем в 8 раз превышает численность участников среди данного сословия.

12 июня 1863 года командующий Брестским отрядом генерал А.Ф. Эггер учредил в Кобрине военно-следственную комиссию и полевой военный суд для разбора дел участников восстания во главе с командиром 5-го Донского казачьего полка полковником А.И. Кирпичевым. В состав суда вошли есаул Перушкин, штабс-капитан Петров, поручики Магдалинский и Комаров, подпоручики Дещинский и князь Друцкой-Соколинский [20, с. 362].

Комиссия сразу же занялась розысками участников восстания и установлением степени их вины, делая основной упор на наказание представителей дворянских слоев. Так, из Кобринского уезда за участие (прямое или косвенное) в восстании в глубь империи были высланы помещики Каласантий и Ярослав Анджейковичи (за помощь отряду Траугутта и вербовку людей в него), Рудольф Тарловский, Владислав Корсак, Виктор Вислоух, Густав Радовицкий, Каспер Мысловский, Каролина Станишевская (Олонецкая губерния); Станислав Ягмин, граф Казимир Ожаровский (Пензенская губерния); Виктор Вислоух (Вологодская губерния); Семен Гутовский (Нижегородская губерния); Константин Крашевский (Оренбургская губерния); Ядвига Завадская и Эдмунд Онихимовский (оба в Пермскую губернию); Клеофас Мысловский (Нижегородская губерния); Юзеф Жардецкий (Костромская губерния); Стефания Завадская, Николай Боржим, Юстин Стражевский, Бронислав Койшевский, Юлиан Яголковский, Бенедикт Дановский и Александр Рутковский [15, лл. 102–103 об].

За свое участие в восстании пострадала и семья Ожешко. Муж знаменитой писательницы Элизы Ожешко Петр за оказание помощи повстанцам и участие в вооруженной борьбе был лишен дворянства, своего имения Людвиново и выслан в Пермскую губернию, его брат

## Высновы

Наша даследаванне прыводзіць да высновы, што для большасці насельніцтва Беларусі К. Каліноўскі з'яўляецца выдатнай гістарычнай асобай, памяць аб якой неабходна захоўваць і якая вартая ўшанавання. Такі яго вобраз у масавай свядомасці — гэта вынік уздзеяння на яе беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі з ліку вучоных і майстроў слова і пяра.

## *Спасылкі на крыніцы*


1. «Белпошта» выпусціла картку з выявай Кастуся Каліноўскага // gorad.by/by/page/world/4750

2. «За нашу і вашу свабоду» — выстава твораў суполкі «Пагоня», прысвечаная 172-м угодкам нацыянальнага героя Беларусі-Літвы Кастуся Каліноўскага і Вызвольнаму паўстанню 1863–1864 гг. // «Наша слова», 2010, 3 сакавіка, с. 3.

3. Асіноўскі С. «Станьма дружна за нашу вольнасць!» // «Архівы і справаводства», 2008, № 5, с. 121–129.

4. Дзяржаўная прэмія імя Кастуся Каліноўскага. //spadchyna.net/index.php?option=com_content&view=article&id=1416&Itemid=617

5. Дрозд С. Нашы гістарычныя карані; па слядах К. Каліноўскага. // Гарадзенскія запісы. Вып. 1. Гродна, 1993, с. 89–93.

6. З прэзідэнцкага Указа ад 15 студзеня 1996 г. «Аб зацвярджэнні апісанняў ордэнаў, медалёў і нагрудных знакаў да ганаровых званняў Рэспублкі Беларусь» // arkushy.narod.ru/kalinouski/museum/memoria/orden_descr.htm

7. Каліноўскі — гэта «білет па гісторыі ў 9-й клясе». // www.svaboda.org/content/article/24883670.html

8. Карневіч М. У Якушоўцы стаіць крыж. // «Биржа информации» (Гродно), 1999, 28 октября, с. 5.

9. Кедзік А. На ўскрайку Белавежскай пушчы альбо За дзесяць вёрст ад Свіслачы. // «Свіслацкая газета», 2009, 12 снежня, с. 10.

10. Королевич С. Минску нужен памятник Калиновскому. // news.tut.by/society/333659.html#co

11. Ластоўскі А. Гістарычная памяць: паходжанне канцэпту і даследчыя перспектывы. // bk.baj.by/lekcyji/litaratura/lastouski_01.htm .

12. Ластоўскі А. Сацыяльныя ўяўленні пра мінулае жыхароў Беларусі: паміж савецкім мінулым і нацыянальнай перспектывай. // bk.baj.by/lekcyji/litaratura/lastouski_02.htm .

13. Міцкевіч П. Беларускія каталіцкія скаўты здзейснілі трохдзённую нацыянальную «вандроўку» да абраза Маці Божай у Гудагай // www.gomel.catholic.by/BEL/news/skauty/item/

14. Ордэн Кастуся Каліноўскага // arkushy.narod.ru/kalinouski/museum/memoria/orden.htm

15. Палажэнне аб Ордэне Кастуся Каліноўскага // arkushy.narod.ru/kalinouski/museum/memoria/orden_inst.htm

16. Прэзыдэнцкая бібліятэка ўшанавала Кастуся Каліноўскага // www.svaboda.org/content/article/24924976.html

17. Рэспубліка (газета) // respublika.info/

18. Самарына Л. «Ты сын наш геройскі, Кастусь Каліноўскі». // «Свіслацкая газета», 2003, 16 снежня, с. 2.

19. Сацукевіч І. Мемарыізацыя Кастуся Каліноўскага ва ўрбаніміцы Беларусі. // Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі: матэрыялы VII міжнароднай навуковай канферэнцыі Беларускага Гістарычнага Таварыства, Менск, 25 верасня 2009 г. / Менск, 2011, с. 177–181.

20. Скобла М. /Віктар Скорабагатаў/: Паўстанне Каліноўскага прынесла беларусам вясну. // www.svaboda.org/content/transcript/24940053.html

21. Сяргей Пукст агучыў нямы фільм «Кастусь Каліноўскі» // nn.by/?c=ar&i=82285

22. У гонар паўстанцаў // Краязнаўчы альманах «Горад святога Губерта». Выпуск першы. Гісторыя Гародні ў вусных успамінах / Пад рэд. А. Смаленчука/. Сейны, 2002, с. 83–86.

23. Хто для вас Кастусь Каліноўскі? // belsat.eu/be/wiadomosci/a,12168,khto-dlia-vas-kastus-kalinouski.htm

24. Янкоўскі А. Першая беларуская настольная гульня «Паўстанцы». // jankouski.livejournal.com/tag/

# НАГОДА ДЛЯ ГОНАРУ

## З гісторыі захавання памяці пра Паўстанне 1863–1864 гг. у міжваеннай Польшчы



Ігар Мельнікаў,
*кандыдат гістарычных навук,*
*рэдактар сайта «Гістарычная праўда»*

У Другой Рэчы Паспалітай быў выпрацаваны свой каляндар святочных дат, звязаных з гісторыяй краіны. Важнае месца ў ім займалі ўгодкі Паўстання 1863–1864 гг., якое ў польскай гістарыяграфіі называецца Студзеньскім[1]. Сам «начальнік польскай дзяржавы» Юзаф Пісудскі лічыў гэтую падзею адной з ключавых у гісторыі польскай дзяржавы. Вось які тэкст утрымліваўся ў загадзе Ю. Пілсудскага, выдадзеным 21 студзеня 1919 года:

> «Пяцьдзесят гадоў таму нашыя бацькі распачалі барацьбу за незалежнасць Айчыны. Ішлі не ў бліскучых мундзірах, а ў лахманах і босымі, з паляўнічымі стрэльбамі і косамі супраць вінтовак і гармат. Яны вялі вайну на працягу года, будучы ўзорам захавання ахвярнасці і мужнасці ў няроўнай барацьбе. Для нас, жаўнераў вольнай Польшчы, паўстанцы 1863 года з'яўляюцца і будуць з'яўляцца ўзорам жаўнера. Для прызнання іх заслуг, і ўшанавання традыцый 1863 года, я загадаў залічыць у шэрагі Войска Польскага ўсіх ветэранаў 1863 года, з правам нашэння мундзіру польскай арміі ва ўрачыстыя дні»[2].

Ужо 2 жніўня 1919 года польскі Сейм надзяліў ветэранаў і ўдоваў былых паўстанцаў правам на атрыманне пенсіі[3]. Пры гэтым усе ветэраны Паўстання 1863–1864 гг. павінны былі напісаць заяву аб атрыманні грошай і далучыць да яе метрычныя дадзеныя разам са сведчаннямі дзвюх асоб, якія пацвярджалі ўдзел дадзенай асобы ў паўстанні. Удовы павінны былі далучыць пасведчанне аб шлюбе і акт аб смерці мужа[4].

Пасля завяршэння польска-бальшавіцкай вайны 1920 года, перамог у Велькапольскім і Сілезскім паўстаннях улады Польшчы прысвяцілі значную ўвагу культываванню павагі да традыцый Студзеньскага паўстання 1863–1864 гг. 5 жніўня 1921 года Юзаф Пілсудскі ўзнагародзіў асабліва заслужаных ветэранаў Паўстання найвышэйшай узнагародай Польшчы — Крыжом Віртуці Мілітары. Урачыстасці адбываліся на тэрыторыі Варшаўскай цытадэлі, дзе пасля падаўлення Паўстання быў пакараны апошні кіраўнік паўстання Рамуальд Траўгут[5]. Да моманту

правядзення грашовай рэформы ў Польшчы ў 1924 годзе пенсія ўдзельнікам Паўстання, у тым ліку і тым, хто жыў на тэрыторыі заходнебеларускіх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай, павышалася некалькі разоў. Пачаткова гэтыя людзі атрымлівалі 27.500 польскіх марак, а пасля рэформы 1924 года памер пенсіі склаў 125 злотых. У 1938 годзе ветэранская пенсія складала 200 злотых. Удовы атрымлівалі 50 працэнтаў ад гэтых сум[6].

18 снежня 1919 года польскі Сейм прыняў закон аб прысваенні ўдзельнікам паўстанняў 1831, 1848, 1863 гг., якія дажылі да моманту незалежнасці Польшчы, афіцэрскіх званняў[7]. Пры гэтым ветэраны атрымалі права нашэння спецыяльнага вайсковага мундзіру (рагатыўкі, кіцеля-суртука, шыняля цёмна-сіняга колеру), а загадам ад 7 лістапада 1922 года ўводзілася сістэма, па якой радавыя і афіцэры Войска Польскага павінны былі салютаваць дзвюма пальцамі, паднесенымі да казырка галаўнога убору, кожнаму ветэрану-паўстанцу[8]. Удзельнік паўстання 1863 г. ці яго ўдава мелі права бясплатнага карыстання з медыцынскіх паслуг. У сваю чаргу, асоба, якая фінансавала пахаванне ветэрана, магла разлічваць на атрыманне ад дзяржавы грашовай дапамогі ў памеры адной пенсіі, якую атрымліваў памерлы[9].

Дзяржаўныя ўзнагароды, атрыманыя ветэранамі, таксама давалі права на ільготы. Напрыклад, узнагароджаныя Крыжам Незалежнасці мелі права бясплатнага праезду на цягніках РКР. Для былых удзельнікаў Паўстання ствараліся Дамы ветэрана, якія фінансавала не толькі дзяржава, але і грамадскія арганізацыі (Таварыства сяброў ветэранаў 1863 года ў Варшаве)[10]. Акрамя гэтага, дзейнічаў Фонд Таварыства ўзаемнай дапамогі ўдзельнікам паўстання 1863 г., які атрымліваў фінасавыя сродкі ад розных грамадскіх арганізацый. Дарэчы, Таварыства ветэранаў паўстання 1863–1864 гг. мела свае прадстаўніцтвы ў Варшаве, Кракаве, Тарнаве, Львове, Любліне, Кельцах і Седльцах[11].

Першая рэгістрацыя ветэранаў Паўстання 1863–1864 гг. адбылася ў 1919 годзе. Па яе выніках аказалася, што на тэрыторыі Польскай рэспублікі жыве 4500 удзельнікаў узброенага выступлення супраць царскіх улад і 1500 удоў. Аднак ужо праз некалькі гадоў (у 1923 г.) гэтая лічба паменшылася ўдвая і склала 2012 ветэранаў. У год 70-гадовага юбілею Паўстання ў 1933 г. у Польшчы жыло 230 ветэранаў, у 1937 г. — 75, у 1938 г. — 53, а ў пачатку 1939 года іх засталося толькі 36 чалавек[12]. Як адзначаюць польскія даследчыкі, апошнія ветэраны Паўстання 1863–1864 гг. памерлі пасля Другой сусветнай вайны[13].

Кожны з гэтых людзей у перыяд міжваеннага двадцацігоддзя быў вельмі паважанай асобай. Вэтэраны Паўстання 1863–1864 гг. у жыцці польскага грамадства выконвалі амаль тую ж ролю, што сёння адыгрываюць ветэраны Вялікай Айчыннай вайны ў Беларусі. Старых запрашалі на ўсе дзяржаўныя святы, урачыстасці, у школы. Напрыклад, Фелікс Бартчук з Падляшша атрымліваў ганаровую пенсію ад польскага

ўрада ў суме 250 злотых, быў узнагароджаны Медалём Незалежнасці, Кавалерскім крыжам Ордэна адраджэння Польшчы, а ў 1933 годзе Крыжам у гонар 70-годдзя паўстання. Гэты чалавек памёр у 1946 годзе, калі яму было 100 гадоў[14].

У міжваеннае 20-годдзе «начальнік польскай дзяржавы» Юзаф Пілсудскі часта падкрэсліваў, што «ён выхоўваўся ў паўстанскіх традыцыях і на ўспамінах «інсургентаў». Дарэчы, сам «начальнік дзяржавы» быў аўтарам некалькіх навуковых прац, прысвечаных гісторыі паўстання[15]. Маршал лічыў, што польскае войска з'яўляецца спадчынніцай гэтых традыцый[16]. Усё жыццё маршала так ці інакш было звязана з гісторыяй Лістападаўскага і Студзеньскага паўстанняў. Падчас ссылкі ў Сібір ён пазнаёміўся з Браніславам Шварцэ (1834–1904), пад уплывам якога будучы кіраўнік адроджанай Рэчы Паспалітай пачаў знаёміцца з матэрыяламі па гісторыі Паўстання 1863–1864 гг.[17] У 1912 годзе Ю. Пілсудскі выдаў кнігу пад назвай «Нарыс вайсковай гісторыі Студзеньскага паўстання»[18].

Урад Польскай рэспублікі добра разумеў, што гісторыя Паўстання 1863–1864 гг. мела фундаментальнае значэнне для фарміраванні нацыянальнай свядомасці тагачаснага польскага грамадства. У 1922 годзе ў Польшчы выходзіць фільм «Год 1863», створаны паводле рамана Стэфана Жэромскага «Попел» (1903 г.), прысвечанага падзеям 1863–1864 гг.[19]

Тут варта ўспомніць, што на хвалі беларусізацыі ў БССР адбываліся працэсы ўзбуджэння цікавасці беларускага грамадства да «антыцарскага паўстання» другой паловы XIX ст. У савецкай Беларусі падкрэслівалася, што тое ўзброенае выступленне было накіравана супраць самаўладдзя і, такім чынам, нібы паўтарала ідэі бальшавікоў. 14 жніўня 1928 года на экраны кінатэатраў БССР выйшаў фільм «Кастусь Каліноўскі», у якім лідар паўстання на Беларусі паказаны ў вобразе народнага мсціўца[20]. Як бачым, польскі і беларускі савецкі кінематограф амаль адначасова прыцягнуў увагу грамадства да гісторыі Паўстання 1863–1864 гг.

Польская дзяржава спрабавала рознымі спосабамі захаваць памяць пра паўстанне. Так, у 1933 годзе ў грашовы зварот была ўведзена манета наміналам 10 злотых з выявай дыктатара Паўстання Рамуальда Траўгута[21]. Праз 5 год ужо польская пошта ў так званай «гістарычнай серыі» надрукавала марку, прысвечаную Студзеньскаму паўстанню, на якой была выява групы паўстанцаў на чале з тым жа Рамуальдам Траўгутам. Акрамя гэтага, прыватныя ювілірныя майстэрні выпускалі розныя памятныя знакі і «патрыятычную біжутэрыю з выявамі сімвалаў Паўстання 1863–1864 гг. У польскіх гарадах, у тым ліку і на тэрыторыі заходнебеларускіх ваяводстваў, з'явіліся вуліцы ў гонар герояў гэтага Паўстання[22].

Важным момантам захавання памяці пра Студзеньскае паўстанне ў міжваеннай Польшчы з'ўлялася прывядзенне ў парадак пахаванняў і памятных месцаў, звязаных з гэтымі падзеямі. Гутарка, перш за ўсё, ішла пра могілкі паўстанцаў. Праблема была ў тым, што за той час, які прайшоў з моманту паўстання, за паўстанцкімі пахаваннямі (асабліва на Усходзе) не было належнага дагляду. Восенню 1927 года пачалася агульнапольская акцыя па пошуку магіл і помнікаў, звязаных з нацыянальнымі войнамі і паўстаннямі. У рамках гэтай ініцыятывы павятовыя старасты павінны былі збіраць неабходную інфармацыю, маючую дачыненне да гэтай тэматыкі[23].

У канцы 1920-х — пачатку 1930-х гадоў праца ў дадзеным накірунку адбывалася і ў Заходняй Беларусі. Так, у 1928 годзе ў мястэчку Косава на могілках быў пастаўлены крыж на магіле паўстанцаў, загінуўшых у баі з царскімі войскамі[24]. На 70-я ўгодкі Студзеньскага паўстання ў мястэчку Мілавіды на месцы бою паўстанцаў з царскімі войскамі была ўзведзена капліца. Варта нагадаць, што ў сярэдзіне траўня 1863 года пад Мілавідамі сканцэнтраваліся атрады са Слонімшчыны, Ваўкавышчыны, Гродзеншчыны, Наваградчыны і Пружаншчыны (усяго каля 800 паўстанцаў). У канцы траўня 1863 года гэтыя атрады інспектаваў Кастусь Каліноўскі. 22 мая 1863 года да Мілавідаў падышлі рускія войскі на чале з падпалкоўнікам Булгарыным. У выніку бою рускім пяхотнікам так і не ўдалося знішчыць паўстанцаў, якія ўдала абараняліся і своечасова адышлі[25]. У вёсцы Пацэвічы на Мастоўшчыне ў 1933 годзе быў узведзены помнік 12 паўстанцам, загінуўшым у баі з дзвюма ротамі 1-га фінляндскага палка імператарскай арміі. У савецкі час памятны знак быў знішчаны. Аднавілі яго толькі ў 2011 годзе[26]. На старых каталіцкіх могілках у Лідзе каля касцёла айцоў піяраў у 1938 годзе была ўстаноўлена табліца ў гонар Л. Нарбута[27].

Сваістым сімвалам захавання памяці пра Паўстанне 1863 года ў Заходняй Беларусі стала ўсталяванне помніка Р. Траўгуту ў Свіслачы. Яшчэ ў траўні 1923 года ў мястэчку быў створаны Грамадскі камітэт будовы мемарыяла, на чале якога стаяў дырэктар настаўніцкай семінарыі Баляслаў Борыс. У выніку, у 1928 годзе, на 10-ю гадавіну аднаўлення незалежнасці Польшчы, помнік быў пастаўлены. Вось як цырымонію адкрыцця ўспамінаў жыхар Свіслачы, ксёндз Альбін Хорбы:

> «Трое жыхароў мястэчка паехала ў Варшаву і запрасіла на нашыя ўрачыстасці прэзідэнта Ігнацыя Масціцкага. Аднак гэта выклікала абразу з боку беластоцкага ваяводы Караля Кірста. У апошні момант ваявода праінфармаваў канцылярыю прэзідэнта пра тое, што ваяводства не падрыхтавана да прыезду прэзідэнта (у сэнсе бяспекі). У выніку на ўрачыстасці прыбыў віцэ-міністр вайсковых спраў генерал Фабрыцы. Аднак ваявода прыехаў на адкрыццё помніка з паўгадзінным спазненнем. На цырымоніі было два святары. Царкоўную службу праводзіў біс-

куп Міхалкевіч. За тое спазненне Міністр унутраных спраў Славой-Складкоўскі адправіў ваяводу Кірста ў адстаўку»[28].

Аўтарамі помніка быў настаўнік свіслацкай семінарыі Павел Бялка і варшаўскі архітэктар Збароўскі. У верасні 1939 года мясцовыя камуністы знішчылі гэты «польскі» сімвал. Помнік быў адноўлены ў 1988 годзе па даваенных эскізах гродзенскім скульптарам Аляксандрам Анціпіным.

Безумоўна, найбольш увагі да падзей Паўстання 1863–1864 гг. з боку польскіх улад надавалася ў так званыя «юбілейныя» гады. Напрыклад, у 1933 годзе ў Варшаве адбыліся вялікія ўрачыстасці з нагоды 70-годдзя Студзеньскага паўстання. Дэлегацыі ветэранаў і Апякунчых таварыстваў былі запрошаныя на прыём да маршала Юзафа Пілсудскага і прэзідэнта Ігнація Масціцкага. Падчас урачыстага абеду з нагоды гэтага свята жонка маршала Ю. Пілсудскага Аляксандра ў сваёй прамове адзначыла:



*Узнагароджанне ветэрана Паўстання 1863 г. (1933 год)*

«Кожнае пакаленне мае свае аўтарытэты, якія ўплываюць на іх выхаванне. У Вашага пакалення — гэта Міцкевіч і Славацкі. Для нас, у сваю чаргу, у цяжкія гады няволі менавіта вы былі такімі выхавацелямі. Пра вас нам казалі не кнігі, а легенда. Сёння, у дзень Вашага свята мы ганарымся Вамі[29]».

У ваяводскіх цэнтрах (у тым ліку ў Брэсце на Бугу, Навагрудку і Вільне) адбыліся прыёмы ў ваявод і прэзідэнтаў гарадоў. Спецыяльна да гэтай даты быў устаноўлены памятны ўзнагародны Крыж Сямідзе-

сяцігоддзя, зроблены па праекту мастака Юзафа Свірыш-Рышкевіча. Крыж 70-годдзя паўстання выдаваўся кожнаму ветэрану-паўстанцу, а таксама асобам, якія дапамагалі ветэранам. У 1933 годзе гэтую ўзнагароду атрымалі 258 чалавек[30].

У выданым Грамадзянскім камітэтам святкавання 70-годдзя Студзеньскага паўстання звароце, у прыватнасці, адзначалася:

> «Сённяшняй ноччу спаўняецца 70 гадоў з моманту, калі нашыя бацькі распачалі ўзброеную барацьбу з захопнікам. Кроў, пралітая імі ў Студзеньскім паўстанні, мукі Сібіры паклалі пачатак барацьбы, якая скончылася незалежнасцю нашай краіны. Перад памяццю аб мужнай барацьбе 1863 года, перад неўміручай ідэяй барацьбы за свабоду і незалежнасць, прыхіляе галаву ўся Польшча[31]».

Праз пяць гадоў Другая Рэч Паспалітая святкавала 75-годдзе Студзеньскага паўстання. У 1938 годзе ў Варшаве адбыўся з'езд ветэранаў-паўстанцаў. Тады, на сустрэчу з прэзідэнтам Польшчы Ігнаціям Масціцкім у Каралеўскі замак прыехала некалькі дзесяткаў пажылых паўстанцаў. Усіх жывых на той момант удзельнікаў Паўстання ўзнагародзілі афіцэрскім Крыжам адраджэння Польшчы. Ля Магілы невядомага жаўнера адбылося ўрачыстае ўскладанне кветак, а пазней адбылася памінальная малітва ў гонар загінуўшых у баі і памерлых у Сібіры. У гэты час у краіне праводзіліся выставы, сустрэчы з ветэранамі[32].

Такім чынам, варта падкрэсліць, што ў міжваеннай Польшчы быў зроблены вялікі акцэнт на захаванні памяці пра падзеі Паўстання 1863–1864 гг. Дзяржава не толькі арганізоўвала дагляд і ўшанаванне ветэранаў-паўстанцаў, выплочвала ім пенсію, але і сачыла за захаваннем месцаў, звязаных з тымі падзеямі. На тэрыторыі ўсіх польскіх ваяводстваў, у тым ліку і ў Заходняй Беларусі, былі пастаўлены памятныя знакі, помнікі і добраўпарадкаваны магілы паўстанцаў. У 1933 і 1938 гадах у Польшчы адбываліся ўрачыстасці з нагоды гадавін паўстання.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР у верасні 1939 года шматлікія помнікі і памятныя знакі, устаноўленыя ў гонар паўстанцаў 1863 года, былі знішчаны бальшавіцкай уладай. Аднаўленне гэтых сімвалаў працягваецца да сённяшняга дня.

## *Спасылкі на крыніцы*

1. Grabski A. Zarys historii historiografii polskiej. Poznań, 2000. S. 149.

2. Piłsudski J. Pisma zbiorowe. T. V. Warszawa, 1937. S. 52.

3. Kuraś M. Kultywowanie tradycji powstania styczniowego i jego uczestników na Podlasiu w okresie międzywojennym (1918-1939) // Radzyński rocznik humanistyczny. T.2. Rok 2002. S. 88.

4. Ustawa z dnia 18 grudnia 1919 r. O przyznaniu stopni i praw oficerskich weteranom z roku 1831, 1848 i 1863 // Dziennik Ustaw. 1919. Nr. 2. poz. 6. Art. 1.

5. Pilsudski a kwestia Powstania Styczniowego // historialomrzy.pl

6. Dunin-Wąsowicz K. Kult tradycji i opeka nad weteranami powstania 1863 roku w okresie międzywojennym // Przegląd Historyczny. 1991. Z. 2. S. 270.

7. Ustawa z dnia 18 grudnia 1919 r. O przyznaniu stopni i praw oficerskich weteranom z roku 1831, 1848 i 1863 // Dziennik Ustaw. 1919. Nr. 2. poz. 6. Art. 1.

8. Polska XX wieku. 1914–2003. Warszawa; Wrocław, 2004. S. 33.

9. Zechenter A. Honory dla Bohaterów — Gloria victis // Nasz Dziennik. Nr. 16. 19–20 stycznia 2013.

10. Rok 1863 na Podlasiu. Siedlce, 1998. S. 180–181.

11. Garlicki A. Drugiej rzeczypospolitej początki. Wrocław, 2002. S. 215.

12. Dunin-Wąsowicz K. Kult tradycji i opeka nad weteranami powstania 1863 roku w okresie międzywojennym // Przegląd Historyczny. 1991. Z. 2. S. 271.

13. Jakubik M. Weteran z 1863 r. honorowym żołnierzem Armii Krajowej // Kierunki. 1985. Nr. 4. S. 8.

14. Ibidem, S. 8–9.

15. Piłsudski J. 22 stycznia 1863. — Lwów, 1938.

16. Piłsudski J. Pisma zbiorowe. — T. III. — Warszawa, 1937. — S. 61.

17. Pilsudski a kwestia Powstania Styczniowego // historialomrzy.pl

18. Piłsudski J. Zarys historii militarnej powstania styczniowego. Warszawa: Wojskowe Biuro Historyczne ; Zakł. Graf. «Polska Zjednoczona», 1929.

19. Dwa lata trwała renowacja i digitalizacja dwóch przedwojennych wersji filmu «Rok 1863» // kultura.gazeta.pl

20. Галкин О. Кастусь Калиновский. Секреты магнетизма белорусского Че Гевары // TUT.BY.

21. Morawski W. Od marki do złotego. Historia finansów Drugiej Rzeczypospolitej. Warszawa, 2008. S. 153.

22. Kowalski M. Medale, odznaki, biżuteria i medaliony powstania styczniowego 1863-1983 // Rocznik Międzyrzecki. 1982–1983. T. 14–15. S. 216.

23. Swat T. Mogiły, miejsca straceń i pamiątniki powstania styczniowego // Powstanie styczniowe na Południowym Podlasiu. Węgrów, Warszawa, 1994. S. 129.

24. Дмухоўскі Э. Шляхам паўстання 1863// Турыстычны буклет. С. 21.

25. Дмухоўскі Э. Шляхам паўстання 1863// Турыстычны буклет. С. 22.

26. Дмухоўскі Э. Шляхам паўстання 1863// Турыстычны буклет. С. 8.

27. Адрасы паўстання 1863-1864 гг. у Гародні і на Гарадзеншчыне.Гародня, 2013.

28. Dobroński A. Między Narwią a Niemnem // Medyk Białostocki. Nr. 81. październik, 2009. S. 27.

29. Zechenter A. Honory dla Bohaterów — Gloria victis // Nasz Dziennik. Nr. 16. 19–20 stycznia 2013.

30. Krzyż 70-lecia Powstania Styczniowego //Ordery i odznaczenia. Nr 58. Warszawa, 2013. S.10-11.

31. Kowalski M. Medale, odznaki, biżuteria i medaliony powstania styczniowego 1863–1983 // Rocznik Międzyrzecki. 1982-1983. T. 14–15. S. 215.

32. Dunin-Wąsowicz K. Kult tradycji i opeka nad weteranami powstania 1863 roku w okresie międzywojennym // Przegląd Historyczny. 1991. Z. 2. S. 275.

# ВЫСНОВЫ

***«Каліноўскі, як усякі бунтар,***
***нязручная асоба для кожнай улады»***
***«Каліноўскі — костка ў горле***
***для прадажных дзеячаў на Беларусі»***

У гутарцы з карэспандэнтам газеты «Салідарнасць» Анастасіяй Зелянковай, якая адбылася 22 снежня 2013 года, навуковы сакратар Інстытута беларускай гісторыі і культуры (ІБГіК) Анатоль Тарас выказаў свой погляд на падзеі паўстання 1863 года і на асобу Кастуся Каліноўскага.

**— Аб паўстанні 1863-га напісана вельмі шмат. Прычым пункты погляду прама процілеглыя...**

— Сёння можна ўмоўна вылучыць тры асноўныя канцэпцыі трактоўкі паўстання 1863–64 гадоў. Першую я бы назваў «расійскай», таму што большасць яе прыхільнікаў знаходзіцца ў Расіі. Іх пункт погляду падзяляюць і мясцовыя заходнерусісты.

Сутнасць гэтай канцэпцыі такая: паўстанне 1863 года — магутная правакацыя краін Захаду. Першым чынам Францыі і Англіі, якія, як мы ведаем, за 7 гадоў да паўстання атрымалі перамогу над Расіяй у Крымскай, або Усходняй вайне 1853–56 гг. Вырашыўшы зноў «памацаць» Расійскую імперыю на трываласць, заходнія палітыкі падгаварылі дурных, але саманадзейных палякаў паўстаць.

Маўляў, Расія спалохаецца новай вялікай вайны і падасць Польшчы незалежнасць (разам з землямі Беларусі і Летувы або без іх — гэта пытанне іншае). Такім чынам Захад нібы разлічваў ізноў надзерці Расіі хвост. Расійцы шчыра ўпэўненыя ў тым, што ва ўсе часы, ці ледзь не з эпохі старажытнага Рыма, Захад маніякальна ненавідзіць «святую Русь».

Зразумела, што калі браць на ўзбраенне гэтую канцэпцыю, роля беларусаў выглядае смешнай і жаласнай. Хтосьці дзесьці кагосьці паклікаў, чагосьці паабяцаў, і яны, як дзеці, задраўшы штаны, пабеглі ўслед.

Іншая канцэпцыя, якая існуе — «польская». Паводле яе, гэта было гераічнае паўстанне мужных палякаў (палякаў у шырокім сэнсе слова, у тым ліку так званай «польскай шляхты літоўскага паходжання»), іх гераічная барацьба. Гэтыя героі марылі і спадзяваліся вырваць сабе волю у адчайнай барацьбе з царызмам, які зноў-такі, прайграўшы нядаўна вайну ангельцам і французам і асцерагаючыся новай сутычкі з імі, змушаны будзе пайсці на гэта. Героі-палякі ваявалі як ільвы, але, нажаль, прайгралі, бо Еўропа ім здрадзіла.

Тут, як бачна, цэнтр цяжару іншы. Ініцыятыва зыходзіць ужо ад Польшчы. Зразумела, што з гэтай канцэпцыяй нам таксама нічога не свеціць. Бо паводле гэтай канцэпцыі, дурныя літоўскія, беларускія, украінскія сяляне не падтрымалі герояў-шляхцічаў, менавіта таму рэвалюцыя захлынулася ва ўласнай крыві.

**— А якая роля беларусаў паводле трэцяй канцэпцыі?**

— Трэці пункт погляду ў тым, што гэта была спроба шляхты ўсіх земляў былой Рэчы Паспалітай — Польскага Каралеўства, Жамойцкага староства, Вялікага Княства Літоўскага, Русі (так традыцыйна звалі Украіну ў Рэчы Паспалітай) — шляхам узброенай барацьбы вырваць сваю волю з лап царызму і аднавіць Рэч Паспалітую як канфедэрацыю Польшчы, Літвы (Беларусі), Жамойці (Летувы) і Русі. Адгэтуль, дарэчы, знакаміты лозунг паўстанцаў — «За нашу і вашу свабоду»! Мы прыхільнікі менавіта гэтай канцэпцыі.

Гістарычныя факты сведчаць аб тым, што Літоўскі правінцыйны камітэт, які ўзначальваў Каліноўскі, паўстаў незалежна ад Варшаўскага камітэта і рыхтаваў паўстанне самастойна. Цалкам верагодна, што ён самастойна падняў бы паўстанне ў Літве (гэта значыць на Беларусі з Жамойццю) і Інфлянтах.

Але палякі пачалі першымі. Калі вы памятаеце курс гісторыі, у Вільні ледзь два тыдня радзіліся нашы кіраўнікі (Каліноўскі, Звяждоўскі, Вярыга, Чаховіч і іншыя), разважаючы, як ім быць. У выніку яны прыйшлі да высновы, што трэба далучыцца да палякаў.

Тут умова ўжо іншая. Аб'яднацца з палякамі трэба было таму, што разам лягчэй дамагчыся перамогі. Але мэта барацьбы ліцвінаў-беларусаў — не Польшча «ад мора і да мора», а канфедэратыўная Рэч Паспалітая, дзе Літва-Беларусь мела б поўную аўтаномію.

Вось тры асноўныя канцэпцыі, прадстаўнікі якіх ужо даўно люта спрачаюцца паміж сабою. І ці наўрад калі-небудзь прыйдуць да адзінага меркавання. Бо рознагалоссі абумоўленыя не адсутнасцю доказаў, а зыходнымі ўсталёўкамі ўдзельнікаў палемікі.

**— А ці атрымалася знайсці нейкія новыя факты аб паўстанні?**

— Літаратуры даволі шмат. У нас сёлета выйшаў дзесятак цікавых кніг на гэтую тэму, дзе паўстанне разглядаецца з розных бакоў. Становяцца вядомыя ўсё новыя і новыя дэталі. Узяць, напрыклад, біяграфіі ўдзельнікаў паўстання. На тэрыторыі Расійскай імперыі (без этнічнай Польшчы) толькі саслана было каля 12 тысяч, некалькі тысяч загінула ў баях. 128 чалавек было пакарана смерцю на тэрыторыі Беларусі (разам з Віленскім краем). Атрымоўваецца больш за 15 тысяч чалавек. І гэта ж былі галоўным чынам шляхцічы і гараджане. У прынцыпе, можна напісаць пра кожнага. Таму працэс адкрыцця ўсё новых і новых фактаў можа прадоўжыцца яшчэ гадоў 50.

Зараз нашы даследнікі шукаюць і знаходзяць пацверджанні правамернасці гэтай трэцяй канцэпцыі.

Я смею выказаць здагадку, што калінаўцы згодны былі б атрымаць аўтаномію і ў складзе Расійскай імперыі. Але толькі хто б ім даў?! Яны добра разумелі, што нашы землі з прычыны эканамічных умоў, неразвітай самасвядомасці народа, у першую чаргу сялян, не здольныя былі самастойна дасягнуць, а галоўнае — абараніць сваю незалежнасць. Спадзявацца на перамогу ў бітве з царызмам можна было толькі разам з палякамі, украінцамі, жамойтамі і латгаламі.

А атрымаць аўтаномію ад расейцаў было немагчыма. Успомніце: у 1917 годзе дэлегаты ад Беларусі прасілі Часовы ўрад Расіі аб гэтым. Так іх у Петраградзе не захацелі нават пачуць! І ў сучаснай Расіі самакіраванне — вельмі хворае пытанне. Што ж вы жадаеце — азіяцкая дэспатыя! За апошнія 300 гадоў у плане самакіравання тэрыторый у Расіі нічога не змянілася.

**— Гэта значыць рэакцыю расійскіх «аматараў гісторыі» па гэтым пытанні вы можаце прадбачыць загадзя?**

— Расійскія «аматары гісторыі», якія стаяць на вялікадзяржаўных шавіністычных пазіцыях, даволі ўважліва сочаць за тым, што адбываецца ў Беларусі. Ідзе зацятая палеміка, асабліва на інтэрнэт-сайтах. Расейцы ўвесь час выказваюць сваю, мякка гаворачы, заклапочанасць у дачыненні тых поглядаў і канцэпцый, якія выказваюць нацыянальна арыентаваныя гісторыкі нашай краіны.

Але датуль, пакуль расейцы будуць па-ранейшаму казаць нам аб нейкім сваім старшынстве, аб «кіруючай ролі Масквы», нам з імі проста не аб чым гаварыць.

**— Асоба самога Каліноўскага таксама неадназначна разглядаецца рознымі гісторыкамі. У навучальным дапаможніку па гісторыі Беларусі для вучняў 10 класа Якава Трашчанка ёсць нават адмысловы параграф пад назовам: «Гістарыяграфічны міф пра Вікенція (Кастуся) Каліноўскага», дзе тоўстым шрыфтам вылучаная фраза: «Паводле этнічнай ідэнтыфікацыі, ён быў палякам і ніколі не называў сябе беларусам», і робіцца выснова — «ніякіх аб'ектыўных падстаў для ператварэння Каліноўскага ў нацыянальнага героя беларускага народа не існуе»...**

— Нябожчык Якаў Трашчанок — асоба абсалютна адыёзная, як гісторык ён нічога сабою не ўяўляў. «На рубель амбіцыі, на капейку — амуніцыі». Яго заявы аб Каліноўскім лішні раз гэта пацвярджаюць.

Тое, што Каліноўскі быў беларусам для мяне — несумнеўны факт. І вось чаму. Па-першае, свае «Лісты з-пад шыбеніцы» ён напісаў на роднай мове. Напісаў тады, калі ўжо глядзеў у вочы смерці. Перад смерцю людзі не маняць. Якія яшчэ патрэбны доказы?

Па-другое, той жа Мураўёў прапаноўваў Каліноўскаму замяніць смяротную кару спасылкай у Сібір, калі ён скажа, што дзейнічаў па заданні Варшавы. Такі вось цікавы факт. Каліноўскаму трэба было ўсяго толькі публічна сказаць: сам-то я, браткі, не вінаваты, палякі падбілі, яны ўсё і прыдумалі. Атрымаеш пасля гэтага 20 гадоў катаргі або нават спасылкі, але гэта не смерць. А гадоў праз 10–15, глядзіш, цар цябе даруе. Каліноўскі адмовіўся.

Пытанне адзнакі асобы Каліноўскага складаецца ў тым, якой з трох вышэй пададзеных канцэпцый трымаецца той або іншы аўтар.



*Кастусь Каліноўскі (фота Ахіла Банольдзі)*

Калі ён стаіць на нацыянальных пазіцыях, для яго Каліноўскі — беларус і герой, які змагаўся за волю нашай краіны.

Калі на пазіцыях польскіх, для яго Каліноўскі — паляк, які ваяваў за аднаўленне ўнітарнай (а не канфедэратыўнай) Рэчы Паспалітай.

Калі ж ён стаіць на прарасійскіх пазіцыях, дык для яго Каліноўскі — агент палякаў, які спрабаваў развaліць «святую Русь». Усё проста.

Але гэта наша краіна і наша гісторыя, і мы павінны шукаць тое, што аб'ядноўвае, а не раз'ядноўвае менавіта нас, беларусаў. Галоўным прыярытэтам павінна быць для нас нацыянальнае. А калі мы будзем у якасці крытэра браць рэлігійныя або палітычныя ўяўленні, або праблемы сацыяльнай роўнасці — няроўнасці, мы ніколі не дамовімся. Нацыянальнае вышэй і сацыяльнага, і матэрыяльнага, і рэлігійнага, і палітычнага чыннікаў. Толькі шляхам фарміравання нацыянальнай свядомасці і самасвядомасці мы зможам аб'яднаць свой народ.

**— Але чамусьці выходзіць, што герой Беларусі, які павінен нас аб'ядноўваць, для ўлад як косць у горле. Ордэн Каліноўскага скасавалі, а галоўны ідэолаг Вадзім Гігін у сваім часопісе «Беларуская думка» піша аб цяперашняй юбілейнай даце: «Святкаваць тут няма чаго, паколькі гэты экстрэмісцкі баявы лісток [«Мужыцкая праўда»], які выдаваўся групай польскіх радыкалаў, не робіць гонару ні нашай літаратуры, ні публіцыстыцы».**

— Думаю, Каліноўскі косць у горле не столькі для ўлад (гэта значыць службоўцаў), колькі для тых прадажных пачвар, якія мітусяцца пад заступніцтвам дзяржаўных устаноў. Гэта не значыць, што іх мітусня супадае з прыярытэтамі дзяржаўнай палітыкі.

На мой погляд, нашым службоўцам Каліноўскі абсалютна абыякавы, іх хвалююць больш важныя для іх праблемы, як то кантроль грашовых струменяў, гандаль газам і нафтапрадуктамі, пазыкі і іншае ў тым жа духу. А пытанні нацыянальнай гісторыі яны сваёй бяздзейнасцю і абыякавасцю атдалі ў рукі безадказнай шушамеці, якая ў асноўным стаіць на пазіцыях так званага «заходнерусізму» (галоўны тэзіс заходнерусізму наступны: беларусы — гэта заходняя частка вялікага рускага народа, сапсаваная польскім уплывам).

Вось гэтая публіка — з ліку журналістаў, гісторыкаў, літаратараў, ідэолагаў — фактычна знаходзіцца на ўтрыманні розных расійскіх арганізацый. Сістэматычна яны атрымоўваюць свайго роду даплату да акладаў па асноўным месцы працы ў выглядзе грантаў, субсідый, ганарараў, фінансаванні іх інтэрнэт-сайтаў і мерапрыемстваў, аплаты паездак на разнастайныя семінары, сімпозіумы, канферэнцыі, нарады...

Іншы момант, Каліноўскі як усякі бунтар — нязручная асоба для кожнай улады. Вазьміце яго тэзіс: «Не народ для ўрада, а ўрад для народа». Можна колькі заўгодна друкаваць гэты лозунг на першых старонках газет, усё роўна мы бачым зваротнае. А Каліноўскі прамалінейна дзюбаў: улада павінна служыць народу! Якому ж службоўцу гэта спадабаецца?

Па-трэцяе, Каліноўскі быў радыкальны ў сваіх поглядах. Радыкальна выказваўся з нагоды дваран-землеўласнікаў, радыкальна быў настроены супраць праваслаўнай царквы. Гэты радыкалізм таксама палохае некторых па сёння.

Вось і атрымоўваецца, што адны Каліноўскага адпрэчваюць, іншыя некрытычна падымаюць на тарчу, а трэція знаходзяцца ў замяшанні.

Наша пазіцыя такая: Каліноўскі — патрыёт Беларусі, герой беларускага супраціву дэспатычнаму рэжыму, яго можна і трэба падымаць на тарчу, але гэта не значыць, што літаральна кожнае яго выказванне варта ўспрымаць як ісціну ў апошняй інстанцыі, тым самым даводзячы да абсурду.

**— Дык, можа, апазіцыйныя сілы самі вінаватыя ў тым, што ўзняўшы імя Каліноўскага на сцяг, яны менавіта гэтым не даюць магчымасці зрабіць з яго афіцыйнага героя?**

— Думаю, нашы апазіцыянеры памыляюцца ў тым сэнсе, што ператварылі яго ў ідала, у нейкі жупел. Каліноўскі быў чалавекам і як усякі чалавек меў свае вартасці і свае недахопы. Мне падаецца, яго лепш тлумачыць як моладзевага культавага героя, як рамантычны пер-

санаж. А гэта лепш усяго рабіць, выкарыстоўваючы постаць Каліноўскага не ў палітычнай палеміцы, а ў мастацтве.

Вось добра б зняць вялікі мастацкі фільм пра Каліноўскага. Яшчэ лепш — тэлевізійны серыял. Серый гэтак на 30. У рамантычным ключы, каб там было і каханне да жанчыны, і каханне да Айчыны, і ўзнёслыя мары, і сутыкненні з жорсткай рэальнасцю, пакуты, перажыванні, прыгоды з пагонямі і перастрэлкамі, сыход ад паліцыянтаў-шпегаў, арышт у выніку здрады, псіхалагічна напружаныя допыты. І смерць на эшафоце як крок у неўміручасць.

Трэба таксама ствараць, — што вельмі важна ў сучасны перыяд — інтэрактыўныя гульні. «Згуляй у Інтэрнэце ў паўстанне 63 года і пераможы рускі царызм!» «Згуляй розныя варыянты лёсу Каліноўскага — уцёкі з турмы, партызанская барацьба ў лясах, эміграцыя і ўдзел у Парыжскай камуне, стварэнне нелегальнай партыі накшталт эсэраўскай з баявой арганізацыі, якая знішчае царскіх губернатараў і іх апрычнікаў, пачаўшы з Мураўёва-вешальніка...»

Вось такім чынам, мне падаецца, трэба прапагандаваць Каліноўскага. Як Чэ Гевару, сілуэт якога захаваны на мільёнах плакатаў у розных краінах і на мільёнах суколак, якія носіць моладзь па ўсім свеце. Каліноўскі — гэта наш Чэ Гевара. Хоць лепш сказаць, што Чэ Гевара — кубінскі Каліноўскі. Бо гэты лекар з Аргенціны стаў героем кубінскай рэвалюцыі праз 100 гадоў пасля Каліноўскага.

А ператвараць яго ў нейкага бронзавага ідала... Ён для гэтага не падыходзіць. У маім разуменні, Кастусь — рамантычная постаць, якая натхняе моладзь на барацьбу, на бітву, на подзвігі.

## Найноўшая бібліяграфія

Буднік І.Ф. **Да падзеяў паўстання 1863–64 гг. на Гарадзеншчыне.** Гародня: «ЮрСаПрынт», 2013. — 104 с.

**Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі (Матэрыялы міжнар. навук. канф., Менск, 25 верасня 2009 г.).** Мінск: Беларускае Гістарычнае Таварыства, 2011. — 222 с.

Кісялёў Г.В. **Смак Беларушчыны.** Мінск, 2013. — 498 с.

Матвейчык Д. **Паўстанне 1863–1864 гадоў у Беларусі: нарыс баявых дзеянняў.** Мінск: «Медысонт», 2013. — 122 с.

**Паўстанне 1863 г. на Беларусі і Кастусь Каліноўскі (Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі. Менск, 23 сакавіка 2013 г.).** /Пад рэдакцыяй А.Я. Тараса/ Рыга: ІБГіК, 2013. — 240 с.

Фірыновіч А. **Паўстанне 1863–1864 гг.: вядомыя і невядомыя крыніцы беларускіх архіваў.** Мінск: «Беларуская навука», 2013. — 316 с.

Хаценчык Зм., Канецкі Д. **Падзеі паўстання 1863 года на Вілейшчыне (Гістарычныя нарысы).** Мінск: «Кнігазбор», 2013. — 72 с.

Хурсік В.У. **Трагедыя белай гвардыі: Беларускія дваране ў паўстанні 1863–1864 гг. (Гістарычны нарыс і спісы).** Мінск: «Пейто», 2001. — 132 с.

Чапліцкі Ф. **Маскоўская ўлада на Літве. 1863–1869.** /Пераклад з польск./ Мінск: выданне В. Хурсіка, 2013. — 414 с.

# ЗМЕСТ

